*ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ЧАСОПІС*

**6** (968)

*ЧЭРВЕНЬ*

# ПОЛЫМЯ

**Выдаецца
са снежня 1922 года**



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2010

# *ЗМЕСТ*






ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»



**Георгій МАРЧУК**

# ПЕЎЧЫЯ 41 ГОДА

*Драма*

**ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:**

**А й ц е ц  В і к е н ц і й,** за 50 гадоў.
**М а р ы я,** ягоная дачка, 25 гадоў.
**З у е ў,** камандзір чырвонаармейцаў, 27 гадоў.
**Ш а п а в а л е н к а**, **С я д ы х**, **К р а ў ц о ў** — акружэнцы, потым пеўчыя.
**С я м ё н  К а р п а в і ч,** стараста царквы, каля 50 гадоў.
**М і х а л і н а,** яго жонка, пасля 40 гадоў.
**К у л ь б а к о ў,** адзін з галоўных паліцаяў, каля 50 гадоў.
**Ф а д з е й  Р о б е р т а в і ч,** гаўрэднэр (прапагандыст), 40 гадоў.
**Х о р с т,** 25 гадоў, **К у р т,** 20 гадоў — браты.
**В а р в а р а,** настаўніца, 25 гадоў.
**А ў д о ц ц я,** хутаранка, 60—65 гадоў.
**С а ш к а,** 18 гадоў, далёкі сваяк Кульбакова.
**С у х а р у к,** тэхнічны кіраўнік МТС, 30 гадоў.

М е с ц а  д з е я н н я — мястэчка на Беларусі.
Ч а с  д з е я н н я — чэрвень—снежань 1941 года.

---

***Марчук Георгій Васільевіч*** *нарадзіўся 1 студзеня 1947 года ў Давыд-Гарадку.*

*Пасля заканчэння школы № 2 у Давыд-Гарадку працаваў ва ўстановах культуры. З 1969 года ў Мінску — адміністратар кінастудыі «Беларусьфільм», асістэнт рэжысёра аб'яднання тэлефільмаў той жа кінастудыі. Скончыў аддзяленне тэатразнаўства Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута (1973), Вышэйшыя курсы сцэнарыстаў і рэжысёраў у Маскве (1975). Загадваў літаратурнай часткай тэатра-студыі кінаакцёра, працаваў дырэктарам выдавецтва «Мастацкая літаратура» і галоўным рэдактарам кінастудыі «Беларусьфільм». Цяпер — сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь (1996).*

*Аўтар кніг прозы «Крык на хутары» (1983), «Кветкі правінцыі» (1986), «Вочы і сон» (1990), «Сава Дым і яго палюбоўніцы» (1990) і іншых, шэрага п'ес, кіна- і тэлефільмаў.*

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

### Карціна першая

*Сонечная раніца. Промні сонца, прабіваючы каляровы вітраж, трапляюць на кафельную печку, збоку — дзесяць мяшкоў жыта. Алтар пусты. На сцяне толькі адзін абраз. Пасярэдзіне ляжаць колы ад воза, хамуты, скрыні з цвікамі ды сякерамі. На першы погляд у царкве нікога няма, аднак гэта толькі здаецца. Хтосьці асцярожна з рыпеннем адчыняе ўваходныя дзверы.*

*Паўза.*

*Асцярожна, як спалоханы пацук, ідзе да мяшкоў з жытам Кульбакоў. На рукаве — белая павязка паліцая, у руках — карабін.*

**Кульбакоў.** Міхаліна? Ты тут? Міхаліна?

*З-за мяшкоў выходзіць Міхаліна.*

**Міхаліна.** Цябе ніхто не бачыў?

**Кульбакоў** *(абдымае жанчыну).* Ніхто... Сашка ля варот стаіць... Калі што, папярэдзіць. *(Хутка здымае фрэнч.)* Ну?.. Напалоханая, як заяц. Ідзі да мяне, супакойся, любая мая.

*Абдымае Міхаліну, цалуе яе.*

**Міхаліна.** Досыць, мілы, не трэба... Супакойся. Пасядзім. Не змагу я, толькі не крыўдуй.

**Кульбакоў.** Пачынаецца... Казаў жа... Сашка там, надзейна.

**Міхаліна.** Не злуйся, Федзя. Я цябе злоснага баюся. Калі прачула, што мой мужычок з’явіўся... сэрца так і пакацілася. Не даруе ён мне, калі даведаецца, што з табой вось... Не трэба нам больш сустракацца.

**Кульбакоў.** Ды чхаў я на яго. Тыдзень, другі і мяне прызначаць начальнікам паліцыі. Ён сам, чуеш, сам прыйдзе да мяне на службу прасіцца. Цяпер на савецкія рублі здохлага ката не купіш.

**Міхаліна.** Ён не пойдзе ў паліцыю.

**Кульбакоў.** Прымусім. Калі ён будзе ў мяне ў падначаленні, мне спакайней.

**Міхаліна.** Ён хітры, як павук. Кажа, пайду старастам у царкву гэтую. Пакуль, кажа, святара няма, я службу весці буду.

**Кульбакоў.** Ён заўсёды быў ласы на чужыя каўбасы. Папа Вікенція выпусцілі. Нам ужо званілі.

**Міхаліна.** Федзя, мне цяпер з ім жыць... Хоць сэрца за гэты час да цябе павярнулася. Не бяры яго ў паліцаі! Не давай яму стрэльбу ў рукі. Сямён застрэліць нас абаіх.

**Кульбакоў.** Хе! Ды ён мне да сёмага калена абавязаны, што прыпаялі дзесяць гадоў, а не расстрэл. Ды я яго і не баюся, ядрона корань. Хочаш, скажу шчыра: Сёма, я з тваёй Міхалінай жыву.

**Міхаліна.** Не! Федзечка, не... прашу... Дачку маю, Верку, пашкадуй. Асіраціць. У яго няма літасці. Ён і мяне ніколі не кахаў. Людзей ненавідзіць. Бацьку свайго ў бальніцы без догляду паміраць пакінуў.

**Кульбакоў.** Не наганяй страху дачасна. Я яму рогі паабломваю. Вы, бабы, заўсёды ўсё перабольшваеце.

**Міхаліна.** Абяцай мне, што не возьмеш яго ў паліцаі!

**Кульбакоў.** Во прыліпла. Ну, абяцаю. Ідзі да мяне. Супакойся. Улада прыходзіць і адыходзіць, а каханне — адзінае, чым чалавек здольны кіраваць па сваім жаданні.

**Міхаліна** *(неахвотна падыходзіць да Кульбакова).* Ты даруй... Здаецца, я не змагу сёння, зараз... А Сашка хто табе? Ён не раскажа пра нас?

**Кульбакоў.** Надзейны хлопец. Пляменнік мой. Бацькоў яго ў трыццаць дзевятым... О, жаданая мая. Я цябе, здараецца, убачу на вуліцы, дурэю.

*Абдымае Міхаліну, цалуе. Хтосьці гучна стукае ў дзверы.*

**Міхаліна.** Божухна... Я ж казала, Божа.

**Кульбакоў** *(апранае фрэнч).* Замаўчы! Не люблю скуголення.

*Уваходзіць Сашка.*

**Сашка.** Дзень добры, Міхаліна Піліпаўна.

**Кульбакоў.** Добры, добры. Што там?

**Сашка.** Чалавек да царквы ідзе.

**Міхаліна** *(ля дзвярэй).* Ён! Божа, што ж рабіць, Федзя?

**Кульбакоў.** Куды вядуць гэтыя дзверы?

**Міхаліна.** На старыя могілкі. Ключ ад іх застаўся ў Вікенція. Федзя, прыдумай што-небудзь!

**Кульбакоў.** Не панікуй! Бяры бухгалтарскую кнігу. Хутка, ну! Сашка, стой тут і лічы сякеры ў скрыні. Спакойна. Мы заняты сваёй справай. Пішы.

**Міхаліна.** А... а... што?

**Кульбакоў.** Ніякай ініцыятывы. Пішы пад дыктоўку. *(Ідзе вакол мяшкоў.)* Та-ак... Жыта. Дзесяць мяшкоў.

*Уваходзіць Сямён Карпавіч.*

Дзесяць. Хамуты... Тры штукі. Сашка, колькі ў цябе сякер?

**Сашка.** Пяцьдзесят штук.

**Кульбакоў** *(нарэшце звярнуў увагу на Сямёна).* Сямён Карпавіч! Сябра дарагі. *(Падыходзіць да яго, падае руку. Той сваёй рукі не падае.)* Ну, што ты, брат, як не свой? Давай абдымемся, ці што? А, Сямён? *(Сам злёгку абдымае Сямёна.)* Рады, вельмі рады твайму вяртанню. Сукіны дзеці, крыві папілі. Колькі людзей на пакуты з родных мясцін павыганялі? Нам з табой не сварыцца час, а яднацца. Сашка!

*Сашка выцягвае з кішэні бутэльку самагонкі, шклянку.*

**Сямён.** І гэта, Кульбакоў, усё, за што я пяць гадоў адседзеў?

**Кульбакоў.** Браток, пасля суда твайго ўсё Саветы знайшлі, канфіскавалі ўсё пільныя яжоўцы... а гэта я, галубочак мой, у шапку не спаў, у першыя дні вайны з крамы ды сюды. Жыць будзем, Сямён. Нам жа ўсё адно, што паляк, што Саветы, што немец. Трэба ўмець ужывацца з усімі.

**Сямён.** Я ўсё памятаю, Кульбакоў. І як кралі разам, і як сеў чамусьці я адзін.

**Кульбакоў.** Вясёлы ў цябе нораў, Сеня. Га? Сашка, бяжы па фурманку. *(Сашка выходзіць.)* Сямён Карпавіч, як мы дамовіліся тады? Ты ратуеш ад турмы мяне, а я апякуюся тваёй сям'ёй і хаваю надзейна нашы паўмільёна? Ніхто ж не чакаў, што немец гэтак хутка пачне перці на нас. Я рубля з грошай нашых не ўзяў. *(Выцягвае з кішэні пачак грошай, кідае на падлогу.)* Вось. І яшчэ сто разоў па столькі зашыў у матрац. Не ты адзін у дурнях. Мы квіты. Пракляты час. Жыццё ратаваць трэба, а не грошы.

**Сямён.** Квіты, кажаш? Толькі ты тут смачна еў, мякка спаў, а я там, на нарах, беркулёз зарабляў.

**Кульбакоў.** Да калі б можна было, я б замест цябе пасядзеў, падмяніў. Не цаню хіба тваіх пакут? Ці не я дзяліўся харчамі, ці не апранаў дачку тваю Верку? Паліто, абутак, сукенкі. І пасля... Я пры ўладзе. За пакуты твае і аддзячыць гатовы. Выбірай якую хочаш пасаду. Хочаш на бойню, хочаш на прамкамбінат, а хочаш — дык і да нас, у паліцыю. Сам пайду да каменданта, прасіць за цябе буду. Ну? *(Зноў падае Сямёну руку.)*

**Міхаліна.** Памірыцеся, Сёма. Божа, Федзя зла табе не зычыць. Усё праўда, пра што гаварыў. Пасля суда ад нас, як ад пракажоных, усе адвярнуліся. Толькі ён, не баючыся партыйцаў, апекаваўся, дапамагаў. Сваім людзям цяпер нельга сварыцца, Сёма...

**Сямён.** Я паміруся. Ладна. Толькі ты мне мае паўмільёна прынясі.

**Кульбакоў.** Няўжо ты думаеш, Расія адолее немца і ўсё вернецца назад?

**Сямён.** Не думаю. Я іх, грошыкі гэтыя, усёй душой узненавідзеў. Узвысіцца над імі, паганымі, хачу. Прынясі. Можа, я іх замест абразоў павешу, а можа, прыбіральню паабклейваю. Мая справа.

**Кульбакоў.** Што тваё, тое — тваё.

**Міхаліна.** І дзякуй Богу. У гэтым святым месцы тройчы пацалуйцеся.

*Кульбакоў і Сямён цалуюцца.*

**Сямён.** З гэтага... Міхаліне трэцяя частка належыць.

**Кульбакоў.** Нам перавозіць дапамагаў яшчэ адзін... паліцай.

**Сямён.** Добра. Хай так.

**Кульбакоў.** Падзелім як мае быць.

*Кульбакоў выходзіць. Сямён ідзе следам і праз нейкі час вяртаецца.*

**Міхаліна** *(падыходзіць да Сямёна, абдымае яго).* Сямён, я радая, што вы памірыліся.

**Сямён** *(адштурхоўваючы жонку).* Трэснуць бы табе хоць раз у морду, ды рука не паднімаецца. Дазнаюся пра што — прыдушу. Ты чаго гэта ад яго вачэй не адводзіла? Было што, сучка?

**Міхаліна.** Божа барані! Нічога! Я за цябе баялася. Ён са стрэльбай.

**Сямён.** Хай хоць з трыма будзе, а баязлівец. Думае, я яму так лёгка ўсё дараваў, пацалаваўшы яго паскуднае рыла? Прыйдзе час — расквітаемся. А дзе Верка?

**Міхаліна.** Трэці дзень ганяюць акопы ці роў капаць.

**Сямён.** Ты ўсё яму перадала, пра што прасіў?

**Міхаліна.** Усё. Як магла, угаворвала. Кажу, у паліцыю не бяры, хоча, кажу, старастам.

**Сямён.** А ён?

**Міхаліна.** Пагадзіўся. Толькі...

**Сямён.** Што?

**Міхаліна.** Кажа, святар Вікенцій вяртаецца. Сюды, у царкву.

**Сямён.** А дачка ягоная Марыя як?

**Міхаліна.** Прыкрая гісторыя. Перад вайной звязалася з тэхнічным кіраўніком МТС. Не ведаю, якое ўжо там у іх каханне было, а паслухалася тэхкіраўніка, сышла з дому на кватэру.

**Сямён.** А Вікенцій? Уціхамірыўся? Я б гвалтам дамоў зацягнуў.

**Міхаліна.** Як чужыя. Пры сустрэчы не віталіся. Пра Марыю ў абласной газеце напісалі. Ухвалілі як шчырую камсамолку, актывістку. Куды там! Заганарылася, не падыходзь!

**Сямён.** Ажаніліся з тэхкіраўнікам гэтым?

**Міхаліна.** Не паспелі. На восень адклалі, а тут вайна.

**Сямён.** Я з Вікенціем паразумеюся. Возьме мяне старастам. Я такое ведаю, такое, што табе скажы, валасы стануць дыбам. І калі ўсё здзейсніцца, а дзеля гэтага, можна сказаць, жыву, я ўсім адпомшчу. Я ўсё ўзгадаю. Хто я цяпер? Ніхто! Калі я раздабуду тое, пра што ведаю, у мяне будзе і сіла, і ўлада, і незалежнасць. Кульбакоў першы, як вош, у нагах поўзаць будзе. Прыслугоўваць прымушу. Колькі ён маёй крыві папсаваў, колькі я за яго адрабіў! Вайна не вечная. Галоўнае — золата. З часам можна будзе з'ехаць з гэтай нішчымнай Беларусі за мяжу. Купіць краму, дзве, тры. І жыць, а не існаваць для страўніка за іхнюю плату, усімі сіламі выцягваць план.

**Міхаліна.** Сямён, ты пра штосьці такое кажаш, што мне страшна. Ты забіў чалавека? Кажы! Хочаш тут схавацца?

**Сямён.** Дурніца, пражылі з табою дваццаць пяць гадоў, а ты так і не зразумела маю душу. Дзякуючы акуратнасці і ціхмянасці, без «рукі» ў партыйным кіраўніцтве дайшоў да намесніка галоўнага бухгалтара канторы «Заготлён».Тое, пра што я ведаю, хай пакуль застанецца маёй таямніцай. Можа, з часам і ты мне спатрэбішся ў гэтай справе. А пакуль маўчы, прыкусі язык і маўчы. Асабліва з Кульбаковым трымай вуха востра. Пранюхае што, прыдушу, як мыш. Кажа, вынось мяшкі. Нахабнае рыла. Гэта табе не пры Саветах мяне падганяць. Ніколі на суботніках не быў. Даведкі браў па блаце, нібыта хварэе. Каронкі залатыя паставіў. Нагадаваў жывот на крадзеным, парсюк. Расквітаемся. Расквітаемся.

*Зацямненне.*

## Карціна другая

*У царкве засталося два мяшкі жыта, адна скрыня, адно кола. З дзвярэй, абабітых бляхай, выходзіць святар Вікенцій. Ён сівы. Ва ўсёй ягонай паставе адчуваецца моц духу, высакароддства. Стаў пасярэдзіне царквы. І мрояцца яму велікодныя спевы. Апускаецца на калені.*

**Вікенцій.** Божа, няўжо я дома? У роднай старонцы? Дзякуй табе, Божа, дзякуй, што вярнуў мяне да храма Божага, дзякуй.

*Уваходзіць Сямён Карпавіч.*

**Сямён.** З вяртаннем вас, уладыка.

*Падыходзіць і цалуе ў Вікенція руку.*

**Вікенцій.** Рады, вельмі рады нашай сустрэчы.

**Сямён.** Я тут без вашага дазволу, выбачайце, парадачак наводзіць пачаў. Да чаго давялі святы храм? Як у стайні. Прасіцца вырашыў у вас у старасты. Вінаваты я перад Богам, бацюхна. Грэшна жыў, грэшныя думкі душу атручвалі. Кепска мне між людзей. Ці яны мяне не любяць, ці я іх. Да веры нашай хачу наблізіцца, адчуваю, душа ачышчэння патрабуе... праз любоў да Бога.

**Вікенцій.** І добра, і разумна. Ніколі не позна пра выратаванне душы падумаць. Я толькі магу ўхваліць тваё жаданне, Сямён Карпавіч.

**Сямён.** Дзякуй, ойча, да канца дзён абавязаны буду.

*Хоча зноў цалаваць руку.*

**Вікенцій.** Не трэба. Цяпер мы роўныя перад Богам. Пахвальна, што ты, пазбаўлены, не помсціш, гнаны — трываеш. Як Аўдоцця?

**Сямён.** Узрадавалася надта, як прачула пра ваша вяртанне. Як і раней, гатовая дагледзець царкву.

**Вікенцій.** Абразы зберагла?

**Сямён.** Усё ў цэласці і захаванасці.

**Вікенцій.** Ну і як тут, што тут?

**Сямён.** Як вам сказаць. Пакуль хаос. Шмат хто пытаўся: ці адкрыюць царкву... Дачку вашу Марыю нядаўна бачыў.

*Вікенцій маўчыць. Трывожнае маўчанне.*

Не змянілася. Жывая, здаровая.

**Вікенцій.** А што дачка мая... не цікавілася, не пыталася пра мяне?

**Сямён.** Не. Можа, каб я першым загаварыў з ёю... Кульбакоў у паліцыі. Камендантам малады немец Хорст Мантопфер.

*Уваходзяць Кульбакоў і Фадзей Робертавіч.*

**Кульбакоў.** Маё шанаванне служкам Бога, нізкі паклон персанальна вам, айцец Вікенцій, знаёмцеся, Фадзей Робертавіч. Гаў, гаў...

**Фадзей.** Не гаўкай, Кульбакоў, гаўрэднэр. Чуў пра вас, айцец Вікенцій, багата чаго пахвальнага. О, Богам прашу, не звяртайце ўвагі на маю нямецкую форму. Я такі ж самы беларус, як і ўсе. Разумею, чаму вы насцярожыліся. Гаўрэднэр — гэта прапагандыст-агітатар.

**Кульбакоў.** Можна сказаць, духоўны правадыр новага парадку.

**Фадзей.** Менавіта так. Мы з вамі, айцец Вікенцій, калегі. Так бы мовіць, барацьбіты за душы. Праўда, мая місія сціплая, накіраваная на ўзмацненне ўзаемасувязі духоўнага і матэрыяльнага. У вас дастаткова верыць... і ўжо шчаслівы. Мне ж трэба яшчэ шчыра рабіць сваю зямную справу.

**Вікенцій.** Калі вы беларус, чаму ж апранулі нямецкую форму?

*Прыкрая паўза.*

**Фадзей.** Як вам патлумачыць... Ланцуг розных акалічнасцей і гэтая праклятая неабходнасць выбару. Па сутнасці, калі глядзець глыбей... знешнасць не асноўнае, галоўнае, што маё сэрца аддадзена майму народу. Зараз, айцец Вікенцій, вялікія змены на нашай зямлі адбываюцца. Прыніжаныя, зацкаваныя, зняважаныя судзіць і кіраваць іншымі будуць. Гітлер абяцаў даць Украіне і Беларусі аўтаномію. Я веру ў лепшае. Крыўдзіцеляў сваіх на паперу — і мне на стол. Пакута пакутай ачысціцца. Багата сіл і часу спатрэбіцца на выхаванне новага чалавека і апошні паратунак для нашага шматпакутнага беларуса — вера. Пад яе крылом чалавек робіцца лепшым, больш паслухмяным і працавітым. Бо калі мы паспрабуем усё ж знайсці аб’ектыўную ісціну, дык раней ці пазней прыйдзем да Бога. На жаль, апошнім часам існавала дзве веры: адна ў сілу капейкі, другая — у сацыялізм. Вам не сумна слухаць мае ісціны?

**Вікенцій.** Кажыце далей. Я ўважліва слухаю.

**Фадзей.** У чым я бачу памылку? Царкву аддзялілі. Згодны. Але ж народ адзін. Аддзяліцца можна толькі фармальна, а жыццё прымусіць існаваць у згодзе, аб’ядноўваючыся ў любові да бліжняга, а не ў нецярплівасці і нянавісці. Хто абавязаны каваць дух, берагчы мараль, захоўваць страх перад усявышнім, песціць сям’ю, любоў? Толькі вы. Улады на месцах, новы парадак спадзяюцца бачыць вас, святароў, сваімі паплечнікамі. Паачышчаем душы ад

камуністычнай жыдоўскай ерасі і пачнём ствараць новы шчаслівы заўтрашні дзень. Дык вы згодны быць маім аднадумцам?

**Вікенцій.** Так. Што да чаго ў вашых словах мне зразумела. Праўда, царква і вайна — паняцці несумяшчальныя. Ісціна царквы толькі мір — вось яе сімвал, любоў да бліжняга — яе арэол. Я не змагу агітаваць людзей на забойства, не змагу спяваць заздароўную забойцу.

**Фадзей.** І не трэба. Хай гэтую місію возьмуць на сябе нямецкія пастары. Гадуйце народ пакорлівым, каб прагнуў пакаяння. Ён менш павінен думаць пра мішуру знешніх працэсаў жыцця. Дапамагайце народу захоўваць і ўмацоўваць рэлігійнасць, традыцыі паслухмянасці, звычаі — і ўсё. Праўда, яны напалоханы пустымі дэмагагічнымі маніфестамі Саветаў, рэформамі, адурманены вершамі чужых прарокаў. Ну, вось мы і пасябравалі. Вазьміце нямецкія маркі. Бярыце, бярыце. А цяпер я запрашаю вас да каменданта.

**Вікенцій** *(разгублена).* Гэтак адразу? Шчыра кажучы, я не гатовы. Трэба было б пераапрануцца.

**Фадзей.** Літаральна некалькі хвілін. Ён надта ж хоча з вамі пазнаёміцца. На маю думку, паказацца ў ботах, картовым пінжаку нават больш дэмакратычна.

*Выходзяць. Сямён застаецца і зачыняе дзверы.*
*Чуецца стук.*

**Сямён.** Хто там?

*Жаночы голас: «Адчыніце!»*
*Уваходзіць Марыя.*

**Марыя.** Мой бацька тут, Сямён Карпавіч?

**Сямён.** Пайшоў у камендатуру. Здарылася нешта?

**Марыя.** Гора ў мяне. Ілья мой у лагеры разам з ваеннапалоннымі.

**Сямён.** Так, гэта не соладка. Тут я бяссільны. Сувязей пакуль не маю. Кульбакоў хіба што... Непасрэдна да каменданта звярніся.

**Марыя.** Не ведаю, што і рабіць. Калі бацька адмовіць у дапамозе, дык, відаць, давядзецца.

**Сямён.** Чуў я, што Грачыха свайго сына-міліцыянера выкупіла за два залатых пярсцёнкі.

**Марыя.** Адкуль у бацькі золата?

**Сямён.** У яго, згодзен, няма... Але царква мае. Павінна быць. І схавана надзейна. Толькі святар і ведае, дзе ляжыць.

**Марыя.** Што вы мне параіце?

**Сямён.** Рызыкнуць. Папрасі на вызратаванне каханага. Хіба што да каменданта ісці, ды цела, даруй Божа, прапаноўваць сваё. Грэх? Згодзен, ды чалавека ж уратаваць трэба

**Марыя.** Ваша праўда. Адна надзея на бацьку. Не пытаў, як жыла тут, дзе, з кім?

**Сямён.** Абыякава гэтак прамовіў два словы, нібыта і не пра родную дачку пытаў. Дык думаю, фокусы твае мінулыя не даравў.

**Марыя.** Нельга цяпер адно на аднаго злосць мець. Вораг нашу зямлю топча.

**Сямён.** Прасі золата. Сэрца не камень. Дзіцяці шалапутнаму даруе.

*Сямён выходзіць. Уваходзіць Вікенцій. Хвіліну-другую яны стаяць моўчкі, бацька і дачка. Нарэшце Марыя кідаецца да бацькі, абдымае яго.*

**Марыя.** Даруй, тата, дарагі, родны, даруй... Толькі я вінаватая, толькі я.

**Вікенцій.** Не трэба плакаць, дачка. Устань. Я ведаю, з якой бядой прыйшла ты да мяне.

**Марыя** *(хутка кажа).* I каханне, бацька. Калі арыштавалі цябе, пракляла свой нораў, свае ўчынкі бязглуздыя, жорсткасць сваю.

**Вікенцій.** Хіба ж я вучыў цябе нядобраму? Мяне непакоіў твой рэвалюцыйны запал. Я быў не супраць тваёй незалежнасці. Аднак жа і духоўная незалежнасць павінна грунтавацца найперш на народнасці, любові і павазе да традыцый свайго народа. I яшчэ. Якую прафесію ты сабе абрала? Трактарыстка. Мужчыны раздзьмулі бюракратычны апарат, а вас, няшчасных, сагітавалі на трактары. Ганьба. Жанчына — найперш маці. Трактар і жанчына — рэчы несумяшчальныя. Калі ты выраклася Бога...

**Марыя.** Бога няма. Які ж ён Бог, калі папусціў, каб адзін народ знішчаў другі. Даруй. Ты служыш свайму народу па-свойму, а я па-свойму. Бацька, калі гэта ў тваіх сілах... уратуй яго... з лагера. Іх кормяць здохлай канінай, а ваду п'юць з бочкі, у якой плаваюць жабы.

**Вікенцій.** Досыць. Што яму наканавана, тое і будзе.

**Марыя.** Тата, ты раіш мне сядзець склаўшы рукі і чакаць яго смерці? Уратуй, ты ж бязгрэшны, святы.

**Вікенцій.** Па-першае, я не святы, а зямны, грэшны, як і ўсе. Па-другое, як урававаць, не ведаю.

**Марыя.** А золата?

**Вікенцій.** Якое?

**Марыя.** Царкоўнае. Дастаткова двух пярсцёнкаў... і ён на волі.

**Вікенцій.** Золата належыць толькі царкве! Калі людцаў нашых напаткае гора, чорная воспа, халера, чума... Я не буду выкупляць камуніста.

**Марыя.** На чорны дзень... Па-твойму, вайна лягчэй за чуму, халеру?

**Вікенцій.** Не прасі. Ты ведаеш, маё слова цвёрдае.

**Марыя.** Ну што ж... ішла да цябе з апошняй надзеяй. Застаецца адно: ісці да каменданта. Ахвяраваць сабою.

**Вікенцій** *(спалохана).* Ты разумееш, што кажаш? Гэта ты наўмысна... каб прымусіць мяне?

**Марыя.** Даруй... родны мой... і ў думках не было такога. Золата ж царкоўнае. Ты не вінаваты! Не вінаваты! У мяне сапраўды няма выйсця, трэба ісці да немца.

**Вікенцій.** Няўжо так кахаеш... Ілью?

**Марыя.** Ужо тут, бацька, і абавязак мой... I каханне. Мне іх усіх тамака шкада.

**Вікенцій.** Не падабаецца ён мне, ніколі не падабаўся. Надта ж выкрутны. Ёсць у мяне адно выйсце. Толькі на ўсё жыццё запомні, не дзеля яго гэта раблю, а дзеля цябе — адзінай і любай дачкі.

*Марыя абдымае і цалуе бацьку.*

Мне дазволілі набраць хор для царквы з ліку ваеннапалонных.

**Марыя.** Бацька!

**Вікенцій.** Уся душа мая пратэстуе... не кахае ён цябе, Бог сведка. Ды ўжо бацька б'е сваё дзіця, ды ізноў да сябе туліць. Я вызвалю яго. Хадзем туды.

*Выходзяць.*

*Зацямненне.*

## Карціна трэцяя

*Пустое памяшканне царквы. Уваходзяць Нестар Шапаваленка, Ілья Сахарук, Прохар Сядых. Паліцай Сашка апошнім упіхвае Генадзя Краўцова.*

**Сашка** (*на парозе*). Што ты блытаешся пад нагамі, як стары конь. Давай, ідзі!

**Генадзь.** Не камандуй, пацан.

**Прохар.** Паслухай, хлопец, а чаго нас сюды прывялі?

**Сашка.** Ды каб мая воля, я б вас замест Хрыста на сцены. Чакайце начальства. А ты мне за пацана яшчэ адкажаш.

**Нестар.** Чаго ты з хлапчуком звязваешся? Не бачыш, він п'яны. Са злосці кульне раз. Цябе пра што гэты з бародкай пытаў?

**Прохар.** Цікавіўся, ці спяваў я ў самадзейнасці.

**Генадзь.** У мяне пытаў. Я на гармошцы граю.

**Нестар.** Калі нас за вароты вывелі, думаю, бывай, маты, на расстрэл.

**Генадзь.** Чаго радавацца? Сюды прывялі для чаго?

**Ілья.** Супакойцеся, хлопцы. Жыць будзем, гэта галоўнае.

**Прохар.** Яно, безумоўна, някепска, але як жыць. Мне перад хлопцамі сорамна. Яны параненыя, скалечаныя засталіся, а я здаровы, цэлы як бы збег ад іх.

**Генадзь.** Можа, ты ведаеш, з якой мэтай ён нас абраў?

**Ілья.** Пакуль не ведаю. У адным пераканаaны — не заб'е.

**Нестар.** А на мяне гэты з бародкай толькі знізу ўверх паглядзеў, пытае: адкуль? Кажу, з Кіева.

**Генадзь.** Стой. У цябе ж чысты бас. Прохар — тэнар, у мяне барытон. Канечне! Нас, здаровых, адабралі, каб стварыць хор. Наўмысна маўчалі, каб не ўпіраліся. Каб пасля паставіць перад фактам. Ці спявай, ці да сценкі!

**Ілья.** Слушна. Усё можа быць менавіта так (захваляваўся). Аднак, хлопцы, а мне што рабіць? Я ж безгалосы. Калі што якое, мяне могуць і не ўзяць...

**Нестар.** Нешта тут не так. У іх свой хор павінен быць.

**Генадзь.** Ілья, можа, ты нешта ведаеш, усё ж такі, але ад нас хаваеш?

**Ілья.** Далібог, хлопцы, пакуль нічога не ведаю. Мяне ўвогуле з натоўпу выбралі моўчкі, не пытаючыся.

**Генадзь.** Не спяваць жа тут на самай справе херувімамі для асалоды. Да сваіх прабівацца трэба і помсціць ворагу за таварышаў забітых. У мяне на руках... брат мой... братка памёр. Блізняты мы... былі. Ды я іх сваімі рукамі душыць буду.

**Нестар.** Прабівацца. Лёгка сказаць. Адна група з лагера ўжо ўцякла. Ты бачыв, як паласнулі з кулямётаў.

**Ілья.** Хлопцы, ну што вы, як маладыя бычкі. Немец пад Смаленскам. Гэта я на ўласныя вушы чуў. Трэба спакайней, не пароць гарачку, узважыць усё, завесці знаёмствы, захоўваць бяспеку, абмазгаваць усё. І толькі тады дзейнічаць, атрымаўшы дырэктывы ад партыйнага кіраўніцтва, калі яно ёсць, скажам, у падполлі.

**Генадзь.** Малоціш, усё роўна як на трыбуне. Ты, Сухарук, чалавек цывільны. А мы армія, разумееш? Наш святы абавязак — абараняць айчыну. Ды я нават і ўявіць баюся, калі пасля дазнаецца мой капітан, што я спяваў у царкоўным хоры, замест таго, каб ваяваць у акопах. Ведаеш, чым гэта патыхае? Тры-бу-налам!

**Ілья.** Твой капітан недзе даўно чарвякоў корміць. Якая моц рушыла на Усход!

**Нестар.** Ілья праўду кажа. Не спяшайся раней за бацьку ў пекла.

**Генадзь.** Толькі б зброю, толькі б зброю ў рукі.

**Ілья.** А хто сказаў, што гэта нерэальна? Усяму свой час.

**Прохар.** Змагацца з ворагам можна паўсюль.

**Генадзь.** Не можна, а трэба. Ёсць розніца?

**Прохар.** Можа, ты хочаш сказаць, што я дэзерціраваў?

**Нестар.** Сібірак, сядай. Не скачы. Ніхто цябе не вінаваціць.

**Генадзь.** На службу да немца не пайду. Назад у лагер, пад кулю, а не пайду.

**Ілья.** Спяваць у царкоўным хоры, калі нас менавіта для гэтага абралі, служыць рэлігіі, а не немцу.

**Генадзь.** Паслухай, Сухарук. Мне здаецца, што на працы ты быў спраўным дэмагогам. Надзейны балбатун. Першым галасаваў. Рэлігія ва ўсе часы яднаецца з эксплуататарамі. Мяне так вучылі і мне так падказвае вопыт і сумленне. Я непрымірымы атэіст. Бацькі мае, настаўнікі, дзед мой, пуцілаўскі рабочы — усе былі атэістамі. Усе з голаду пухлі, калі твае папы абжыраліся.

**Нестар.** А мае бацько і маты — вернікі. А хіба твой дзед без Бога жыў?

**Генадзь.** Ён не верыў. Яму Бога замянялі сумленне, руская незласлівасць і велікадушнасць.

**Ілья.** З двух небяспечных шляхоў трэба выбіраць для сябе найменей небяспечны. Каб змагацца, трэба жыць. А дурная смерць на паказуху... блеф. Што яна зменіць? Сістэма, стратэгія, пільнасць, асцярожнасць — вось пуцяводныя зоркі ўсіх барацьбітоў.

*Імкліва ўваходзіць Кульбакоў.*

**Кульбакоў.** Усім устаць у адну шарэнгу. Хутчэй, хутчэй. Не ў доме адпачынку.

*Уваходзяць Хорст Мантопфер, Фадзей Робертавіч, Вікенцій, Варвара Ягораўна.*

**Кульбакоў.** Бітэ, бітэ. Усё алес гут... усё падрыхтавана.

**Хорст.** Кажыце, Кульбакоў, па-свойму. Я разумею. Калі ўжо трапіцца нешта вельмі цяжкае, звернемся па дапамогу да фраў Варвары. Вільгаць тут у вас, айцец Вікенцій і кепска пахне, як у хляве.

**Вікенцій.** Абяцаю, спадар камендант, што праз тыдзень вы не пазнаеце храм.

**Хорст.** Буду рады. Я сам вырас у набожнай сям'і. Для мяне пачуцці вернікаў — святыня. Я з маленства, скажу вам, зайздросціў пастарам, богападобным святарам. Штосьці ў іх таямніча-прыцягальнае ёсць. Салдат — грубы матэрыял прыроды, святар — яе вянец. Вы са мной згодны, фраў Варвара?

**Варвара.** Так.

**Хорст.** Выдатна. Часу ў мяне мала, так што адразу да справы. Немцы ўвогуле не любяць балбатні, немцы любяць справу. Вось гэта і ёсць ваш хор?

**Вікенцій.** Так. Яшчэ будуць спяваць з імі Аўдоцця, яна спявала яшчэ да вайны... мая дачка Марыя.

**Хорст.** І фраў Варвара. Ёй неабходна адпачыць ад аднабокай муштры савецкай школы. (*Звяртаецца да Нестара, Прохара, Ільі, Генадзя.*) Я прыемна здзіўлены і надзвычай задаволены вашым жаданнем спяваць у царкоўным хоры. Доблесныя войскі вялікага фюрэра на падыходзе да Масквы. К зіме ўсё будзе закончана. Пахвальна, што вы не разгубіліся, а абралі шлях служэння Богу. Кожны з вас атрымае картачку, па якой вы зможаце атрымліваць

прадукты. Настаўніца фрау Варвара правядзе з вамі некалькі ўрокаў сальфеджыо. Некаторы час вы будзеце жыць у былой школе пад аховай паліцыі. Часова. Калі ж ваша лаяльнасць, паслухмянасць і працавітасць будуць заўважаны намі, ахову здымуць... Шлях да суцэльнай свабоды і незалежнасці, як бачыце, вельмі кароткі... Непаслухмянасць, сабатаж, дыверсіі супраць нямецкай арміі і паліцыі прывядуць вас назад у лагер, а ваша месца зоймуць больш лаяльныя. Калі ж хто з вас ці ўсе разам паспрабуеце ўцячы, дык такім чынам створыце небяспеку для сваіх калег, а таксама для фрау Варвары, Аўдоцці, айца Вікенція і ягонай дачкі. Вопратку, абутак і картачкі атрымаеце ў паліцэйскім пастарунку. Туды ж будзеце прыходзіць двойчы на тыдзень, адзначацца. Пытанні?

**Ілья.** Згодны. Мы... я... усе згодны.

*Камендант выходзіць. Усе ідуць следам за ім.*
*Застаюцца Нестар, Ілья, Прохар, Генадзь. Генадзь нечакана падбягае да Ільі і хапае яго за грудкі. Нестар разнімае іх.*

**Генадзь.** Табе хто даваў права адказваць за ўсіх? Хто-о?

**Ілья.** Чаго ж ты маўчаў? Чаго? Чаму не кінуўся, не прыдушыў немца? Га?

**Генадзь** *(сеў на скрыню, абхапіў галаву рукамі).* Усё... Гэта здрадніцтва. Прадажніцтва... Усё скончана, усё. Мы прапалі...

**Ілья.** Усё толькі пачынаецца. Хор — не самае горшае. Вельмі хутка мы будзем вольнымі.

**Прохар.** Хто ведае... Мы ж як заложнікі.

*Уваходзяць Сямён Карпавіч і Сашка.*

**Сямён.** Трое паедуць разам са мной. Па абразы і мэблю. Ты, Ілья, заставайцеся тут. Бяры венік і шоргай.

*Прохар, Генадзь, Нестар, Сашка і Сямён выходзяць.*
*З другіх дзвярэй уваходзіць Марыя.*

**Марыя.** Ілья!

*Абдымае яго.*

**Ілья.** Цябе ніхто не бачыў?

**Марыя.** А каго баяцца? Мы не злодзеі.

**Ілья.** І ўсё ж, усё ж... Асцярожнасць не пашкодзіць. Дзе мой партбілет?

**Марыя.** Зашыла пад падкладку пінжака. Надзейна.

**Ілья.** Схавай як мага далей сёння ж. І вось яшчэ што... пласцінкі там... з песнямі савецкімі знішчы ўсе. Кнігі спалі.

**Марыя.** Зраблю. Усё зраблю. Ты нібыта як незадаволены?

**Ілья.** Табе падалося. *(Цалуе яе.)* Я шчаслівы.

**Марыя.** Вось і добра. Арганізуем падпольную групу і будзем пацíху і неўзаметкі дзейнічаць.

**Ілья.** Мая ласкавая, наіўная Маша. Нікому пра гэта не гавары. Пацíху і незаўважна можна, прабач, блох лавіць. А тут, калі забіць каго, падпаліць, знішчыць, ого, колькі шуму. Жыццё маладое трэба асабліва берагчы.

**Марыя.** Я з табой. Ты жывы, ты побач. І я буду ва ўсім слухацца цябе.

**Ілья.** Увогуле, пакуль нікому нічога. Дазнайся, дзе начальнік палітаддзела МТС Афанасьеў, начальнік міліцыі, сакратар райкама.

**Марыя.** Усе паспелі эвакуіравацца.

*Уваходзяць Вікенцій і Аўдоцця. Жанчына нясе ікону.*

**Вікенцій.** А вы чаму тут?
**Ілья.** Мяне пакінуў тут Сямён Карпавіч. Прыбіраць.
**Вікенцій.** Даганяйце астатніх. Мы тут самі ўправімся.

*Ілья выходзіць.*

**Марыя.** Тата, ён, безумоўна, табе абавязаны, але тое самае ты мог бы сказаць іншым тонам.
**Вікенцій.** Ды ў яго такі нахабны выгляд, нібыта мы яму абавязаны, а не ён нам.
**Марыя.** Тата... ён...
**Вікенцій.** Усё. Маўчы. Прынясіце вады. Бярыце анучы.

*Аўдоцця бярэ вядро, ідзе да выхаду і спыняецца на парозе.*

Што там, Аўдоцця?
**Аўдоцця.** Чалавек.

*У царкву ўваходзіць Арсеній. Ён бледны, худы. Кульгае на адну нагу.*

**Вікенцій.** Хто вы?
**Арсеній.** Толькі, прашу богам, не палохайцеся. Я — акружэнец Арсеній Зуеў. Два тыдні таму здолеў уцячы з лагера. Я паранены. Зараз паліцэйскія рыскаюць па дамах. Прачуў, што вы ўзялі з лагера сабе парабкаў. Далучыце і мяне да іх... Мне толькі на ногі ўстаць. Я сыду ад вас неадкладна, абяцаю.
**Вікенцій.** Гэта немагчыма. Усе яны зарэгістраваны ў камендатуры і паліцыі. Усё на віду. І пасля... калі дазнаюцца, што вы камандзір... яны і нас не пашкадуюць...
**Марыя.** Тата, ён жа паранены, ледзь на нагах трымаецца.
**Аўдоцця.** Людцы мае, зусім збялеў. Давайце да мяне на хутар. Чалавек жа.
**Вікенцій.** На руках праз увесь горад? Ах, капітан. Задалі вы нам задачу.
**Аўдоцця.** Трэба дапамагчы.
**Вікенцій.** Вось што... Правядзіце яго пакуль што да нас у дом. Бог дасць, што-небудзь прыдумаем.
**Арсеній.** Дзякуй вам, бацюшка.
**Вікенцій.** Дзякуйце Богу, на яго толькі надзея. Заслужылі вы жыццё — Бог уратуе, не заслужылі — і я не здольны буду дапамагчы. Значыць так... Выбачайце... падужэеце — і на ўсе чатыры бакі. Я не маю права і не хачу рызыкаваць сваім і чужым жыццём.

*Марыя і Арсеній выходзяць.*

**Вікенцій.** Не ў час ён зваліўся на нашу галаву. Самі на валаску, так бы мовіць. Што з ім будзе... у галаву не прыходзіць.
**Аўдоцця.** Надта ж ён на майго пляменніка з Варонежа падобны.
**Вікенцій.** Можа і падобны. Пра што думаеш?
**Аўдоцця.** Ці захавае Бог нам жыццё?
**Вікенцій.** Захавае, калі будзем ціхія як галубы, і хітрыя як змеі.

*Зацямненне.*

## Карціна чацвёртая

*На сценах у царкве з’явіліся абразы. Прываблівае сваёй разьбой алтар. Гарыць ля іконы «Казанская Багамаці» лампадка. У царкве Сямён Карпавіч ходзіць вакол печкі, асцярожна прастукваючы яе малаточкам.*

**Сямён.** І дзе ён, хітрун, хавае яго ад мяне, дзе? Ляжыць жа дзе-небудзь на самым бачным месцы, пад самым носам, а я галаву ламлю.

*Чуецца гул самалётаў. Уваходзіць Кульбакоў.*

**Сямён.** Ляцяць, ляцяць... і куды ляцяць?
**Кульбакоў.** Вядома куды, на Маскву.
**Сямён.** Колькі ж іх туды трэба?
**Кульбакоў.** Відаць, не хапае, калі ляцяць. Ты, Сямён, зрэдку прыглядай за пеўчымі. Хахол ля лесу швэндаецца... Краўцоў да Сашкі ліпне... Баюся, каб яны тут між іншым... партызанскія песні не заспявалі.
**Сямён.** Я ні ў што не мяшаюся.

*Уваходзіць Вікенцій.*

**Вікенцій.** Сямён Карпавіч, усё гатова, можам ехаць.

*Сямён выходзіць.*

**Кульбакоў.** Вы так разглядаеце мяне, бацюхна, нібыта не пазнаяце. Кульбакоў я. Гора ў мяне.
**Вікенцій.** Якое?
**Кульбакоў.** Во... дае Бог выпрабаванне... і мае рукі ў крыві, і не адмыць мне іх давеку.
**Вікенцій.** Перад самай вайной да Аўдоцці Бажок, хутаранкі, пляменнік з Варонежа прыехаў. Не паспеў дэмабілізавацца, так у яе і застаўся.
**Кульбакоў.** Адседзецца вырашыў. Знаёмая карціна.
**Вікенцій.** Схаваўся. Худы, слабы... Куды яму цяпер... Хлопец переажывае. Дык вы ўжо зрабіце ласку, не адмоўце выпісаць на яго аўсвайс. Арсеній Іванавіч Зуеў, 1911 года нараджэння. Я аддзячыць гатовы.
**Кульбакоў.** Усё разумею. Час такі.

*Вікенцій працягвае Кульбакову залатую манету.*

**Кульбакоў.** Што гэта, айцец Вікенцій?
**Вікенцій.** Залаты. Мікалаеўскі. Бярыце. Так прынята.
**Кульбакоў** *(бярэ залатую манету, хавае ў шапцы)*. Шчыра ўдзячны. Перадайце Аўдоцці... хай спіць спакойна. Вы царкву не закрывайце. Я гадзіну-другую хачу памаліцца.
**Вікенцій.** Маліцеся, Фёдар Рыгоравіч. Вельмі вам удзячны. І хай Гасподзь наш пачуе вашы малітвы, даруе грэх.

*Вікенцій выходзіць. Уваходзіць Міхаліна.*

**Кульбакоў.** Справа ёсць да цябе. Час ідзе, а мяне ўсё яшчэ не прызначаюць начальнікам паліцыі. Прышлюць каго і цю-цю. А паліцаем на пабягушках быць не хачу. Без згоды каменданта гэтай справы не вырашыць. Ён бабнік. Нюхам чую. Ты старая для яго... спі спакойна. Вера — цаца ў самы раз. Самы смак. Люкс пані. Прывядзеш яе да мяне ў суботу. Пазнаёмім. Я запрасіў каменданта ў госці.

**Міхаліна.** Федзя, яна ж яшчэ дзіця...

**Кульбакоў.** І што? Супакойся. Хай пагуляюць. Зробім чалавеку прыемнае... ён нам зробіць.

**Міхаліна.** Божа мой, Божа... Усё на маю бедную галовачку! Вайна праклятая! Чаму я не з’ехала, чаму? Верка нічога не разумее! Грошы любіць! Яна ж прападзе! А калі я... не пагаджуся?

**Кульбакоў.** Дурніца! Пра сябе думай. Я ж магу і Сямёну ўсё расказаць. Ён цяпер злы, як чорт. Не даруе.

**Міхаліна.** Федзя, ды як ты... вох... і страшны ты чалавек. У цябе ж і кроплі шкадобы няма.

**Кульбакоў.** Не скуголь. Нічога ганебнага не бачу. Ды нашы ўсе квактухі, пакліч толькі, у ложак да яго не раздумваючы. Хай лепш з немцам будзе. Панавезлі чужых паліцаяў... Згвалціць яшчэ які, паспрабуй тут зберагчы яе. Так. У суботу. А восьмай гадзіне вечара. Усё. Ідзі.

*Міхаліна выходзіць.*

Сашка!

*Хутка з’яўляецца Сашка, налівае шклянку самагону.*
*Кульбакоў выпівае.*

Тваё здароўе, пляменнічак! Ты цяпер, сірацінка, мне замест сына. Пашкадаваў цябе, на расстрэл не ўзяў. Малады, думаю, яшчэ не вытрывае. Цяжка гэта, сынок, вох як цяжка. Цяжка нават і ўявіць. Але неўзабаве ўсё зменіцца. Я буду незаменным, багатым і шчаслівым. Сам сабе. Ад людзей трымайся надалей. Здрадзіць, а не здрадзіць, дык зайздросціць будзе. Чалавек — брыдота па сваёй сутнасці. Та-ак, куды вецер падзьме, туды і хіліцца. А я, брат, вецер хачу прыручыць. Нібыта і з людзьмі, а на самай справе без іх.

*Сашка п’е і кідае бутэльку ў кут.*

*Сашка і Кульбакоў выходзяць. З другіх дзвярэй уваходзіць Аўдоцця з вядром і швабрай. Паднімае пустую бутэльку.*

**Аўдоцця.** А каб ты, чорт паганы, чужы, апошні раз піў, змей ты падкалодны. Каб табе балячка ў горле села, як ты бяльмом на вачах у мяне сядзіш.

*Аўдоцця выходзіць. Уваходзяць Арсеній і Марыя.*

**Марыя.** Уваходзьце, Арсеній, смялей. Усе паехалі па званы.

**Арсеній.** Я ўдзячны вашаму бацьку... а яшчэ больш вам, Марыя.

**Марыя.** Наколькі я заўважыла, бацьку прыемна з вамі гаварыць. Ён сімпатызуе людзям стрыманым, развbooжлівым, разумным. Прасіцеся ў яго ў хор. Дарэчы, вы цікавіліся гэтай старой іконай. Яна перад вамі. Кажуць, нібыта калісьці яе падараваў нашай царкве Мікалай II. Ведаеце такога?

**Арсеній.** Чаму ж не ведаю.

*Доўга разглядае ікону.*

**Марыя.** Здаецца, я нарэшце ўспомніла, дзе бачыла вас раней. Мы, першыя трактарысткі раёна, прыязджалі ў вашу вайсковую часць на сустрэчу. Я нават танцавала з вамі вальс.

**Арсеній.** Няўжо? Ну, проста як у кіно.

**Марыя.** Вы тады з усімі дзяўчатамі перотанцавалі. Не стамляючыся. Кожны танец.

**Арсеній.** А што было рабіць, калі салдаты мае такія сарамлівыя. Вось і паказваў прыклад.

**Марыя.** Сапраўды? А вы не баіцеся, што даверыліся мне, таварыш капітан?

**Арсеній.** Я зрабіў гэта наўмысна. І пасля, калі вы ўзгадалі танец, дык маё вітальнае выступленне грэх не памятаць. Які сэнс перад вамі хавацца? Вы маглі ўжо сто разоў перадаць мяне немцам. Марыя, мяне цікавяць пеўчыя. Хто яны? Адкуль? Які ў іх настрой?

**Марыя.** Акружэнцы. Салдаты. Адзін былы тэхнічны кіраўнік нашай МТС.

**Арсеній.** Марыя, калі лёсу было заўгодна паслаць вас як маю выратавальніцу... прасіце бацьку, хай ён пакіне мяне ў хоры.

**Марыя.** Ды я яму ўжо пра гэта гаварыла. Толькі ён не заўсёды мяне слухае. Пеўчых строга папярэдзілі: ніякай барацьбы, сабатажу, дыверсій.

**Арсеній.** Можна зрабіць так, што гэтая барацьба будзе нябачнай.

**Марыя.** Бацька вельмі асцярожны. Палітыкай мала цікавіцца. Служыць Богу, дапамагае сіротам, калекам. Ён з тых, якія старанна нясуць свой крыж.

*Хутка ўваходзіць Варвара Ягораўна.*

**Варвара.** Дзень добры... Марыя, у мяне да цябе справа. (*Адводзіць убок.*) Хто гэта?

**Марыя.** Можаш гаварыць. Свой чалавек. Пляменнік Аўдоцці, наш сваяк. Што здарылася?

**Варвара.** Другім разам паліцаі не сталі папярэджваць. Ходзяць па хатах і гвалтам забіраюць радыёпрыёмнікі. Свой я ўчора аддала, а школьны прынесла сюды. Не ведаю, дзе схаваць.

**Марыя.** Варвара Ягораўна, ты гераіня! Дзе радыёпрыёмнік?

**Варвара.** У кустах бэзу.

**Марыя.** Нясі сюды.

*Варвара Ягораўна выходзіць.*

**Арсеній.** Прыемныя навіны? Адчуваю па вашым настроі.

**Марыя.** Угадалі. Варвара Ягораўна радыёпрыёмнік ад паліцыі схавала. Сюды прынесла. Куды б яго падзець? Можа, за алтар.

*Варвара Ягораўна прыносіць радыёпрыёмнік. Арсеній дапамагае ёй.*

**Арсеній.** Давай пакуль сюды. На клірас.

**Варвара.** Хутчэй. Сюды нехта ідзе.

*Марыя заносіць прыёмнік на клірас.*

**Марыя.** Усё ў парадку.

**Варвара.** Я пайду.

**Марыя.** Я проста зайздрошчу яе смеласці.

**Арсеній.** Здорава! Нічога не скажаш! Марыя, пакуль што пра радыёпрыёмнік не варта нікому расказваць.

**Марыя.** Чаму, Арсеній? Ды ведаеце, як яны ўсе ўзрадуюцца? Хлопцы надзейныя. Паверце, яны толькі і чакаюць моманту, каб помсціць ворагу...

*Уваходзіць Ілья. Ён незадаволены прысутнасцю Арсенія.*

**Арсеній.** Я пайду, самавар пастаўлю.

*Арсеній выходзіць.*

**Ілья.** Нешта ён прыліп да цябе. Неадчэпна. Пляменнічак!

**Марыя.** Ілья, няўжо раўнуеш? Не верыш мне?

**Ілья.** Па-першае, рэўнасць — гэта перажытак. Па-другое, калі па-філасофску глядзець на праблему, дык і веры як такой увогуле не існуе.

**Марыя.** Як жа тады чалавеку жыць без веры?

**Ілья.** Ва ўсім сумнявайся. Вера ёсць. Але на кожны дзень свая. Дае Бог дзень, дае ежу і веру. Я самому сабе баюся верыць. А чаго Варвара прыбягала? Калі вы нешта хаваеце ад мяне... Так і скажы.

**Марыя.** Яна... яна прынесла сюды школьны радыёпрыёмнік! Цяпер мы зможам слухаць Маскву.

**Ілья.** Сюды прынесла?

**Марыя.** Сюды.

**Ілья.** Цьфу... хоць бы мяне дачакалася, параілася. Пад які ўдар ты ставіш свайго бацьку, усіх нас, нарэшце? Куды спяшацца? Усё нядрэнна, і яе ўчынак добры, але... Трэба ўсё грунтоўна падрыхтаваць, узважыць усе магчымасці, каб рызыку звесці да нуля.

**Марыя.** Мы будзем асцярожнымі, безумоўна... Нікому ў галаву не прыйдзе, што ён на клірасе.

**Ілья.** Знайшлі месца! Гэта цябе Арсеній навучыў? Я знайду выйсце. Параюся з хлопцамі. І памятай, адзін неасцярожны крок... і зваротнага шляху ў лагер не будзе... павядуць да ямы.

*Уваходзяць Генадзь, Сямён Карпавіч, Аўдоцця, Вікенцій, Кульбакоў.*

**Кульбакоў.** Айцец Вікенцій *(адводзіць убок)*, трымайце. Тое, пра што прасілі.

**Вікенцій.** Дзякуй. Я, Фёдар Рыгоравіч, спытаць хацеў у вас. Мы праязджалі паблізу лагера ваеннапалонных. Там... Пуста. Іх перавезлі куды ў іншае месца? Дзе ж яны ўсе?

**Кульбакоў** *(перахрысціўся)*. Усё скончана, айцец Вікенцій, няма іх болей на зямлі грэшнай. І мой грэх у гэтым. Каюся. Перастралялі іх немцы. У канаве... зарылі... усіх да аднаго. Перад вачыма стаяць, апетыту пазбавіўся.

**Вікенцій** *(спалоханы, амаль у шоку)*. Як? Божая Маці... за што? Гаротныя, параненыя, слабыя.

**Кульбакоў.** Так. Гэта... Пагналі і ўсё. Пытацца не будуць. Нам загадалі, пярэчыць не маю сілы.

**Вікенцій** *(усё яшчэ не можа паверыць)*. Яны ж палонныя! Бяззбройных грэх страляць. Забаронена ўсімі законамі чалавечымі.

**Кульбакоў.** Вайна ўсё спіша. Хто тут вольны тыя законы выконваць? У вас свая праца, у нас — свая.

**Ілья.** Айцец Вікенцій, без вас ніхто першым у званы не зазвоніць. Просім.

**Вікенцій** *(нібыта сам не свой)*. Так, так... Так. Сапраўды. Трэба званіць у званы. Званіць бесперастанна...

*Звіняць званы.*

**Марыя.** Што з ім?

**Ілья.** Ад шчасця. Мара ягоная здзейснілася. Царкву адрадзілі.

**Сашка** *(уваходзіць)*. Натоўп да царквы ідзе!!!

*Паўза.*

**Вікенцій.** Рызу мне! З чорным падрызнікам!

**Марыя.** Хіба сёння жалобны дзень?!

**Вікенцій.** Так, дачка мая. Хочу прачытаць пропаведзь.

*Паступова ў царкве збіраецца народ: старыя, дзеці, удовы. Уваходзяць Хорст Мантопфер, Фадзей Робертавіч, Міхаліна, Вера, Нестар, Прохар, Варвара Ягораўна.*

**Хорст** *(Фадзею Робертавічу)*. Брава, Фадзей Робертавіч, брава! Усё зроблена вельмі аператыўна.

**Фадзей.** Працуем, спадар камендант.

**Хорст.** А што, пеўчыя будуць спяваць?

**Сямён.** Не паспелі навучыцца, спадар камендант.

**Вікенцій.** У імя Айца і Сына і Святога Духа. У імя Айца і Сына і Святога Духа. *(Некаторыя з вернікаў апускаюцца на калені.)* Уладар наш, што творыць суд на зямлі. Ты сказаў, што няма большай любові, як ахвяраваць душу сваю за сяброў сваіх, і Сам падаў прыклад гэтай самаахвярнай любові. Зірні праведным вокам сваім, пралі прамень святла на вялікую любоў герояў, якія загінулі і якіх шмат на Беларусі і далёка за яе межамі... у вядомых і невядомых магілах. Злучы іхнюю крывавую ахвяру са Сваёй ахвяраю. Хай не будзе дарэмнай іх бязвінная смерць. Яны цярпліва прайшлі цярністы шлях жыцця, сваёй пагібеллю далі нам сапраўднае разуменне святасці. Не адпрэчвай іхнюю ахвярнасць, бо загінулі яны за айчыну. Уратуй і тых, каго вывезлі з родных мясцін… Быў час раскідваць камяні, прыйшоў час іх збіраць. Каму толькі не падстаўляла свае белыя ручачкі наша Белая Русь. Уратуй нас, Божа. Хай кожны з вас сёння ў цяжкую часіну ўсвядоміць, хто ён. Хай кожны верне ў дом старога бацьку, старую маці... накорміць галоднага, не крыўдзіць сірот і ўдоў. Ні затворніцтвам, ні манаствам сёння ласку Боскую не атрымаць. Калі ёсць на тое воля Боская, Ён збірае нас адзін да аднаго. Можа, мы і ёсць апошнія беларусы. Не дай нам знікнуць зганьбаванымі і заплямленымі. Нас чатырыста гадоў прывучаюць да нянавісці і жорсткасці, а сэрца Божае радуецца, калі ён бачыць сярод нас любоў да блізкага. Паважайце звычаі свае і традыцыі, пазбягайце і засцерагайцеся наймітаў, абыходзьце як мага далей секты, саюзы тайныя, касты... не наша гэта... не праваслаўнае. Прыдумана ўсё, каб раз’яднаць вас. Нацкаваць рускіх на беларусаў, украінцаў на рускіх. Усведамляйце, што мы і ёсць апошнія... апошнія... Памолімся за бязвінна знішчаных... родных... блізкіх... Амін.

*Паўза.*
*Хорст крута паварочваецца і хутка выходзіць.*
*Паўза.*

**Фадзей.** Гэта... Гм. Ну, айцец Вікенцій! Не чакаў! Што гэта за пропаведзь? Прапаганда нейкая, блытаніна з намёкамі. Заклік не да паслушэнства і ціхамірнасці, а нейкае, я нават не знаходжу слоў, нахабнае бунтарства. Выклік. Забыў пра ўсё, пра што гутарылі? Пра якія ахвяры ты тут праслязіўся, дарагі мой?

**Вікенцій.** Пра нашых землякоў... За што яны... бязвінныя ваеннапалонныя з лагера, ахвяры... загінулі, за што?

**Фадзей.** Ну, брат, ведаеш... хочацца матам вылаяцца. Цябе не запыталі. Вайна-а-а! Чорт яго бяры! І жыццём распараджаецца не Бог, а фюрэр! Фарс, а не пропаведзь. Камендант умее помсціць. Нават не ведаю, я агаломшаны, нават не ўяўляю, ці здолею ўсё гэта злягчыць. Утаймуй гардыню, Вікенцій! Перачытай Іова, Дастаеўскага... Не заклікай чалавека да велічы... Муха ён. Вартая жалю, няшчасная жывёла. І хоць бы слова пра новы парадак. Хорст усё да д’ябла пазачыняе! А тваіх пеўчых... іх адвядуць у тую ж канаву, у якой закапалі папярэдніх... Чакай. Не выключана, што цябе ён запросіць у камендатуру.

**В і к е н ц і й.** Мне ўсё адно. Дзе твая абяцаная аўтаномія? Ды навошта яна нам, для чаго братам адасабляцца?

**Ф а д з е й.** Ты думай спярша, што народу казаць будзеш. У адваротным выпадку пропаведзі будзем перачытваць загадзя.

*Фадзей хутка выходзіць.*

**В і к е н ц і й.** Ён яшчэ адважыўся мяне вучыць... Іван без роду! Дух мой незалежны, і не табе кіраваць маёй душою, халуй!

**М а р ы я** *(кідаецца да бацькі)*. Бацька! Яму блага! Вады! Хутчэй вады!

*Зацямненне.*

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

### Карціна пятая

*Дэкарацыі без змен. На вуліцы дождж. У дзвярах стаіць Генадзь і кагосьці выглядае. З другіх дзвярэй выглядвае Арсеній. Уваходзіць Нестар. Здымае з пляча мокры мяшок.*

**Г е н а д з ь.** Ну як?

**Н е с т а р.** Відаць, нейкі сабака ўсё ж такі пранюхаў. Няма зброі. Адкапалі.

**Г е н а д з ь.** Эх, ёлкі-палкі.

**Н е с т а р** *(дастае міну)*. Вось толькі... на завод... Скрыню такіх мін знайшоў.

**Г е н а д з ь.** Так бы і казаў!

**А р с е н і й.** Міна? Ды табе, Нестар. помнік паставіць трэба.

*З дзвярэй выходзіць Марыя, за ёю І л ь я.*

**М а р ы я.** Мне сказаў Арсеній, што ты адмовіўся ад даручэння. Я ледзьве не згарэла ад сораму.

**І л ь я.** А... Па-першае, яму ніхто не даваў права камандаваць мною. Мяне можна прасіць, а не загадваць. Сам, толькі сам чалавек мае права выбіраць, што яму неабходна рабіць, а што — не! Калі іншыя яму давяраюць, я, разумееш, павінен яшчэ праверыць, па-другое, чаго дасягнуў твой бацька гэтай істэрычнай пропаведдзю? Да нас прыставілі яшчэ аднаго паліцая. А ўсё пачыналася гэтак добра. Свабода была пад носам. Калі я сяджу пад дулам карабіна, я супрацiўляцца, змагацца не магу. Мая воля і сіла паралізаваныя. Ну, сапраўды... так дробна, так па-дзіцячы смешна.

**М а р ы я.** Што?

**І л ь я.** Тое, што вы робіце. Трэба вызначыцца, калі ўжо і ствараць падполле, хоць у нашым становішчы аб'ектыўна гэтага жадаць... мець на мэце вялікую аперацыю і рыхтавацца да яе месяц, другі, паўгода. А за распаўсюджванне зводак інфармбюро Героя Савецкага Саюза не дадуць.

**М а р ы я.** Я не дзеля героя гэта раблю.

**І л ь я.** Прабач. Я не хацеў цябе пакрыўдзіць. *(Цалуе руку.)* Можа, мне лепш у паліцыю папрасіцца?! Там я магу быць больш карысным. Не магу я тут. Як у клетцы. Прасторы не хапае.

**М а р ы я.** Такое ўражанне, што ты прывык, каб табе хтосьці стварыў умовы, а ўжо ты пасля будзеш дзейнічаць. Усё? Мяне чакаюць.

**І л ь я.** Хто? Ён?

**М а р ы я.** Ён.

*Уваходзіць Сашка.*

**Сашка.** А ты чаго швэндаешся, Сухарук? Давай на спеўкі.

**Ілья.** Іду, грамадзянін начальнік, бягу. *(Марыі.)* Дагаджаць гэтаму алкаголіку... Надакучыла. Цяжкая праца, я ж безгалосы. Мне гэтая рэпетыцыя замест Галгофы.

*Марыя выходзіць. Уваходзіць Сямён Карпавіч.*

Вось што, Сямён Карпавіч, тут я здолеў сёе ды тое ў немцаў выменяць. Вось. Іголкі, ніткі. Навошта яны мне? Можа, гэта вам трэба? Дэфіцыт усё ж такі, га?

**Сямён** *(бярэ ніткі, іголкі)*. Дапамагу вам. Гэта няцяжка.

**Ілья.** Добры вы чалавек. Дзякуй. Цяпер жа не на ўсіх спадзявацца можна. А што, Сямён Карпавіч, хіба ў Аўдоцці быў пляменнік? Вы яго бачылі?

**Сямён.** Ці мала пляменнікаў на белым свеце. Да вайны ніколі не прыязджаў. Баюся памыліцца.

**Ілья.** Што чуваць, Сямён Карпавіч? Вы на волі часцей за нас бываеце.

**Сямён.** Маскве жыць засталося мала. Ледзь ліпіць. Камуністаў цяпер ужо не арыштоўваюць, знаходзяць — і расстрэл на месцы. Мяне можаце не баяцца. Я вас не выдам.

**Ілья.** А мяне перад вайной... выключылі. У мяне выпіска бюро маецца.

**Сямён.** Ды не выдам я вас. Усё ж такі золатам за вас заплацілі. Грэх выдаваць. Ды і новай уладзе служыце.

**Ілья.** Якім золатам?

**Сямён.** Натуральным, думаю. Найвышэйшага гатунку. Не за панюх жа табакі немец аддаў вас папу. Заплаціў, думаю, Вікенцій.

**Ілья.** А хіба ён... мае тое золата?

**Сямён.** Яшчэ колькі! Вялікае багацце тут схавана. Знайсці б яго, гора не ведаў бы. А я думаў, Марыя вам што гаварыла.

**Ілья.** Першы раз чую.

**Сямён.** А вы пацікаўцеся. Хацелася б ведаць, колькі немец запатрабаваў? Зараз жыдкоў абмацваюць... Шкада будзе, калі зайздроснік на царкву навядзе... Дазнаюцца... і... канфіскуюць усё...

**Ілья.** А што? Гэта... Няўжо адшукаць нельга?

**Сямён.** Дык не паклаўшы ж, не знойдзеш.

**Ілья.** Вы пакуль, Сямён Карпавіч, пра золата... з пеўчымі... лепш з імі... гэта непажадана. Ненадзейныя людзі. Тут, Сямён Карпавіч, трэба ўсё пранюхаць, абмазгаваць грунтоўна, падрыхтаваць. Я спадзяюся, мы пасябруем.

**Сямён.** Вы мне адразу спадабаліся. У вас нейкая ненатуральная прага жыцця. Прыродны інстынкт самазахавання.

**Ілья.** Згодзен. Без свабоды чалавек ужо не чалавек. Я ніколі і нікому нічым не быў абавязаны. Гэта маё крэда. Сам усяго дасягаў. А тут... Як не ў сваёй талерцы.

**Сямён.** Давайце шукаць разам. Аднаму мне не па сілах. Там яго хопіць кожнаму з лішкам. Верце мне.

**Ілья.** Вам паверу. Абмазгуем. Я падумаю наконт вашай прапановы. Не даю пакуль што згоды, але падумаю.

*Ілья выходзіць. Уваходзяць Хорст Мантопфер, Курт Мантопфер і Вера.*
*Рука Курта вісіць на чорнай павязцы.*
*Вера ў новым паліто. Лісіны каўнер. Усе злёгку нападпітку.*

**Хорст.** Уваходзь, Курт, уваходзь, брат. Гэта і ёсць старадаўняя царква, адзінае, бадай, цікавае месца ў гэтай глушэчы. А вось і гэта рэдкая ікона... Як? Безумоўна, гэта рука не нашых геніяў, але ўсё ж... сапраўды...

**Курт.** Таленавіта. Вельмі таленавіта.

**Хорст.** Вялікіх грошай вартая. Мушу сказаць табе, што раней усходнія славяне таксама былі арыйцамі. Так. Аднак жа лянотай і п'янствам без просыпу — рэдкае слова, так? — спаскудзіліся. Наша задача — прынесці ім цывілізацыю. Ну, вышэй нос, братка, ці ты стаміўся дарогай? Дык вось. Як даць гэту цывілізацыю? Вось дзе пытанне! У мяне такое ўражанне, што мы разгубіліся. Часова. Акупіраваная тэрыторыя павінна быць усяго толькі разрабаваная ці ператворана на доўгі час у эканамічны дадатак рэйха. Яўрэяў тут мала. Пасля семнаццатага года яны накіраваліся ў сталіцы. Як ажыццяўляць канфіскацыю? У каго? А зверху патрабуюць: давайце яўрэйскае золата? Больш ці менш, што рабіць з народам, я ведаю. У рэшце рэшт, чалавек па сваёй прыродзе аднолькавы. Твая прапанова, я перакананы, наступная.

**Курт.** Я ўважліва слухаю.

**Хорст.** Пазакрываць усё, зрабіць рэзервацыі, а найбольш таленавітых і ўпартых, карацей кажучы, непаслухмяных, знішчыць. Але што застанецца? Дух, культура, традыцыі, якія будуць перадавацца з вуснаў у вусны ад старых да дзяцей. Як сляпы Гамер перадаў свае паэмы... А... вось у чым пытанне. Як яго, дух, адолець? Як бачыш, у мяне рукі хоць і не ў крыві, але праца тытанічная. Вось што ёй *(ён паказаў на Веру)* трэба для шчасця?

**Курт.** Э... ну, як сказаць...

**Хорст.** А я ведаю. Я ёй падараваў паліто... старой яўрэйкі, лісіны хвост, які ў нас не насіла б нават служанка... І яна ўжо шчаслівая. Любіць смачна паесці, доўга паспаць, выпіць не адмовіцца... Праца ў яе няцяжкая. Вера, пакажы, як язык танцуе... Ну...

*Вера высоўвае з рота язык і водзіць ім з боку ў бок.*

Фенаменальна. Як маладая гадзюка, якой баішся, і да якой цябе цягне нейкая сіла. Пакажы нам свае стройныя жаноцкія ножкі. Ну...

**Вера.** Э... я... Хорст.

**Хорст.** Не саромься. Тут чужых няма. Гэта мой родны брат — Курт. Ну, смялей.

*Вера падымае спадніцу да каленяў.*

Вышэй. Яшчэ вышэй. *(Курту.)* Бачыш, яна паслухмяная. Вера, пакажы нам свае грудзі...

**Вера.** О... ля, ля... А... Э...

**Хорст.** Просім. *(Больш строга.)* Свае дзівосныя грудзі. Мы чакаем.

*Вера расшпільвае паліто, расшпільвае блузку.*

Я ёй падараваў станік. Сказаў, што французскі. Яны, вельмі наіўны і кідкі на чужую моду, народ. Яна была на сёмым небе ад шчасця. Трэба адвучыць іх ад народных песень, звычаяў, традыцый, замяніць іхнюю фантастычную любоў да радзімы на любоў да маркі. Трэба заахвочваць у перспектыве, калі ўвесь свет будзе наш, іхнія шлюбы з неграмі, азіятамі, мэтанакіравана абязлічваць іх. Гэта няцяжка будзе зрабіць. Я перакананы. У іх няма годнасці, амаль знікла любоў да свайго. Адзін народ заўсёды, ва ўсе часы служыць сыравінай для іншага, больш таленавітага і сур'ёзнага. Ты нават не ўяўляеш, як гэта нялёгка. Але... без недачалавекаў тысячагадоваму рэйху не жыць. Таму нам патрэбна хуткая перамога. Вайна, як распусная баба — самая вялікая спакусніца.

**Курт.** Чаму?

**Хорст.** Патлумачу. Псіхалогія нямецкага салдата чэрвеня і кастрычніка ўжо адрозніваецца. Час, Курт... вух, як ён маланкава прасочваецца між паль-

цаў, вох, як чалавецтву не хапае сілы ўтаймаваць час. Атрымліваючы першыя перамогі... армія незаўважна і хутка разбэшчваецца.

**Курт.** Так, брат, так. Я сябе лаўлю на думцы... такой на першы погляд... Вось я іду маршам у калоне... стамляюся, гляну на сонца, ваду, дрэва... і ўжо мой рытм унутраны парушаецца. Я нейкі іншы.

**Хорст.** Вось-вось. Пачынаецца ілюзорнае сытае жыццё. Падманнае адчуванне суцэльнай перамогі. Багацце побач. Бяры, яно тваё. І ніхто не хоча думаць, што гэта тое, чым валодае толькі частка багацця. Што багацце — уся зямля! Хай палова. Я пры сваім розуме. Армія пачынае развіважаць — і гэта самая вялікая шкода для салдата — а навошта ісці далей, калі ўжо і так ўсё атрымана. Паспытаўшы аднойчы плод, нікому не хочацца яго губляць.

**Курт.** Я яшчэ часам думаю... ну, як я магу канчаткова перамагчы іх... калі я не маю сіл адабраць у іх сонца, ваду, дрэва...

**Хорст.** Ну, гэта ты перабольшваеш. Нам трэба, вох, як нам трэба, Курт, абавязкова да зімы ўзяць Маскву. Мы ўжо, баюся, спазніліся.

*Уваходзіць Вікенцій*

А, айцец Вікенцій. У мяне сёння цудоўны настрой. Я спадзяюся, вы асудзілі сваю істэрыку на той апошняй пропаведзі? Лічыце, што я забыў вашу недарэчную эмацыянальнасць. Так. Вы кіраваліся пачуццямі, а не розумам. Сёння ў мяне свята. Мяне наведаў мой родны брат Курт. Дарэчы, у нас ёсць выдатная магчымасць падараваць яму за ягоную мужнасць і смеласць снайпера выступленне вашага хору. Не толькі герою маскоўскай бітвы, але і мне будзе цікава. Запрасіце хор на клірас. Клічце!

*Вікенцій ідзе ў брамніцкую.*

*Выходзяць Нестар, Прохар, Ілья, Марыя, Аўдоцця,*
*Варвара Ягораўна, Генадзь, Вікенцій.*

**Хорст.** Парадуйце нас сваім талентам. Разам і праверым... ці не дарма вы атрымліваеце харчовыя картачкі.

*Пеўчыя паднімаюцца на клірас.*

**Вікенцій.** Мы паспелі вывучыць толькі адзін нумар.
**Хорст.** Пачынайце.
**Вікенцій.** Дванаццаты нумар.
Госпадзі, злітуйся, Госпадзі, злітуйся,
Госпадзі, злітуйся, Госпадзі, злітуйся,
Злітуйся, Госпадзі, злітуйся, Госпадзі.
Злі-туй-ся.

*Пеўчыя спяваюць журботную царкоўную песню, якую звычайна выконваюць*
*у час літургіі. Паніхіда. Нейк асабліва дзіўна гучыць гэты пахавальны гімн.*
*Нечакана Курт усхапіўся і закрычаў.*

**Хорст** *(бярэ аркушы)*. Бачыш, Курт, жыццё ў кожны момант рыхтуе свае сюрпрызы, каб і мяне збіць з рытму. Толькі Хорст Мантопфер валодае сваёй воляй. Збярыце, Кульбакоў, у камендатуру ўсіх паліцэйскіх у 15 гадзін.

**Кульбакоў.** Слухаюся.

*Хорст, Курт, Вера і Кульбакоў выходзяць. Сашка здымае з пляча карабін.*

**Сашка.** Да мяне нікому не падыходзіць. Хадзіце ўсе ў брамніцкую.
**Нестар.** Вох, хлопча, ты даскачашся ў мяне, успомніш маё словы.

**Сашка.** Ідзі, ідзі.

*Пеўчыя сыходзяць. Сашка здымае ікону.*

**Вікенцій.** Пачакай, сыночак... Я хоць паперу прынясу. Загорнем.

*Вікенцій прыносіць нямецкія газеты.*

**Сашка.** І так будзе добра, загарніце і ўсё.

**Вікенцій.** Загорнем як мае быць. Чый ты будзеш, сыночак? Хто твае бацькі?

**Сашка.** Няма бацькоў. Іх у трыццаць дзявятым... як ворагаў народа. Каму расказаць. Шчырыя працаўнікі абкама партыі... і ворагі.

**Вікенцій.** У той жа час багата блытаніны было. Ты *(цалуе абраз)* ікону, сыночак, пакладзі асцярожна. Можа, і передумае, не адашле ў Нямеччыну. Можа, я ўгавару яго. І як жа прозвішча тваіх бацькоў?

**Сашка.** Чаго цяпер дарма ўспамінаць. Помста ў маім сэрцы. Адна помста. Вербалаз прозвішча. Хопіць. Панясу я.

*Сашка выносіць ікону. Уваходзіць Аўдоцця. Ціха плача.*

**Аўдоцця.** Панёс? Каб у іх рукі паадсыхалі, каб язык акамянеў. Божа мой, Божа.

*Уваходзяць Нестар, Генадзь, Прохар, Ілья, Марыя.*

**Марыя.** Варвара, каб ім да раніцы не дажыць.

**Генадзь.** Звяры. Знішчаць іх трэба.

**Арсеній.** Не плачце, айцец Вікенцій. Мы адпомсцім... Прыйдзе час — і за іконы нашы адпомсцім.

**Нестар.** Адальюцца ім нашы слёзы... І за мой рідны Кіеў.

*Зацямненне.*

## Карціна шостая

*Дэкарацыі без змен. Позняя восень. Дождж са снегам. На сцэне Марыя і Аўдоцця. Яны шаруюць вялізны медны чан.*

**Аўдоцця.** А яшчэ скажу табе, дзеткі, з'явіўся на нашай зямлі немец-велікан. Людзі кажуць, на двух вазах яго па вёсках возяць. Адразу з'ядае, кажуць людзі, пуд ежы. І ўсё мала. Ненаедны, значыць. Ужо гора колькі людзі ад яго бачылі. Кажуць, калі ўсё з'есць, людзьмі харчавацца пачне.

**Марыя.** Ды хто ж гэта расказвае? Дзе яны бачылі такога немца?

**Аўдоцця.** Людзі дарма гаварыць не будуць. Значыць, бачылі. Ужо не ведаю, як і быць. Кажуць, трэба шукаць магілу Ільі Мурамца, каб устаў ды ад навалы зямлю вызваліў.

**Марыя.** Казкі. Хіба ж з магілы ўстаюць?

**Аўдоцця.** Дзіця маё... калі ўвесь народ гуртам папросіць... устане. Хоць вер, хоць не.

*Уваходзяць Арсеній, Ілья, яны прыносяць вёдры вады і выліваюць у чан.*

**Ілья.** Айцец Вікенцій жыве па завядзёнцы: да смерці рыхтуйся, а жыта сей. Ты кім да вайны быў, Арсеній?

**Арсеній.** У газеце працаваў.

*Аўдоцця выходзіць.*

**Ілья.** Хлусня, якую яны штодзень друкавалі, многа гора людзям прынесла. Можа, калі б на праўдзе народ выхоўвалі, і не аддалі б столькі гарадоў.

**Арсеній.** Былі памылкі.

**Ілья.** А спытай, Маша, чаму?

**Арсеній.** Баяліся скампраметаваць ідэю сацыялізму. Вось чаму і хавалі ад усяго свету свае хібы і грахі.

**Ілья.** Ды ўжо пасля бою кулакамі... Мінулае не вярнуць. Змагацца трэба. У мяне прапанова ёсць. Лічу, што замах на каменданта на гэтым этапе немэтазгодны.

**Марыя.** Як? Ды гэта ж... Ну як ты так?..

**Ілья.** Добра. Заб'ём яго. Усіх нас павесяць. Прышлюць новага каменданта і што?

**Марыя.** Той, новы, будзе баяцца. Калі вораг баіцца, ён напалову пераможаны. І яшчэ... калі не рызыкнеш жыццём, ворага не пераможаш.

**Ілья.** У мяне іншы план. Прапаную ўзарваць бензасховішча. Колькі салдат, харчу, зброі не давязуць да фронту машыны ворага! Без бензіну куды... Гэта выгадней, чым смерць аднаго каменданта. І яшчэ. МТС, на тэрыторыі якой пабудавалі бензасховішча, я ведаю як свае пяць пальцаў. Таму прашу, настойваю даручыць усю аперацыю мне аднаму.

**Марыя.** Ілья, гэта проста выдатна. Гэта ідэя, Арсеній!

**Арсеній.** Лагічна. Шчыра кажучы, я не чакаў ад цябе такой прапановы. Можна зрабіць спробу. Нестар!

*Уваходзіць Нестар!*

Перадай цацку Ільі і навучы, як карыстацца.

*Ілья і Нестар выходзяць.*

**Арсеній.** Нібыта прасвятленне на яго найшло. Заўсёды такі абачлівы, пужлівы. Асцярожны... і раптам.

**Марыя.** Ён душой слабы. Пасля працяглых ваганняў зразумеў неабходнасць барацьбы. Не ўсе людзі аднолькавыя.

*Уваходзіць Вікенцій.*

**Вікенцій.** Скажыце... гэта вы сёння раніцай спявалі... гэту...

**Арсеній.** «Вечерний звон».

**Вікенцій.** Добра спявалі. Гэта мая любімая песня. Я прашу... каб пазбегчы розных непрыемнасцей... Не рабіце больш гэтага... не трэба спяваць. Прашу вас. Будзьце асцярожныя. Мяне праследуе апошнім часам пачуццё віны. Нават не ведаю, адкуль яно.

**Марыя.** Якое, тата?

**Вікенцій.** Віны перад тымі, расстралянымі ў рове. Чаму я не набраў хор з дзесяці-дваццаці чалавек? Чаму адпрэчыў астатніх? Ускосна і я вінаваты ў іхняй пагібелі, дачка!

**Марыя.** Не пакутуй, тата. Ты невінаваты. Ты і так шмат зрабіў.

**Вікенцій.** Я нічога не зрабіў. І, баюся, не змагу зрабіць.

*Вікенцій выходзіць. Уваходзяць Нестар, Ілья, Генадзь.*

**Арсеній.** Табе трэба яшчэ хто-небудзь?

**Ілья.** Шматлюднасць адразу кідаецца ў вочы. Усё зраблю сам.

**Арсеній.** Падзяліся хоць планам сваім, можа, што слушнае падкажам.

**Генадзь.** Адзін розум добра, а два лепш.

**Ілья.** Пакуль усё зразумела. Калі не змагу ўзарваць, не атрымаецца... тады будзем вырашаць калектыўна.

*Ілья выходзіць.*
*Паўза.*

**Генадзь** *(нечакана)*. А ён не выдасць? Не аднясе міну ў камендатуру?

**Марыя.** Ты што? Ты цяміш, што кажаш?

**Нестар.** Ён мог бы гэта зрабіць і раней, калі б захацеў. Зводкі, радыёпрыёмнік.

**Арсеній.** Гэта і будзе канчатковым шанцам праверыць яго...

*Уваходзіць Сямён Карпавіч.*

**Сямён.** Усе сабраліся? Фадзей Робертавіч да вас ідзе. А гэта ад яго падарунак.

*Ставіць мяшок.*

**Арсеній.** Што ў мяшку?

**Сямён.** Патэфон. Гаўрэднэр перадаў. Дапамажы чан у брамніцкую аднесці, ды пабягу абедаць, хаджу не еўшы, як шалёны.

**Нестар.** А навошта патэфон? Кафэ-шантан з царквы зрабіць хоча?

**Сямён.** У яго і спытаеш. Мацней трымай.

*Сямён і Нестар выносяць чан.*
*Уваходзяць Прохар, Варвара Ягораўна, Генадзь.*

**Прохар.** Дваццаць пяць штук перапісаў. Левай рукой. Сюды б князя Мышкіна. А то ўсё хадзіў па салонах ды высвятляў, хто з Богам жыве, хто без Бога.

**Арсеній.** Схавай пакуль што за алтар. Гаўрэднэр сюды спяшаецца.

**Прохар.** Чаго?

**Генадзь.** А чорт яго ведае.

*Прохар забірае зводкі ў Варвары Ягораўны і хавае за алтар.*

**Арсеній.** Мы зараз двойчы будзем абачлівымі.

*Уваходзіць рослы паліцай, прыносіць акардэон.*
*Следам уваходзіць Фадзей Робертавіч.*

**Фадзей.** А дзе айцец Вікенцій?

**Марыя.** Ён хворы, ляжыць у ложку.

**Фадзей.** Шкада. Неўрастэнія давядзе яго да белай гарачкі. Як гэта мудрыя кажуць… навучы мяне, Божа, адрозніваць, што я маю сілы змяніць, а што — не. Вы ўсе мне патрэбныя. Сядайце на лаўку і слухайце. Мы цяпер, згодна з загадам каменданта, пашыраем кола функцый і колькасць пеўчых.

*Заводзіць патэфон. Гучыць марш. Фадзей бадзёра падпявае.*

**Фадзей.** Вэн ды зольдатэн дурх ды штат маршырэн.
Оффнэн ды мэдхэн ды хэрцен.
Унд ды тюрэн.
Хэй... нур вэгэк шынгдэ рата-та бум-дэрата-та.

Геніяльна, па-мойму! Колькі бадзёрасці, колькі аптымізму. Бумдэратата. Ці вось гэта... *(Дастае шпаргалку.)*

Зыхт іх байм швагэр форт,
Форвэрст ды росэ трабэн
Шмэттэр лаут дас хоры.

Высока на жоўтай карэце
Сяджу я з фурманам побач,
Наперад коні імчаць
І гучна спявае труба.
Абэр дэр вэгэн, дэр рольт.

Вось так, дарагія мае. Усё гэта вы мусіце вывучыць. Так. Трэба выхоўваць народ, як у старажытнай Спарце. Мажорнымі мелодыямі. З гэтага дня вы будзеце не толькі спяваць у царкве, але і даваць канцэрты. Будзеце жыць свабодна. Пеўчыя царквы паслужаць мне асновай для стварэння хору ў дзесяць—пятнаццаць чалавек, які будзе вандраваць па ўсім Остландзе і радаваць сваіх і немцаў. Каб усе ведалі, што народ духам не падае, народ спявае, весяліцца, што, маўляў, чуткі пра партызан — усяго толькі міф. Каб ніводнай рускай, украінскай, беларускай песні. Не, калі ласка, што-небудзь гэткае блатное, каб павесяліць, гэта немцы любяць... Кшталту... там... гэта... сястра, што курыць, маці, што гуляе, якая ганьба. Гэта часам можна. Будзем ужываць жорсткія меры. Хочаш жыць, есці, спакойна спаць, спявай тое, што патрабуюць. Варвара Ягораўна, бярыце акардэон. Пачынайце развучваць марш Бумдэратата... Мы засумавалі? У чым справа? Можа, ёсць нязгодныя? Святое месца пустым не бывае.

**Арсеній.** А грошай за гэта... больш даваць будуць?

**Фадзей.** О! Гэта голас разумнага чалавека. Пяць марак за адзін канцэрт. Абяцаю.

**Варвара.** Я так імгненна не змагу вывучыць мелодыю. Тады... словы трэба спісаць з пласцінкі.

**Фадзей.** Так. У семнаццаць нуль-нуль я ў вас. І не халтурыць як пры Саветах. Вы ж самародкі. Таленавітыя страшэнна. Я веру, прыйдзе час, калі вялікі фюрэр на белым кані ўедзе ў Маскву, а мы будзем аднымі з першых, хто выступіць у святочным канцэрце на сталічнай сцэне. Пачынайце! Давайце! Айцу Вікенцію вялікае прывітанне.

*Фадзей Робертавіч выходзіць.*
*Паўза.*

**Генадзь.** Вось табе і Юр’еў дзень. Даскакаліся. Самы час змотваць вуды. Шукаць партызан трэба.

**Нестар.** Іголку ў стозе сена.

**Генадзь.** Надакучыла. Нас паступова і метадычна ператвараюць у паслугачоў. Не хапала, каб яшчэ ў дадатак сфатаграфавалі для газеты. Паглядзіце. Нямецкі хор Пятніцкага. Крок, два... і з галавой зацягне. Мяне не пакідае пачуццё, што за намі сочаць. Стараста... дзень і ноч у царкве.

**Арсеній.** Радыёпрыёмнік надзейна схаваны на хутары. Зброі няма.

**Нестар.** Міны ў лесе.

**Арсеній.** Яны тут нічога не знойдуць. Спаліце пакуль зводкі.

**Прохар.** Колькі стараліся, Арсеній.

**Арсеній.** Спалі. Заўтра напішам новыя.

*Прохар дастае зводкі і кідае ў печку.*

**Арсеній.** Мы не маем права ставіць пад удар айца Вікенція. Гэта нават лепш, калі гаўрэднэр возьме нас пад сваё кіраўніцтва. Будзем ездзіць, знаёміцца з людзьмі.

**Генадзь.** Ты, Арсеній, як той Ілья. Соладка спяваеш.

**Марыя.** Ілья, дарэчы, выконвае заданне. Адзін.

**Генадзь.** Хочаце па-шчырасці? Шчыра, я б не рызыкнуў пайсці разам з ім. Перастрахоўшчык, дэмагог. Мне здаецца, ён наўмысна выбраў тое, што лягчэй у нейкай ступені, каб ад больш цяжкага адмовіцца.

**Нестар.** Ну, ты перагнуў палку.

**Марыя.** Ты ж адзін не пайшоў?

**Генадзь.** Гэта мая асабістая думка. Я яе не навязваю. Мог бы і пайсці.

**Аўдоцця** *(на парозе).* Людцы, хавайцеся. Самы галоўны немец сюды бяжыць. Ён і паліцай разам з ім. Хавайцеся.

**Генадзь.** Арсеній, трэба сыходзіць.

**Арсеній.** Куды? Назад, Варвара, бяры акардэон. Спяваем дружна. Усе. Не ведаеш — адкрывай рот. З натхненнем. Лялякай, тралялякай, а спявай. Давай.

*Варвара грае, усе спяваюць. «Вэн ды золдатэн... Бумдэратата...»*
*Уваходзіць Хорст. Пахмурны і злы. На рукаве фрэнча чорная павязка.*
*Паўза.*

**Хорст.** Дзе айцец Вікенцій?

**Марыя.** Бацька хворы. У яго тэмпература.

**Хорст.** Прывядзі яго сюды.

**Кульбакоў.** Слухаюся.

*Кульбакоў і Сашка выходзяць. Ля дзвярэй застаецца рослы паліцай.*
*Уваходзяць Кульбакоў і Вікенцій.*

**Хорст.** Заседзеліся тут. Званіце ў званы, айцец Вікенцій! Званіце!

**Вікенцій.** Сёння, гэр камендант, не свята.

**Хорст.** Званіце, калі вам загадвае нямецкі афіцэр. Хай усе пачуюць, хай усе аплакваюць. Увесь свет павінен ведаць пра смерць звычайнага нямецкага фельдфебеля... Курта Мантопфера! Брата майго... роднага... забілі пад Масквой. За што? Брудныя свінні. Мы ж прыйшлі вызваліць вас, аб'яднацца ў барацьбе супраць рабаўнікоў, як вучыў фюрэр. Служыце паніхіду, набажэнства, памінкі па брату, айцец Вікенцій. Хай у вялікай тузе спяваюць пеўчыя. Добра служы, шчыра і наітхнёна. Доўга служы.

*Паўза.*

**Вікенцій.** Прабачце... але я хворы. Мне цяжка гаварыць.

**Хорст.** Хворы? Ды вам тут усім, усім... у сытым цяпле можна і пахварэць, а героі сапраўдныя гінуць у снежных акопах. Звані ў званы! Служы паніхіду моўчкі, калі сіл няма... гаварыць. Маліся, каб душа ягоная знайшла спакой і радасць там, у выраі. Мой брат. Ды ён быў геніем! Яму сам чэмпіён па стральбе вялікі Колнінгс граматы ўручаў. Пеўчыя, я вас не чую! Звані! *(Дастае пісталет.)* Пеўчыя, я вас не чую.

*Вікенцій звоніць у званы. Гучыць спеў пеўчых. Хорст выцірае слязу.*
*Нечакана пачуўся магутны выбух. За ім другі, трэці.*
*Паўза.*

**Хорст.** Хто загадаў замаўчаць? Пеўчыя, працягвайце. Маліцеся, айцец Вікенцій.

*Зноў спяваюць пеўчыя. Хутка ўваходзіць гаўрэднэр. Цяжка дыхае.*

**Фадзей.** Гер камендант, гер камендант.

**Хорст.** Што яшчэ?

**Фадзей.** Бензасховішча... бам... узарвалі.

**Хорст.** Як?

**Фадзей.** Я вачам сваім не паверыў.

**Хорст.** Нікому не разыходзіцца. Кульбакоў, пеўчых — у брамніцкую. Святы айцец, а вы маліцеся. Калі я не прыйду, маліцеся. (Зірнуў на гадзіннік.) Да дзесяці гадзін вечара. Хай праз кожную гадзіну званы нагадваюць пра вялікі подзвіг майго брата.

*Хорст выходзіць. Кульбакоў, Сашка, рослы паліцай прыспешваюць пеўчых, тыя накіроўваюцца ў брамніцкую. У царкве застаюцца Вікенцій і Марыя.*

**Марыя.** Хадзем, бацька.

**Вікенцій.** Не... Вернецца — сарве свой гнеў на пеўчых... Прынясі мне паліто.

*Марыя выходзіць. Некаторы час Вікенцій на сцэне адзін. Уваходзіць Ілья.*

**Ілья.** Айцец Вікенцій. А дзе ўсе?

**Вікенцій**. Пеўчых Хорст замкнуў там, у брамніцкай... У немца брата забілі на фронце. Марыя тут. Прыйдзе.

**Ілья.** Фу-у... Так і хочацца сказаць, дзякуй Богу! Чулі выбух? Няма больш бензасховішча. Я вось пра што хацеў пагаварыць з вамі, айцец Вікенцій... Калі вы, канечне, мне давяраеце. Пасля ўсяго гэтага немец азвярэе. Аблавы пачнуцца. Міны шукаць будуць, тых, хто кіруе і ажыццяўляе падрыўныя акцыі. Могуць і царкву абшукаць. Так што... калі маеце якія-небудзь каштоўнасці... ці золата царкоўнае і гэтак далей... не шкодзіла б перахаваць куды-небудзь. Мы можам з Марыяй... скажам, аднесці на хутар да Аўдоцці. Стараста ваш... не падабаецца мне. Нешта ён надумаў. Былы злодзей, трэба памятаць. Швэндаецца паўсюль, як чынгісханавец.

**Вікенцій.** А хто ж гэта... бензасховішча?

**Ілья.** Хай вам не падасца нясціплым... Мая работа...

*Марыя прыносіць паліто.*

**Вікенцій.** Я памалюся. Мне ўжо лепш...

**Марыя.** За немца.

**Вікенцій.** Не, дачка. За маці гарадоў рускіх — Кіеў. Я вучыўся там.

**Марыя** *(адводзіць убок Ілью).* Малайчына! Удала зроблена. Пайшоў снег і слядоў не знойдуць. Мінёр ты прафесійны.

**Ілья.** Мінёр — гэта не прафесія. Марыў калісьці артыстам... Ты адзін, а глядзець на цябе ідуць сотні... Ці доктар адзін, а залежаць ад яго... тысячы. Добрая пасада. Прадавец у краме — адзін над усімі. Улада. Я не люблю партыйную, савецкую, вайсковую ўладу і ніколі да яе не імкнуўся. Мне даспадобы нябачная, магутная ўлада. Вось каханне. Разнастайнасць нябачнай улады. Я недалюбліваю Арсенія, нават ненавіджу. Ты вельмі змянілася за апошні час. Давай кінем усё гэта. Не хачу цябе згубіць. Павянчаемся, калі хочаш. За золата можна купіць у каменданта і свабоду. Пераедзем у іншы горад. Хачу элементарна хоць адну ноч паспаць без трывогі, побач з каханай. Пажыць хачу... а ўжо потым, аб'яднаўшымі з самавітымі людзьмі, з абкамам падпольным... дзейнічаць, калі выйсця не будзе.

**Марыя.** Ілья! Не пазнаю цябе. Толькі што здзейсніў... можна сказаць, подзвіг... і раптам такія словы.

**Ілья.** Пажартаваў я... Сам не ведаю, што і кажу. Супакойся. Я тут бацьку твайму адну ідэю падкінуў. Трэба каштоўнасці царкоўныя перахаваць. Надзейна, у іншае месца. Аблава можа быць.

**Марыя.** А яны ёсць?

**Ілья.** Не трэба быць такой наіўнай. Нас не за Божае слова з лагера выпусцілі. Ты падтрымай маю ідэю. Зразумела?

**Марыя.** Так.

*Ілья выходзіць. Да Марыі падыходзіць Вікенцій.*

**Вікенцій.** Марыя... дачка мая... я доўга думаў... рызыкаваць, не рызыкаваць... Нарэшце вырашыў канчаткова. Нават паспеў дамовіцца з машыністам Кузьмой.

**Марыя.** Пра што ты? Не разумею.

**Вікенцій.** Парай мне. Я вырашыў пераправіць царкоўныя каштоўнасці... на абарону Айчыны. Іх трэба накіраваць за лінію фронту. у Маскву, Савету абароны... патрыярху ўсяе Русі. Ты змагла б гэта зрабіць?

**Марыя.** Тата, родны мой... харошы. Я згодна.

**Вікенцій.** Яны тут. Частка схавана ў іконе. А частка ў гэтым воску. Адной не данесці. Ды я і не рызыкну ніколі пусціць цябе адну. Прапаную табе выбраць аднаго... з пеўчых.

**Марыя.** Бацька, мне ніколі не выбавіцца ад той віны, калі я адвярнулася ад цябе, здрадзіла. Даруй.

**Вікенцій.** Досыць. Не пра тое зараз ідзе гаворка. У нас няма часу. Прамаруджваць небяспечна. Можа быць аблава. Ехаць трэба сёння ноччу. Як мага хутчэй. З кім? Выбірай. Арсеній, Ілья?

**Марыя** *(пасля паўзы)*. Ні той, ні другі. Хутчэй за ўсё з Прохарам.

**Вікенцій.** Чаму?

**Марыя.** Таму што менавіта ён перапісвае зводкі Саўінфармбюро.

**Вікенцій.** Дык гэта справа іхніх рук?

**Марыя.** Так. Я думала, ты здагадаўся. Мы ўтойвалі, праўда, гэта ад цябе. Калі параўнаюць почырк... яго першым арыштуюць.

**Вікенцій.** Ён мне падабаецца, хоць я і не ўхваляю тое, што ён робіць. Пагутарыць з ім?

**Марыя.** Не. Гэта таксама не падыходзіць. Заўважаць, што адзін адсутнічае. Не адзін дзень дабірацца давядзецца.

**Вікенцій.** Адну не адпушчу. Не данесці. Фізічна цяжка.

**Марыя.** А калі з Варварай Ягораўнай?

**Вікенцій.** Тады ўжо лепш з Аўдоццяй. Толькі б згадзілася.

**Марыя.** Яна? Ды Аўдоцця са мною ў агонь і ў ваду! Я ёй замест дачкі. Яна згодзіцца. Абяцаю.

*Марыя выходзіць.*

**Вікенцій.** Божа, сіла твая адзіная, уратуй іх і захавай, дапамажы ім дайсці, дапамажы. Зло бярэ верх, а гэта, Божа, як вучыў заўсёды, нядобра. Перамагаць зло трэба ўсімі сіламі і сродкамі. Дапамажы!

*Зацямненне.*

## Карціна сёмая

*Дэкарацыі без змен. На вуліцы завіруха. Па царкве ў кажусе ходзіць Сашка. З брамніцкай чуецца нямецкая песня. Пеўчыя рэпецірующь новую праграму. Уваходзіць Вікенцій. Ён прыносіць бярозавае палена.*

**Вікенцій.** Ах, якая зіма! Колькі жыву, а такога марозу не бачыў.

**Сашка** *(дастае з кішэні бутэльку самагонкі, робіць некалькі глыткоў)*. У мяне заўсёды для саграванне ў кішэні ёсць. Наліць сто грамаў?

**Вікенцій.** Дзякуй. Я не п’ю. Якая зараз гадзіна?

**Сашка.** Ды што з вамі? Праз кожныя дзесяць хвілін пытаецеся, якая гадзіна. Палова на адзінаццатую. Не п’юць, скажу вам, хворыя і тэлеграфныя слупы — у чашачкі ўніз паапусканыя.

**Вікенцій.** Эх, Сашка, Сашка... Малады ты яшчэ, не ўсё разумееш. Кінь піць! Ты прыгожы і не злы, спадзяюся. Вораг наш спойвае цябе і радуецца, калі мазгі твае ачмураюцца. Паказвае на цябе пальцам і пасміхаецца. Няўжо ў цябе чалавечай годнасці няма? Дык ворагі нашы на ўвесь свет і звоняць: у гэтым краі, акрамя лайдакоў, п’яніц, абжор нікога няма. А табе ж сям’ю мець трэба. Бо ў гісторыі адвечны толькі народ... і вера. А ты да каго падобны? Кіруюць табой, папіхаюць...

**Сашка.** Я падобны на самога сябе. Мне чхаць, што пра мяне ў свеце думаюць. Камендант кажа, што ніхто з нас не ўмее паважаць жыццё.

**Вікенцій.** А ты дакажы адваротнае. Што ў душы сваёй маеш адказнасць перад жыццём, разумееш, які магутны народ за табой.

**Сашка.** Гэты народ забіў маіх бацькоў!

**Вікенцій.** Не блытай народ з купкай прайдзісветаў. Твае бацька Іван Іванавіч і маці Кацярына Рыгораўна былі прадстаўнікамі народа, а не прайдзісветамі.

**Сашка** *(здзіўлена)*. Адкуль вы іх ведаеце?

**Вікенцій.** Сустракаліся. Яны загінулі, не здрадзіўшы сваёй веры, таму і памятаю іх, паважаю, хоць і розныя ў нас думкі.

*Уваходзіць вельмі ўсхваляваны Сямён Карпавіч.*

**Сямён.** Айцец Вікенцій... Вы не падужэлі пасля хваробы, адпачывайце. Я сам прапалю.

*Вікенцій выходзіць.*

А табе што тут: царква ці сметнік? Шапку зняў бы. Аўдоццю не бачыў? А табе варта было б пацікавіцца, дзе яна... На рэпетыцыю не прыйшла.

**Сашка.** Мяне яны не цікавяць.

**Сямён.** Кульбакоў цябе чакае ў пастарунку.

**Сашка.** Раскамандаваўся. Сам ведаю.

*Сашка выходзіць. Праз некаторы час з’яўляецца Ілья.*

**Ілья.** Мне здалося, што вы хацелі мяне бачыць? Што здарылася?

**Сямён.** Дзе Марыя?

**Ілья.** А... ты пра гэта... Вікенцій мне давярае. Самастойна нічога не рабі, не спаскудзь мне справу. За інфармацыю сваю долю атрымаеш.

**Сямён.** Дзе Марыя?

**Ілья.** Ды чаго ты да яе прычапіўся. Адпачывае. У доме.

**Сямён.** А дзе Аўдоцця?

**Ілья.** Не ведаю... На рэпетыцыі няма.

**Сямён.** І не будзе. Усё... Кончылася ўсё, кончылася... Марыя разам з Аўдоццяй...

**Ілья.** Што-о?

**Сямён.** Я толькі выказваю здагадку. Ах, Марыю і Аўдоццю ўчора ўвечары... мая Міхаліна бачыла на чыгуначнай станцыі. Я быў з раніцы на хутары. Аўдоцці там няма. Яны збеглі!

**Ілья.** Глупства! Куды? Не веру. Ты хлусіш, каб збіць мяне з панталыку, падмануць? Ды і не можа быць, каб яна... Ды не... Яны мне не толькі давяраюць... зайздросцяць. Не хачу верыць.

**Сямён.** Яны нешта неслі ў торбах. Гэта было яно! У мяне прадчуванне. Я гразь сасніў. *(Плача.)* Золата маё... Яно сплыло... Я праклінаю сябе... навошта я быў шчырым, навошта? Вікенцій западозрыў і... выправіў іх.

**Ілья.** Куды? Дагонім. Сам пайду! Пешшу. Вернецца, усё раскажа.

**Сямён.** Позна... усё позна.

**Ілья.** Без панікі. Распытаю Вікенція, куды ён іх накіраваў.

**Сямён.** А калі не вернуцца? Калі селі ў цягнік, іх не дагнаць... Можа... пакуль не позна... звярнуцца да немцаў?

**Ілья.** Ты што? Тады нічога не атрымаем. Усё камендант забярэ. Кінь глупства. Сядзі тут. Я да Вікенція.

**Сямён** *(упаў на калені)*. Божа, я ж пакутаваў, галадаў, недасыпаў, укалваў за трох, за што ж гнеў твой? За што ты пазбавіў мяне радасці і шчасця? *(Ля дзвярэй стаіць Нестар і прыслухоўваецца.)* Чаму дазволіў ім абвесці мяне вакол пальца, як малое дзіця? Божа! Яно ж было... было пад рукой... маё золата... Пайду да немца. Хай дагоніць, адбярэ... Хай... Усё скажу, усё...

**Нестар.** Назад, паскудны сабака. Я табе пайду да немца. Пра якое золата ты муркаў?

**Сямён.** Ты... гэта... яшчэ чаго... Выдумляеш... Нічога не ведаю. Табе якая справа?

**Нестар.** Арсеній! Генадзь!

*Уваходзяць Арсеній, Генадзь, Прохар, Варвара Ягораўна.*

**Нестар.** Я яго ўсё ж высачыў. Ведае пра нейкае золата. З Ільёй пра штосьці змаўляліся.

*Уваходзяць Ілья і Вікенцій.*

**Сямён.** Кіньце. Нічога не ведаю. Я маліўся.

**Нестар.** Пра што з Ільёй гаварыў? Пра якое золата?

**Сямён.** У яго спытайце.

**Арсеній.** Айцец Вікенцій, тут Нестар сёе-тое прачуў. Пра якое золата ідзе гаворка?

**Вікенцій.** Адпусціце яго. Я яму ніколі не давяраў да канца. Было золата... царкоўнае. Зараз няма. Яно ў надзейным месцы... Можа быць, нават далёка.... у Маскве.

**Нестар.** Ды на каго ты хацеў немцу паскардзіцца?

**Ілья** *(нечакана б’е Сямёна нагой у жывот)*. Падла, сабака... Здраднік! Хамуйла! Ён і мяне падбухторваў. Кажа, у іх ёсць золата, давай разам шукаць. Падзелім. У-у, сабака...

**Сямён.** Ах, ты, гніда! Трымайце яго, ён заб’е мяне, ён наўмысна заб’е мяне, каб я маўчаў. Трымайце яго!

*Генадзь і Прохар трымаюць Ілью.*

**Сямён** *(выцірае з вуснаў кроў)*. Падонак... Нагамі ў жывот, нягоднік. Не давайце веры яму. Ён усё ведаў. Мы дамовіліся яшчэ раней. Разам хацелі знайсці золата і падзяліць!

**Ілья.** Няпраўда! Пусціце мяне, я заб’ю яго за нахабную хлусню! Хлус!

**Сямён.** Маўчы, падонак. Айцец Вікенцій, узгадайце... хіба не пытаў ён, дзе яно ляжыць? Ці ёсць яно ў царкве? Пытаў. Ці не прапаноўваў свае паслугі, каб перахаваць?

**Вікенцій.** Праўда.

**Ілья.** Ну, навошта з гэтага рабіць праблему... Сапраўды, я цікавіўся, каб дапамагчы вам. Не верце Сямёну — подлы злодзей.

**Сямён.** Сапраўды, я злодзей, ды ўжо тут першы раз шчырым буду.

**Варвара** *(ля дзвярэй)*. Немцы! Машына пад'ехала. Многа немцаў.

**Арсеній.** Бярыце ў рукі ноты, словы, хутка рэпеціруем...

**Нестар.** Што з імі рабіць?

**Арсеній.** Яны ўжо самі з сабой усё зрабілі. Пусціце на ўсе чатыры бакі. Хай даносяць адзін на аднаго.

**Сямён.** Правільна, таварышы, маўчаць трэба. Усё ціха.

**Ілья.** Вух, як я вас ненавіджу, не-на-віджу! Асабліва цябе, Арсеній! Ты ўсім галаву задурыў! Ты! Праклінаю вас усіх... Жыццё маё скалечанае. Божа, дай мне сілы, не загубі... Я ж малады, ма-ла-ды! Я хачу жыць! Больш нічога не хачу! Божа... *(Хрысціцца.)*

**Сямён.** Руку памяняй, хто ж левай хрысціцца ў нас, юда?

*Уваходзяць Хорст, Кульбакоў, Сашка, даўгалыгі паліцай*
*і некалькі жандараў з палявой жандармерыі.*

**Хорст.** Усім заставацца на сваіх месцах. Я даўно падазраю: сярод вас ёсць нядобранадзейныя і незадаволеныя новым парадкам. Кульбакоў, паперу сюды і чарніла. *(Да жандараў.)* Шукайце радыёпрыёмнік. Кожны з вас па чарзе напіша мне на паперцы адзін сказ: «Сёння, пятнаццатага снежня, нямецкія войскі ўзялі Маскву». Давайце! Айцец Вікенцій, на жаль, я перастаў давяраць вам. Гут. Цяпер я *(вымае паперку-зводку Саўінформбюро)*, элементарна параўнаю почырк на гэтай лістоўцы і вызначу аднойчы і назаўсёды аўтара, калі будзе супадзенне... расстраляю ўсіх... як ворагаў рэйха.

*Збірае паперкі. Параўноўвае.*
*Працяглая паўза.*

**Хорст** *(забірае ў Прохара)*. Та-ак. Ну што ж, гэтым разам вам пашанцавала. Пад шчаслівай зоркай нарадзіліся, айцец Вікенцій. Праўду кажучы, я разлічваў на поспех.

**Кульбакоў.** Яшчэ два чалавекі з пеўчых не пісалі, гер камендант.

**Хорст.** Вось як? Хто?

**Кульбакоў.** Дачка Вікенція Марыя і Аўдоцця. Прыбіральшчыца.

**Хорст.** Добра, Кульбакоў. Дзе твая дачка, Вікенцій Варламаў? Дзе Аўдоцця?

**Вікенцій.** Не ведаю.

*Да Хорста падыходзіць фельдфебель палявой жандармерыі*
*і працягвае залатую манету.*

**Хорст.** Што гэта? О, золата. Гут. Варламаў, можа, тады ты мне адкажаш на пытанне: што гэта? Адкуль?

**Вікенцій.** Першы раз бачу.

**Хорст.** Гэтак мы канчаткова пасварымся. Толькі не пераконвайце мяне, што гэта міласціна жабракоў. Вы схавалі ад нямецкіх уладаў каштоўнасці, якімі я цікавіўся пры першай нашай сустрэчы. Вам было прапанавана і загадана ў самым пачатку вашай дзейнасці здаць усе царкоўныя каштоўнасці і золата ў тым ліку. Вы адказалі, што Саветы іх даўно канфіскавалі. Дзе каштоўнасці?

**Вікенцій.** Не ведаю.

**Хорст.** Бярыце яго. Мы пагутарым у брамніцкай. Хутчэй, хутчэй! Можа, без сведак ён будзе больш згаворлівы.

*Хорст ідзе ў брамніцкую, за ім следам Кульбакоў.*
*Сашка падыходзіць да Вікенція, бярэ яго за руку.*

**Вікенцій.** Сашка, Сашка... Ты руку мне не заломвай. Я сам пайду. Ты лепш запытай Кульбакова, хто напісаў данос на тваіх бацькоў?

**Сашка.** Хто? Айцец Вікенцій, хто?

**Вікенцій.** Кульбакоў, Сашка. На родную сястру данос напісаў.

**Сашка.** Няпраўда!

**Вікенцій.** Адпусці руку... перахрышчуся.

*Даўгалыгі паліцай штурхае Вікенція ў спіну.*

**Даўгалыгі паліцай.** Давай, божая кароўка, ідзі. А ты, Сашка, не слухай яго. Мы яму вушы прачысцім, каб ён больш не чуў ні голасу Божага, ні званоў сваёй царквы.

*Вікенцій, Сашка, Даўгалыгі паліцай ідуць у брамніцкую.*
*Два немцы скіроўваюць аўтаматы на пеўчых. Усе стаяць нерухома.*

**Сямён.** Можа, мне пайсці і сказаць... што золата няма, што яго скралі ўначы?

*Арсеній маўчыць.*

**Ілья.** Сямён Карпавіч... дарагі, не трэба гэтага рабіць... Не дазваляйце яму. Нас усіх перастраляюць. У цябе, Сямён Карпавіч, міленькі, родны, прашу... не трэба хадзіць. Спытаюць, дзе былі раней, ведалі пра золата і маўчалі... Імем усіх святых прашу.

**Сямён.** Адыдзіся ад мяне, змяя. Цьфу, цьфу!

**Ілья.** Плюй. Усё адно, плюй. Толькі не хадзі, не губі.

*Уваходзіць Сашка. Чуваць нямецкія каманды.*
*Уваходзяць Хорст, Кульбакоў.*

**Хорст.** Усё застаецца па-ранейшаму. Хор павінен дзейнічаць. Заўтра Фадзей Робертавіч павязе вас на першы канцэрт. Рэпеціруйце.

*Хорст, Кульбакоў, Даўгалыгі паліцай і жандары выходзяць.*

**Арсеній.** Што там?

*Варвара Ягораўна ідзе ў брамніцкую.*

**Генадзь.** Не маўчы!

**Сямён.** Няўжо забілі? Божа...

**Прохар.** Ён прызнаўся?

**Сашка.** Сказаў... Сказаў, што дачка, з якой ён пасварыўся перад вайной, скрала золата і ўцякла з Аўдоцццяй.

**Арсеній.** Сказаў, у Маскву ўцякла?

**Сашка.** Так... Яны... каты... яны пракалолі яму вушы. Ён глухі... глухі...

**Генадзь** *(хапае Ілью за грудзі)*. У-у, сабака, што ты молішся. *(Б'е яго па твары.)*

*Уваходзіць Вікенцій. На белай вопратцы сляды крыві.*
*Паўза.*

**Вікенцій.** Ён мне, мярзотнік, даказвае, што іх знойдуць. Што яны не данясуць да сталіцы. Памыляешся, Хорст, ты не ведаеш маю Марыю, мой народ. Ён даказвае мне, што сталіца ў немцаў. І ў гэта не веру... не веру! Стаіць наша матухна нескароная... Стаіць! Ён бы так не спалохаўся, забойца. Ён баіцца мяне. А Масква стаіць.

*Вікенцій звоніць у звон.*

**Вікенцій.** Рызу мне.

*Варвара Ягораўна падае рызу.*

**Генадзь.** Навошта гэта ён?
**Нестар.** Ягонае права.

*У царкву паступова заходзяць людзі. Іх усё больш і больш.*

**Прохар.** Быццам бы сёння не свята.

**Генадзь.** Арсеній, самы час сысці з мястэчка. Трэба ісці на Мерлінскія хутары. У лес.

**Арсеній.** Ведаю. Сёння мы пойдзем.

**Вікенцій.** Прашу, родныя мае... У апошні раз. Вас забіраюць з царквы. Ён казаў. Заспяваем заздароўную. Многія лета. Заспяваем.

**Варвара.** Давайце заспяваем. Яго любімую.

**Вікенцій.** Яны пачалі спяваць? Што?

**Сашка** *(піша на паперцы, працягвае Вікенцію)*. «Вечерний звон».

**Вікенцій.** Так-так. Дзякуй вам. Яны дойдуць. Яны павінны дайсці да Масквы.

*Усё гучней гучыць песня на кліросе. Уваходзіць Кульбакоў.*

**Кульбакоў.** Хто дазволіў бунтаваць народ? Я вас пытаю? Спыніць спевы! Замаўчыце!!! *(Штурхае людзей.)* Прэч! Прэч... Давай адсюль. Пайшоў! Заб'ю! *(Да пеўчых.)* Загадваю замаўчаць! *(Здымае з пляча карабін.)* А... маці тваю...

*Страляе па кліросе.*
*Паўза.*

Маўчаць!

*Цэліцца яшчэ раз. Але стрэліць не паспявае. Сашка прыкладам свайго карабіна моцна б'е Кульбакова па галаве. Раз, другі. Кульбакоў як мёртвы падае на падлогу.*
*Паўза.*

**Сашка.** Скажыце ім, айцец Вікенцій, хай спяваюць. Спявайце, пеўчыя.

**Вікенцій.** Народ слухае вас, пеўчыя.

*Магутна, шырока і цудоўна гучыць народная песня.*
*І няма сілы, якая б прымусіла замаўчаць пеўчых у гэты снежаньскі дзень сорак першага года. Пеўчыя, развітваючыся з Вікенціем, пакідаюць царкву.*
*Гучаць першыя акорды песні Б. Аляксандрава «Священная война».*

*Заслона.*



## Валянцін ЛУКША

### БЕЛАЯ ВЕЖА

*«Князь же Володимерь въ княжении своем многы городы зруби по отци своем. Зруби Берестий. И за Берестиемь зруби город на пустом месте нарицаемем Лестне, и нареч имя ему Каменець, зане быс камена земля. Създаж въ нем столпъ каменъ... подобенъ удивлению всем зрящим нань...»*

Іпацьеўскі летапіс

Князь пільна дбаў пра непахіснасць межаў,
Каб менш было пакутных страт і згуб, —
На ўскрайку векавечнай Белавежы
Пры беразе узвёў каменны слуп.

Слуп гораду бяспеку гарантуе —
Як верная зарука ад зарук —
За вёрсты бачыць і за вёрсты чуе:
Чужак ідзе, або надзейны друг.

Гады над Белай Вежай пракрылялі
У водблісках пранізлівых атак.
Моц непахісных сцен пакаштавалі
І бандзюган шалёны, і крыжак.

---

*__Лукша Валянцін Антонавіч__ нарадзіўся 16 лістапада 1937 года ў Полацку. Скончыў аддзяленне друку Вышэйшай партыйнай школы пры ЦК КПСС (1976). Працаваў у мясцовых і рэспубліканскіх СМІ. У 1980—1998 гг. — дырэктар выдавецтва «Юнацтва».*

*Аўтар кніг паэзіі «Гарады нараджаюцца сёння» (1964), «Атава» (1969), «Споведзь» (1973), «Белыя берагі» (1981), «Сляды памяці» (1986), «Агонь і попел» (1989), «Покліч лёсу» (1997), «І родны дом, і цэлы свет» (2006) і інш., шматлікіх зборнікаў вершаў і казак для дзяцей, п’ес, пастаўленых на тэатральнай сцэне, радыё і тэлебачанні, тэкстаў многіх папулярных песень.*

*Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь (1996), Літаратурнай прэміі імя Петруся Броўкі (1994), Літаратурнай прэміі імя Васіля Віткі (2007).*

Якую б сцены ні пачулі мову,
Ды ведалі дакладна пераклад, —
Хто закранаў славянскія асновы, —
Разгойдвалі старанна свой набат.

Пранёсшы годна гордасць вечнай славы,
Душой не можа Вежа пакрывіць.

На межах міралюбіцы-дзяржавы
Як сімвал міру белы слуп стаіць…

## НАРАЧАНСКІЯ СОСНЫ

У душы абудзі́ць узнёсласць,
Дакрануцца сэрцам да Бога
Вешчуны — нарачанскія сосны, —
Як анёлы, заўжды дапамогуць.

Паглядзіце на іх уранні,
Калі далі зарой запалалі, —
Гэта сосны на стылым світанні
Клапатлівы дзень разлюлялі,

Каранямі сокі глытаюць,
Ашчаперыўшы стромы бераг…
Нам спрадвечна зямля святая —
Як крыніца нязгаснай веры.

І жывая крыніца натхнення
Творцаў песнямі наталяе…
Мора-Нарач, нібыта геній,
Дзіва-рыфмы з глыбінь выкрасае…

Разгалёкаўся дзень турботны,
Вецер гоніць хвалю крутую…

І здаецца, што Танк над блакнотам
Да радочка радок ладуе…

## РАБІНА

Пасаджу рабіну каля хаты —
Хай расце, мой верны абярог,
Каб зайздроснік хітры, хіжаваты
Не ступіў ніколі на парог…

Моцы ёй дала зямля Эдэма,
Дзе грахі аблыталі людзей,
Дзе апалі слёзы Евы нема
Над разбітым прывідам надзей.

Думаў чорт: сваю работу зробіць,
Каля дрэва воранам кружыў.
Бог заўважыў ліст, на крыж падобны, —
На тысячагоддзі блаславіў.

Светлым пажаданням людзі вераць,
І цяпер, праз таўшчыню гадоў,
Гронкі і на дзверы, і за дзверы
Вешаюць з надзеяй зноў і зноў,

І кладуць з малітваю за рамы,
Каб надзейна захаваць цяпло…

Свет — нібы рабінавая брама
І рабіны добрае крыло.

## МІТУЛІЦА

Калі салоўка спеў закончыць свой
І жыта — дар палёў — адкаласіцца,
Над разамлелай жнівеньскай Дзвіной
Завеяй мітусіцца мітуліца.

Яна ляціць, нібыта першы снег,
Ухутвае зямлю абрусам белым.
Яна ляціць, нібы дзіцячы смех,
Што птушкаю з грудзей крыляе смела.

Трапечуцца над хваляй матылі
І ападаюць долу, як пялёсткі,
І лецейка натруджанай раллі
Свой дэманструе плён, сваю даросласць.

Паспелі нівы.
І Мядовы Спас
Над пасекаю дыхае спакусна.
Штогодны баль завітвае у час
Да касякоў укормленых падустаў.

Ля берагоў рыбацкія кастры
Згасаць у ціхай цемрадзі не хочуць,
Іскрынкі мітусяцца угары
І слепяць нам натруджаныя вочы.

## ЛЯСНОЕ ВОЗЕРА

Лясное возера забытае —
Узбоч ад сцежак і дарог —
Як хата з вокнамі забітымі,
Дзе ганак асядлаў быльнёг.

Яно на картах не пазначана, —
Для пыхі не стае вагі, —
Ледзь бачны белыя гарлачыкі —
Сцяной паўсталі трыснягі.

Купаецца качыны вывадак
Там пад разлапістым карчом,
У яміне глыбокай, прывіднай,
Як жорны, варухнецца сом.

І зноўку пільна бераг слухае —
Пне праз гушчар алень-рагач.
І недзе глухавата вухае
Звышнасцярожаны пугач.

А возера туманы шэрыя
Кудлаціць будзе над вадой
І глыбіню сваю даверліва
Звяраць з нябеснай глыбінёй.

Сарокі лаянкай абразілі
Забыты, некрануты свет…

А сонца, як чароўны казачнік,
Па ціхай роўнядзі плыве.

## З ДАРОЖНАГА СШЫТКА

***Фэст паштовых галубоў***

Трагедыі дачасна не адкрыцца,
Яна — як насланнё злавесных сноў…
Паклікала гасцінна Катавіцэ
На шумны фэст паштовых галубоў.

Не адшукаць такой сям'і птушынай,
Такога хараства не адшукаць, —
Збіраліся краіна за краінай
У Польшчы спрыт адметны паказаць.

Гмах поўніўся жывым птушыным рэхам,
Гудзеў, нібы святочны зыркі пляц,
Ды раптам гурбы студзеньскага снегу
Абрынулі агромністы палац.

Пад друзам лютым галубы і людзі
Сышлі дарогай болю і пакут…
І хто цяпер раскажа і рассудзіць
Чыя віна, чыя прамашка тут?..

На стылым насце кветкі дагаралі,
Нібы на снезе запяклася кроў…
А галубы над горадам крылялі,
Шукаючы сваіх гаспадароў.

## МАНГРАВЫ ЛЕС

Ні пласт зямлі,
Ні бездань акіяна
Яго схаваць не могуць карані, —
Лес мангравы,
Нібыта лёс падманны,
Раскошу тлустых джунгляў толькі сніць.

Учэпісты на стужцы прыбярэжнай, —
Як астравок раздробленых надзей…
Глытаюць дрэвы прагна вецер свежы,
Адданыя паветру і вадзе.

Пагойдваюцца стромістыя пальмы,
Загадкава чорт травы пераплёў,
І пільна прыслухоўваецца далеч
Да шуму крылаў порсткіх кажаноў.

З мацерыка прыб’ецца смог атрутны,
Знямее лісце,
Быццам небыццё…

У залатых агнях ляжыць Калькута —
У горада свой лёс,
Сваё жыццё.

## СЛАНЫ ГУЛЯЮЦЬ У ФУТБОЛ

Ляніва скаланецца дол,
Лістота з дрэваў ападае.
Сланы гуляюць у футбол,
Дзятва іх смехам сустракае.

Тут столькі казачных прыгод!
Ідзе ў атаку слон старанна,
Ён ведае: адзначыць гол
Тахаўт — пагоншчык велікана.

Слон шмат вучыўся той гульні,
Засвойваў правілы спакойна —
Мяч хобатам не закрані:
Расцэньваецца — браў рукою.

Турчыць настойліва свісток,
І зноў атака закіпае
І, быццам электрычны ток,
Слана наперад падганяе.

Імкліва да варот дайшоў —
Шчасліва складваецца сёння…

І дружна, як парыў вятроў,
Дзятва заляскала ў далоні.

На радасць статку усяму
Удар слановы адмысловы…
І, пэўна, выпадзе яму
Паесці ўсмак трыснёг цукровы.

## СНЯГІ КІЛІМАНДЖАРА

Сярод зрыжэлых сонечных выжарын,
Сярод саваны бляклай, як падман,
Бялюткія снягі Кіліманджара
Зіхцяць, нібы чароўны талісман.

Ваколле ўсюдыходы пакрамсалі
У пошуках дзівосаў афрыканскіх,
І моляцца настойліва масаі,
Каб не прыйшоў канец салодкай казкі.

Няхай над іх далінаю спрадвечнай,
Над дараваным Богам родным краем
Гара палае непагаснай свечкай
І шлях плямёнам зырка асвятляе.

Сланы плывуць жывымі астравамі
У пошуках травы бучной і смачнай,
І зебры круцяць тлустымі бакамі,
Прыбраныя, як юнгі, у цяльняшкі.

Вачамі хіжа працінаюць грыфы
Агромністую, быццам мора, роўнядзь,
І сонца, як належыць па тарыфе,
Настройвае на поўдзень струны-промні.

Салодка леў рыкасты пазяхае
За два скачкі ад сытнага абеду,
Але цярпліва велікан чакае, —
Калі імчацца за ахвярай следам.

Ноч ахінае дзікія абшары,
Крыляе поўня дзіўным дэльтапланам…
А ранкам зноў снягі Кіліманджара
Заззяюць таямнічым талісманам.



**Алесь РЫБАК**

# НА РАЗДАРОЖЖЫ

*Раман*

## Частка першая

### 1

**Першы** раз Вадзім садзіўся ў цягнік, нічога і нікога не баючыся. Як ні цяжка было, але Верка наскрэбла яму, адарвала ад душы нейкую капейчыну, каб хапіла да Мінска і назад. Вадзім, праўда, трохі ўпарціўся, казаў, што хаця б да сталіцы аплаціць дарогу, а там, калі ўсё будзе добра і прымуць у яго дакументы, неяк пераб'ецца, мо якім таварняком на даху даедзе да сваіх Стаўбуноў. Вопыт у яго ўжо ёсць. Тры гады таму ён меў шчасце з вецярком пракаціцца на слізкім даху вагона, калі ўдумаў канчаткова парваць са сваім мінулым і папрасіць прытулак у сястры і швагра. Усё тады для яго абышлося добра, хоць магло б скончыцца трагічна…

У вагоне было цесна і душна, ніводнага вольнага месца, але гэта яго ані не турбавала. Ён выйшаў у тамбур, нікім пакуль яшчэ не заняты, торбачку з харчам і паперамі паставіў пад ногі, ілбом прыхінуўся да шкла, адчуўшы лёгкі і прыемны халадок. Поезд даў гудок, тарганууся, і неўзабаве перад вачыма замільгацелі станцыйныя будынкі, слупы з абвіслымі правадамі, прыдарожныя бярозы, усыпаныя густой зялёнай лістотай. У нізкіх мясцінах пракідваліся кашлатыя елкі, якіх на сушэйшым выцяснялі гонкія сосны. Паўскрай чыгункі ехала фурманка, і чалавек, што сядзеў на возе, з разяўленым ротам глядзеў, як мільгалі вагоны. Вадзім быў памахаў яму, але возчык наўрад ці змеціў, што нехта яго вітае.

Праз тамбур, моцна ляснуўшы дзвярыма, стрымгалоў, нешта запіхваючы за пазуху кашулі, праскочыў у вагон спачатку адзін падшыванец, затым другі. «Відаць, кантралёры прыжучылі», — падумалася Вадзіму. І праўда, не прай-

---

***Рыбак Аляксандр Пятровіч*** *нарадзіўся 7 лістапада 1934 г. у вёсцы Макаўчыцы Дзяржынскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна (1958). Працаваў у рэдакцыях радашковіцкай, дзяржынскай і бягомльскай раённых газет, часопісе «Вожык», газеце «Калгасная праўда», на Беларускім радыё, у часопісе «Бярозка». З 1964 да 1972 г. жыў у Маскве — працаваў у апараце Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. Аднaчасова выкладаў беларускую мову ў Літінстытуце імя М. Горкага. З 1972 г. — намеснік адказнага сакратара СП БССР, з 1978 г. — старшы рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».*

*Аўтар кніг аповесцей і апавяданняў «Дарогі бываюць розныя» (1972), «Што пасееш…» (1982), «Апошняя камандзіроўка» (1985), рамана-дылогіі «Трэба было жыць» (1990) і «Галаброды» (2006) і інш.*

шло і хвіліны, як услед хлапчукам вывалілася цётка. І вагон, і тамбур прарэзаў яе нечалавечы крык-енк:

— Людцы, лю-ю-дцы! Лавіце іх, лавіце! Вокам не паспела мігнуць, як ачысцілі і кішэню, і з кашолкі хапянулі дабрэнны кус сала.

Жанчына вёртка кінулася ў другі вагон, але ўжо праз хвілін колькі, цяжка дыхаючы, вярнулася назад. У тамбур найшло нямала цікаўных.

— Ну, што, злавілі злодзеяў? — першым папытаў дзябёлы дзядзька са свежым шнарам праз усю сківіцу. — Не трэба было варон страляць.

Жанчына змерала яго знішчальным позіркам і ўвесь свой гнеў перанесла на нявіннага чалавека:

— А ты гэткі самы, як і яны. Можа з імі ў хаўрусе. Шчаку так сабе не парэжуць.

Мужчына плюнуў пад ногі і падаўся ў вагон на сваё месца.

Пацярпелая войкала і пыхкала:

— Што ж я сваёй Анютцы прывязу? Гэта ж так трудна збірала капейчыну, каб да вяселля купіць якую больш гожую сукенку ці лодачкі. Яна праз месяц мецьме распісацца са сваім хлопцам. Але абое голыя як саколы. У яго бацькоў няма, фрыц укакошыў, а ў цёткі, у якой знайшоў прытулак, у тэй самой голыя вуглы.

Яна ўсё яшчэ гаварыла, гаварыла, пякучыя слёзы цяклі па яе твары. Цёмнай, парэпанай ад цяжкай працы рукой жанчына спрабавала выціраць іх.

— Цётачка, ці многа было тых грошай? — уткнуў сваё слова Вадзім. — Я ж каб ведаў, чаго тыя вісусы так ляцяць, то хоць аднаго сцапаў бы. У мяне не выкруціўся б.

Жанчына падазрона глянула на Вадзіма, вочы яе звузіліся, пасля пагляд перакінуўся на торбачку ля ягоных ног.

— А ці не ў хаўрусе ты з імі? Можа, і сала, і грошы ў цябе?

Яна гнеўна насунулася на Вадзіма.

— Ану, паказвай, што там у цябе ў вандзэлку. І кішэні выварочвай!

Такога Вадзім ніяк не чакаў. Пачырванеўшы, пад пільнымі позіркамі цікаўных пасажыраў ён змушаны быў паказаць, што і ў торбачцы (а там, апроч дакументаў, у газеціну былі загорнуты акраец хлеба, паўклінка сыру, паўдзесятка свежых яек, невялікі кавалачак вяндліны), а таксама, што ў кішэні. Грошай сапраўды было кот наплакаў. Хлопец, узяўшы сябе ў рукі, працягнуў цётцы замусоленыя рублі:

— Наце, лічыце. Знайшлі ахвяру. Хацеў паспачуваць вам, а цяпер…

Жанчына пасаромлена адвярнулася, пайшла ў вагон. Вадзім зноў застаўся адзін у тамбуры, настрой быў канчаткова сапсаваны. Ужо без усялякай цікавасці ён глядзеў у акно, за якім раскашавала лета. Чамусьці зноў падумаў пра сястру, пра тое, з якой цяжкасцю збірала яна яго ў дарогу. Чым ён, Вадзім, аддзячыць сястры? А швагер… Гэта ж аддаў свой апошні больш-менш прыстойны пінжак, прывезены яшчэ з Беласточчыны. Сарочку таксама ўступіў, хоць сам застаўся ні з чым святочным. Вадзім упарціўся, не хацеў браць, але Юзік рашуча настаяў на сваім.

— Мне тут, дома, на бруднай рабоце хоць што падыдзе. А ты ж, можа, паступіш, вывучышся на настаўніка ці каго там. Пасля, як выб'ешся ў людзі, і нам што падкінеш.

Верка са слязамі на вачах падтрымала мужа. Калі Вадзім усё тое, Юзікава, апрануў, Верка расчаравана апусціла рукі.

— Што, кепска сядзіць? — спытаў Вадзім.

— Пінжак і сарочка добра глядзяцца, а вось штаны і пантофлі нікуды не вартыя. Не для горада яны. Купіць каб, дык нямашака за што. Божа, што гэта за жытка такая паганая!

Вадзім супакоіў сястру:

— Ат, такому кавалеру сыдуць і штаны, і шчыблеты. Галоўнае, каб паступіць.

— Сіраце ж, можа, якая паслабка? — папытаў Юзік.

— Ніякія мне паслабкі не патрэбныя, хачу як і ўсе. Хіба толькі каб у інтэрнат пасялілі. Але што я кажу, яшчэ не паступіўшы. Так і сурочыць можна.

Зараз, узгадаўшы гэтую вячэрнюю гаворку, Вадзім з любасцю думаў пра гэтых родных яму людзей, якія ўскладалі на яго вялікія надзеі. Цягнік між тым напаўняўся ўсё новымі і новымі пасажырамі. Нават у тамбуры стала не павярнуцца. Але Вадзім нікому не хацеў уступіць месца ля акна. Яно хоць і было зачынена, але праз шчылінкі пступала свежае паветра. Ехалі галоўным чынам жанкі, у вялізных плеценых кашолках везлі з паўдзённых раёнаў трускаўкі. Хутка і ў Веркі з Юзікам выспеюць — насадзілі ж нямала. Тады ўжо і сястра выберацца ў сталіцу на Камароўскі рынак. Будзе не да сну. Гэта ягада далікатная, трэба яе збіраць з вечара. З гадзіну якую прыкархнуць і пад раніцу на ровары — не, не верхам, а ведучы ў руках, рушыць да станцыі, каб паспець на першы цягнік. Ровар, хоць гэта будзе каштаваць немалых грошай, давядзецца здаваць у багажнае аддзяленне. Але трускаўкі, калі добра пойдзе гандаль, апраўдаюць усе выдаткі. Сястра з Юзікам мараць збудаваць сабе новую хату, бо ў гэтай, якая дасталася ім, знізу згніло ўсё дзерава. Грыбок паеў і падлогу, а таму, каб добра нагрэць усярэдзіне — з малой жа інакш нельга, Анютка часта начамі ракрываецца, — даводзіцца моцна паліць грубку.

Чым бліжэй было да сталіцы, тым больш Вадзім хваляваўся. Акрамя сваіх Стаўбуноў ён ні разу не быў ні ў якім вялікім горадзе. Давядзецца шукаць той універсітэт, прыёмную камісію, канчаткова вызначыцца, на якое аддзяленне пастпаць. Планаваў на журналістыку, але больш вабіла філалогія, вывучэнне мовы і літаратуры. Па гэтых прадметах у яго былі найлепшыя ў школе адзнакі. І сам дырэктар Аляксей Мітрафанавіч, калі ўручаў атэстат сталасці, параіў ісці на беларускае аддзяленне. Што ж, так, відаць, ён і зробіць. Тым больш у яго, Вадзіма, была адна таямніца, якая грэла яго душу, прымушала моцна біцца сэрца. Ні Верцы з Юзікам, ні настаўнікам, ні хутаранскай дзяўчыне Галі ні разу не прызнаўся, што напісаў некалькі вершаў і адзін з іх нават паслаў у дзіцячы часопіс. Адказу пакуль што не атрымаў, але меўся, як здасць дакументы, адшукаць рэдакцыю і прапанаваць яшчэ што-небудзь. У торбачцы ягонай ляжалі разам з іншымі паперамі акуратна перапісаныя ў вучнёўскі сшытак новыя вершы. Во каб хоць адзін з іх надрукавалі!

Прабегла праваднніца і сказала, каб падрыхтавалі да праверкі білеты. Людзі замітусіліся, пачалі шукаць квіткі, а ў каго іх не было, паціснуліся ў сярэдзіну вагона, маючы намер якім-небудзь чынам выслізнуць з лап кантралёраў.

Вадзім пачуваўся спакойна. Цяпер ён радаваўся, што аплаціў дарогу. А было ж спакуслівае жаданне зэканоміць, у надзеі, што пранясе, што не кожны ж дзень кантралёры тыя ловяць «зайцоў». І ўсё ж у тамбур зайшлі першыя не яны, а два міліцыянеры, якія папыталі, у каго што ўкралі.

— У вагоне папытайце. Там у адной бабы кашалёк і сала стырылі. Двое іх было, — адказаў камлюкаваты дзяцюк, саступаючы праход міліцыянтам. Многія падаліся ўслед, асабліва жанкі, якім карцела даведацца, ці ж хоць сцапалі тых абармотаў.

Шукаць доўга пацярпелую ахоўнікам парадку не давялося. Яна, як толькі ўбачыла людзей у пагонах, зноў, бы рэзаная, загаласіла:

— Авоечкі, а што ж гэта чыніцца, што сярод белага дня цябе рабуюць, нож да горла прыстаўляюць. Страляць іх трэба, няйнакш.

— Ну, так ужо і страляць, — заікнулася яе суседка па лаўцы. — Палавіну маладых тады перастраляем.

— А й няшкода, — гнеўна кінула на яе пагляд пацярпелая. — Заступніца мне знайшлася.

— А нажа ніякага не было, не трэба міліцыянтаў у зман уводзіць. Проста дробныя злодзеі, якім пашанцавала выхапіць тое, што дрэнна ляжыць.

Спрэчка невядома колькі цягнулася б, але наблізіліся міліцыянеры і папрасілі пацярпелую прайсці з імі ў першы вагон.

— Дык, можа, злавілі тых бандзюкоў? — не цярпелася абкрадзенай жанчыне.

— Там пра ўсё даведаецеся, — неяк суха працадзіў скрозь зубы старшы з іх, з афіцэрскімі зорачкамі на пагонах.

Жанчына, узяўшы клунак, падалася за міліцыянерамі. Тут жа ўвайшлі і кантралёры, жанчына і мужчына. Са старшым па званні мужчына абмовіўся некалькімі словамі, сэнс якіх цяжка было ўлавіць.

Поезд між тым набліжаўся да горада. Сталі бачны гмахі камяніц, на пуцях — нейкія майстэрні, склады, велізарныя ёмістасці, мабыць, з нафтапрадуктамі. «Божа, як тут можна жыць, у такім тлуме і гаме?» — падумалася Вадзіму. На вакзал поезд прыйшоў у дакладна вызначаны час. Вадзім са сваёй лёгкай ношай ступіў на перон адзін з першых. Не ведаючы, у які бок падацца, ён спыніўся, азіраючыся вакол. Міма ягоных ног з грукатам кацілі цялежкі грузчыкі з бляхамі на грудзях — тыя, якім пашанцавала старгавацца з пасажырамі і падвезці чамаданы і клункі куды трэба. Вадзім заўважыў, што больш за ўсё карысталіся паслугамі ўладальнікаў бляшак людзі ў пагонах, тыя, якія штомесяц маюць, відаць, неблагую капейку. Цёткі і дзядзькі, хоць некаторыя былі наўючаныя звыш меры, у бок насільшчыкаў нават не глядзелі. Паток пасажыраў цёк і цёк міма яго. Раптам Вадзім згледзеў дырэктара школы Аляксея Мітрафанавіча, сустрэча з якім бясконца яго абрадавала.

Мятліцкі таксама яшчэ здаля прыкмеціў свайго выпускніка, падышоў, падаросламу падаў руку.

— Што, дакументы прывёз? А куды ўсё ж настроіўся?

— Як вы і раілі — на філфак універсітэта. Вось толькі не ведаю, як знайсці, дзе ён месціцца. Я ж упершыню ў Мінску. Усё мне тут чужое і незнаёмае.

— Нічога, паступіш і так асвойтаешся, што ў вёску і носа не захочаш паказваць.

— Не, гэта мне не пагражае.

— Усе так кажуць, — Мятліцкі, паколькі ў яго ношы не было, узяў Вадзіма пад руку. — Некаторыя з ранейшых выпускаў, як завітваюць да бацькоў хапіць сала, у бок школы нават і не глядзяць.

Выйшлі на прывакзальную плошчу. Вадзім хацеў развітацца. Але Аляксей Мітрафанавіч, затрымаў яго, сказаў:

— Тут, во, недалёка закусачная ёсць. Давай заглянем і перахопім чаго. Ты ж, відаць, таксама галодны? А ва універсітэт паспееш. Яго і шукаць не трэба. Бачыш вунь карпусы? — ён паказаў рукой налева, дзе за трамвайнымі пуцямі высіліся тры ці чатыры цагляныя гмахі.

— Ух, здорава! — парадаваўся Вадзім. — Не трэба блукаць па горадзе.

А на прапанову падсілкавацца пачаў аднеквацца:

— Я сыты. У цягніку яшчэ з'еў падмацунак, што сястра дала…

Мятліцкі і слухаць не захацеў ніякіх пярэчанняў:

— Калі саромеешся, што грошай мала, то ў мяне ёсць. Учора за летнія вакацыі атрымаў. І Ліна Іванаўна таксама. Хачу і табе трохі падкінуць. Ведаю,

як трудна вам жывецца. У калгасе за палачкі не разгонішся. Так што, хлопча, не пярэч мне. Заадно і пагаворым пра ўсё.

Ад сораму Вадзім скрозь зямлю гатовы быў праваліцца. Чырвань заліла яго твар. Але мусіў быў пайсці ўслед за дырэктарам. Сталоўка месцілася за вуглом высознага, аж галаву трэба было задзёрці, каб глянуць на самы верх, будынка, што ўпрыгожваў прывакзальную плошчу.

Люду там у гэты час было няшмат, так што ім не давялося шукаць вольны столік. Калі селі, Аляксей Мітрафанавіч разгарнуў меню, пачаў гучна называць розныя стравы. Толькі тут, у сталоўцы, Вадзім па-сапраўднаму адчуў, як засмактала пад лыжачкай. Калі па праўдзе сказаць, то ён сёння амаль і не еў нічога. Ранкам Верцы штось нядужылася, а тут яшчэ і Анютка закапрызіла, несціхана канькала, відаць, прабіваліся зубкі. Таму ён перахапіў хлеба з малаком і пехатой падаўся ў няблізкія ад іх Стаўбуны.

Падышла афіцыянтка, гожая маладая дзяўчына з беласнежным чэпчыкам на галаве.

— Што піць-есці будзем? — яна выняла з кішэнькі фартуха блакнот, аловак, падрыхтавалася запісаць заказ.

— Будзем і йісты, будзем і пыты, — на ўкраінскі манер, няголасна праспяваў Аляксей Мітрафанавіч. — А што ў вас самае-самае?

На першае афіцыянтка прапанавала салянку, на другое — катлеты з нейкім соусам.

Дырэктар глянуў на Вадзіма, і той кіўком галавы пацвердзіў сваю згоду.

— Ну, а піць што загадаеце падаць?

— Нам два кампоты, не, лепш чатыры. Неяк адолеем.

— І ўсё? — афіцыянтка была яўна расчаравана.

— Усё, усё, мілая. Толькі каб хутчэй.

Ніколі за сваё жыццё ён не еў такога смакоцця. Ён еў і ўважліва прыглядаўся, як трымае спачатку лыжку, а пасля відэлец Аляксей Мітрафанавіч. Калі ж той узяў у правую руку яшчэ і нож, хлопец разгубіўся. Ніколі з нажом яму не даводзілася есці. Адна справа накроіць хлеба, а каб вось гэтак адначасова з нажом і відэльцам упраўляцца — не, гэта было звыш яго сіл.

Збянтэжанасць хлопца змеціў дырэктар і, усміхнуўшыся, прапанаваў:

— А ты еш, як табе зручней. Невялікія мы тут паны, каб форс свой паказваць.

Калі выпілі кампот, Аляксей Мітрафанавіч выняў з кішэні штаноў ёмкі кашалёк, адлічыў некалькі буйных купюр Вадзіму. Той рашуча запратэставаў, замахаў рукамі. Але Мятліцкі па-бацькоўску ласкава сказаў:

— Лічы, што я табе пазычаю. Аддасі, калі ў самога з’явіцца лішняя капейка. Калі б гэта ні было. — І засмяяўся: — Можа, хоць гэта будзе табе напамінкам, каб не забываў школу, сваіх настаўнікаў.

З афіцыянткай таксама, відаць, шчодра разлічыўся, бо тая некалькі разоў падзякавала і папрасіла прыходзіць яшчэ.

— Не, мілая, я адсюль далёка жыву, а вось гэтага маладога чалавека добра запомні. Калі часам будзе ў яго нявыкрутка, фінансы будуць спяваць рамансы, то, як загляне сюды і сядзе за гэты столік, не дай яму памерці з голаду.

— Ну, вы скажаце, Аляксей Мітрафанавіч, — зноў засаромеўся Вадзім.— Гэтага… ну… каб вось так… на дармаўшчыну… не, такога не будзе.

Ужо на вуліцы, якая стрэла іх грукатам машын, гулам і гамам людскіх галасоў, Вадзіму закарцела папытацца пра лёс сваіх сяброў, а таксама пра Тамару Пятроўну. У сталоўцы ён не схацеў заікацца пра тое. Ці мала ў каго доўгія вушы? Можа, дырэктар школы што ведае пра іх? Божа, як бы ён хацеў сустрэцца з імі! Увесь час, куды б ні ішоў, што б ні рабіў, думка пра іх свід-

равала яго мазгі. Што, што такое злачыннае яны ўчынілі, каб звезці невядома куды школьнікаў, адарваць ад вучобы, бацькоў, ад родных людзей? Якая «чорная кошка» прабегла між ім і хлопцамі, што яны пачалі пазбягць яго, знарок ігнараваць? Тады, год назад, калі Мятліцкі наведваў яго ў бальніцы, яму не ставала часу як мае быць выгаварыцца, хоць трохі аблегчыць душу. Як жа зараз гэта зрабіць? Добра было б пасядзець у якім скверыку ці парку, і каб побач не было люду, таўкатні, толькі каб яны ўдвух. Вадзім агледзеўся і ўбачыў прыстанцыйны сквер, але і там кіпеў чалавечы мурашнік. Ні пра якую адасобленасць не магло быць і гаворкі.

— Ты, відаць, хацеў нешта сказаць? — здагадаўся Аляксей Мітрафанавіч. — Ведаю ці здагадваюся, што табе муляе, але нічым пакуль што не магу парадаваць. Зрэшты, я і зараз прыехаў па справе сваіх выхаванцаў. Пасля абеду я папрасіўся на прыём да намесніка міністра ўнутраных спраў. Як што стане вядома, я знайду цябе, хлопча. А цяпер будзем развітвацца, бо мне шмат куды трэба. Карацей, дарогу да храма навукі ты ведаеш, не заблудзішся. Зычу табе поспехаў!

Яны цёпла развіталіся. У Вадзіма на вачах ажно выступілі слёзы.

## 2

Дакументы яго прынялі без праблем. Малады мужчына, з бародкай і кароткімі вусікамі, пазнаёміўшыся з Вадзімавым атэстатам, адно заўважыў:

— Што ж ты так з алгебрай і геаметрыяй падкачаў? Дакладныя навукі цябе, відаць, мала цікавяць. Вядома, тут трэба асаблівае цярпенне. Адно не думай, што і філалогію можна як плюнуць адолець. Ні адзін зубы зламаў аб гэты граніт. Гэта табе не школьная праграма, дзе ўсё распісана ад «А» да «Я». Тут у нас і дацэнты, і прафесары, нават два акадэмікі ёсць, якіх на мякіне не правядзеш.

— Навошта вы мне ўсё гэта кажаце, — перапыніў, набраўшыся смеласці, Вадзім. — Я хачу паступіць, каб усур’ёз вучыцца, а не бібікі біць.

— Пахвальна, малады чалавек, пахвальна. Хай гэта будуць не пустыя словы. — Чалавек з вусікамі і бародкай яшчэ, відаць, павучаў бы, ды падышлі дзве дзяўчыны, а ўслед і хлопец, якія таксама прынеслі дакументы. Вадзім адступіўся ад століка, маючы намер падысці трохі пазней. Трэба ж было высветліць, калі першы экзамен, як паведамяць пра гэта, дзе паселяць на час здачы. Жыллё больш за ўсё хвалявала Вадзіма. Трэба спытаць, ці ёсць у іх інтэрнат, можа ж яму, сіраце, не адмовяць.

Дзяўчаты ля століка весела шчабяталі, гаварылі толькі на рускай мове. Па вопратцы, па манеры трымацца Вадзім адразу вызначыў, што яны гарадскія, мо нават з самога Мінска. У хлопца, наадварот, усё паказвала на яго вясковасць. Дашчэнту стаптаныя чаравікі, а на штаны дык наогул накладзены дзве прыкметныя латкі, але юнака гэта, відаць, ані не турбавала. Твар яго быў прасветлены і адухоўлены. Ён сыпаў, бы з рэшата, жарты, прачытаў дзяўчатам якісь дасціпны куплет. Але тыя не ацанілі ні гумару, ні верша, адкапыліўшы губы, адышліся.

— А вы на якое аддзяленне, рускае ці беларускае? — звярнуўся вусаты да вясёлага хлопца, чамусьці не тое што да Вадзіма, звяртаючыся да яго на «вы».

— А я што — не беларус? Вядома ж, на беларускае.

— О, дык у вас жа ў атэстаце адна толькі чацвёрка, астатнія — пяцёркі. Вы можаце куды заўгодна паступаць, усюды вас прымуць.

— Мне не трэба куды заўгодна, я прыйшоў па покліч сэрца, — хлопец тэатральна стукнуў сябе кулаком у грудзіну. «Вось бы з такім пазнаёміцца бліжэй і таварышаваць. Ад яго так вее сілай і ўпэўненасцю, не тое што

я», — падумалася Вадзіму. Ён зноў падышоў да стала, за якім сядзеў чалавек з прыёмнай камісіі.

— А калі першы экзамен? — папытаў ужо смялей. — І па якім прадмеце? А яшчэ… — Вадзім завагаўся, казаць ці не казаць пра інтэрнат, пасля рашыўся: — Дзе ж жыць у час здачы?

Замест адказу вусаты працягнуў абодвум лісткі, у якіх друкаванымі на машынцы літарамі былі распісаны ўсе экзамены, дні і гадзіны здачы, корпус будынка і нумар аўдыторыі. Унізе, пад рысачкай, значылася: «Іншагароднім прадастаўляецца месца ў інтэрнаце».

— Парадак! — гледзячы як і Вадзім у паперку, выказаўся хлапчына. Пасля звярнуўся да Вадзіма: — А ты таксама на беларускае?

— Ага.

— Во, хвалю. А то мяне напалохалі, што адны дзяўчаты паступаюць на філфак.

У двор выйшлі разам. Толькі зараз Вадзім згледзеў, якая тут раскоша. Пры дарожках, высыпаных буйным жвірам, раслі нейкія кусты з белым і вельмі пахучым кветам. Буяў бэз, таксама нейкі адмысловы, якога Вадзіму ні ў Жорнаўцы, ні ў Галабродах не даводзілася бачыць. Кветкі розных колераў і адценняў выглядалі так зваблівa, што хлопцы, не згаворваючыся, тут жа прыпалі насамі да галінак, моцна пацягнулі ў сябе паветра.

— Райскі куточак сярод камяніц, гарадскога тлуму і гармідару, — азваўся Вадзімаў спадарожнік, — зрэшты, пара пазнаёміцца і бліжэй. Мяне ахрысцілі Рыгорам, а цябе як велічаць?

Вадзім таксама назваў сябе. Сказаў, скуль прыехаў, з кім жыве.

— То ж і я бліз Стаўбуноў меў гонар з’явіцца на свет белы. З бабуляй удваіх і кукуем на хутары.

Яны прыселі на адну з многіх свежапафарбаваных лавак. Лёгкі ветрык прыемна казытаў твар, бэрсаў на галаве шавялюры.

— Мы, відаць, у адным цягніку ехалі сюды. Было цесна і душна, — сказаў Вадзім.

Рыгор рассмяяўся:

— А я з вецярком пракаціўся. Раскоша! І галоўнае — бясплатна.

— То ж кантралёры хадзілі. Маглі і сцапаць.

— Рукі кароткія. Хто палезе на дах вагона?

— І ты адзін так ехаў?

— Чаму ж адзін? Нейкія яшчэ падшыванцы скокнулі, а за імі міліцыянер, ды ў штаны наклаў. Хлопцы, калі небяспека мінула, падпаўзлі да мяне, пачалі частаваць салам. Шкада, што хлеба толькі не было.

— Крадзенае яно, — сказаў Вадзім. — У нашым вагоне ў цёткі сцібрылі.

— Што ты кажаш?! — зніякавеў Рыгор. — Я гэткіх гадаў спіхнуў бы з даху. Думаў жа, што яны, як і я, хаваюцца ад кантралёраў, грошай не маюць на праезд.

— А калі назад? Калі маеш час, то сходзім у адно месца, пашукаем рэдакцыю.

— Якую? — зацікаўлена папытаў Рыгор.

— Часопіса «Бярозка». Туды я тое-сёе пасылаў.

— Пачакай, пачакай! — раптам усклікнуў хлопец. — Дык гэта ты Вадзім Гурко?!

— Ён самы, — ёкнула сэрца Вадзіма. — А ты дзе вычытаў?

— То ж у «Бярозцы», у апошнім нумары верш твой «Юны авіямадэліст». Я дык яго на памяць вывучыў. — Рыгор прадэкламаваў першыя радкі. — Не ведаў, што так нечакана нашы пуцявіны сыдуцца. Там жа і мая нізка. Пой-

дзем, пашукаем і часопіс, і рэдакцыю. Можа, нават і ганарар які адхопім. Тады не давядзецца ехаць на даху.

— Ну, білет я табе вазьму да Стаўбуноў. — Вадзім выняў і паказаў сябру дзве купюры, якіх хапіла б не толькі на дарогу, але абодвум няблага і пабедаць у якой сталоўцы.

— Багата жывеш, — акінуў паглядам Вадзімавы пінжак і сарочку Рыгор. — Бацькі, пэўна ж, не ў калгасе робяць?

— Я такі ж бядак, як і ты. Гэтыя грошы пазычыў мне дырэктар школы Мятліцкі Аляксей Мітрафанавіч. Што тычыцца бацькоў, то ў мяне іх няма, жыву з сястрой і шваграм, яны таксама гаруюць, перабіваюцца з вады на квас.

Хлопцы ўжо ішлі па прывакзальнай плошчы. За высокім гмахам скіравалі налева, мінулі невялікі скверык і апынуліся на шырокім праспекце, які, як прачыталі на шыльдзе, насіў імя Сталіна. А паўсюль кіпела будоўля. Уверсе там і сям кruціліся краны. Адтуль, з верхатуры, нехта нешта крычаў уніз.

— А з тваімі бацькамі што? Таксама ад немцаў загінулі?

Рыгор відавочна пазмрачнеў, і ад гуллівага настрою не засталося і следу. Нейкі час ішлі моўчкі, шукаючы кіёск, дзе прадавалі газеты і часопісы. Нарэшце ўбачылі, але ён, на жаль, быў зачынены. На шкло з сярэдзіны была прымацавана паперка, на якой курыным почыркам было надрапана: «Пачыкайце, не зкучайце. Я вернуся, ні ўтаплюся. Дуся».

— Во, яшчэ адна паэтка, — развесяліўся нарэшце Рыгор. — Які талент! Гэта ж завучы і дзе хочаш дэкламуй. Любая аўдыторыя будзе вішчаць ад захаплення. Пачакаем гэтую Дусю. Вунь і «Бярозку» бачу. Акурат гэты нумар.

Аднак, колькі ні чакалі, Дусі ўсё не было.

— То, мо, пойдзем шукаць рэдакцыю? — прапанаваў Вадзім. — Можа, па шляху дзе купім?

У міліцыянера яны папыталі, дзе знаходзіцца рэдакцыя часопіса. Той, падумаўшы і пашкрабаўшы за вухам, сказаў, што трэба часаць ажно да Дома друку, а гэта ўга як далёка. Лепш трамваем пад'ехаць некалькі прыпынкаў.

— Ай, і пройдземся, — вырашыў Рыгор. — Невялікія паны. Мае тэпці ўсё адно выкідаць, так што датапчу дарэшты. Калі паступлю, новую абуўку неяк спраўлю.

Вадзіму карцела ўсё ж ведаць лёс Рыгоравых бацькоў. Што з імі сталася? Хлопец нібы чакаў такога пытання, сам загаварыў:

— Костачкі параць на Беламорканале. Палічылі, што бацька, патомны селянін, не схацеў ісці ў калгас, аказаў супраціўленне ўладзе, а яшчэ меў дзве каровы і сячкарню. Дык іх абаіх, прыехаўшы ноччу, звезлі к чорту на кулічкі. Добра, што я ў гэты час быў у бабулі. Яна перахавала мяне, аддала ў іншую вёску. А то ж раніцай, яшчэ днець не пачынала, прыляцелі на чорнай машыне і да бабы. Усё ператрэслі, але знайшлі кукіш. Так я і застаўся з бабуляй. А зараз во, шпацыруем праспектам гэтага тырана. Добра, што ўрэшце-такі здох.

Вадзім аніяк не чакаў такой шчырасці. Азіраўся, хаця б хто не падслухаў гэткай крамолы.

— А я ж у біяграфіі не пісаў, што бацькі рэпрэсіраваныя. Напішаш, то не бачыць універсітэта, як сваіх вушэй. Можа ж, як пранясе? Прыдумаў, што прапалі ў часе блакады, калі правяраць пачнуць, то ўсё выявіцца. Тады мяне з любога курса патураць.

— Так, не пазайздросціш табе. Але ж ужо вальней стала дыхаць. Во, і Берыю, гэтага ката крываўжэрнага, схапілі і расстралялі.

— Э, браце, хопіць новых берыяў.

Неўпрыкмет дайшлі і да Дома друку. Каля яго быў кіёск і акурат адчынены. Вадзім папрасіў два экземпляры патрэбнага часопіса, але знайшоўся

толькі адзін. Пагартаўшы, яны абодва ўбачылі на адной і той жа старонцы свае вершы. Вадзім расплаціўся з дзяўчынай, а «Бярозку» аддаў сябру. Той пачаў аднеквацца, але Вадзім настаяў на сваім:

— Каля вакзала купім.

Яму вельмі жадалася яшчэ і яшчэ раз заглянуць у часопіс, лішні раз пераканацца, што ніякай тут памылкі няма, што ў канцы верша красуецца ягонае прозвішча, а не каго-небудзь іншага. Ад хвалявання сэрца ажно выскоквала з грудзей. Ад радасці хацелася галёкаць на ўвесь свет белы. Але ён пасаромеўся Рыгора, так-сяк стрымаў свае эмоцыі. Рыгор жа, ці то перагарэў ужо, ці гэта была не першая яго публікацыя, трымаў сябе стрымана. Адно сказаў толькі:

— Гэта пачатак нашай паэтычнай дарогі. Калі яшчэ капейку падкінуць, то можна і ў сталоўку завітаць, нават піва ці віна выпіць. І за вершы, і за знаёмства нашае.

## 3

Вадзім, калі здаў апошні экзамен і дазнаўся, што па балах прайшоў, як не скакаў ад радасці. Са спакойным сэрцам паехаў дадому і чакаў ужо афіцыйнага выкліку. Рыгор яшчэ лепшыя адзнакі атрымаў і таксама памчаўся да сваёй бабулі. У цягніку да Стаўбуноў дамовіліся, што, як толькі прыйдзе жаданая папера, праз пошту звяжуцца і перад пачаткам заняткаў зробяць шматдзённы паход да вытокаў Нёмана. Мо дастануць дзе палатку, а не, дык — што яшчэ лепш — будуць рабіць начанач буданы. І ўсё занатоўваць і занатоўваць сабе ў блакноты. Ой, як спатрэбяцца пасля гэтыя запісы!

Была другая палова жніўня. Надвор’е цешыла цяплом, блакітам бяздоннага неба. У чаканні радасных змен у сваім жыцці Вадзім быў як ніколі акрылены. Верцы і Юзіку паказаў часопіс са сваім вершам, і яны былі прыемна здзіўлены і ўражаны.

— Але ж і скрытны, — прачытаўшы, цмокнула яго ў шчаку сястра. — Не горш як у Коласа.

— Ну ты і сказанула! — усклікнуў, хоць і быў задаволены пахвалой, Вадзім. — Да Купалы і Коласа далёка, як да недасяжных зорак.

— Але ж і табе грошы заплацілі. Абы за што не дадуць ні капейкі.

Вадзім не ўтаіў ад сваіх родных ніводнага рубля. Адно, як атрымалі тады з Рыгорам першы ганарар, зайшлі ўсё ж у сталоўку і смачна паабедалі. Ад піва і віна абодва, не згаворваючыся, адмовіліся. Вадзім эканоміў, каб аддаць доўг Аляксею Мітрафанавічу, а Рыгор паімчаўся ў магазін купіць якую-небудзь абуўку, а калі хопіць грошай, то і штаны. Ён і праўда, пакуль Вадзім сядзеў у прывакзальным скверыку і чытаў «Бярозку», прыйшоў неўзабаве з пакупкамі. Твар яго ажно ззяў ад задавальнення. Сеўшы побач, сказаў:

— Не думаў, што з адной публікацыі абарахлюся. Ды я ж увесь Мінск закідаю вершамі. У мяне цэлы агульны сшытак.

— Увесь Мінск не трэба, — падхапіў жартаўлівы тон Вадзім. — А вось красуням, — ён паказаў на купку дзяўчат, якія голасна штосьці абмяркоўвалі на лаўцы непадалёку, — падкінь што-небудзь смешнае ці надта чуллівае. Яны ахвочыя да паэзіі. А яшчэ як дазнаюцца, які гжэчны кавалер іх зварганіў, то любая павісне на шыі.

Зараз, прыгадваючы той вясёлы і шчаслівы дзень, Вадзім з трывогай думаў, каб хоць усё добра абышлося ў сябра, каб не выявілі тое, што ўтаіў са свае біяграфіі. Ён з нецярпеннем чакаў вестак і з Мінска, і ад Рыгора. У гэтыя дні стараўся як мага больш рабіць па гаспадарцы. Юзік ад відна да цямна прападаў у калгасе, рамантаваў сельгастэхніку, а сястра ад Анюткі не вельмі магла куды адвінуцца. Таму ўся цяжкая праца каля дома, у агародзе, у догля-

дзе жывёлы (каня, як арганізоўваўся калгас, змусілі здаць у арцель, засталіся толькі карова Сойка, подсвінак і дзевяць курэй). Верцы яшчэ не казаў, што хочуць з сябруком пайсці ў паход. Трэба было знайсці нейкую важкую прычыну, каб рашыцца на такую размову. Ужо думаў, ці не адмовіцца ад паходу, але ж надта вабіла перспектыва пабыць на ўлонні прыроды, пасядзець ноччу ля вогнішча, напячы бульбы, зварыць рыбную юшку. Ён не сумняваўся, што ў малалюдных мясцінах вуды іхнія не будуць пуставаць. Вось толькі трэба запасціся лескай, кручкамі, такім-сякім посудам, якім не кожны дзень карыстаюцца ў гаспадарцы. Добра было б яшчэ пашыць які заплечнік, каб пакласці ўсё патрэбнае ў паходзе. Толькі як сказаць сястры?

Колькі ні думаў, а прыйшоў да высновы, што давядзецца зманіць. Як ні было паскудна, несумленна з яго боку, але з гэтай нявыкруткай іншага выйсця не бачыў. Ён скажа, што тыя, каго прымаюць на вучобу, павінны да першага верасня пахадзіць па родных мясцінах, сустрэцца са старымі людзьмі і запісаць словы песень, розныя паданні, казкі, прымаўкі, карацей, фальклор. Ад гэтага будзе залежаць і стыпендыя, і права пасяліцца ў інтэрнаце. Але хай толькі прыйдзе паперка з універсітэта. Божа, як ён чакаў яе! Часам у сне халодным потам пакрываўся, калі трызнілася, што яго не прынялі, што няправільна палічылі балы, што цяпер адзіны для яго шлях — у калгас. Раніцай у яго ўсё валілася з рук, нават есці не хацелася. Сястра ўжо пыталася, ці не захварэў часам. Казала, што ноччу нават голасна крычаў, усё адно як хто душыў.

У гэты ж дзень ён атрымаў паведамленне з Мінска. Дрыжачымі рукамі разарваў канверт, прабег вачыма першыя радкі і віскнуў ад радасці: ён прыняты! Ён ужо студэнт першага курса найгалоўнейшай навучальнай установы. Верка, якой ён паказаў паперку, ажно ўсплакнула.

— Цяжка мне без цябе будзе, брацік. Як-ніяк, родная душа, ды і памач якая. Юзік, бачыш, ад чорнай работы свету белага не бачыць.

На другі дзень, трохі лепш апрануўшыся, Вадзім падаўся ў Мікулічы, трэба ж было пабачыць дырэктара школы, пацікавіцца наконт асуджаных сяброў, аддаць доўг, а заадно паказаць часопіс з надрукаваным вершам. Ужо ў апошнюю чаргу пахваліцца, што ўсё ж паступіў ва універсітэт.

Дарога да Мікуліч была звыклай, тысячу разоў мераная і перамераная яго нагамі. Але гэты раз ён ішоў па ёй з асаблівым настроем. Яшчэ здаля ўбачыў школу, пакручастую стужку Нёмана ля саменькіх людскіх агародаў і, наколькі сягала вока, бязмежную сінечу надрэчча, лугоў і лясоў. «Вось бы мець фотаапарат, адлюстраваць гэтае хараство на фотцы, але што фотка ў параўнанні з жывым бачаннем». Ён трохі пасядзеў на пагорку, скуль, як на далоні, бачылася ўся гэтая панарама, і, не вельмі спяшаючыся, пакрочыў наперад.

Школа была зачынена, толькі малыя ў двары ганялі мяч, гучна спрачаліся, каму першаму біць у вароты. Яшчэ да яго, віхляючы хвастом, нясмела наблізіўся рыжы сабака.

— Няма, няма нічога, — пашкадаваў бедалагу Вадзім. — Буду ісці назад, то мо ў краме куплю кавалак хлеба і падзялюся з табой.

Ён паклікаў аднаго з хлапчукоў і папытаў, ці быў тут дырэктар. Хлапчук неяк падазрона змераў Вадзіма з ног да галавы, але, пазнаўшы, шэптам сказаў:

— А яго і Ліну Іванаўну ўчора на якойсьці чорнай машыне павезлі. Куды і чаго, не ведаем.

— А можа ён ужо дома?

— Ага, каб жа дома. Няма.

І ўсё ж, ведаючы, дзе жыў дырэктар, Вадзім рашыўся падысці да іхняй хаты. Мо якая памылка, а хлапчына чуў звон, ды не ведае, скуль ён. Праз пяць хвілін ён быў ужо ля брамкі. Паспрабаваў адчыніць і ступіць на ганак, каб

пастукацца ў дзверы, але на брамцы была почапка. Вадзім няголасна гукнуў, спачатку адзін раз, пасля другі.

Ён не ўчуў крокаў старэнькай бабулі, якая невядома скуль падкралася і стаяла за ягонай спінай.

— Ты, дзіцятка, не тузай, — прашамкала бяззубым ротам старая. — І вучылелькі, і дырэктара ня будзе.

— А дзе ж яны? Мне трэба…

— Ня будзе, і ўсё. І не пытайся, лепш ідзі, скуль прыцёгся, — яна, спалохана зіркнуўшы па баках, не вытрывала, прашаптала: — Нейкія прыехалі па іх, увапхнулі ў машыну. А я, во, пільную хату. Божа міласэрны, няўжо ж і яны шпіёны?! Сённячы і сабе ўжо не верыш.

— А дзе ж дзяўчаты?

— Якія дзяўчаты? — Старая замахала рукамі. — А-а, Тоня і Люда. Лепш маўчы пра іх, дзіцятка, жывыя і цэлыя яны. Цэлы месяц іх ужо німа, недзе ў Тонінай мацеры гасцююць…

Бабуля не дагаварыла, бо з суседняга двара пачуўся зычны п'яны голас:

— Дзе ты там поўзаеш, карга старая? Куды схавала бутлю? Не дасі, спалю ўсё.

— Божачка, жыткі німа ад гэтага бандзюгі, — загаласіла бабуля. — І выпускаюць жа такіх з цюрмы. Як бралі вучыцельку з мужам, то казала гэным з пагонамі і партупеямі, каб лепш маго забралі. Ён, хоць і сын, а найгоршы бандзіт, усю вуліцу трымае ў страху.

Яна, гэтак жа спалохана азіраючыся, паклыпала ў свой двор. Вадзім таксама пайшоў. Не даходзячы да Нёмана, завярнуў у крывую вулку, якая вяла да хаты Родзіка, але спыніўся. Ведаў, што хлопца няма, у розныя бакі разышліся іхнія пуцявіны-дарогі. Пастаяў у роздуме. Ішоў сюды, у Мікулічы, з радасным настроем, а зараз бы хто лінуў у душу якую гаркоту. Як, як жыць зараз па праўдзе, як пісаць бадзёрыя, патрыятычна-ўзнёслыя вершы, калі па радыё чуеш адно, а ў жыцці бачыш іншае? Якая д'ябальская машына заведзена на ўсе абароты, што крышыць, гне, топча лепшых, ломіць іх лёсы? Што б дзе і хто не гаварыў, а ён, Вадзім, ніколі не паверыць, што Родзік, Маня Шчасная, Коля Горчак, Янка Шакурны, Сяргей Трушкевіч, тая ж Тамара Пятроўна ў чымсьці правініліся перад дзяржавай, уладай, зрабілі людзям зло. Не і яшчэ раз не. А дырэктар школы з яго багатай біяграфіяй? Няўжо прыгадалі яму даўняе, калі ў вайну вучыў вясковых дзетак. Дык яго ж са слязамі ў вачах прасілі самі бацькі, начальнік штаба партызанскай брыгады.

Вадзім доўга стаяў на драўляным мосце, глядзеў на рачную плынь і думаў, як ён кепска ведае сапраўднае жыццё. У думках пакляўся, што ніколі не пакіне сяброў у бядзе, там, у Мінску, абыдзе ўсе інстанцыі і даможацца сустрэчы з імі, калі толькі не заслалі іх туды, куды Макар і цялят не ганяў.

Трэба было ўжо ісці, але ногі чамусьці ані не слухаліся. Успомніў, што трэба ж заглянуць на пошту, паслаць Рыгору Сініцу пісьмо, а ў краме купіць, калі будзе, кулідку хлеба. Прысеўшы на пошце за столік, папрасіў ліст паперы, асадку, канверт з маркай. Перш чым пісаць, прыкінуў, калі яны з Рыгорам могуць выбрацца ў гэтае зманлівае падарожжа.

## 4

На ліст Рыгор адгукнуўся хутка, у сваёй манеры гаварыць з гумарам. Ён і пісьмо накатаў, ажно на тры старонкі, у гэткім жа стылі. Распавёў, як пайшоў на рэчку пакупацца, распрануўся дагала, нырнуў раз-другі, рашыў апрануцца і як не абамлеў: ні трусоў, ні сарочкі, ні штаноў не было, нібы карова

іх языком злізала. Аблазіў усе кусты, вытаптаў нямала травы, але дарэмна. А яму ж трэба перціся праз усю вёску. Смяхоцце, дый годзе. Але яму было не да смеху, хоць нехта, калі ён дзе хаваецца і ў бінокаль назірае, пэўна, канчаецца ад рогату.

Нічога больш не заставалася, як ламаць голле, каб схаваць сваё сарамоцце. Толькі як утрымаць яго на клубах? Былі б папруга ці якая вяроўчына, то неяк замацаваў бы на сабе гэты зялёны ўбор. Аднак колькі ні шукаў, ніякай падвязкі не знаходзілася. Давялося ламаць даўжэйшыя лазовыя пруты і імі абвязвацца. Праз вёску краўся загуменнямі, баючыся каго-небудзь напаткаць. Спачатку шанцавала: вёска як бы вымерла. Быў той надвячэрні час, калі жанкі збіраліся ці ля студні, ці ў каго на лаўцы, дзяліліся навінамі, а хлапчукі кешкаліся ў пяску на вуліцы, ладзілі свае забавы. Ён, можа, непрыкметна і прашмыгнуў бы, ды сабакі, угледзелі, і халера на іх. Адбівацца давялося чым толькі можна. А тут яшчэ на сабачы гвалт і енк сіганулі на загуменне бабы, маладыя дзеўкі. «Гля, гля! — крыкнула адна з кабет. — Нейкая пачвара хацела пракрасціся ў вёску, што-небудзь сцібрыць, казалі ж неяк па радзіве, што ў нашых лясах бачылі чалавекападобнае стварэнне. Во гад! Злавіць бы яго ды ў міліцыю».

Карацей кажучы, ледзьве ўцёк і ад баб, і ад сабак. Дома добра што бабуля не бачыла, знайшоў і пераапрануўся ў іншую старызну, а сам зарокся больш не купацца як маці нарадзіла.

Чытаючы ліст ад сябра, Вадзім мала верыў яго словам, але рагатаў так, што ажно колікі ў баку хапілі. Верка з Юзікам, слухаючы гэтую гісторыю, таксама насмяяліся ўволю.

— Во хлопец набраўся страху, — паспачувала сястра. Яна глянула на Юзіка і зноў пырснула ад смеху. — У яго тэж нешта падобнае было на сенакосе. Але тады ён быў з канём і возам. Таксама нехта пашуткаваў. Праўда, адзежа знайшлася пасля, але хто гэта зрабіў, не прызнаўся.

— Усякае бывае, — падсумаваў Юзік.

Тое, чаго гэтак чакаў Вадзім, Сініца напісаў адным радком у саменькім канцы. «Прыняты. Буду ў Мікулічах у суботу ў поўдзень. Чакай на мосце».

— Во добра! І Рыгора залічылі. Цяпер бы толькі разам пасялілі ў інтэрнат.

Пра паход рашыў пакуль што не казаць, але і цягнуць доўга не выпадала. Пятніца ж праз два дні, а тут яшчэ процьму спраў трэба паспець зрабіць.

Каб улагодзіць Верку, усе грошы, якія намерваўся вярнуць Мятліцкаму, аддаў ёй:

— Во, гэта табе да тых, што выручыла за труская ўкі.

Верка абрадавалася, цмокнула брата ў шчаку.

— Але ж дырэктар можа хутка вернецца і без капейкі ў кішэні. Няўжо ж так доўга будуць трымаць недзе такога чалавека? Божа міласэрны!

— Я аддаў паглядзець новыя вершы. І яшчэ напішу. Так што ў даўгу перад ім не застануся.

Позна вечарам, калі Юзік быў ужо дома, за сталом, сёрбаючы кіслае малако з накрышаным туды маласольным агурком, Вадзім закінуў першы пробны каменьчык.

— Мне трэ на колькі дзён адлучыцца. Я дагэтуль нічога не казаў, бо не было пэўнасці з паступленнем Рыгора. А зараз, калі ўсё высветлілася, мы павінны стрэцца і прайсціся па наднёманскіх сёлах, паслухаць людзей і запісаць тое-сёе ад іх. Гэта заданне нам, першакурснікам, такое.

Наўздзіў, яго зразумелі.

— Трэба дак трэба. Усё адно мусім прывыкаць без цябе. Буду сама ўжо неяк поркацца. Горш, што Юзік гэтак заняты, — Верка, пасёрбаўшы, пачала мыць посуд, пасля пайшла паглядзець малую.

— А есці як будзеце? — папытаў Юзік. — І начаваць жа давядзецца прасіцца да каго.

— Го, каб большага клопату не было, — усклікнуў Вадзім. — Цяпер і ягады, і грыбы, і бульбы можна ноччу ў каго разжыцца. На рыбу таксама спадзяёмся. А начаваць… Хе, стажкоў сена хіба мала па-над Нёманам? А не будзе сена, то і будан як раз плюнуць зрабіць.

Юзік, нічога не кажучы, схадзіў у свіронак і вярнуўся адтуль з ладным скруткам.

— Што гэта? — папытаў Вадзім.

— А ты разгарні і паглядзі. Шкадаваў у гаспадарцы скарыстаць, а табе даю. Толькі беражыце, не прапаліце дзе ля вогнішча. Яшчэ са свае Альшоўкі прывёз.

Гэта быў ладны, як не на ўвесь пакой, кавалак брэзенту, з якога можна было скроіць і пашыць і заплечнік, і ўжыць для палаткі.

— Во здорава! — прыйшоў у захапленне Вадзім.

— Армейскі, — удакланіў швагер. — Як адступалі чырвонаармейцы, адзін афіцэр абмяняў на два дзесяткі яек, сыр і пляшку жытнёўкі.

Заплечнік, нават з дзвюма кішэнькамі, Вадзім скроіў сам. Верку папрасіў адно прашыць на машынцы швы. Лямкі таксама зрабіў з брэзенту.

У поўдзень у суботу ён ужо стаяў на мосце пры поўнай амуніцыі. Шкадаваў, што няма гадзінніка. Праўда, можна па сонцы арыентавацца, а ноччу па зорках. Горш будзе, калі захмурыцца. Аднак надвор’е пакуль радавала.

Па вуліцы ў бок моста ішла нейкая дзяўчына. «Няўжо Галя? — ёкнула ў Вадзіма сэрца. — А я ж, свіння, так і не дапяў да яе на хутар. Пэўна, не ведае, што ездзіў здаваць экзамены. Што хутка, праз два тыдні, пакіну гэтыя мясціны».

Цяпер, пасля ўсяго перажытага, ён не быў упэўнены, ці хоча бачыць Галю, была ўспышка нейкага пачуцця, але — добра гэта ці не вельмі — далёка ў іх не зайшло. Мо таму, што жылі не побач, слабавата ведалі адно аднаго. Вадзім, праўда, не сумняваўся, што каб першы падаў дзяўчыне руку, яна куды заўгодна пайшла б з ім. Аднак з яго боку не было такіх памкненняў. Ці хоць думала пра яго, успамінала?

Хацеў быў не падымаць галавы, быццам звычайны прахожы глядзіць на плынь ракі, але ў апошні момант не вытрымаў, развярнуўся і зіркнуў у вочы незнаёмцы. Погляды іх сустрэліся, і Вадзім, не верачы сабе, усклікнуў:

— Міронава, ты?! Якім ветрам занесла цябе ў нашу глушэчу? Во дык сюрпрыз!

Ён не бачыў Люську амаль тры гады. І за гэты час дзяўчына пасталела, стала яшчэ больш гожая. Пульхныя вусны яе былі трошкі падмаляваныя, чорныя стужачкі броваў надавалі асаблівае хараство твару. Яна была ў лёгкай бэзавай кофтачцы, чорнай спаднічцы, на нагах — белыя лодачкі.

— Ты што, замуж сюды за каго выскачыла? — Вадзім усё яшчэ ніяк не мог ачомацца ад гэткай нечаканай сустрэчы.

Люся таксама, мусіць, не думала, што так проста стрэне яго ў Мікулічах. Папраўіўшы валасы, сказала з выклікам:

— Ну й выскачу, мой кавалер збег ад мяне, нават адраса не пакінуў. Добра, што брат твой падказаў, дзе ты асталяваўся. І зараз, відаць, некуды навастрыў лыжы, — яна кіўнула на заплечнік, які стаяў ля Вадзімавых ног.

— Як бачыш, не сядзіцца ў хаце хлопчыку малому.

Люся хіхікнула:

— Малы хлопчык. Дубца б гэтаму малому хлопчыку. — Пасля, пасур’ёзнеўшы, спытала: — А й праўда, куды сабраўся марсянуць?

— Нешта мы не пра тое гаворым, — пасур'ёзнеў Вадзім. — Я то тут жыву, гэта мая школа, — ён махнуў рукой у бок двухпавярховай камяніцы, якая добра бачылася з моста. — Закончыў сёлета дзесяцігодку і цяпер вольны, бы вецер. А вось ты не адказала на маё пытанне.

— Якое? — у Люсьчыных вачах заскакалі чорцікі. — Калі наконт вяселля, то вечарам прыходзь, усё сам пабачыш. Недзе ў вас тут ёсць цагляны завод, там у клубе будуць танцы.

Вадзім верыў і не верыў у тое, што казала Люся. Адчуў адно, як штосьці заскрэбла на сэрцы. Няўжо тое даўняе пачуццё, якое грэла, давала сілы ў іх абяздоленым жыцці, нікольві не пагасла, а зараз, калі ён бачыць гэтую зусім іншую дзяўчыну перад сабой, выбухнула, прачнуўшыся, з новай сілай? Ён не ведаў, як быць, пра што яшчэ пытацца. Хутка павінен прыйсці Сініца, а ён, Вадзім, пакіне яе цяпер, можа, ужо назаўсёды.

— Ну што ж, чаму быць, таго не мінуць, — паніклым голасам сказаў ён. — Толькі ж хто ён, твой суджаны? І акурат з Мікуліч?

Люся адчула, што трохі перайграла. Па яго змрочным твары здагадалася, што трэба даць адбой, не цвяліць хлопцу душу. Яна ж гэтак марыла пабачыць яго, яшчэ раз зірнуць у вочы і шчыра сказаць: «Даруй, што я цябе тады, у Радаве, гэтак пакрыўдзіла. Пазней ужо разабралася, што ты ні ў чым не вінаваты…»

— Дурненькі, няўжо ты думаеш, што гэта маё вяселле? Шаферкай быць папрасіла сяброўка. І я, калі даведалася, што хлопец яе з вашых Мікуліч і там у бацькоў ягоных адбудзецца вяселле, не знаходзіла сабе месца ад радасці. Калі прыбылі сюды, я адбілася ад усіх і ўжо трэці раз прыходжу на мост у надзеі стрэць цябе.

Не вытрымаўшы, Вадзім кінуўся да дзяўчыны, моцна ашчаперыў, пацалаваў у саменькія вусны.

— Вой, бачаць жа! Нехта ідзе. Мо па мяне? Шчаслівa! — яна адбеглася да другой парэнчы, а Вадзім пачаў углядацца ў чалавека, які ўзыходзіў на мост. Пазнаў адразу. Вадзім трохі засмуціўся, што давядзецца хутка развітацца з дзяўчынаю. У Рыгора не было заплечніка, але ён нёс у адной руцэ даўжэзнае самаробнае вудзільна, у другой — досыць ёмкую торбачку. Прывітаўшыся, папытаў:

— Я не спазніўся? — зіркнуўшы ў бок дзяўчыны, дадаў: — Го, лепш бы я зусім не прыходзіў. Іду сабе па вуліцы, а з хаты вывальваецца ў двор вясёлая кампанія. Дзяўчаты крычаць, каб далучаўся да іх, бо хлопцаў ім не стае. А тут і гарманіст выходзіць, як урэзаў польку, то ногі самі ўскокі, здэцца, пайшлі б.

— То й паскакаў бы, наша ад нас нідзе не дзенецца. Я б не вытрываў.

— Каб не пуга і трошкі больш фарсіста выглядаў, то, пэўна, гопнуў бы нагой, — засмяяўся Рыгор. — А то хто з пастухом знацца захоча.

— Не выпендрывайся перад дзяўчынай, — Вадзім клікнуў Люсю, адрэкамендаваў: — Яна на вяселле прыехала, ажно з Радава. Я выкраў яе. Была пагоня, але мы хутчэй на мост і во стаім над вадой, чакаем. Гатовы адбівацца да апошняга ўздыху.

— Вясёлыя вы хлопцы, — сказала, сароменючыся чужога чалавека, Люся, — але мне і праўда трэба ісці.

Вадзім, пакінуўшы рэчы на мосце, падрадзіўся хоць трохі правесці дзяўчыну.

— Вы некуды і праўда сабраліся? — папытала яна.

— У паход па Нёмане, да самых вытокаў. Я ж не паспеў пахваліцца, што здаў экзамены і паступіў на філфак універсітэта. Вось перад ад'ездам на вучобу і ўдумалі з сябрам прайсціся, правятрыць мазгі. Каб ведаў, што ты будзеш

тут, у Мікулічах, адклаў бы на колькі дзён наш паход, а цяпер позна. Рыгор жа дабіраўся з глухога хутара, пэўна, кіламетраў дваццаць адмахаў.

— Харошыя тут мясціны, — павяла вачыма вакол Люся. — Але я звыклася са сваімі і нічога іншага не хачу.

Развітваючыся, яны дамовіліся, што наступны раз сустрэнуцца ўжо ў Мінску.

## 5

Інтэрнат абодвум далі без затрымкі, нават пасялілі ў адным пакоі. Акно выходзіла на шумную вуліцу, спрэс забітую транспартам. Нават ноччу не сціхаў гул машын. Звыкшыся з цішынёй, свежым паветрам, Вадзіму цяжка было прызвычаіцца да новых умоў. Яны з Рыгорам, паколькі камендант ім першым даў ключы, занялі лепшыя ложкі. На другі дзень зранку прыехаў хлопец з Петрыкава, а пасля абеду і чацвёрты жылец уваліўся ў пакой. Петрыкаўскі назваўся Кастусём, а апошні, з якім не паспелі пазнаёміцца, адразу ж некуды знік. З'явіўся ён толькі позна вечарам, калі хлопцы рыхтаваліся спаць. Быў ён нашмат старэйшы за астатніх, з вялікім рубцом на левай шчацэ. Адчувалася, чалавек шмат перажыў, мо нават ваяваў. На фронце ці ў партызанах. Паклаўшы ў вольную тумбачку ўсё сваё, дагала распрануўшыся (на спіне ў яго таксама была зацягнутая рана ад асколка), мужчына выцягнуў з рэчмяшка і паставіў на стол паўлітэрку, весела абвёў вачыма хлопцаў, сказаў:

— Ну што, аднапакойнікі, замочым нашу і вучобу, і гэтыя вуглы, і за знаёмства чарку падымем. У мяне ёсць сала, цыбуля, кансерву зараз успорам, хлеба толькі не паспеў купіць. А татка з мамкай ахрысцілі мяне Сенькам. Неяк прачыталі пра Разіна, спадабаўся гэты разбойнік і, паколькі я з першых дзён свайго жыцця пачаў здорава брыкацца, далі гэтае імя. Так што я салавей-разбойнік.

Хлопцы, усаджваючыся за стол, назвалі свае імёны. Нават Вадзім, які зусім не піў, гэты раз прыгубіў кубак з пякучай вадкасцю, пасля, каб не сараміцца, кульнуў у рот усё аж да дна. І… перахапіла дыханне, з вачэй ручаём пацяклі слёзы.

— Каюся, што не папярэдзіў, гэта ж чысцюткі спірт. Яго трэба не дыхаючы піць, — вініў сябе Сенька. — Затое пасля ніякая трасца не прыстане.

Рыгор і Кастусь выпілі без праблем, праўда, разбавіўшы спірт напалам вадой. Хлеб знайшоўся ў Кастуся. Ён яшчэ адкрыў шклянку марынаваных баравічкоў, малюпасенькіх, з мезенец, і, забыўшыся на ўсякія іншыя прысмакі, усе накінуліся на грыбы. Умомант умалолі, Кастусь нават расол выпіў. Спірту хапіла, каб хлопцы добра-ткі развесяліліся. Пра тое, што позна і трэба спаць, бо заўтра ў восем першыя заняткі, зусім забыліся. Нехта з суседзяў пагрукаў у сцяну, толькі тады яны апамяталіся, пачалі рассцілаць ложкі. Вадзіма вадзіла ў бакі, ён першы кінуўся ў пасцель. Туга нацягнутая сетка прыемна пагойдвала яго. Ужо засынаючы, падумаў, як усё ж яму пашанцавала, якая добрая кампанія падабралася ў пакоі.

Раніцай, пакуль астатнія спалі, ён апрануўся, выйшаў у калідор, каб пашукаць туалет. У шэсць гадзін учуў бой курантаў і гімн, што нesліся з рэпрадуктара. А так усюды было ціха і бязлюдна, толькі за акном віравала жыццё, бясконца гулі машыны. Вадзім прыхіліўся лбом да шкла, глядзеў і глядзеў на вуліцу. Зверху, з пятага паверха (упершыню ў жыцці ён узбіраўся на гэткую вышыню) было дзіўна глядзець на маленькія, бы сплюснутыя, фігуркі людзей, якія кудысь беглі, спяшаліся хто на працу, хто яшчэ куды, як падмяталі тратуары дворнікі, зычна перагукваючыся між сабою. На другім баку вуліцы высіўся будаўнічы кран і, здаецца, ужо рухаўся, на кончыку доўгай стралы боўталася якаясь пасудзіна з цэглай ці бетонам. «Няўжо і ноччу робяць?»

Снедалі спехам. У бакоўцы прыбіральшчыцы ўзялі кіпетню (гэтую паслугу студэнтам выявіў Кастусь, які прыцёг у пакой цэлы чайнік гатовага вару), кожны намяшаў у кубак хто варэння, хто цукру. А ў Сенькі знайшоўся нават пачак грузінскага чаю, і ён шчодра прапанаваў іншым усыпаць па шчэпцю ў кожную шклянку.

На першыя заняткі, пад якія выдзелілі адну з самых вялікіх аўдыторый, прыйшоў, акрамя выкладчыка беларускай літаратуры Цімошыка, сам дэкан факультэта прафесар Удовін Вацлаў Іванавіч. Адрэкамендаваўшыся, ён патэтычна вымавіў:

— Вам, шаноўныя першакурснікі, выпаў вялікі гонар вучыцца ў найбуйнейшай і найбольш забяспечанай высокакваліфікаванымі кадрамі навучальнай установе нашай рэспублікі. Тут вучыліся… — і ён пачаў пералічваць дзесяткі прозвішчаў акадэмікаў, вучоных, пісьменнікаў, палітыкаў, якія выйшлі са сцен універсітэта. Гаварыў доўга і квяціста, сыпаў цытаты з класікаў марксізму-ленінізму, ганьбіў сусветны імперыялізм, а таксама ўнутраных «ворагаў народа», якія яшчэ і зараз спадцішка робяць сваю чорную справу…

Прамове яго, здавалася, не будзе канца. Студэнты ўжо не слухалі, знаёмыя перашэптваліся між сабой, віскнула, відаць, хтось ушчыпнуў за бок, якаясь дзяўчына. Рыгор, які сядзеў праваруч ад Вадзіма, сунуў яму пад нос паперчыну. Разгарнуўшы яе, Вадзім прачытаў...Трохі падумаўшы, Вадзім таксама крамзануў на той жа паперцы: «Ад такіх прафесароў бегчы ў белы свет гатоў». Рыгор, прачытаўшы, зноў нахіліўся, каб штось напісаць, але Удовіна, прачыніўшы дзверы, хтось паклікаў, і за кафедру стаў Цімошык. Гэты не гаварыў ні аб палітыцы, ні аб ворагах, ні аб вялікіх будоўлях камунізму. Сказаў, што прадмет, які ён вядзе, будзе вымагаць ад абітурыентаў значных высілкаў, асабліва ведання першакрыніц. Параіў, якія творы трэба пачытаць ці перачытаць у першым паўгоддзі.

— А зараз, — ён акінуў паглядам залу, — давайце выберам старастаў груп. Думаю, дзве групы будзе самы раз. Па дваццаць пяць чалавек. Руская група выбера сваіх, тое ж і журналісты зробяць. Я магу рэкамендаваць кандыдатуры па нашай беларускай групе, паколькі вы самі яшчэ не ведаеце адзін аднаго. Дык вось, на першую рэкамендую Сямёна Апанасавіча Карпіка. Ён за ўсіх вас старэйшы, яму, як кажуць, лейцы ў рукі.

Усе пачалі аглядвацца, шукаючы вачыма таго Карпіка. Карпік прыўзняўся, пачаў аднеквацца. Маўляў, ён многа ўпусціць у сваёй вучобе, а цяпер трэба па-сапраўднаму запрагаць сябе, і пабочныя нагрузкі будуць яму не па сіле.

— Го, то ж наш Сенька, — радасна ўсклікнуў Рыгор. — Не дрэйфі, браток, мы, калі што, з табой у агонь і ваду. Па ўчарашнім ужо ведаем.

Усе засмяяліся. Сенька, трохі памуляўшыся, згадзіўся быць старастам. На другую групу, пасля працяглых дэбатаў, ужо самі студэнты выбралі бойкую белатварую дзяўчыну, відаць, з тых камсамольскіх актывістак, якія заўсёды і ва ўсім імкнуліся быць наперадзе.

Жыццё патроху наладжвалася. З першай стыпендыі Вадзім купіў сабе новыя брызентавыя чаравікі, якія, развёўшы ў вадзе зубны парашок, як не кожны тыдзень старанна выбельваў зубной шчоткай. Але гэта ўжо было пад саменькі канец верасня. Дваццаць дзён яны калелі ў полі, капалі бульбу ў адным з калгасаў Міншчыны. Надвор’е ані ім не спрыяла. Спачатку лілі бясконцыя дажджы, а пасля ні з таго ні з сяго вышчарыўся мароз. Адзенне, якое прыхапіў з сабой Вадзім, не ратавала яго ні ад дажджу, ні ад сцюдзёнага ветру. Прыехаў з калгаса зусім разбіты і хворы. Тры дні адлежваўся ў пасцелі. Хлопцы раілі паклікаць урача, каб паслухаў і прапісаў якіх лекаў. Аднак Вадзім заўпарціўся: не і не. Тады ўзяўся за яго Сенька. Са сваіх запасаў ён

зноў выцягнуў бутэльку спірту і, не разбаўляючы, больш чым паўшклянкі паднёс нанач хвораму.

— Во, кульні і раніцай будзеш як агурочак.

Хочаш не хочаш, давялося падпарадкавацца. Цяпер Вадзім ужо не дыхаў, а пракаўтнуў вогненную вадкасць, быццам заўзяты п'янтос.

Ноччу вярзлося чорт ведае што. Ды ён і не памятаў нават, сон гэта быў ці трызненне. Грудзі нібы хтось раздзіраў кіпцюрамі, пасля навальваўся ўсім цяжарам і душыў, душыў. Не хапала паветра. Хаўкаючы, ён спрабаваў скінуць з сябе гэтае насланнё, а яно ніяк не паддавалася, імкнулася дабрацца да горла, каб мёртвай хваткай сціснуць і ўжо не адпусціць. Аднак апошнім намаганнем волі ён тузануўся, адпрэчыў ад сябе калматую пачвару і адчуў незвычайную палёгку. Расплюшчыў вочы і ў ранішнім паўзмроку згледзеў побач з ложкам кажух, якім Сенька (а кажух быў толькі ў яго) акрываў хворага. Кашуля і ўсё цела былі мокрыя, акурат ён толькі што трапіў пад гарачы лівень. Затое грудзі дыхалі ўжо роўна і спакойна. Яго яшчэ вадзіла ў бакі, але адчуў, што самае страшнае ўжо мінула, і можна будзе ісці на заняткі. Па-першае, трэба наганяць упушчанае, па-другое, у бяспамяцтве зусім забыўся, што ў пісьме да Люсі прызначыў ён сустрэчу. Гэта ж учора вечарам павінна было адбыцца іхняе спатканне. Пэўна ж, атрымаўшы ліст, яна прыязджала, чакала яго.

Вадзім гатовы быў кусаць сябе за локці. Але як паправіць становішча? Як апраўдацца? Спаслацца на хваробу? То мог бы паслаць Рыгора, ён жа бачыў яе ў твар.

Вярнуўшыся ў пакой, прысеў на ложак. Хлопцы яшчэ спалі. Хацелася параіцца з Рыгорам, бо пасля, як прачнуцца Сенька і Кастусь, пачнуць мітусіцца, будзе не да сардэчных размоў.

Вадзім крануў Рыгора за локаць, але той і брывом не павёў. Тады злёгку заціснуў яму нос, але Рыгор і тут знайшоўся: пачаў дыхаць ротам. Калі ўжо і рот даланёй накрыў, той храпянуў і расплюшчыў ашалелыя вочы.

— Га, што? Праспалі?

Ён апантана падхапіўся і пачаў апранацца. Убачыўшы перад сабою Вадзіма, здзівіўся:

— Няйнакш мярцвяк падняўся. Няўжо ты? — ён лэпнуў Вадзіма за плячо, але той прыклаў палец да вуснаў, шапнуў:

— Не разбудзі іншых. Пакуль табе на заняткі, хацеў бы параіцца. Мо апраніся і выгляні ў калідор.

Вадзім выйшаў першы, за ім неўзабаве і Рыгор.

Вадзім падзяліўся клопатам, як апраўдацца перад Люсяй. Ці паверыць у яго хваробу і ці выберацца ў сталіцу.

— А сам з'ездзі да яе. Зрэшты, ты ж казаў, што вы з аднае вёскі і там брат твой жыве. Вот і пабачыш усіх.

— А ты не хацеў бы ў кампаньёны напрасіцца?

Рыгор падумаў з хвіліну і нечакана з радасцю згадзіўся. Толькі папярэдзіў:

— Калі будзеш выбрыкі паказваць, адаб'ю. Мне яна ўпадабалася.

— Ну-ну, глядзі мне!

Хлопцы наказалі Вадзіму на вуліцу сёння не высоўвацца. Калі яны сышлі, ён паснедаў рэшткамі кансервы з акрайцам хлеба, набоўтаў у кубку кіпетню з клубнічным варэннем і, выпіўшы гарачы напой, адчуў, што ў ложку яму няма чаго валяцца. Навёў у пакоі такі-сякі парадак, сеў за стол і задумаўся. Хацелася занатаваць штосьці новае. Некалькі вершаў, напісаных ім, калі быў на бульбе, абяцалі змясціць у маладзёжным часопісе. Рыгор таксама аднёс туды няма-ла новых твораў, якія, як ён сам пахваліўся, прынялі на «ўра». Нават выдалі аванс. Некалькі Рыгоравых вершаў прагучала па радыё. Цяпер на курсе ён стаў

славутасцю. Дзяўчаты на лекцыях слалі яму пісулькі, самі прызначалі сустрэчу. Хлопец, аднак, адмоўчваўся, не хацеў, як сам прызнаўся Вадзіму, хамут на сябе надзяваць. Праўда, намякнуў, што адна дзяўчына ўсё ж падабаецца.

— Хто такая? — спытаў Вадзім, калі яны неяк засталіся ў пакоі ўдвух.

— Яна адна з гарадскіх на нашым курсе. Праўда, у другой групе. Я да яе ўжо неяк падлабужваўся ў бібліятэцы. Сядзім насупраць, яна грызе нейкі падручнік, а я гляджу на яе і вачэй не магу адвесці. Краля, не інакш. Не горшая за тваю Люсю, толькі ў гэтай чорныя, бы смоль, валасы, а косы — ледзьве не да зямлі звісаюць. Шчочкі румяныя, глядзі ды глядзі. Карацей кажучы, не дзяўчына, а цуд. Чакаў-чакаў, каб глянула, а пасля не вытрываў, напісаў ёй:

Сядзіць насупраць,
Погляд строгі.
Дзяўчына, браце, о-ёй-ёй,
Грызе навуку да знямогі,
І не хітне нат галавой.
Вось паспрабуй такой ўлагодзіць,
Дазнайся імя, што і як,
Яна ў парог цябе праводзіць,
Што аж памацаеш гузяк.

Паклаў напісанае перад ёю, а сам ажно анямеў: што будзе? А краля мая, калі прачытала пісульку, зіркнула так, што ажно мароз па скуры пабег, пасля згарнула ўсё сваё са стала і пацокала абцасікамі ў калідор. Так я і застаўся з носам. А неяк у нашым універсітэцкім скверыку сустрэў яе з марскім афіцэрам. Сядзелі на лаўцы разгарачаныя, аб нечым спрачаліся. Краля, убачыўшы мяне, гэты раз не адвярнулася, неяк бы вінавата зірнула ў вочы, нават усміхнулася. Я кіўком галавы павітаўся і пашыбаваў далей, каб ім не перашкаджаць.

— То хто ж гэты марак? — Рыгораў аповед Вадзім прыняў блізка да сэрца. — Мо брат ці так які знаёмы?

— Ага, знаёмы. Хахаль, не інакш. Яны, гарадскія, шустрыя.

— Ну, вясковыя цяпер не лепшыя. Бачыў жа, што на бульбе нашыя аднакурсніцы вытваралі. З трактарыстамі да раніцы шашні разводзілі, пасля дабудзіцца не маглі.

— Ну, табе б не філолагам быць, а пракурорам. Разважаеш, бы стары боўдзіла.

—І ўсё ж мы яму фізіяномію сапсуём. Падпільнуем калі аднаго і папярэдзім, каб больш носа не паказваў ва універсітэце. А ты не лаві варон, смялей да мэты. А як зваць тваю кралю?

— Паліна, Палінка-тапалінка.

## 6

Не ведаў Вадзім, што паездку ў Радава і Жорнаўку давядзецца адкласці. Над сябрам навісла пагроза выключэння з універсітэта. Яго ўсё больш шырокая слава некаму не давала спакойна жыць. Хтось ка́пнуў куды трэба, што бацькі Сініцы — ворагі народа і іхняму сынку месца не тое што ва універсітэце, а і ў калгасе ці варта пугу пастуха даверыць.

Аднойчы, калі вёў лекцыю па зарубежнай літаратуры бліскучы знаўца прадмета Фіхтаровіч, а студэнты з неаслабнай увагай слухалі прафесара, у аўдыторыю заглянула рыжавалосая жанчына і, папрасіўшы прабачэння ў Фіктаровіча, выгукнула прозвішча Сініцы. З месца падняўся Вадзім і сказаў, што хлопца няма, бо адпрасіўся ў дэкана па важнай справе. У аўдыторыі зашумелі:

— Гэта Галіна Іванаўна, сакратарка рэктара. Відаць, сам чагось выклікае. Можа, дзе недалёка Сініца адляцелася, то паклікаць бы.

Вадзім ведаў, дзе Рыгор, але афішыраваць, агучваць перад усімі прычыну яго адсутнасці не хацеў. Пра благое ж не думаў. Наадварот, мо рэктар, які шмат чуў пра свайго гадаванца, захацеў сказаць яму колькі добрых слоў, мо нават у часе канікул пашле адпачыць ці падлячыцца. Яму ж пуцёўку прыстарацца — раз плюнуць.

У перапынку папытаў пра выклік у Карпіка. Але той паціснуў плячыма, сказаў, што нічога не ведае. Пасля заняткаў Сенька і Кастусь падаліся ў сталоўку на фабрыку-кухню, а Вадзім — у інтэрнат. Мо Рыгор ужо там, у сваім пакоі, то скажа яму пра выклік. Аднак хлопца яшчэ не было, і Вадзім пачаў думаць, як і чым падсілкавацца. Грошай да стыпендыі заставалася зусім мала, а тут, калі ехаць у Жорнаўку, то і на білет трэба туды-назад, і Люсі не шкодзіла б купіць якую шакаладку. Братавай, якую гэтулькі часу не бачыў, таксама не зашкодзіла б паднесці гасцінец. Пазычаць у Рыгора — той, пэўна ж, даў бы — не хацелася. Схадзіў і ўзяў з тытана вады, хоць і астылай, але ўсё ж кіпячонай. У тумбачцы знайшоў яшчэ дзве цыбуліны, некалькі ачарсцвелых скарынак.

Рыгор прыйшоў вясёлы і задаволены, пачаў дэкламаваць, тэатральна стаўшы ў позу, чыесь вершы на рускай мове. Здаецца, Ясеніна. Прыслухаўшыся, Вадзім зразумеў, што гэта не ясенінскі стыль. А вершы былі бліскучыя, толькі нейкія ўпадніцкія і змрочныя. У Ясеніна іх таксама хапала (зрэшты, чытаць адкрыта, а тым больш прапагандаваць гэтага аўтара пакуль што было забаронена).

— Хто такі? — папытаў Вадзім.

— Адгадай.

— Не буду напружваць мазгі. Рэктару бяжы і пачытай. Ён вучоны, хоць і не філолаг, а ўсё ж.

— Пры чым тут рэктар?

— А таму, што яго сакратарка шукала цябе і сказала хоць з-пад зямлі дастаць ды даставіць у прыёмную.

— Ты не маніш? — апалым голасам папытаў ён.

— Я ж не цюцька, каб дарэмна гаўкаць. Мая справа сказаць табе. Мо хоча падзякаваць за твае публікацыі, асабіста пазнаёміцца з універсітэцкай славутасцю. Не будзеш жа ігнараваць.

— А пайшоў ты! — такога разгубленага і раз'юшанага сябра Вадзім яшчэ не бачыў. — Сон днямі бачыў кепскі. Быццам бацька прыйшоў да мяне ноччу, тармосіць за плячо і кажа: «Ага, а ты і не верыў, глядзеў толькі ў кнігу і бачыў фігу. А мы тут з маці ні за што ні пра што здыхаем. Будзь асцярожны, бойся воўчага аскалу». Не стаў нікому гаварыць, бо ці мала што вярзецца начамі.

Ён хуценька зазбіраўся, а ўжо выходзячы, сказаў:

— Вершы Мандэльштама далі пачытаць. Толькі паэт гэты ў няміласці і цяпер пад забаронай, — ён вярнуўся назад, выняў са сподняй кішэні пінжака ладнаваты жмут аддрукаваных на машынцы лістоў, папрасіў схаваць.

Не было яго недзе з гадзіну. У Вадзіма чамусьці ўсё валілася з рук. Упусціў з рук шклянку з вадой, і яна, бразнуўшыся аб падлогу, разляцелася на аскабалкі. А тут яшчэ надумаў пагаліцца і парэзаў шчаку. Пакуль шукаў кавалак газеты, каб заклеіць, у пакой зайшоў Сініца, а за ім услед двое невядомых. Глянуўшы на іх, Вадзім як не абамлеў: на стале ж ляжалі некранутыя лісты з вершамі Мандэльштама. Як гэта ён, разява, не схаваў.

Пад выглядам, што наводзіць парадак, Вадзім памкнуўся прэч з вачэй сунуць куды крамолу. Але пільнае вока аднаго дзецюка з кароткай стрыжкай заўважыла гэты рух. Ён паклаў лапу на лісты. Сказаў коратка:

— Не трожь!

Бегла пагартаў напісанае, папытаў:

— А чьи это вещи? Подпольная литература?

Вадзім, не зважаючы ні на што, кінуўся ў атаку:

— А што, нельга па-руску пісаць? У нас жа роўныя мовы.

— А ты как? Сам сочиняешь и при этом на русском языке?

— И на русском, и на белорусском.

— Сочиняй нам сказки. А это — ён паказаў на лісты, — возьмем с собой и изучим, узнаем, кто автор и кто распространитель всякой заразы.

— У чым вы мяне абвінавачваеце? І мяне, і сябра майго? Што мы кепскае зрабілі? Вучымся, стараемся, — пайшоў, набраўшыся смеласці, у наступ Вадзім, успомніўшы ваяўнічы настрой сястры, калі яна дамаглася вызвалення з-за крат Юзіка. — Мы ўзорныя студэнты. Не п'ём, не курым, не буянім.

— Два агнеца, как же. Понос тебя пронял, что ли, вот врежем по башке, так впредь будешь осмотрительнее, — кароткастрыжаны насунуўся на Вадзіма, гатовы занесці руку для ўдару. Яго напарнік штось буркнуў, і абодва адступіліся ад стала, усю ўвагу пераключылі на Рыгора. А той стаяў бліжэй да парога і, здаецца, ніяк не рэагаваў на прысутнасць гэтых двух. Пагляд яго быў халодна-пранізлівы і іранічны. Здавалася, ён зараз скажа ці прачытае нешта дужа смешнае, пасля скажа: «Ну, хлопчыкі, павыдурняліся трохі і годзе. Мне некалі. Трэба і паабедаць, і ў бібліятэку заглянуць, і верш новы напісаць». Але Рыгор нічога не сказаў. Старшы, той, што больш маўчаў, скамандаваў:

— Возьми, что тебе там понадобилось, и пройдем с нами. Объяснительную напишешь у нас. — І ўжо амаль іранічна: — Не в стихах, конечно.

— А ў чым яго абвінавачваеце? Мы, яго таварышы, павінны ведаць, — з адвагай выгукнуў Вадзім.

— Будете, будете, и совсем скоро.

Рыгор похапкам узяў з сабой у пінжак запасную ручку, некалькі аркушаў паперы, пашпарт і, падміргнуўшы Вадзіму, выйшаў услед. Што гэта людзі з органаў, Вадзім ані не сумняваўся. Толькі што ж яны шыюць Сініцу? І якая размова адбылася ў рэктара?

Вярнуліся ў пакой Сенька і Кастусь. Вадзім, які паспеў прыбраць са стала і схаваць пад свой матрац вершы Мандэльштама (добра, што прыхадні не змікіцілі капянуць глыбей і не разабраліся, што за паэзія перад імі), скрушліва падзяліўся сумнай навіной.

— Так, непрыемны факт. Што ж яны там яму інкрымінуюць? — наморшчыў лоб Карпік. — Да Рыгоравай паэзіі прыдрацца не могуць, бо яна прайшла цэнзуру. Можа, хіба што новае напісаў ды з нядобрым чалавекам падзяліўся? Эх, Рыгор, Рыгор!..

— Чаго гадаць на кафейнай гушчы? — падрахаваў меркаванні Кастусь. — Не сёння, то заўтра ўсё высветліцца.

Нехта пастукаўся ў дзверы позна вечарам, калі ўсе ўжо, павячэраўшы, ляжалі ў пасцелі і чыталі кожны сваё.

— Мо па каго з нас? — шапнуў Кастусь. — Не адчыняйма. Патопчуцца і пойдуць.

Аднак стук паўтарыўся з большай сілай.

— Адмыкайце, соні, чэрці лазатыя. Думаеце не чую, што вы там?

Вадзім, пачуўшы голас сябра, маланкава ўсхапіўся і, забыўшыся, што зусім голы (трусы і майку ён нанач памыў і павесіў сушыць на батарэю), першы кінуўся адчыняць дзверы. Рыгор зайшоў у пакой пад дружны хлапечы рогат. Толькі цяпер Вадзім апамятаўся і хуценька шуснуў пад коўдру.

— Аднак жа ў цябе ўсё — о-го-го! — падняў уверх палец Сенька. — Як кажуць, весьма і весьма. Дзеўкі, каб убачылі, страцілі б прытомнасць.

— Ну, чаго ржаце, бы жарабцы. Тут чалавек з драпежных кіпцюроў вылузаўся. А ты, Рыгорка, не зважай, расказвай усё па парадку. Што гэта за ўстанова і што там даюць, якія прысмакі?

— Даюць, а як жа. І ў хвост, і ў грыву даюць, — Рыгор распрануўся, пачаў шнарыць у тумбачцы, каб чаго ўзяць на зуб. У яго, як і ў Вадзіма, гуляў вецер у кішэнях.

— Кішкі ж марш іграюць, — сказаў задуменна. — Усе на сённяшні дзень планы рухнулі.

— Планы нідзе не дзенуцца, а вось падмацавацца… — Кастусь падняўся з ложка і выняў са сваёй торбачкі ладнаваты брус сала, а да яго і добрую лусту хлеба.

— Ну, браце, запаслівы ты. Во каго трэба было раскулачваць. Шапну каму трэба, калі надалей не будзеш дзяліцца.

Па бадзёрым тоне сябра Вадзім зразумеў, што, мусіць, усё абыдзецца. Аднак, паеўшы і падзякаваўшы Кастусю за пачастунак, Рыгор распавёў, да каго яго завялі, што вымагалі. Прычапіліся да аднаго неапублікаванага верша пра «шчаслівае» калгаснае жыццё. Твор той у рэдакцыі прытрымалі да лепшага часу. Але ж нехта перадаў гэты верш адпаведным службам, маючы на мэце падседзець рэдактара: во, маўляў, якіх аўтараў вы прывячаеце, выдаяце ім аванс.

— І гэта ўсё? — усклікнуў Карпік. — Такая дробязь.

— Не, не ўсё. Самае важнае прыберагі на пасля. Абвінавацілі ва ўтойванні важнага факта біяграфіі.

— Што, з паліцаямі ў карты гуляў? — не мог супакоіцца Карпік. — Паслаў бы ты іх куды падалей.

— Ага, пашлеш. Усё ўпіраецца ў тое, што яны і праўда мяне падлавілі. Я не напісаў, што бацькі былі раскулачаны і рэпрэсіраваны. Маўляў, «сокрытие». А гэта ўжо прыроўніваецца да варожай дзейнасці. Карацей кажучы, адпусцілі, але будуць ставіць пытанне на камсамольскім сходзе, а па выніках абмеркавання — аб знаходжанні ва універсітэце.

Гэта было ўжо занадта. Узбуджаныя, хлопцы да раніцы не маглі заснуць. Ледзьве не праспалі першую лекцыю. На курсе яшчэ ніхто ні пра што не ведаў. Дзяўчаты па-ранейшаму слалі Рыгору пісулькі і не здагадваліся, як змрочна ў яго на душы. У перапынку ён паклікаў Вадзіма на глухую лесвіцу і, калі пераканаўся, што нікога поблізу няма, шапнуў:

— Мяне хочуць завербаваць, каб стаў іхнім сексотам. Абяцалі адчапіцца і нават садзейнічаць у тым-сім.

— І што ты? — ад пачутага ў Вадзіма сцяло дыханне. — Згадзіўся?!

Рыгор апёк сябра гнявлівым позіркам.

— На падлянку я не здатны. Хай што хочуць робяць, хоць пад дула пісталета паставяць, але на хаўрус з падлюгамі не пайду.

У Вадзіма на нейкую хвіліну адлягло, але трывога за далейшы лёс сябра засталася. Як выкруціцца з гэтай сітуацыі, дзе шукаць выйсце?

Камсамольскі сход з пытаннем аб персанальнай справе Рыгора Сініцы быў прызначаны на наступны дзень. Большасць з курса, праходзячы каля дошкі аб'яў, паціскала плячыма. Чыя персанальная справа? Рыгора Сініцы, іхняй славутасці? Мо гэта чый жарт? Яго ж і па вучобе, і па дысцыпліне ставяць у прыклад усім. Многія дзяўчаты, стоўпіўшыся ў вестыбюлі, даказвалі, што персанальная справа — гэта не абавязковае перамыванне костачак каго-небудзь. Мо ў персанальную справу Сініцы запісалі якую падзяку і хочуць агучыць перад усімі? Пыталіся ў старасты групы, але ён адмоўчваўся.

На сход прыйшлі дэкан і прафесар Удовін, сакратар камітэта камсамола Уладзіслаў Цярэшка, той кароткастрыжаны з органаў, які спрабаваў ударыць Вадзіма. Першы пачаў Цярэшка.

— Ваш курс, ды і не толькі ваш, добра ведае Рыгора Сініцу. Вось ён, прыгажун, сядзіць у першым радзе.

У аўдыторыі пачуліся дружныя воплескі. Многія дзяўчаты, а аўдыторыя была галоўным чынам дзявочая, падымаліся з месцаў, цягнулі галовы, каб лішні раз глянуць на паэта. Аднак Уладзіслаў Цярэшка, спрактыкаваны маладзёжны важак, добра пастаўленым голасам спыніў усякую самадзейнасць.

— Мы не ў тэатры і не ў цырку шапіто і воплескі тут недарэчныя, тым больш калі разбіраецца персанальная справа вашага равесніка камсамольца Сініцы.

— А што тут разбіраць? Мы яго як аблупленага ведаем. Выдатнік па ўсіх прадметах, з дысцыплінай у ладах, а творамі яго зачытваемся не толькі мы, — дзявочы голас з задніх радоў прымусіў Цярэшку разгублена зірнуць на дэкана, але той, паглыбіўшыся ў нейкія свае думкі, як бы нічога не чуў і не заўважаў.

— Таварышы камсамольцы! Спыніце гэты балаган. У нас сур’ёзная размова, а вы сваімі воклічамі перашкаджаеце весці сход. Дык вось, вы, пэўна, не ведаеце, што ён сфальсіфікаваў сваю біяграфію, альбо, калі быць дакладным, утаіў ад прыёмнай камісіі, што ён сын кулакоў. А яблык ад яблыні, як вы ведаеце па законах фізікі, не далёка падае. У анкеце ён напісаў, што бацькі загінулі ў першыя дні вайны і ён выхоўваўся ў бабулі. Вядома, у часе вайны загінулі ад рук нямецка-фашысцкіх захопнікаў сотні тысяч, а то і мільёны нашых суайчыннікаў, і мы аддаём даніну памяці гэтым людзям. А бацькі Сініцы адседжваліся ў глыбокім тыле, і калі й памерлі — а гэта яшчэ трэба высветліць, так ці не, то невядома, з якой прычыны: мо спіліся, мо якую заразу падчапілі. Але не будзем пра іх. Кулакі сваё атрымалі па заслугах. А вось іхні выпладак ухітрыўся і школу закончыць, і ва універсітэт абманным шляхам уплішчыцца. Што ж гэта атрымліваецца? Тысячы і тысячы юнакоў і дзяўчат хацелі б заняць гэта ганаровае месца студэнта, але ім ходу не даюць больш вёрткія і хітрыя.

Цярэшка яшчэ б, мусіць, гаварыў і гаварыў, але ў аўдыторыі, якая дасюль зацята маўчала, пачуўся якісь гул, пасля і топанне нагамі. Камсамольскі важак аніяк гэтага не чакаў, разгублена сеў на месца і выцер хусцінкай узмакрэлы твар. Трэба было неяк уціхамірыць студэнтаў, і Цярэшка павярнуўся да дэкана, чакаючы яго помачы. Але той раптам ні з таго ні з сяго раскашляўся і выйшаў у калідор.

Устаў з-за стала прафесар Удовін.

— Сябры мае, хлопцы і дзяўчаты! — пайшоў ужо ў наступ чарговы прамоўца. — Ну, хто ж так паводзіць сябе? Што скажа рэктар? Звычайны камсамольскі сход не маглі правесці без эксцэсаў. А ён жа паслаў мяне да вас, каб растлумачыў сітуацыю і адносна вашага аднакурсніка, і наогул аб становішчы ў краіне і свеце. Вы ведаеце… — ён зноў гаварыў шмат і квяціста, бэсціў міжнародны імперыялізм, які развязаў халодную вайну, засылае да нас сваіх агентаў, каб разлажыць наша грамадства знутры.

— Але, — працягваў Удовін, — мы павінны быць пільнымі, разбірацца, што нам падсоўваюць для чытва, каб паказытаць нервы і паказаць, якія мы прынцыповыя і самакрытычныя. Нашто далёка хадзіць па прыклады, — прафесар строга паглядзеў у той рад, дзе сядзеў Сініца. — Вось верш вашага пачынаючага паэта, — з гэтымі словамі Удовін выняў з вялікага чорнага партфеля лісток рукапіснага тэксту, патрос ім у паветры. — Я не буду агучваць

тое, што тут накрэмзана. Скажу адно: гэта суцэльнае ачарненне калгаснага ладу жыцця. Вядома, трэба крытыкаваць недахопы, але з пазіцыі сацыялістычнага рэалізму, з добрымі пачуццямі і намерамі. Дык вось толькі за адзін гэты верш я выключыў бы Сініцу з універсітэта, а найперш — з камсамола. Думаю, вы салідарна прагаласуеце, каб пазбавіць яго магчымасці насіць камсамольскі білет. Зрэшты, а ці насіў і носіць з сабой Сініца гэтую кніжачку? Хай бы паказаў.

Гэты раз аўдыторыя злавесна маўчала.

— Хто хоча выказацца па павестцы сходу? — зноў узняўся са свайго месца Цярэшка. — Смялей, смялей.

Гнятлівая цішыня нічога добрага не абяцала, і Цярэшка ліхаманкава прыгадваў прозвішча студэнта, які раніцай у прыватнай размове выказаўся ў тым плане, што Сініца надта ж высока пырхнуў, сваімі хаханькамі ды хіханькамі ўзбаламуціў увесь курс, усіх дзяўчат прыманьвае да сябе і нешта ім пашэптвае. Нарэшце памяць яго не падвяла, і Цярэшка гукнуў:

— Гайсёнак, відаць, меўся штосьці сказаць.

Усе пачалі варочаць галовамі, шукаючы Гайсёнка.

— А ў яго зубы разбалеліся, і ён пайшоў ірваць, — паднялася з-за парты тая чарнявая прыгажуня, на якую паклаў вока Рыгор.

Цярэшка пераглянуўся з прафесарам, той штось яму шапнуў, і камсамольскі важак абвясціў, што будуць галасаваць. Ён зноў стаў ва ўвесь рост, нават расцягнуў вузел гальштука і абвясціў:

— Хто за тое…

— Я хачу сказаць колькі слоў, — усхапіўся са свайго месца Вадзім.

— Во-во, хоць адзін смелы і прынцыповы знайшоўся, — парадаваўся Цярэшка. — Як тваё прозвішча?

Вадзім назваў сябе і прайшоў да трыбуны, звяртаючыся ў бок Цярэшкі, сказаў:

— Так, я заўсёды быў і застаюся прынцыповым. І з усёй прынцыповасцю мушу заявіць: такіх, як Рыгор Сініца, трэба шанаваць. Шанаваць як добрага чалавека, цудоўнага таварыша, выдатніка вучобы і ў рэшце рэшт як таленавітага паэта. Тут яго абвінавачваюць у нейкіх грахах. Ну, грэх ці грашок можа ёсць, бо ён не ўказаў, што сын рэпрэсіраваных бацькоў. Але хто-небудзь пацікавіўся, за што іх рэпрэсіравалі і саслалі на катаржныя работы? Не, не цікавіўся. А таварышу Цярэшку, перш чым ставіць пытанне, якое карэнным чынам магло б зламаць жыццё маладому здольнаму чалавеку, варта было б хаця патэлефанаваць у Стаўбуны, у райкам і райвыканкам, пацікавіцца, што за людзі былі жыхары вёскіПератокі і за што іх раскулачвалі. Той ананімшчык, які данёс на іх, сам аказаўся найпершы п’яніца і паліцэйскі памагаты. Яго справядліва асудзілі. А наконт бацькоў Рыгора Сініцы пайшлі дакументы ў Маскву, у Прэзідыум Вярхоўнага Савета, аб іхняй пасмяротнай рэабілітацыі. Што ж тычыцца верша Рыгора, то я, на жаль, не чытаў, але ж неапублікаванае яшчэ не сведчыць аб факце ачарнення. Мы з Сініцам хадзілі ў канцы лета ў паход па берагах Нёмана, сустракаліся з дзесяткамі людзей, старшынямі калгасаў, былі на палях і фермах. Загадчыкі клубаў, ведаючы, што мы ўжо студэнты і пры тым філолагі, прасілі нас памагчы аформіць насценгазету. І давалі нам такія вострыя матэрыялы, што Рыгораў верш, пэўна, выклікаў бы ў афарміцеляў насценнага друку ўсмешку сваёй бесхрыбетнасцю. Дык што, іх таксама за гэта звальняць з працы?

Вадзім скончыў і пад доўгія воплескі пайшоў на сваё месца. Яму па ходу ціснулі рукі, віншавалі. А Цярэшка, перамовіўшыся з прафесарам, закрыў сход, паабяцаўшы да гэтага пытання яшчэ вярнуцца.

## 7

Поезд да Радава ішоў недзе з гадзіну. Прыфрэнчаныя, гладка паголеныя, Вадзім і Рыгор занялі месцы ля акна — адзін насупраць другога. Рыгор разгадваў крыжаванку, час ад часу звяртаўся да Вадзіма па падказку, але той адмахваўся, абдумваў сюжэт новага свайго апавядання. Вершы, пасля двухтрох няўдалых візітаў у рэдакцыі, рашыў цалкам закінуць. У параўнанні з бліскучымі, поўнымі агню і гумару Рыгоравымі творамі ягоныя выглядалі блякла. Неяк напісаў гумарэску пра пеўніка, якога дзябёлая чырванашчокая маладзіца панесла ў закрытай кашолцы прадаваць на рынак, хоць у гэты дзень калгасны брыгадзір вельмі прасіў яе выйсці на жніво. Але жанчына, спаслаўшыся, што яе хапіла пячонка і ёй тэрмінова трэба да ўрача, адмовілася. Той-сёй, хто быў у гэты час у райцэнтры, бачыў кабету вясёлай і здаровай. Пры стрэчы ж тая хапалася за бок і бясконца вохкала, быццам ужо памірае. Падвёў яе певень, які нейкім чынам вылузаўся з кашолкі і на ўсе лапы даў лататы. Кабета на хвіліну знерухомела, а пасля, забыўшыся, што трэба прытварацца, гайсанула за пеўнікам так, што ажно пяткі бліснулі.

Гумарэску Вадзім забракаваў сам, але, будучы ў гумарыстычным часопісе і калі там папрасілі што-небудзь для іх, ён, як адчэпнае, аддаў ім. Быў і забыўся пра яе, аднак праз два месяцы на яго імя ў інтэрнат прыйшоў квіток на ганарар. Вадзім глянуў на суму і здзівіўся: гэтулькі грошай адвалілі яму за відавочна слабую рэч. Падахвочаны, напісаў яшчэ некалькі гумарэсак і кароткіх апавяданняў, аддаў у розныя выданні. І… О дзіва! Усе іх надрукавалі. Вось і зараз, у поездзе, акрылены поспехам, ён шукаў і пакуль што не знаходзіў удалай канцоўкі задуманага твора. А тут яшчэ Рыгор са сваёй забавай. Падумаеш — крыжаванка, адгадаў патрэбнае слова, не адгадаў. Што ад гэтага зменіцца?

Наступным прыпынкам абвясцілі Радава. Вадзім адчуў, як здрадліва затрымцела сэрца. І было ад чаго. Колькі звязана ў яго з гэтым ціхім мястэчкам і вёскай, што прымыкае да яго ўсутыч, — Жорнаўкай, і з усім ваколлем, дзе прайшлі яго дзіцячыя гады, дзе спазнаў гэтулькі гора спачатку з прычыны смерці бацькі, пасля і маці. А жыццё ўдвух з братам, калі бегаў у школу ледзь не басанож, прытым і макавага зернетка не трымаў у роце…

— Вунь нейкі аўтобус, — пацягнуў яго за руку Рыгор. — Можа, акурат у наш бок.

Вадзім прачытаў шыльдачку і хоць ведаў, што можна палову дарогі да Жорнаўкі праехаць, сказаў сябру:

— Гэта не па шляху. Давай лепш пройдземся.

Ужо бралася на вясну, сшэрхлы наздраваты снег пад сонцам імкліва раставаў, і ў лужынках пілі, а больш забаўляліся чародкі вераб’ёў. Калі, скарачаючы шлях, ішлі глухімі завулкамі, з-пад брамак выскоквалі большыя і меншыя сабакі, незлаславіва — от, толькі дзеля прыліку — гаўкалі. На адным драўляным слупку брамкі сядзеў, песціўся пад цеплаватымі промнямі вялікі рыжы кот. Ён не збаяўся і нават вухам не павёў, калі хлопцы наблізіліся да яго.

— Ах ты, марцовы бадзяга, — пагладзіў яго густую поўсць Рыгор. — Сіл набіраешся для новых любоўных пацех? Ну-ну, глядзі, каб не перабаршчыў.

Кот соладка пацягнуўся і не падумаў крануцца з месца. Каля невялікай горачкі дзятва ляпіла снежную бабу, а адзін карапуз заўзята смактаў ільдзінку. Вадзім падышоў да хлопчыка, папрасіў памяняцца ласункамі, — пры гэтым ён выняў з кішэні паліто вялікую, на палачцы, у яркай абгортцы цукерку, працягнуў малому.

— Не-а, — бліснуў вачыма хлопчык. — Ня хачу. Мая халодненькая. Ды і мамка, калі ўбачыць, дасць мне, як казала, на абаланкі. А я хачу абаланак. У цябе няма?

У гэты час на ганак камяніцы з блакітнымі аканіцамі выйшла маладайка. Змеціўшы чужых людзей каля малога, яна накінулася на хлопцаў:

— Швэндаюцца тут усякія, зманьваюць дзяцей. Вунь у Мінску, пісалі ж, знайшлі ў парку дзяўчынку згвалтаваную. Ледзьве ўратавалі. Так што ідзіце адсюль, а не дык міліцыю паклічу.

Такога абароту хлопцы не чакалі. Вось табе і сонейка, і вясенняя ідылія, і ціхая ўскраіна мястэчка.

— Бачыш, у што выліваецца твая дабрыня, — папікнуў Рыгор. — Ішлі б сабе ды ішлі, а цябе на сантыменты пацягнула.

— А сам што? Раптам той Васька заразны і табе падкінуў хваробу скуры. А то й запусціў кіпцюры ў тваю фізію? А ён гладзіць яго і сам ледзь не мурлыкае. Хіба гэта не сантыменты?

— Ого, табе палец у рот не кладзі. Ураз адкусіш.

Пасмяяліся. Добры настрой зноў вярнуўся да іх. Неўпрыкмет выйшлі да цэнтра. Тут ужо ляжаў асфальт, заасфальтаваныя былі і тратуары, якія пад сонцам высахлі. Наблізіліся да пачарнелых ад часу дахаў прыземістых будынін.

— Мая былая школа, — выдыхнуў Вадзім. — Колькі я сюды папахадзіў з Жорнаўкі, папамясіў гразі ўвесну і восенню. А неяк не паслухаўся брата і ў трыццаціградусны мароз пабег загуменнем у школу, не закрыўшы добра вушы. Цапнуў сябе за вуха, а яно перстала балець. Добра, што непадалёк была ветэрынарная лабараторыя. Я бягом туды, у цяпло, па ратунак. Старэнькі дзядок, якога вельмі цанілі за яго ўмельства лячыць жывёлу, добра паўшчуваў мяне за ляноту апусціць вушы ў шапцы. «Вам, малады чалавек, — сказаў, — яшчэ пашанцавала, што я быў на месцы і трапілі акурат да мяне. Прамарудзь паўгадзіны, і слухаўкі вашы самі адваліліся б».

Яны завярнулі ў двор, які ў выходныя дні пуставаў, але брамка была расчынена насцеж. Вадзім махнуў рукой у бок невялікай прыбудоўкі.

— А гэта цёмны пакой для неслухаў? — Рыгора не пакідаў гуллівы настрой.

— Памыляешся, то быў самы светлы і жаданы буданчык. Там прадавалі хлеб, і мы, ледзьве дачакаўшыся званка, з усіх ног беглі туды, каб першымі заняць чаргу. Але ніколі не былі першыя. Добра яшчэ, калі ўдавалася праціснуцца да прылаўка, дзе было цёпла і дужа пахла свежым хлебам. Былі выпадкі, што некаторыя нават страчвалі прытомнасць.

— Вось так мы вучыліся і жылі, — сказаў, выходзячы на вуліцу, Вадзім. — Але, як ні дзіўна, былі вясёлыя, нават шчаслівыя.

Мінулі ашчадную касу і неўзабаве апынуліся ў Жорнаўцы.

— То дзе твая хата? — не цярпелася Рыгору. — Намуляў пятку, то паглядзець бы.

— Пацярпі, браце, ужо недалёка. Мінём роў, падымемся на горачку і за паўкіламетра будзе мая дамоўка. Цікава, як яны там, Коля і Лілька? Коля дык прыязджаў у Галаброды, а Лілька не ведае нават, у якім яны баку.

У хаце нікога не было, але гаспадары, відаць, недалёка адышліся, бо з клямкі тырчаў бярозавы дубчык. Яны патапталіся па двары, чакаючы. Вадзім уважліва ўглядаўся ў вокны, падышоў да склепа, з якога ў іх некалі скралі бульбу, пасля згледзеў бярозу, што за тры гады значна раздалася ўшыркі і выцягнулася ўверх вышэй за слуп з правадамі.

— Ах ты, мая прыгажуня, — не мог стрымаць свайго захаплення Вадзім. — Я ж цябе пасадзіў во такусенькую, — ён адмераў ад зямлі з метр-паўтара.

Ён абняў яе, як закаханы сваю дзяўчыну, прытуліўся тварам да халоднага шурпатага дрэва.

— Ты мяне прыемна здзіўляеш, — азваўся, назіраючы за ўсім, Рыгор. — Адкрываешся тым бокам, якога я не ведаў. Дарэмна ты, браце, кінуў пісаць вершы.

— Не, што было, тое канула ў Лету. Гэта хвілінная слабасць. Каюся.

Першы прыйшоў Коля. Ён вельмі абрадаваўся, убачыўшы брата, прытым такога па-святочнаму фарсістага: тонкага сукна цёмна-сіні палітон, пад колер яму і штаны, на галаве — светлы фетравы капялюш. Яны моцна абняліся. Коля нават слязу пусціў. Пасля, павярнуўшыся да братавага напарніка, папытаў:

— Разам, відаць, ехалі? Ці стары сябрук з Радава?

Вадзім пазнаёміў з Рыгорам.

— Ды не, ён з-пад Стаўбуноў. Разам кукуем зараз у інтэрнаце, разам вучымся.

— Дык ты паступіў некуды? А нічога ж не пісаў і не прыязджаў, як усё роўна дарогу сюды, на радзіму сваю, забыў.

— Прыехаў жа, бачыш, а дома пуста. Хацелі ўжо назад паварочваць аглоблі.

— Не пуста, не пуста, — як бы трохі пакрыўдзіўся Коля. — Пуста, калі няма чаркі і скваркі. А гэта мы ўсё знойдзем. Пайшлі ў дом. Зараз Лільку паклічу. Куліне памагалі кабана закалоць, саўсім нямоглая стала. Ходзіць па двары, перасоўвае перад сабой табурэтку.

Коля пайшоў, а хлопцы, распрануўшыся, хоць у хаце было не вельмі цёпла, разглядвалі Лільчыны вышыванкі пад шклом на сцяне і рассцеленыя на канапе саматканыя паласатыя ходнікі — яе пасаг, калі выходзіла замуж.

— А ў тваёй братавай нядрэнны густ, — сказаў Рыгор. — Як шкода, што таленты народныя нікога не цікавяць. Была б мая воля, то я размясціў бы іх у рамках на сценах любога палаца, нават сталічнага.

Вадзіму было прыемна, што сябра хваліць Лільчына ўмельства, але недзе і варухнуўся чарвячок вінаватасці перад братавай, што гэтак па-свінску ўцёк ад іх, а ў пісульцы да Колі нават не ўспомніў пра яе. Хай не ўсё ў іх было гладка, але яна неяк па-свойму шкадавала яго. Занятыя разглядваннем фотакартак на сцяне, яны і не прыкмецілі, як паўз вокны мільгнулі дзве постаці. Пачулі толькі тупат у сенцах і бразганне клямкі. Лілька першая заглянула ў пярэдні пакой. Засаромелася, убачыўшы незнаёмага юнака.

— Вой, а я ж думала, ты адзін. Коля нічога не сказаў. А так бы адразу пераапранулася ў што лепшае.

Больш за тры гады Вадзім не бачыў братавую і адзначыў, што яна ані не змянілася. Гэткая ж чырванашчокая, рухавая, гэткая ж увішная. Адразу відаць было, што ў хуткім часе іхняя сям'я папоўніцца. Коля, калі быў апошні раз у сястры і гушкаў на каленях Анютку, неяк няўзнак выказаў шкадаванне, што ім Бог не дае такога шчасця. Верка тады сказала, што ў яго ўсё яшчэ наперадзе, што паспеюць нацешыцца дзецьмі.

— Ну, то вы пачакайце трохі. Коля зараз падыдзе.

Папрасіўшы прабачэння, Лілька падалася на кухню. Хутка там ужо гарэў керагаз, сквірчэла на патэльні смажаніна. Пах мяса казытаў ноздры, прымушаў глытаць слінкі.

Абедалі ў зале, хоць хлопцы казалі, што не вялікія паны, можна было б і на кухні падсілкавацца. Але і Коля, і Лілька рашуча запратэставалі. Коля паставіў на стол пляшку рускай горкай, наліў у гранёныя шклянкі амаль па поўнай. Вадзім адсунуў сваю шклянку.

— Ад гэткай конскай дозы я і пад стол звалюся.

Рыгор таксама сказаў, што гэтулькі і за месяц не вып’е.

— Го, пад свежынку пойдзе, ды яшчэ як. Мала нават будзе, — настойваў на сваім Коля.

Лілька з дакорам глянула на яго. Усё ж выпілі, хай і не да канца, бо няўсцерп было больш трываць, гледзячы на ружовыя кавалкі свініны, пячонку, на салёныя гурочкі і квашаную капусту. У асобнай місе зыходзіла парай толькі што вынятая з печы бульбяная крышанка з бручкай, часнаком і цыбуляй.

— Малака шкада няма, — пабедавала Лілька. — Гэты раз наша карова падводзіць, ніяк не можа ацяліцца. А так бульба з малачком, салодкім ці кіслым, у смак пайшла б.

Неўпрыкмет, як хлопцы не аднекваліся, выпілі да донца, нават нікуды не адліваючы. Падняўшыся і падзякаваўшы за пачастунак, Рыгор пайшоў аглядзець пятку. Вадзім з карычневага партфеля, які купіў сабе з ганарара, выняў каробку дарагіх цукерак і пакунак, аддаў Лільцы.

— Гэта ты мне?! — здзівілася яна. — Чым жа я заслужыла? А што там? — яна кіўнула на пакунак.

— Разгарні, пабачыш.

Гэта быў мяккі пуховы шалік, і Лілька, накінуўшы яго на шыю, ажно праслязілася.

— Чым жа я аддзячу табе? Хіба, можа, увосень, як заколем свайго кабана. Пасля і кілбасы будуць, і кумпяка засолім. Прыедзеш, то не пакрыўдзім.

— Калі яшчэ гэта будзе, — сказаў Коля. — Ты вось што, дай хоць трохі хлопцам з таго, што прынесла ад Куліны.

— Не-не-не, — рашуча запратэставаў Вадзім. — Мы ходзім у сталоўку, нам даюць стыпендыю, нават там-сям ганарар адхопім. Рыгор часта друкуе свае вершы, яны гучалі і па радыё.

— Божачка, дык, можа, яго сцішкі я слухала і ажно качалася ад смеху. Як жа яго называлі?..

— Мо Сініца? — падказаў Вадзім.

— Во-во, Сініца, дальбог жа Сініца. А я яшчэ думала, што за чалавек птушыным імем назваўся. Дак гэта ён?!

— Ён, ён. Мы разам жывём у адным пакоі.

Калі зайшоў Рыгор, Лілька зусім іншымі вачыма глянула на яго.

— Першы раз бачу паэта. Во сказаць бабам, то з усёй вёскі прымчаліся б, дальбог. Жывы паэт у нашай хаце. То, можа, і кніжка свая ё?

Рыгор нядобра зіркнуў на сябра, сказаў:

— Во, пакуль мяне не было, паспеў ужо растрызвоніць. А пра сябе дык маўчыць. А сам жа вершы піша, і, што яшчэ мудрэй, гумарэскі і апавяданні.

— Ён з дзяцінства пісаў нешта сабе ў блакнот, але нікому не паказваў, — сказаў Коля. — А цяпер глядзі ты!

Рыгор паабяцаў, як будзе кніжка, абавязкова падараваць ім. Яны апрануліся.

— То вы ж будзеце начаваць? — папытала Лілька. — У нас хапае месц. І пасцелі ё.

— Там паглядзім, — Вадзім яшчэ не ведаў, ці стрэне Люсю. У суботу, тым больш падвечар, яна наўрад ці сядзіць дома. Мо памчалася куды ў кіно альбо да сяброvak? Аднак, не пагаварыўшы з ёй, не павініўшыся, што не прыйшоў на спатканне, у Мінск ён не паедзе.

Дзе жыла Люсіна мама, ён добра ведаў, аднак у хату да іх ісці саромеўся. Ды, можа, дзяўчына і не хоча, каб мама ведала пра іхнія спатканні. Тады як жа перадаць ёй, каб прыйшла да кінатэатра альбо клуба. Ён напісаў пісульку

і цяпер гадаў, як і кім перадаць ёй. У першага стрэчнага падшыванца папытаў, ці ведае ён Люсю Міронаву. Той шмаргануў носам і задаў стрэчнае пытанне:

— А вы хто? Можа, жаніх яе? — ён хітранька хіхікнуў.

— Ну, многа будзеш ведаць, хутка дзядком станеш. Вот табе жменя цукерак, — з партфеля ён выняў невялікі кулёк і перадаў малому. — А гэта — паперка. Забяжы да іх у хату і перадай у рукі самой Люсі. Зразумеў?

— Панятна, але не пайду. Яна ў Мінск паехала і зараз павінна ісці з поезда.

Малы не ашукаў. Праз якога паўкіламетра, яшчэ не дайшлі да Радава, Вадзім згледзеў дзяўчыну, якая і па паходцы, і па паставе нагадвала Люсю. Гэта і праўда была яна. Яшчэ здаля і яна пазнала Вадзіма.

— Ці не ў сваты вы куды хадзілі? — павітаўшыся, гарэзна спытала дзяўчына, з ног да галавы аглядаючы абодвух.

— Мой сябра Рыгор, — бачачы, што Люся затрымала на ім увагу, сказаў Вадзім. — Хлопцу жаніцца самы раз, вось і гойсаем туды-сюды, выглядваем красуню.

— Ну і што, стрэлі такую?

— Ага, і не адну, але ён ад усіх нос варочае. Падай яму і багатую, і разумніцу, і прыгажосці незямной. Пераборлівы кавалер.

— А ты ў якасці свата? — падтрымлівала гульню дзяўчына.

— Гэты сват і сам рад, — Рыгор з цікавасцю разглядаў Люсю, параўноўваючы яе са сваёй чарняўкай. У думках аблаяў сябрука, што такую дзяўчыну, якая хінецца да яго, выпускае з рук. Даўно ўжо трэба было прыехаць і павініцца.

Стаяць доўга не выпадала, бо ношка, якую трымала Люся, адбірала ёй руку. Вадзім толькі зараз спахапіўся, памкнуўся перахапіць цяжкую сумку, але дзяўчына заўпарцілася:

— Мне гэта звычна. Мама папрасіла тое-сёе з Мінска прывезці. Хлеб, крупы, алей. У Радаве не ўсё бывае.

— То я паднясу да вашай хаты.

— Вяртацца назад нядобра. Вы ж некуды выправіліся. У Колі былі?

— І Колю, і Лільку бачылі. Нагаварыліся, наеліся і напіліся.

— А я галодная, то пабягу ўжо, хлопчыкі, — Люся наважылася пайсці.

— Пачакай, — усё ж перахапіў у яе сумку Вадзім. — Пагутарыць трэба. Ты, Рыгор, хочаш з намі, а хочаш — ідзі паціху, я пасля даганю.

— А хіба ж добра сябра кідаць аднаго?

Рыгор, кіўнуўшы Люсі галавой, ціха пакрочыў па вуліцы.

Неяк няёмка атрымліваецца, — дзяўчына была засмучана. — Разам, то і ўсюды разам. Гукні яго.

— Ён хоча нам паспрыяць. Мы ж знарок ехалі, каб цябе пабачыць, — горача шапнуў Вадзім. — Тады так па-дурному атрымалася. Не выпала мне прыйсці. А ты ж, пэўна, доўга чакала ў тым прывакзальным скверыку.

— Я? Чакала? Ты з некім мяне блытаеш. Можа, з кім іншым намячаў стрэчу, ды забыўся. У цябе ж там, на тваёй вучобе, паненак хоць адбаўляй. А што я? Вясковая няўдаліца.

— Не трэба, Люся. Хочаш, карай мяне самай страшнай карай, але я, апроч цябе, нікога не хачу бачыць. Тады і праўда не выйшла. Моцна хварэў, ляжаў пластом. А тут яшчэ над Рыгорам навісла пагроза выключэння з універсітэта. І з камсамола хацелі пагнаць. Ледзьве адбіліся.

— І за што яго так? — пачала змякчацца дзяўчына.

— О, доўгая гісторыя. Вечарам раскажу. Мы тут у Колі будзем начаваць, то мо сходзім куды разам. У вас жа танцы бываюць?

— На танцы і я хацела. Сто гадоў не была. Ладна, правядзі трохі і даганяй сябрука, — яна ўжо хораша, ажно сэрца ёкнула ў Вадзіма, усміхнулася.

Бліз дома, дзе жыла Люся з мамай, сястрой і братам (бацька яе, армеец, маёр, загінуў ці прапаў без вестак у першыя дні вайны дзесь на Беласточчыне), перадаў ёй груз, а заадно паклаў у сумку такую ж, як і Лільцы, каробку цукерак, паклаў так, каб яна не бачыла.

Танцы ні Вадзіму, ні Рыгору ані не спадабаліся. Рыгор дык наогул сумаваў, хоць дзяўчаты і зіркалі на новага пагляднага кавалера. Яны стаялі паблізу дзвярэй ля ўваходу, бо ўсярэдзіну было не платаўхнуцца. Рэзала па вушах музыка і, здавалася, лопнуць перапонкі. Вадзім прыгадаў, як ладзілі хлопцы танцы на беразе Нёмана ў выхадныя і святочныя дні. Во там была музыка! Скрыпка, баян, цымбалы, духавыя інструменты. Яшчэ з раніцы выбіралі роўную пляцоўку бліжэй да вады, агароджвалі бярозкамі, перавітымі вяроўкамі. Калі заходзіла сонца і дома было ўсё пароблена, сюды сцякалася моладзь з усіх мікуліцкіх вуліц, з зарэчных вёсак і нават хутароў. Пажылым і сярэдніх гадоў кабетам таксама цікава было завітаць сюды, паглядзець на танцораў, паслухаць музыку. У Жорнаўцы, калі стаялі ціхія лагодныя вечары, таксама было ўсё чутно, хоць адлегласць трохі глушыла выразнасць гукаў. Вадзім, бы тая бедная сірата, стаяў за агароджай. Папершае, у яго не было грошай, а па-другое, дасюль не развучыў ніводнага танца і часам зайздросціў тым хлопцам, якія ўмелі закруціць і віхурную польку, і гапака адбіць абцасамі, што ажно пыл курэў пад нагамі. Хлопец не ведаў, ці захапляюцца тыя танцоры музыкай, а вось яму народныя мелодыі гаілі душу, давалі магчымасць забыцца пра ўсё ліхое. І ўзносілі ажно да саменькіх нябёсаў.

Тут, на радаўскіх танцульках, было іншае. Не слухаць, а бегчы як мага далей ад гэтай какафоніі зычнага, акурат бычыны рык, грукату, лязгату… А Люся… Яна, відаць, звыклася з тым, што ёсць, тым больш, калі не бачыла і не чула нічога лепшага.

Адзін разгарачаны, пара з сарочкі вярнула, дзяцюк запрасіў яе на нейкі вельмі хуткі танец. Дзяўчына сумелася, глянула на Вадзіма: ісці ці не ісці? Вадзім ледзь прыкметным кіўком галавы даў зразумець, што яны дзеля гэтага і стаяць тут. Люся хуценька зняла верхнюю апратку, застаўшыся ў адной спадніцы і кофтачцы, перадала ў рукі Вадзіму.

Спачатку яны, Люся і гэты хмыр, выраблялі крандзялі непадалёку. У Люсі атрымлівалася па-дзявочы зграбна і хораша, а спацелы хмыр танцаваў, бы слон, часам збіваўся з такту, і тады дзяўчына моршчылася ад болю: відаць, сваімі грамакамі ён таптаўся па яе нагах. Хутка яны зніклі з яго поля зроку. Тады Вадзім павярнуўся да сябра:

— А ты што змэнчыўся? Трасяні чупрынай, пакажы, што і хутаранцы на нешта здатныя.

Рыгор зморшчыўся, бы зуб яго хапіў, але калі абвясцілі дамскі танец і адна красуня з дужа напамаджанымі шчочкамі падбегла да яго, укленчыла нават, Рыгор растаў. Ён таксама кінуў на рукі Вадзіму паліто, застаўшыся ў бэзавага колеру світэры, з-пад якога вытыркаўся каўнер бялюткай, пад гальштукам, кашулі. У тонкую палоску штаны сядзелі на яго тонкім і гнуткім стане адмыслова. Шчыблеты таксама зіхацелі, бы ён толькі што дзесь неўпрыкмет шмаргануў іх суконкай.

Люся падышла задыханая і нездаволеная.

— Ну і ёлупень! — сказала пра свайго танцора. — Скуль вышукаўся такі? Думала, без пальцаў застануся. Гоп ды гоп, а ў мяне ж там мазоль. Ведала б, то… — згледзеўшы, што Рыгора няма, папытала: — А дзе ж сябра? Нешта ён сумны. Ці не ўцёк ад нас?

Вадзім, перадаючы дзяўчыне адзенне, звярнуў увагу на якуюсь мітусню, выкрыкі і мацюкі ў сярэдзіне танцавальнага кола. Хтосьці там тузаўся, высвятляў адносіны.

— Зноў б'юцца. Ніводнага разу не абышлося без гэтага, — сказала, прыслухоўваючыся да гаманы, Люся. — Нажлукцяцца, а пасля за кастэты хапаюцца. Хоць бы Рыгору там не перапала.

Яна не памылілася: двое дзецюкоў павіслі на Рыгору, менцячы па целе рукамі і спрабуючы дабрацца да галавы ці шыі. А ён, прыгнуўшыся, спрабаваў скінуць з сябе досыць цяжкія тушы, неяк злаўчыцца і даць здачы. Люся, пакуль Вадзім шукаў каго, каб патрымаў паліто, першая кінулася да дзецюкоў. Злаўчыўшыся, яна з усяго маху саданула аднаму з нападаўшых у вельмі далікатнае месца. Дзяцюк узроў, бы яго рэжуць жыўцом, і выпусціў ахвяру. А тут і Вадзім падаспеў і вельмі лёгка, сам нават не чакаў, згроб у ахапак і другога грубіяна, кінуў яго на падлогу. Хацеў, як і Люся, пхнуць пад паховіну, ды перадумаў: нават тое, як бразнуў, бы мяшок з бульбай, яго на падлогу, будзе дурню добрым урокам.

Усё тое, што адбылося з ім, Рыгор перавёў у жарт.

— Ат, пеўнікі чубатку не падзялілі.

Люся, аднак, адчула, што над Вадзімам і Рыгорам навісла хмара, бо тыя двое ніяк не дапусцяць, каб іх білі чужакі.

— Пойдзем, хутчэй! — яна, прапусціўшы хлопцаў наперад і як бы засланяючы ад раптоўнага нападу з тылу, падпіхнула іх да выхаду. На дварэ шапнула, каб не высоўваліся на вуліцу, бо будзе пагоня. Услед за Люсяй яны шуснулі за вугал будыніны, а адтуль праз лаз у агароджы — на глухую цёмную вулку без аніводнага ліхтара на слупах.

— Яны недзе тут, далёка не адбегліся, — з-за агароджы чуліся раз'ятраныя галасы. — Дзеўку мы ведаем, яна ў дзевятым у вячэрняй вучыцца. Люська Міронава. А вось тыя два хахалі — невядома скуль. Можа, мінчукі. То мы да мінчукоў асаблівы шчот маем. Стась, дзе твой ліхтарык? Пасвяці вунь за тымі кустамі бэзу…

— Стася я ведаю, — калі трохі адбегліся, задыхана сказала Люся. — Гэта бандзюк з усіх бандзюкоў. Яму скалечыць каго, што раз плюнуць. Тры месяцы таму з турмы прыйшоў. Матку сваю давёў да таго, што пайшла і ўтапілася ў палонцы.

— Носіць жа зямля такіх вырадкаў, — Вадзім сплюнуў сабе пад ногі.

У Жорнаўку яны ішлі паўз роў, дзе немцы ў вайну расстрэльвалі і закопвалі сотні яўрэяў. Стала неяк вусцішна. Тым больш неба было зацягнута шчыльнай посцілкай хмар. Ледзьве праглядвалася нешырокая, паўз агароды, сцяжына, якая зараз, з лёгкім марозікам, пакрылася нятоўстай скарынкай лёду.

— Пад ногі глядзіце, — папярэдзіла Люся. — А то і грымнуцца можна. Тут рэдка хто ходзіць, таму і не вытаптана.

Вадзіму прыгадалася, як сюдой ішлі яны з маці, якая ў царкве заказвала абедню па забітым бацьку. Як даўно гэта было, а помніцца ўсё да драбніц. Пасля ноччу снілася яму жанчына ў белым, якая ўсё хадзіла ля ямы, кагось клікала. Як сёння нібыта сказала тады яго маці: «Перад памяццю людзей гэтых ніколі, колькі б ні жыў, не хлусі, будзь чэсным». Але ж тады яна не сказала, як выжываць чэснаму ў гэтым суровым свеце. Мама, мілая мама. Ведала б ты, колькі тваім дзецям давялося зведаць за гэтыя гады.

Ён вырашыў заўтра схадзіць на могілкі, адшукаць заснежаныя горбікі з самаробнымі драўлянымі крыжамі, пакланіцца і пакаяцца, што за тры гады ніводнага разу не паказаў тут і носа.

— Во, хутка я буду дома, — завярнуўшы ў завулак, дзе збоч, у канцы агарода, была сажалка, якая не высыхала нават у сухмень, сказала Люся. — Мама, пэўна, спіць, ды і брат з сястрой. Гэта адна я такая няўседлівая.

Спыніліся насупраць Люсінай хаты і сцішылі гаману. Вёска, якая прывыкла рана ўставаць і рана класціся, ужо спала. Насуперак Люсіным меркаванням, у іхнім агародзе, з вуліцы было нават бачна, высвечваўся вузкі чатырохвугольнік акна, пад якім раскінула ўшыркі рукі-галіны якоесь дрэва — яблыня ці груша.

— Мама, відаць, чакае, — Люся глянула на хлопцаў і нечакана прапанавала: — А давайце разам да нас. Мама чай паставіць. І цукеркі нават ёсць, — яна скасавурылася на Вадзіма, хіхікнула. — Ледзьве маму пераканала, што не купляла ў Мінску тую каробку. Калі толькі сказала, што, відаць, ты паклаў, тады супакоілася. То як, хлопчыкі? І мне будзе апраўданне.

— Не, няёмка неяк. Хіба іншым разам. Коля з Лількай, пэўна, чакаюць на вячэру. Ды і табе рана заўтра, на сваю будоўлю. У цябе ж вельмі цяжкая праца. Хіба што лягчэйшае не магла знайсці? — пашкадаваў дзяўчыну Вадзім.

— Толькі па блату. Брат на электрастанцыі шафёрам, то, гаварыў, паспрабуе закінуць слова перад дырэктарам. — Засмяялася: — Можа, хоць коміны чысціць.

— Смех смехам, а дзяўчыне на будоўлі, тым больш зімой, на скразняках і ветры, цяжка. Я праўду кажу, Рыгор? — Вадзім таўхануў у бок сябра. — Нешта ты сёння змэнчаны. Відаць, упадабаў тую кралю, з-за якой ледзьве не пабіліся. Хто хоць яна, не сказала?

— Як жа, сказала. У райкаме інструктарам. Партыйную школу скончыла, вось і прыслалі нядаўна.

— Ого-го, высока сягаеш, — засмяяўся Вадзім. — Вось праз яе і за Міронаву закінь слова.

— Я ўжо неяк сама буду караскацца ўверх. Мне толькі б школу скончыць, а там у тэхнікум, а то і ў інстытут паспрабую паступіць, — з гэтымі словамі Люся падала абодвум руку, пабегла, бразнуўшы веснічкамі, на ганак.

***Працяг будзе.***



## Алег САЛТУК

* * *

Калі заплакаць мусіш ад любві
Да ўсіх і да ўсяго, што ёсць і будзе,
У сведкі ты нікога не заві,
А лепш адзін пабудзь у гэтым цудзе.

Вартуй зямлі нязгаснае святло,
Лаві святло нябёсаў васільковых
І не шкадуй, што некалі было
Распачынаць жыццё сваё нанова.

Каб, як у тыя дзіўныя гады,
На лесуновых сцежках заблудзіцца
І на зары папіць жывой вады,
Упаўшы на калені прад крыніцай.

Пабегчы босым удалечыню,
Каб як хутчэй да роднага вярнуцца,
Сустрэць усход з ружовага агню
І ў вечар светляковы акунуцца.

Прачнуцца ранкам ад сваёй любві
І нешта неспатольнае спатоліць…
Ты ўсіх на гэта свята пазаві,
Якое не канчаецца ніколі.

---

***Салтук Алег Уладзіміравіч*** *нарадзіўся 25 жніўня 1946 года ў вёсцы Рыжэнькі Шумілінскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Магілёўскага педагагічнага інстытута (1967). Служыў у Савецкай Арміі. Працаваў адказным сакратаром ушацкай раённай газеты «Патрыёт», уласным карэспандэнтам абласной газеты «Віцебскі рабочы», сакратаром Віцебскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў, рэдактарам аддзела па пытаннях культуры «Віцебскага рабочага».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Пачатак дня» (1974), «Працяг» (1977), «Святло зямлі» (1982), «На далонях жыцця» (1988), «Трывога лёсу» (1996), «Не разлюбі...» (2003), «На вейцы веку» (2006) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Караткевіча (2000) і прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (2007).*

## МАЙСТРА

Узяў ён золата ў зары,
Калёр эмалі ў небе сінім.
Дажджы прыціхлі і вятры —
Крыж робіць майстра Еўфрасінні.

Што для яго спыніўся час,
Цяпер было яму ўсё роўна:
Тварыў — няпросты быў заказ,
А сказ для схімніцы-князёўны.

Ці толькі ж для яе адной,
Знайсці спатолю слова змогшай?..
Закончыў, цвёрдаю рукой
Імя сваё прыставіў:
БОГША.

З яе душы, з яго рукі
Крыж стаў святым і запаветным.
І будзе ззяць нам праз вякі,
Як зорка ў цемры апраметнай.

## У ВЯНОК АЛЯКСЕЮ ПЫСІНУ

Аніколі больш цябе не ўбачу:
Праз віхуры ўздыбленых франтоў
Ты прайшоў, ціхмяны і гарачы,
І ў сваю дывізію пайшоў.

Сполахам нязведаных пажараў
У збалелым сэрцы не шугаць.
І не зорка — цэлыя Стажары
Над тваёй магілаю гараць.

Жыць і паміраць даўно не нова,
Ды, каб мне крыху лягчэй было,
Я заўжды твае чытаю словы,
Ад якіх струменіцца святло.

Тваё жыта вечнасцю атуліць,
Бо спрадвеку ісціна ў сяўбе.
І сосонка голасам матулі
Кожнага пакліча да сябе.

А зялёнай, летняю парою
З пасівелай, нібы дым, травы
Іван-чай кіўне мне галавою,
Што нядаўна стрэў цябе жывым.

## ГАЛАСЫ

Уздыхнулі вятры на двары,
Застагнаў філін так звар’яцела,
Нібы ў тым заазёрным бары
Ён душу сваю выпусціў з цела.

І зляцела яна ў верасы
Ці лятае нячутна над полем?..
Разбрыліся ўсе галасы,
Пагубляліся ў наваколлі.

Па валошкавай, роснай мяжы
Перапёлка пабегла дадому,
Закрычала камусьці:
— Жаць-жыць!
А каму, што, калі, — невядома.

## КАПЯЖЫ

*Станіславу Селіванаву*

Дыхнула чаканай адлігай —
Дасталі зіму капяжы.
Усюды, дзе бачна, паціху
Танеюць аснежжа глыжы.

Злятаюцца скнарныя галкі,
Заплакаў бярозавы пень.
І цёплую ў снезе праталку
Паставіў, як коску, прамень.

Да кропкі далекавата —
Зімы не закончаны сказ…
Патрэбна збірацца да хаты,
Якая скалела без нас.

## ПРЫСВЯТАК

Ад гракоў да Саракоў
Як падаць адной рукой.
А наступяць Саракі, —
Зладзяць сохі мужыкі…
Сакавік мой, сакавік,
Да зямлі прамень прынік.
А наўкола — сінь і даль,
Сок з бяроз, нібы крышталь,
Заскакаў на латаку —
Усім хопіць па глытку.

І, калі яго глытнеш,
Сто гадоў ты пражывеш.
Раскрычаліся гракі —
Цераз тыдзень — Саракі!

## САМАІРАНІЧНАЕ

*Шчырэй з касой, Алег Салтук, —*
*далёкі цёзка хана...*

Р. Барадулін

Залатой арды падковаў стук
За вякамі сціх, прапала рэха.
Ханаў вой, а можа, хан Сал-тук
Жыў калісь у святасці і грэху.

Асабіста я не з ваяроў
І не агрэсіўны па натуры,
Хоць і павандроўнічаць гатоў,
І крыху смугі ўвабрала скура.

Толькі, як мангол сюды дапяў,
У якія леты або зімы
Лёс раскосавокага паслаў,
Каб прыстаць да беларускі ў прымы?

Не адкажуць стылыя гады,
Зорныя не высвятляць арбіты.
Толькі колер воч маіх заўжды
Васількамі застанецца ў жыце.

Збудаваў я свой маленькі дом,
Дзеці ўжо сваё жытло будуюць…
Я прыйшоў да вас усіх з дабром —
Адчыніце — хай пераначуе!



Анатоль АНДРЭЕЎ

# У КОЖНАГА СВАЯ ВАЙНА

*Апавяданне*

— Вайна была не такая, вайна была зусім іншая! — капрызліва даводзіла пышная Людміла Дарафееўна, дама прадстаўнічая, з манерамі, цнатліва папраўляючы фальбоны сукенкі ў кветачкі.

— Дазвольце з вамі не пагадзіцца, — суха кашлянуўшы ў кулачок, супраціўляўся хударлявы Арфей Іванавіч. Калі ён кашляў, на ягоным пінжаку са стрыманай годнасцю пазвоньвалі густа пасаджаныя ў некалькі радоў медалі, якія сціпла саступалі месца ў першай — верхняй — шарэнзе выразнаму ордэну (другі ордэн гарачай зоркай адзінока распластаўся справа).

9 мая 1975 года, у Дзень 30-годдзя Вялікай Перамогі зухаваты Арфей Іванавіч зазірнуў да Людмілы Дарафееўны з букетам цюльпанаў і з яшчэ не зусім для яго самога вызначаным, аднак жа даволі пэўным намерам. Свята надавала ўпэўненасці былому капітану-артылерысту, а цяпер удаўцу, выкладчыку музычнага вучылішча па класе кларнета і флейты.

Дзеялася тое даўно, у Таджыкістане, у Ленінабадзе, горадзе Леніна на Сырдар'і, — старадаўнім горадзе, які, паводле падання, некалі заваёўваў сам Аляксандр Македонскі. Герояў апавядання няма ўжо сярод жывых, але я, любімы вучань Арфея Іванавіча, які выконваў самыя адказныя партыі пад яго кіраўніцтвам, выразна памятаю воблік маіх нявыдуманых персанажаў, іх шчырыя інтанацыі, заліты сонцам сярэднеазіяцкі сухі май і сваё першае цяжкае недаўменне, што ўскладніла маё да таго выпадку бесклапотнае маладое жыццё.

Кветкі Людміла Дарафееўна паставіла ў вазу, усталяваўшы яе ў цэнтры авальнага стала; пры гэтым яна мімаходзь тыцнула далікатным пальцам у вялікую кнопку і выключыла чорна-белы тэлевізар «Гарызонт», па якім гучалі бадзёрыя маршы і паказвалі дакументальныя кадры ваенных часоў. Савецкія войскі перамагалі на ўсіх франтах, і збіраліся рабіць гэта ўвесь дзень — і раптам настала, здавалася б, мірная цішыня. Якраз у гэты момант гаспадыня

---

*__Андрэеў Анатоль Мікалаевіч__ нарадзіўся 28 красавіка 1958 года ў горадзе Севераўральску Свярдлоўскай вобласці (Расія). Скончыў БДУ імя У. І. Леніна. Доктар філалагічных навук, прафесар БДУ. Аўтар каля ста пяцідзесяці навуковых публікацый (даследаванняў, артыкулаў, нарысаў). Надрукаваў раманы «Лёгкі мужчынскі раман» (2001), «Маргінал» (2004), «Гульня ў гульню» (2006) і інш.*

і прамовіла сваю простую фразу пра «іншую вайну», якая непрыемна зачапіла Арфея Іванавіча. Ці не таму, што Людміла Дарафееўна паўтарыла яе, здзекліва не памяняўшы ніводнага слова.

— Вы, мабыць, гарэлку п’яце? Выбачайце, але я не трымаю ў доме гарэлкі, — паведаміла гаспадыня.

— Дзякуй, я не п’ю гарэлкі, гм-гм, з некаторага часу. Я прыхапіў добрае віно, пакаштуем яго, калі вы не супраць.

На этыкетцы мацаванага марачнага віна «Ганчы» медалёў было больш, чым у сціплага, аднак досыць рашуча настроенага госця.

Арфей Іванавіч адкаркаваў бутэльку, разліў віно па бакалах — амаль да беражкоў. Людміла Дарафееўна выхавана не падала выгляду, але неяк надзіва тонка, ці не з дапамогай карункаў і манжэтаў, дала зразумець, што яна асуджае такія шырокія, практычна варварскія жэсты.

— За Перамогу, за Вялікую Перамогу! — з цяжкасцю ўстаючы, сказаў Арфей Іванавіч, ігнаруючы нюансы яе паводзін, ад якіх у любы іншы час ён меў ні з чым не параўнанае задавальненне, і выдудліў віно да канца вялікімі гучнымі глыткамі.

Людміла Дарафееўна не дакранулася да бакала, нават не прыгубіла.

— Дык якая ж была вайна? — ветліва пацікавіўся паранены ў нагу і кантужаны капітан, які дайшоў да Берліна, але потым апынуўся ў Сярэдняй Азіі толькі за тое, што неяк аднойчы выказаў сваю думку пра вайну і пра знакамітага генерала (капітан называў яго людаедам і фашыстам) у коле сваіх захмялелых, але вельмі пільных аднапалчан. Акрамя таго яму прыпомнілі, што ён вучыўся іграць на кларнеце ў спецыяліста, які скончыў Венскую кансерваторыю. Спецыяліста запраторылі на Калыму, а яго любімага вучня, Арфея, карэннага мінчаніна, туды, дзе цяплей, у Сярэднюю Азію.

— Я ўсю вайну пражыла ў горадзе Белая Царква, што на Украіне, — пачала Людміла Дарафееўна з выразным намерам выгаварыцца і пераканаць невядома ў чым невядома чаму ўпартага госця.

— Вы былі пад акупацыяй?

— Я б так не сказала.

— Але ж немцы захапілі горад?

— Яны ўвайшлі туды і без нахабства размясціліся па дамах мірных жыхароў, нікога асабліва не турбуючы.

— Так-так, — прамовіў капітан і прайшоўся па пакоі, злёгку накульгваючы на адну нагу. Пры гэтым ягоныя медалі зазвінелі з выклікам і нават як бы саркастычна. — І што ж рабілі немцы ў горадзе Белая Царква?

— А нічога благога яны не рабілі.

— Яны нікога не забівалі?

— Ды што вы! — здзівілася Людміла Дарафееўна. — Яны нам дапамагалі.

Капітан ваяўніча прайшоўся па пакоі. Медалі бразгалі ўжо з непрыхаваным гневам і раздражненнем.

— Ды не мільгайце вы перад вачыма, далібог, лепей сядзьце, а я вам зараз усё распавяду.

Арфей Іванавіч прысеў на ўскраек крэсла, нібы выхаваны ёлуп. Гаспадыня наліла яму віна ў бакал — роўна палову, як тое заведзена ў прыстойных дамах і кампаніях. Ён не варухнуўся.

Людміла Дарафееўна адпіла маленькі глыток і пачала расказваць:

— У доме майго бацькі, рэпрэсіраванага бальшавікамі за тое, што ён быў святаром і сынам святара, — доме вялікім, з цудоўным участкам зямлі, — пасяліўся нямецкі афіцэр з дзеншчыкам.

Арфей Іванавіч змрочна ўзіраўся ў свой бакал.

— Яны не зачапілі іконы на покуце. І мне ласкава прапанавалі асобны пакой, лепшы з усіх, заўважце.

— Спачатку вераломна напалі на нашу краіну, потым уламіліся ў ваш дом, а потым вам прапанавалі пакой у вашым жа доме? Адразу бачна: культурныя людзі!

— Не будзьце такім наіўным і занудлівым. Мужчыны заўсёды ваююць, а ваенным трэба дзесьці жыць. Так было заўсёды, ва ўсе часы. Але афіцэр з дзеншчыкам паводзілі сябе ветліва, не дазвалялі сабе ніякага хамства, заўсёды толькі «біттэ» і «данке шон». У обер-лейтэнанта былі да бляску наваксаваныя боты, выдатны адэкалон, гладка паголены, дагледжаны твар, блакітныя вочы. Як у вас. Ён увогуле нечым вас нагадваў. Вы ведаеце, ён міжволі звяртаў на сябе ўвагу. Аднойчы, калі я слухала зводку Саўінфармбюро — так, так, я легкадумна парушала суровую забарону, — у пакой да мяне пастукаўся афіцэр, гер обер-лейтэнант, звалі яго, калі не памыляюся…

— Ганс. Або Фрыц. Па мне дык усё адно.

— Не свавольце, Арфей Іванавіч, вам гэта не пасуе. Успомніла — яго звалі Рыхард.

— А дзеля чаго ён пастукаўся ў ваш пакой?

— Што за пытанне!? Спадзяюся, гэта не пошлы намёк? Я ўжо не памятаю, дзеля чаго. Дык вось, са страху я выключыла радыёпрыёмнік, але пакінула яго на маскоўскай хвалі. Ён увайшоў, уважліва паглядзеў на шкалу — і зрабіў выгляд, нібы не заўважыў, што чорная стрэлачка па-здрадніцку застыла на забароненай кропцы. Ён, вядома, пра ўсё здагадаўся. Увогуле, ён паводзіў сябе вельмі прыстойна, хаця, як мне здавалася, да мяне быў неабыякавы.

— За перамогу над фашысцкай Германіяй, нашым злейшым ворагам! — прамовіў Арфей Іванавіч і залпам выпіў налітае яму віно. Людміла Дарафееўна зноў праігнаравала яго тост.

— А яго дзяншчык, уявіце сабе, увесь час насвістваў арыі з опер. Ён ведаў ці не ўвесь сусветны рэпертуар і быў у захапленні ад Чайкоўскага. Акрамя таго, ён надзіва добра вырошчваў кветкі. Такога кветніка я ніколі яшчэ не бачыла! Божа мой! Якія ён вырасціў ружы! Проста неверагодна!

Арфей Іванавіч яшчэ раз да краёў напоўніў свой бакал.

— Калі ж немцы былі вымушаны адступіць, то дзяншчык акуратна сабраў рэчы, а потым яшчэ цэлы дзень, насвістваючы без адзінай фальшывай ноткі мелодыі з опер і жмурачыся ад сонца, садзіў моркву ў гародзе — пад лінеечку, строга ў радочкі. Забіваў калочкі, нацягваў вяровачку — і толькі потым сеяў. «Навошта вы гэта робіце? — спытала я, вядома, па-нямецку (мы ж вучылі ў школе нямецкую мову). — Вы ж адступа… выбачайце, адыходзіце. Вы ж не ўбачыце вынікаў сваёй працы». А ён перастаў свістаць, зірнуў на мяне і адказаў: «Але ж вы застаецеся тут, фрау Людміла. Тут будуць жыць добрыя людзі. Я хачу, каб пасля нас застаўся добры напамінак». Уяўляеце? А потым прыйшлі салдаты Чырвонай Арміі ў брудных ботах і вытапталі ўвесь той пасеў морквы. Не, не ўвесь, тое-сёе вырасла, і морква аказалася цудоўнай, проста цудоўнай. А па тэлевізары і ў кіно немцаў выстаўляюць варварамі, дурнямі і садзістамі. Гэта мана, і больш нічога. Мяне такое абурае. Я проста не магу глядзець ваенныя фільмы.

— А я немцаў забіваў, — у задуменні прамовіў Арфей Іванавіч. — У аднаго былі наваксаваныя боты, а я ўзяў ды і забіў яго.

— За што? — усклікнула Людміла Дарафееўна, з жахам закрываючы рукамі свой свежы твар.

— За тое, што ён хацеў забіць мяне. Прастрэліў мне нагу са свайго буйнакалібернага кулямёта, і ў мой брудны бот набегла ці не з літр крыві. За малым мог бы і Богу душу аддаць…

— А за што ён хацеў забіць вас?

— Вы не паверыце, Людміла Дарафееўна, але гэты фашыст паклаў амаль што палову нашага батальёна. Нельга нам было атакаваць з той пагібельнай пазіцыі, ніяк нельга... Паляна прастрэльвалася наскрозь. А я ж казаў пра гэта камбату Леанідаву, царства яму нябеснае.

— А ён, што ж, не паслухаўся вас?

— Загады на вайне абмяркоўваць нельга, Людміла Дарафееўна. Іх толькі выконваюць. А дурныя загады — тым больш. Любой цаной. Мае лепшыя сябры ляжаць пад Белай Царквою. Я забыўся спытацца ў таго гада, навошта ён забіваў нашых салдат. Мне было не да таго. Я забіў яго, усадзіў у яго тры кулі, усе, што засталіся ў абойме, а потым яшчэ і штык-нож уваткнуў, са скрыгатам. Напэўна, зачапіў за рэбры, хаця мне здавалася, што ў яго замест сэрца — камень, і я — сталлю па камені. А потым я сеў і заплакаў. Мне хлопцаў было шкада. Лёшку… Мацвея… Віцьку… Потым мяне падабрала санітарка, слаўная дзяўчына. Аляксандра. Праз два дні і яе забілі… Лёшка яе кахаў… Я не далячыўся ў шпіталі, уцёк на фронт. Мне хацелася забіваць гэтых нелюдзяў з камянямі замест сэрцаў, забіваць яшчэ і яшчэ. У мяне была іншая вайна, Людміла Дарафееўна. Там не садзілі моркаўку і не насвіствалі арый. Прабачце.

— Вы не падманваеце мяне? Вы на самай справе забілі чалавека?

— Не чалавека, а фашыста.

— Фашысты таксама людзі. Яны былі культурнымі людзьмі, яны не маглі забіваць проста так. Павіннна ж быць прычына. Чаму ніхто не гаворыць аб прычыне?

— Яны забівалі за ідэю, проста таму, што лічылі сябе дужэйшымі. І разумнейшымі. І больш таленавітымі. Ікон не чапалі, а людзей знішчалі. Яны лічылі мяне «матэрыялам другога гатунку». Вось таму я і ненавіджу іх.

— Нянавісць разбурае чалавека.

— Нянавісць да фашыстаў умацоўвала мой дух. А яшчэ я ненавіджу фашыстаў за тое, што яны вымушалі мяне забіваць і ненавідзець. Яны і мяне зрабілі крыху фашыстам…

— І бальшавікі не лепшыя, скажу я вам. Яны таксама перакройвалі свет «дзеля ідэі», і для іх мой бацька быў «матэрыялам другога гатунку». Ды і вас яны не пашкадавалі…

— Не блытайце Божы дар з яечняй. Адна справа — забіваць дзеля любові да людзей, і зусім іншая — дзеля любові да сябе, з пагарды да іншых. Бальшавікі былі ўзброены высокімі намерамі. Іх жорсткасць — гэта жорсткасць рамантыкаў, а жорсткасць немцаў — гэта жорсткасць неразумных цынікаў.

— Вось, вось — узброены. Вечна мы нечым узбройваемся, і ўсё ваюем ды ваюем. Не людзі, а нейкая байцоўская парода. Вось і вы туды ж. Які вы ўпарты і… прынцыповы. А здаваліся мне такім мяккім чалавекам. Пакажыце мне рану наназе.

— Вы думаеце, што я прыкідваюся кульгавым?

— Не кажыце глупстваў. Пакажыце нагу. Так, так, закасайце штаніну. Які жах!

Гледзячы на даўні шрам, які груба зарубцаваўся чырвона-шызым зігзагам, што нагадваў злавесны разлёт нямецкай літары Z, можна было лёгка ўявіць сабе, на якія шматкі была калісьці раздзёрта нага маладога хлопца.

— А за што вам далі ордэн, вось гэты? — яна акуратна дакранулася пальцам з адпаліраваным пазногцем да лакіраванай эмалі ордэна Чырвонага Сцяга.

— Якраз за тое, што я забіў фашыста, які не здолеў забіць мяне.

— А гэты? — пальчык дакрануўся да сарамліва ірдзелага ордэна Чырвонай Зоркі.

— За тое, што ратаваў мірных жыхароў. Немцаў…

Яны памаўчалі. Было чутно, як змучана цікае насценны гадзіннік, што стаміўся падганяць час, які пакуль што быў не ў сілах хоць што-небудзь змяніць у людзях.

— Якую оперу мы будзем ставіць у наступны раз? — запыталася Людміла Дарафееўна, злавіўшы паўзу ў асіплым бомканні хатніх курантаў.

У музычным вучылішчы была традыцыя: сіламі навучэнцаў і выкладчыкаў адзін раз за сезон ставілася новая опера. Тут сабралася многа сасланых таленавітых музыкантаў, якія шчодра дзяліліся сакрэтамі майстэрства з вучнямі. Муж Людмілы Дарафееўны, арганіст з Рыгі, які памёр пяць гадоў таму, таксама апынуўся ў Ленінабадзе не па сваёй волі. Менавіта ён рабіў аранжыроўкі для аркестра, а нязменным дырыжорам быў Арфей Іванавіч. Цяпер ён узяў на сябе яшчэ і місію аранжыроўшчыка. Ладзіць оперныя пастаноўкі год ад году было ўсё цяжэй: хто паміраў, хто перасяляўся ў Маскву ці Ленінград.

— Думаю, што-небудзь з Вагнера. Можа быць, «Трыстана і Ізольду». Нямецкая опера намнога больш глыбокая і моцная, чым італьянская, згадзіцеся. Нават руская ёй саступае.

— Несумненна.

— Вядома, мне цяжка ўзняцца ў аранжыроўцы на ўзровень незабыўнага Яніса Тэадоравіча…

— Не, не, вашы аранжыроўкі ніколькі не горшыя. Яны каларытныя і надзвычай своеасаблівыя. Захоўваюць і перадаюць дух арыгінала.

— Вы так лічыце?

— Так усе лічаць. Дзякуй за кветкі.

— Калі вы намякаеце на тое, што пара завяршаць мой зацягнены візіт, то, прабачце, я не ўсё яшчэ сказаў. А я не заўжды бываю такі смелы, адважны і гаваркі, як сёння.

— Ну, тады кажыце пра тое, што яшчэ не сказалі.

Арфей Іванавіч варухнуўся ў крэсле, і медалі збянтэжана зашапацелі.

— Я хацеў бы мець гонар… — тут Арфей Іванавіч суха кашлянуў у кулачок. — Ці бачыце… Эх, ды што ўжо тут цягнуць: ці не згадзіліся б вы стаць маёй супругай, Людміла Дарафееўна?

Гадзіннік збянтэжыўся і, здаецца, забыўся адлічыць два-тры належныя такты. Навісла паўза.

— Ну, вядома ж, я згодна быць вашай жонкай, — сказала Людміла Дарафееўна, міла перабіраючы фальбоны сукенкі. Нібы спрактыкаваны дырыжор, яна выціснула з паўзы максімум, і аркестр — яе голас — з кранальна пры-

глушаным тэмбрам, прагучаў у патрэбным месцы, не раней і не пазней. Партытура дыялога ажывілася. Паўза толькі падкрэсліла важкасць яе наступных слоў, што прагучалі для Арфея Іванавіча нібы гром з яснага неба. — Для мяне гэта вялікі гонар. Па-мойму, за гэта варта выпіць.

Арфей Іванавіч разгублена зірнуў на пустую бутэльку, што стаяла на стале і памкнуўся ўстаць. Жаданне Людмілы Дарафееўны для яго ўжо даўно было законам.

— Не, не, сядзі, Арфей Іванавіч, табе нельга, трэба берагчы нагу. У мяне ёсць рыжскі бальзам. Ён крапчэйшы, чым гарэлка. Падыдзе?

Пустая бутэлька была прыбрана са стала (пры гэтым Людміла Дарафееўна ласкавым і плаўным дотыкам далоні кранулася свежых цюльпанаў, якія з выпраўкай дварцовай варты выцягнулі свае палымяныя бутоны на сакавітых пругкіх сцяблінах). Неўзабаве замест бакалаў на стале з’явіліся старадаўнія кілішкі з масіўнага хрусталю.

— Гэта яшчэ дарэвалюцыйнае шкло. Адзінае, што засталося ад дзеда, калі не лічыць ікон. За што п’ём?

— За цябе, мая дарагая.

Медалі слаба дзынькнулі, прыціснутыя ўнушальнымі грудзьмі Людмілы Дарафееўны, а ордэны заірдзелі. Арфею Іванавічу быў падараваны пацалунак, пра які ён марыў яшчэ там, на фронце, — яшчэ да таго, як забіў фашыста — і толькі зараз ён абдымаў жанчыну, дзеля якой, аказваецца, ваяваў: ён толькі цяпер гэта зразумеў.

У гэты момант дзесьці ў горадзе, што згубіўся ў прасторах жорсткай Азіі, прагрымеў залп салюту ў гонар перамогі над варварамі з Еўропы.

— І за тое, што ты застаўся жывы, мой воін, — сказала Людміла Дарафееўна і выпіла, апярэдзіўшы капітана і кларнетыста.

Вячэрні змрок хутка паглынаў дзённае святло. Па высокім небе, абганяючы адно другое, плаўна слізгалі лёгкія воблакі.

***Пераклад з рускай Міхася Канькі.***



## Ніна МАЕЎСКАЯ

* * *

Цёплы вецер, мяне абдымі.
Разгані недаверу дымы,
Як тады, у дзяцінстве, калі
У пяшчотнай мы згодзе былі,
Калі нёс ты на крылах мяне.
Я ляцела, бы ў казачным сне.
Ці ж цяпер тое здзейсніць мне льга?
Ну, а як жа… А як жа Шагал?..
Ці чароўны твой зведаў парыў,
Ці лятанняў тых сведкаю быў?
Ён праславіў дзівосны той міг
На нятленных палотнах сваіх.
Ты скажы мне, мой вецер, чаму
Не павінна я верыць яму.
Незвычайнае здзейсніць хачу.
Бачу ў снах — я па небе лячу…
Вольны вецер, мяне падтрымай,
Летуценніцы ўпасці не дай!

* * *

Час хуткаплынны натхнёна імкне.
Дзе дарогі мае — маладыя?
Дзён мільгаценне здаецца ўжо мне
Бегам там, дзе пагоркі крутыя.

---

*__Маеўская Ніна Васільеўна__ нарадзілася 4 снежня 1938 года ў горадзе Любань Мінскай вобласці. Скончыла факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1963), Мінскую вышэйшую партыйную школу (1980). Працавала ў газетах і часопісах, у выдавецтве «Юнацтва».*

*Аўтар паэтычных кніг «Падаюць даспелыя ранеты» (2001), «Мая ўлюбёная краіна» (2004), а таксама зборнікаў аповесцей і апавяданняў «Агата» (1970), «Надзеевіч» (1983), «Такая позняя вясна» (1984), «Холад доннай вады» (1989), «Трывожна шумяць ясакары» (1993), «Арніка» (1993) і інш.*

Зноўку сябе падбадзёру — хутчэй,
Каб спакусе якой не паддацца.
Гэты б пагорак асіліць яшчэ,
Як да кручы самой не дабрацца.

Вузкая сцежачка цераз лясок.
Так лацвей… Ах, якія тут спевы!
Мне б прыпыніцца адзін хоць разок,
Спевака таго ўбачыць на дрэве.

Думкай суцішу напорысты крок:
Як, за кім і навошта мне гнацца?
Даў жа нам лёс гэты ціхі куток,
Каб зямным хараством любавацца.

* * *

Вецер дрэвы свавольна разгушкаў.
Шаляноўку маю, нібы ветразь, надзьмуў.
Я — здалося — свабодная птушка.
Рукі ўшыркі — і неба прастор абдыму.

Як за спінай варушацца крылы!
Плачма ўнучка калені мае абвіла,
Нібы дзёрзкі намер мой раскрыла.
Хмарка-одум на сіняе неба ўсплыла.

Дзед, пястушку суцішыўшы міла,
З цеплынёю мяне да сябе прытуліў.
Паслухмяна я крылы злажыла.
Зноў мы — трое — за рукі па парку ішлі.

* * *

Нізенька-нізка спусцілася неба.
Пала на дол птушак чорная зграя.
Восенню я зразумела, як трэба
Жыць на зямлі паміж пеклам і раем.

Вось і галубка самотна прысела,
Марна шукаючы след галубіны.
Сэрца балюча маё зашчымела —
Цяжка заўчасна губляць нам любімых.

Колькі ў жыцці нечаканых загадак!
Можа, не ўсе разгадаць я здалею.
Пройдзены шлях азіраю паглядам,
Здасца, бы слепа ступаю ў завею.

Думак і згадак віхура намовіць,
Як даравать і паверыць зноў шчыра.

Вернасць — ахоўныя крылы любові.
Мудрасць яе — то гаючая мірра.

Ведаць бы гэта раней, ды няможна.
Зноўку мне ў вёсны свае не вярнуцца.
Ціха хаджу па зямлі, асцярожна,
Страх аб нязнанае мне спатыкнуцца.

* * *

Ты ў восень маю з засцярогай ідзі.
Там, як не смуга, — то сляпыя дажджы.
Ты любіш, я ведаю, лета, цяпло,
Якога, як быццам, у нас не было.
Ды золлю ўжо дыхае восень мая,
І гэтак даўно не чутно салаўя.

І тое, напэўна, павінен ты знаць,
Што зоркам на восеньскім небе не ззяць.
Захмараны будзе круты небасхіл.
Нам разам адказваць за нашы грахі.
Там трэба быць чыстым, празрыстым, як шкло.
Я ж вінна ва ўсім, што было й не было.

## ПОЗНІЯ ЯБЛЫКІ

Познія яблыкі
Ў памяці падаюць…
Познія яблыкі
Ад халадоў саладзей.
Познія яблыкі
Вабяць і радуюць,
Нібы здзяйсненне
Маіх запаветных надзей.

Мару, што зноў
Іх сагрэю далонямі.
Водар,
П’янлівы, нібыта віно,
Удыхну.
Восень мне ружамі пахне,
Півонямі!
Голаў закружыць мне сад,
Нагадаўшы вясну.

Познія яблыкі
Ружовашчокія,
Згадкай дзяцінства
Дзівоснае ваша святло.

Толькі, на жаль,
Вее замець за вокнамі.
Мусіць, і вас
Пульхным снегам ужо замяло.

Я і сама
Ў гэты сад запазнілася.
Лета маё праляцела,
Нібыта страла.
Ах, каб жа гэта
Раней мне прыснілася,
Пэўна б — замерзнуць пад снегам
Я вам не дала.

* * *

Задзьмула… І дол пасівеў навакол.
А потым занудлівы ўзвіхрыўся вецер.
Завыў ён тужліва й зазыўна ваўком.
І белае з чорным змяшалася ў свеце.

Тады лістапад хмурна ў снежань зірнуў,
Знямогла пасля па клюгах усхліпваў.
Урэшце на лісці пажухлым заснуў.
Снег выпаў якраз на святога Піліпа.

* * *

Жыць на свеце было б так цудоўна,
Каб вось тут во не дзіўнае штосьці…
Камячок сумятлівае плоці.
З ім, бывае, ніякага зладу.
Мо было б мне, нарэшце, усё роўна,
Хто шыкуе тут, хто — у бядоце.
Не здалася б ніколі самоце,
Як рукой адвяла б усе звады.

Толькі сэрца — адно яно вінна
Ва ўсіх горычна-цяжкіх сумненнях,
Невыносна-балюча так мучыць.
І вясёлай не быць мне ніколі.
Азавуцца трывогай навіны,
Тады стыне яно ў задуменні,
Ды з чужымі нягодамі лучыць,
Гараваць з імі моўчкі няволіць.

Каб не гэтае скрушнае сэрца, —
З ім, трапёткім, мне гэтак не проста, —
Я змагла б жыць іначай на свеце,
Па сваёй — не ягонай — ахвоце.

Ды жыццё, як дарога, віецца.
Глянеш — светлая… цёмная постаць.
Аднаму ліхтарамі ўсе свецяць,
Іншы ў поцемках — скрусе, самоце…

Маё сэрца за ўсім пільна сочыць —
Быць спакойным не можа, не хоча.

## У ВАКЗАЛЬНАЙ МІТУСНІ

Як жа пільна скмеціла мой твар ты
У вакзальнай тлумнай мітусні.
— Гэй, красуня, я раскіну карты,
Раскажу табе ўсё без хлусні.
— О, рамала, і сама я знаю,
Што наканавана на вяку,
І таму на картах не гадаю.
— Дай, царэўна, гляну на руку.
— Ай, дзівачка, што ты там убачыш?
Я сама абрала гэткі лёс,
І яго гаданнем не зыначыш,
І не змыеш ручаямі слёз.
Ды жыву я пры малых дарогах
І, лічы, пры дробязных грашах.
Клопатаў затое маю многа,
Ды скавана скрухаю душа.
І не трэба, кінь ты прыставанні…
Што ты — не шкадую я рублі.
— Дык скажу табе я на расстанне:
Сохнеш па бубновым каралі!
— Ах, варожка, праўда твае словы.
Больш скажу: як распавіўся лес,
Мой кароль, як кажаш ты, бубновы,
Быў займеў інакшы інтарэс…
— Так, да гэтае чырвеннай дамы,
Але бачу нейкі тут падман…
— Чытачы так любяць меладрамы,
Хоць пішы аповесць ці раман…
На душы, павер мне, не завея,
На зласесных я гару кастрах.
І сама ўжо добра разумею:
Не ўтрымацца на скразных вятрах.
І не знаю, дзе знайсці падмогу, —
Гэтак жыць не можна дзень пры дні.
Нагадай мне дальнюю дарогу
І надзеі дрогкія агні.
Прадкажы, галуба, лепш удачу
І спагады крыллем ахіні,
Ты паслана небам — не іначай —
У вакзальнай гэтай мітусні.

А жыцця адвечную выснову
Я, у рэшце рэшт, яшчэ знайду.
І скажу: бывай, кароль бубновы,
Не чакай мяне і не крыўдуй.

* * *

Шэры морак начы… Я стаю ля акна.
Затаілася Свіслач пад ратушным звонам.
Хто не спіць там яшчэ? Вунь і лодка відна.
Баязлівай здагадкаю — човен Харона?
Па начах, бы крадком, возіць ён у нябыт,
А ці ў райскія шаты, дзе вечнасць без скону,
Тых, каго ўжо чакае апошні іспыт,
А затым — можа, пекла ці рай пахвалёны.
У тумане густым ліхтары ледзь мігцяць,
Прывід-лодка плыве… І гадаць недарэчна.
Хто там — праведнік, грэшнік — не дадзена знаць.
Ды зямныя выгнаннікі ўсе мы — бясспрэчна.

**Сяргей ПЯСЕЦКІ**

# ПЯТЫ ЭТАП

*Раман**

## ДЗЁННІК РАМАНА ЗАБАВЫ

*Менск, 7 кастрычніка 1922 г.*

Другі дзень я ў Брагіных. Дакараю сябе, што дарэмна тут сяджу, але мне неахвота вырушваць у зваротны шлях. А ўсё — Лізка… Пры ёй я як п'яны — твар б'е на плямы. Хочацца, калі гляджу на яе, скрыгатаць зубамі… схапіць яе на рукі, лашчыць, ціскаць, цалаваць… Часта ў яе прысутнасці не магу сабрацца з думкамі і бываю такім няўважлівым, што гэта насцярожвае іншых.

Заўчора, прыехаўшы ў Менск, падаўся з вакзала пехатою да кватэры Брагіных. Пайшоў галоўнымі вуліцамі і праз сквер «Каляровы бульвар». Крочыў цэнтральнай алеяй, што перасякала сквер наўскос. Раптам на выхадах са сквера заўважыў нейкі незвычайны рух. Калі наблізіўся да аднаго з выйсцяў, убачыў ланцуг чырвонаармейцаў і чэкістаў, якія атачаў сквер, правяраючы дакументы. Наўзбоч пагрозліва вуркатаў грузавы аўтамабіль, гатовы прымаць ахвяры… Была гэта чарговая аблава ЧК. У куце сквера тоўпіўся дзесятак арыштаваных людзей, аточаных салдатамі са зброяй.

Я наблізіўся да выхаду і нядбайна ды абыякава паказаў — як прыкмеціў раней у вайскоўцаў і ўпэўненых у сабе людзей — *«отпускной билет»*. Чэкіст зірнуў у пасведчанне і сказаў:

— Калі ласка, таварыш…

Я пакрочыў далей. Заўважыў, што «буйную рыбу» цяжка падлавіць на благіх пасведчаннях, хіба што бракароба. Хутчэй будуць благія або недасканалыя дакументы ў лаяльнага грамадзяніна, чым у шпіёна, аферыста ці прафесійнага злачынцы.

У Брагіных я заспеў Озімава, сакратара губвыканкама. Зосі ў хаце не было. Озімаў заляцаўся да Лізкі, седзячы за сталом каля яе. Я сеў насупраць Брагіна. Неўзабаве мы пачалі гуляць у прэферанс. Калі прыйшла Зося, прывітаў яе з удаванай радасцю. Заўважыў, што Лізка здзіўлена зірнула на мяне.

У прэферанс мы гулялі ўчатырох: Озімаў, Кобзаў, Брагін і я. Ліза і Зося назіралі за гульнёй. Жонка Брагіна, Марыля Іванаўна, нешта шыла пры малым століку. Я быў узбуджаны прысутнасцю Лізкі і знуджаны гульнёй у карты, якую не любіў, таму рабіў такія памылкі, што ўсе звярталі на гэта ўвагу. Для мяне пройгрыш анічога не значыў, бо гулялі на драбніцу. Некалькі разоў купляў карты «ўцёмную» і часта пападаўся, але меў такое шчасце, што больш чым без адной узяткі не заставаўся.

---

* Працяг. Пачатак у № 4, 5, 2010 г.

Тут жа пры маім крэсле сядзела Зося і падказвала мне хады, але я не звяртаў на гэта ўвагі і гуляў па-свойму. Озімаву прыйшла, відаць, добрая карта, бо калі я «ўцёмную» дайшоў да чырвенных сямёрак, ён сказаў са злосцю:

— Упартаму не штука гуляць, але трэба выйграць!

— Выйграю! — адказаў, гледзячы ў вочы Лізкі.

Яна ўсміхнулася да мяне залётна.

— Восем пікі, — сказаў Озімаў урачыста.

— Восем чырва, — у той самы момант адказаў я.

— Пас-с-с! — са злосцю кінуў Озімаў.

Я адкрыў карты і выйграў. Задаволены, весела засмяяўся. Лізка біла ў ладкі. Озімаў пачырванеў ад злосці і фанабэрліва працадзіў:

— Трэба мець паняцце тактыкі гульні! — зірнуў на Лізку, паказваючы пальцам угару і дадаў павучальным тонам: — Гэта так як на вайне!

— Слушна! — адказаў я. — Але трэба таксама ўмець рызыкаваць, бо часам мужнасць больш значыць, чым тактыка. А баязліўцам аніякая тактыка не дапаможа!

Заўважыў, што Лізка з захапленнем глядзіць на мяне, быццам дзівячыся, што я маю адвагу пярэчыць Озімаву. А я заця ўся і вырашыў не даць яму гуляць. І не даў. З гэтай прычыны я некалькі разоў уляцеў, але не вельмі моцна, бо «ўцёмную» гуляў цяпер рэдка.

— О, гэта штосьці іншае! — сказаў, іранічна ўсміхаючыся пад канец гульні Озімаў, калі я, гуляючы звычайнымі пікамі, застаўся ні з чым.

Такое мяне раззлавала. Вырашыў яшчэ раз згуляць яму на нервах. Чакаў толькі выпадку. Неўзабаве заўважыў, што яму прыйшлі добрыя карты, бо зірнуўшы, кінуў іх на стол і запальваючы цыгарэту, сказаў нядбайна:

— Пікі… звычайныя…

— Чырва… звычайная… — выгукнуў я, туруючы ягонаму тону і той самай манерай запаліў цыгарэту.

Лізка зірнула на мяне і закусіла ніжнюю пунсовую губку.

— Сем пікі… — гэтак жа абыякава прамовіў Озімаў, гасячы запалку ў попельніцы.

Гледзячы Лізцы ў вочы, я падумаў: «Калі выйграю, дык споўніцца… напэўна!», і сходу падхапіў:

— Дзевяць пікі!

— Як? — спытаў здзіўлены Озімаў.

— Дзевяць пікі! — паўтарыў я.

— Уцёмную?

— Угум…

Лізка пырснула смехам.

Озімаў сабраў са стала свае карты. Доўга іх вывучаў, кратаючы ў паветры пальцамі правай рукі, і, нарэшце, вымавіў урачыста:

— Дзевяць крэстовых!

— Гуляю! — адразу сказаў я.

— Пас-с-с! — засычэў Озімаў.

Я адкрыў карты… Меў слабую карту — блефаваў. Адкуль прыдбаць яшчэ адну ўзятку? Адкрыў «прыкуп» і ўбачыў, што мне пашанцавала.

Лізка біла ў ладкі і весела смяялася. Озімаў пачырванеў ад злосці, найперш таму, што я не даў яму гуляць (а таксама меў добрыя карты); па-другое таму, што не толькі — як спадзяваўся — я не ўляцеў, але яшчэ гэтак добра выйграў «уцёмную», што значна паправіла маю гульню; па-трэцяе, злавала яго Лізкіна радасць, выяўленая гэтак гучна за мой выйгрыш.

Канчаткова я падняўся з-за стала прайграным, але здаволеным. Зразумеў толькі, што ў Озімаве прыдбаў ворага, які не ўпусціць найменшага выпадку, каб мне нашкодзіць — холадна, разважліва, па ўсіх правілах «тактыкі».

Калі развітваўся з Брагінымі, каб пайсці ў свой пакой да спадарыні Жарскай, Лізка асабліва моцна паціснула мне руку. «Можа, гэта таксама тактыка… жаночая», — падумаў, адказваючы ёй моцным поціскам.

Назаўтра пайшоў да спадарыні Двалінскай. Мела вельмі сумны выгляд.

— Пан неяк змяніўся — сказала, прывітаўшыся са мной.

— З чаго пані зрабіла гэткую выснову?

— Так… Я гэта адчуваю…

Абгаварылі справу яе выезду, пра які распачала захады.

— Не ведаю, што з таго атрымаецца, — казала спадарыня Ядвіга. — Патрабуюць шмат дакументаў, а я нічога не маю. Усё загінула падчас пажару.

Я імкнуўся развесяліць спадарыню Ядвігу; распавядаючы пра жыццё ў Польшчы, памалу падняў ёй настрой.

— Няхай пані не хвалюецца, — сказаў я. — Калі не атрымаецца выехаць легальна, тады правяду пані праз «зялёную мяжу».

— Было б добра, — адказала спадарыня Ядвіга — толькі як вось Андзя?

— Калі прыйдзецца, дык і Андзю перанясём, — сказаў ёй. — Зрэшты, маем на гэта час…

Я катэгарычна забараніў ёй дапамагаць мне, да чаго яна зноўку выказала ахвоту. Сказаў, што ў мяне надзейныя крыніцы і пакуль што нічога не патрабую. Даручыў толькі трымаць сталы кантакт з чэкістам, якому прынёс какаін і якога намерваўся выкарыстаць у будучым як інфарматара. Пакуль што прасіў, каб па-ранейшаму купляла для мяне і камплектавала пэўную карэспандэнцыю, якую забіраў з сабой у Польшчу.

Гаспадар Юзаф дапамог мне скласці дакументы ў пакет. Меў я тры вялікія партрэты: Леніна, Троцкага і Луначарскага. Каб па дарозе яны не згамталіся, накруцілі іх на гладкі кій і ў некалькіх месцах абклеілі паперай.

Беручы па чарзе партрэты, гаспадар Юзаф прамовіў:

— Ленін, Уладзімір Ільіч Ульянаў; ведаю яго: дваранін, белая костка, блакітная кроў… фантаст; мог аднолькава стаць манахам як і рэвалюцыянерам, але занадта прагнуў улады і ўзяўся за палітыку. Бо кожны рэвалюцыянер мае вар'яцкую цягу да славы і панавання. Троцкі — Браншгэйн Лэйбусь — і гэтага ведаю: чалавек з маніяй велічы, з душой гандляра і акулы з чорнай біржы… Луначарскі: і гэтага я ведаю — панічок, бабнік, заблудны эстэт… Усе кар'ерысты! Дзеля ўлады гатовыя горлы перагрызці… Найбольш агіднае, што яны ўтварылі, дык гэта падбухторвалі натоўп супраць учарашніх сваіх таварышаў. Нават супраць сваякоў, можна сказаць — супраць саміх сябе. Яны ліслівілі перад салдатнёй, зразумела, смеючыся ў кулак. Бо нельга захапляцца кансерватыўным, тупым, хцівым, злосным, хітрым расейскім хамам, гатовым поўзаць перад кожным моцным і задушыць кожнага слабейшага? За што можна паважаць салдата, учарашняга селяніна? За тое, што быў апірышчам царызму з-за сваёй цёмнасці? А апошні прыгнятаў кожную вольную думку і, каб гістарычна ацалець, быў проста няздольны да найменшай крытычнасці. Бо рэвалюцыю ў Расеі не хамы рабілі, але эліта, дваранства і інтэлігенцыя, а казакі іх нагайкамі астуджвалі, як мяцежнікаў. Пачынаючы ад дзекабрыстаў, расейская інтэлігенцыя ўсюды і заўсёды змагалася з царызмам дзеля дабра хама, а падбухторванне потым яго супраць той самай інтэлігенцыі магчыма толькі ў Расеі… Бальшавікі баяліся людзей, якія ўмеюць крытычна глядзець на рэчы, таму знішчылі сваю інтэлігенцыю, а потым былі змушаны ліслівіць хаму, з якім ужо зусім не лічыліся як з чалавекам, але як з сілай, пасіўнай, але

небяспечнай. Адгэтуль ліслівасць перад хамамі… Гэта падобна на вілянне хвосцікам пародзістага сабачкі перад вялікім, брудным, смуродным, бяздомным сабакам — між іншым кажучы — страшэнна баязлівым. «Ах, які ты прыгожы, разумны» — істэрычна захапляецца сабачка, танцуючы на дрыготкіх лапках вакол дварняка. «Вуррр…» — гыркае задаволены пысач, спрабуючы падняць заднюю лапу над галавой сабачкі… Цьфу… Крывадушша! Чаму не паставіць пытанне шчыра, праўдзіва, проста, адкрыта, як робяць мужныя людзі, якія ўсведамляюць уласную чалавечую годнасць?..

Палуднаваць я пайшоў да Брагіных. Заўважыў, што Лізка зрабілася да мяне вельмі ветлівая. Шапнула нават пра жаданне мне потым нешта сказаць, але некалі, не цяпер. Цікава, што? Даведаўся: на пачатак наступнага года прыпадае ейны дзень нараджэння. Выдатная нагода зрабіць ёй добры падарунак і прыручыць да сябе. Трэба як-небудзь тактоўна даведацца, што жадала б мець… Не хачу, каб дасталася Озімаву. Калі не мне, дык камусьці іншаму, толькі не яму. Але… не трэба спяшацца, каб не сапсаваць справы… Палкоўнік правільна ахарактарызаваў яе. Легкадумніца.

Я цалкам заваяваў Юльку, найперш дзвюма пліткамі шакаладу, потым прыёмамі брухамоўства і нарэшце тым, што стаўлюся да яе як да таварыша, прычым — дарослага. Напрыклад, калі згатавала для мяне гарбату ў імбрычку, дык запрасіў яе да стала, а выпіўшы гарбаты, запаліў сам і яе пачаставаў цыгарэтай, хоць заўважыў, што не ўмее паліць і толькі пускае дым.

А з брухамоўствам было так. Прачнуўся я раніцою; прыбраўся. У суседнім пакоі Юлька размаўляла з сяброўкай. Я трохі навучыўся брухамовіць калісьці ад выпадковага знаёмага, японца, і з дапамогай гэтага мастацтва не раз строіў жартачкі. Вось я і пачаў гаварыць пад ложак, да ўяўнага чалавека, каб начысціў мне боты — ён мне «адказваў». Заінтрыгаваная Юлька пастукала ў дзверы майго пакоя, і калі ўвайшла, падазрона агледзелася. Была здзіўленая, бо нікога, апрача мяне, у пакоі не было. Прынесла мне мядніцу вады і зноўку абследавала пакой. Зазірнула нават пад ложак.

— З кім вы тут размаўлялі? — спытала нарэшце.

— З д’яблам.

— Няпраўда, д’яблаў няма!

— А ў мяне адзін ёсць.

Прамовіў некалькі сказаў пад ложак, за дзверы, да печы і адусюль адказвалі мне чалавечыя галасы. Юлька была ў захапленні.

— Вось!.. Гэта штука!.. Гэта я разумею!..

Цяпер, калі я даваў ёй нейкія даручэнні, куляй імчалася, каб як найхутчэй выканаць даручанае. Пазней чуў, як Юлька ў сенцах бэкала, верагодна, у бочку, што там стаяла. Імкнулася навучыцца майму штукарству. Але дзе там. Я ж запомніў яе песні, якія голасна спявала ў сваім пакоі, не звяртаючы ўвагі на тое, што я яе чую.

Адна з іх пачынаецца страфой:

*З камсамольцам камсамолка*
*На футбол усё хадзіла…*
*Потым мячык камсамолка*
*Камсамольцу нарадзіла.*

Заўважыў, што Юлька не мае аніякага сораму. Аднойчы ўвайшоў у іх пакой. Юлька, укленчыўшы на падлозе, мылася над мядніцай. Калі ўвайшоў, паднялася і расціраючы далонямі мокрыя грудзі, спыталася:

— Чаго вы жадаеце?

— Шчотку і гуталін. Іду ў места.

— Зараз…

Нават не захінулася ручніком, які вісеў на поясе. Як была, з голым торсам, пайшла ў кухню і прынесла адтуль шчотку і гуталін.

Калі б была дзіцём, я гэтаму б не дзівіўся, але мела 15 гадоў, і я чуў яе песенькі і размовы з сяброўкай, якія сведчылі, што была развітай дзяўчынай.

Спадарыня Жарская скардзілася:

— Пакута з той дзяўчынай, паночку! Не магу даць ёй рады. Са мной зусім не лічыцца. А ўсё муж нарабіў, што калісьці, у дзевятнаццатым годзе, аддаў у дзіцячы дом. Там з яе д’ябла зрабілі… з хлапчукамі на кулакі б’ецца!

— Чаму яе вы туды аддалі?

— Хлеба, паночку, не было. Голад. Рады былі аднаго рота пазбавіцца.

Заўважыў, што кабета сумуе па Вільні, за Польшчай, але не ведаю, як ёй параіць, каб старалася вярнуцца на бацькаўшчыну. Не жадаю без пільнай патрэбы раскрывацца, а Юлька добразычлівая да мяне, пакуль ведае, што я — савецкі службовец; калі б вынюхала штосьці падазронае (а яна даходная), дык магла б мяне выдаць. Кветка, якая вырасла ўжо на савецкім гнаі, небяспечная, атрутная…

Неяк адзін мой знаёмы сказаў:

— Няхай спадар пільнуецца! Тут нават сваіх трэба асцерагацца, бо шпіянаж увайшоў нават у сям’ю!

Так! так! Шпіянаж тут увайшоў ледзь не ў кожную сям’ю! Ведаю пра гэта добра.

Заўтра я вяртаюся ў Польшчу.

## V. КУРЫЛЬНАЯ ПАПЕРА «Solali»

*Жыццё журботнае*
*І вельмі сумнае,*
*Няхай прынамсі*
*Не будзе нуднае.*

Яўгенія Яноўская

Ноч была цёмная. Зоркі, як дзяўчаты на луг, весела высыпалі на цёмнае неба і залётна міргалі залатымі вачыма.

Забава хутка крочыў наперад, бо дарога трохі падсохла, і побач гасцінца была добра пратаптаная сцяжына. Маглі, што праўда, здарыцца яму на той сцежцы не вельмі прыемныя сустрэчы, але разлічваў на добрыя дакументы, а найперш на выдатную зброю. Натуральна і ноч — даволі цёмная — была яго надзейнай хаўрусніцай. Вочы, звыклыя да цемры, асветленай бляскам зорак, бачылі мясцовасць на значнай адлегласці.

За вёскай Мядзведжына злева ад гасцінца пачуў яхканне сабакі. Спыніўся, некалькі хвілін прыслухоўваўся. Сабака ўядаў па-ранейшаму.

«Напэўна, на хутары», — падумаў. Рушыў далей.

Да брэху сабакі дадаўся звон жалезных путаў на конскіх нагах. «Пастухі з коньмі», — падумаў Забава.

Злева ад дарогі ляжаў вялікі, бясформенны, абымшэлы валун. На ім Забава заўважыў застылую чалавечую постаць. Асцярожна наблізіўся. Гэта стаяў апрануты ў сярмягу падлетак, які, прапускаючы Забаву, пільна ў яго ўзіраўся. Забава быў у чорнай куртцы і цывільнай шапцы, бо вайсковую форму, занадта шырокую, аддаў на перашыў, і спадар Юзаф паабяцаў забраць яе ад краўца, калі той зробіць.

Забаву трохі здзівіла прысутнасць адзінокага хлапчыны на тым камені, але пашыбаваў далей, не надаючы гэтаму вялікага значэння. Неўзабаве пачуў ззаду моцны свіст.

«Ого, сігнал!» — падумаў Забава, дастаючы рэвальвер і азіраючыся.

Налева ад гасцінца цягнуліся шырокія прасторы палёў, і адразу пры дарозе страката струніліся вузкія палоскі сенажацяў, дзе-нідзе адмежаваныя ад яе кустамі. У тым месцы дарога цягнулася па краі высокага адхону... Забава заўважыў на ім тры постаці ў сялянскіх світках, што беглі ў кірунку гасцінца. Адна з іх пасунулася наперад, імкнучыся адрэзаць Забаву дарогу спераду. Забава запаволіў крокі...

Калі першы селянін быў ужо блізка дарогі, Забава скокнуў да яго, двойчы стрэліўшы над ягонай галавой і крыкнуў:

— Лягай!

Селянін спыніўся знямелы. З рук выпаў абрэз. Два ягоныя хаўруснікі завярнуліся і на ўсю моц прыпусцілі назад. Забава некалькі разоў стрэліў, крычучы: «стаяць!», але тыя ўцяклі.

— Ты што хацеў? — спытаў у селяніна, які проста трымцеў ад страху. Гадоў яму было пад трыццаць.

— Мы... мы... таварышу... Мы пастухі...

— Бандыты, суччыны дзеці, а не пастухі!

— Не, таварышу... мы з коньмі...

Забава ўрэзаў яму кулаком з заціснутым рэвальверам у твар. Селянін захінуў галаву рукамі. Забава стукнуў яшчэ раз. Селянін з енкам цяжка зваліўся на дарогу. Забава падняў з зямлі абрэз і пайшоў далей, пакінуўшы чалавека, які качаўся на дарозе ад болю. Неўзабаве сышоў з гасцінца і праз палі пашыбаваў убок нябачнага ў цемры лесу. Калі апынуўся над возерам, шпурнуў абрэз у ваду. Затвор кінуў у возера ў іншым месцы.

«Пастухі! — думаў Забава. — Адважныя хамы, бач ты на іх — дарогу заступаюць».

У лесе пад Старым Сялом спыніўся ля тэлеграфнага слупа побач гасцінца. Ад таго слупа скіраваў у лес. Зрабіўшы некалькі крокаў паміж дрэвамі, знайшоў зламаную лапу яліны і зняў з дрэва мяшок са шкуркамі.

Паблізу гасцінца дастаў шкуркі з мяшка. Пачаў шчыльней іх скручваць, прыціскаць каленямі, каб як менш занялі месца. «Цікава, колькі гэта каштуе?» — не выходзіла з галавы думка.

Далей пакрочыў павольней, пільна прыглядаўся да дарогі, да наваколля. Меў на сабе цяжар, таму належала асцерагацца сустрэчы з узброенымі людзьмі. Ісці было цяжкавата. Часта адпачываў. Дзе-нідзе сыходзіў з дарогі і крочыў узбоч яе... Зразумеў, што да світанку не здолее перайсці мяжу, таму не спяшаўся. Вырашыў заднявацъ у лесе.

Маючы тавар, нідзе па лесе не блукаў. Зашыўся ў нейкае балота і там, на маленькай выспе, уладкаваўся на дзень. На тым узгорку расло некалькі бярозак і вытыркалася адна яліна, зламаная бурай на вышыні метра паўтара над зямлёй; вершаліна ўтварыла штосьці накшталт доўгага будана. Забава ўлез усярэдзіну і прыхаваў там мяшок са шкуркамі.

Дзень цягнуўся бясконца. Сонца нібыта завісла на небе. Забаву даймаў сон, але ён вырашыў не спаць. Больш як дзесяць разоў абышоў сваю пляцоўку, усё не мог дачакацца змяркання.

Было каля трэцяй па абедзе, і сонца ўжо даволі знізілася, калі Забава, лежачы пад сагнутай ялінай, пачуў нейкія шоргаты, якія вылучаліся сярод іншых лясных гукаў... Дзесьці трэснуў дубчык, хлюпнула вада ў балоце, зашастала трава. Забава агледзеў наваколле. Пасля працяглага ўзірання заў-

важыў у далечыні мужчыну, апранутага на манер засцянковага шляхцюка ў чорны сурдут, высокія боты і цёмна-сінюю шапку з лакіраваным брылькам. Спыніўся на адлегласці ста крокаў ад Забавы і ўважліва аглядаў мясцовасць. Зноў пакуламесіў па балоце. Зварочваў направа і налева, апісваючы кола, аглядаў зямлю пад нагамі. Забава занепакоіўся, але нікога больш не бачачы паблізу, вырашыў яшчэ пачакаць. А мужчына ў чорным сурдуце ўсё кружляў паблізу выспачкі, ходзячы ў радыусе прыблізна ста крокаў. Працягвалася гэта каля паўгадзіны.

«Якога д’ябла? Чаго ён хоча? — думаў са злосцю Забава. — Хай сюды прыйдзе, я яго прывітаю! Шукае гузака, ён яго знойдзе!»

Незнаёмы, пераскокваючы з купіны на купіну, праходзіў праз багну ў кірунку выспы. Забава прысеў на кукішкі ля ствала паваленай яліны і чакаў. Калі мужчына ў чорным сурдуце ступіў на выспу, дык атрымалася так, што спыніўся акурат ля ствала яліны, а пакольні круціўся, уважліва аглядаючы адсюль балота, дык Забава ў нейкі момант апынуўся за яго спінай. Выпрастаўся і паклаў яму левую руку на плячо.

— О... о... о..! — выгукнуў мужчына, адскочыўшы.

— Ла-апкі ўгору! — працадзіў праз зубы Забава.

Незнаёмы, ахоплены жахам, падняў рукі ўгору, не зводзячы вачэй з рэвальвернай рулі, быццам штохвіліны чакаючы стрэлу.

— Садзіся! — сказаў Забава.

Незнаёмы пахопліва сеў. Забава абшукаў яго кішэні, знайшоўшы ў іх: сцізорык, тытунь, газетную паперу... Зброі і дакументаў не было.

— Ты адкуль?

— З Краснага.

— Як прозвішча?

— Бакут.

— Чаго тут лазіш?

— Так сабе...

— Так сабе?.. Ведаю вас: самагонныя апараты хаваеце!.. Так? А ты тут пільнуеш! Так?

— Не, таварышу, далібог...

— Бога можаш і не любіць!.. Нешта ты тут круціш! Кажы лепш праўду, бо забяру з сабой у Менск.

— Скажу праўду, таварышу! Я тут ніякіх «кумпірацый» не маю... Быў я ў лесе і знайшоў папяросную паперу…

Паказаў Забаву папяросную паперу, якую трымаў у левай руцэ; пасярэдзіне яе малымі, залатымі літарамі было надрукавана: «*Solali*». Гэтую курыльную паперу, калі Забава, адпачываючы паблізу багны, круціў цыгарэты, вырваў вецер, аднёсшы на некалькі крокаў далей. Забава паленаваўся яе шукаць.

— Што ж з таго, што ты знайшоў папяросную паперу?

— Папяросная папера замежная, у нас такіх няма. Мы, сяляне, з газеты самакруткі палім. Вось я і пайшоў шукаць па слядах, бо тут павінны быць дзесьці людзі з-за мяжы, з Польшчы... кантрабандысты...

— Можа, гэтая папяросная папера некалькіх дзён ужо тут ляжыць?

— Не... Свежая... Каб даўно ляжала, тады б яе раса пад’ела і пакурчыла...

«Як трэба асцерагацца! — думаў Забава. — Найменшая драбяза можа цябе выдаць!»

Затрымаўшы селяніна пры сабе і па-ранейшаму прыкідваючыся «ўладай», Забава распытваў яго спачатку пра самагонку, а потым пра шмат што іншае дзеля інфармацыі, бо яшчэ не вельмі добра ведаў памежжа.

Ужо густыя цені дрэў клаліся ў лесе, калі адпусціў свайго палоннага.

— Ідзі сабе, — сказаў, — толькі глядзі, бо мне нешта не вельмі хочацца табе верыць. У вас народ хітры! Ой, хітры!

Селянін скіраваў на паўднёвы ўсход, паспешна ідучы праз балота ў кірунку гасцінца. Калі яго крокі аціхлі, Забава выцягнуў з-пад яліны мяшок са шкуркамі, замацаваў яго зручна на спіне, праверыў зброю і рушыў на захад, асцярожна пераскокваючы з купіны на купіну.

* * *

Забава блукаў дзесьці паблізу мяжы. Нягледзячы на тое, што меў з сабою компас, не мог выйсці на вядомую яму дарогу, а пераходзіць з таварам мяжу ўсляпую, у невядомым месцы, не хацеў. Блукаў па цёмных, як тунелі, сцяжынах, ахінутых, нібы скляпеннямі, галінамі ляшчыны. Чуў удалечыні спеў чырвонаармейцаў, але слоў за вялікай адлегласці не мог разабраць.

Вырашыў абавязкова выйсці на гасцінец і пераходзіць мяжу паблізу яго. Амаль з гадзіну ішоў назад на ўсход, а потым скіраваўся на поўдзень. Такім чынам аддаліўся ад мяжы і, як яму здавалася, павінен быў знайсці гасцінец. Увайшоў у вялікі лес. Магутныя хвоі стаялі чорныя, змрочныя і здавалася, што сваімі кронамі падпіралі неба. Пахла грыбамі, цвіллю і гнілой драўнінай. Паветра было вільготнае... Сцяжына вілася між кустоў і дрэў... Перасякалі яе, як набрынялыя вены, магутныя карані лясных волатаў. Лес станавіўся ўсё гусцейшы.

«Напэўна, паблізу будзе рачулка», — думаў Забава. У адным месцы давялося яму затрымацца даўжэй. З левага боку ад сцяжыны, па якой ішоў, адчуў на сабе погляд. Спыніўся... Злавесныя фасфарычныя вочы глядзелі з цёмнай глыбіні лесу.

«Што за д’ябал?! Можа гэта рысь?» — падумаў Забава. Навёў рулю рэвальвера ў тым кірунку... Вочы не міргнулі. Гэтак жа халадна і жорстка, свецячы злымі агеньчыкамі, упарта глядзелі на яго. Забава пачаў шоргаць нагамі па зямлі, пакуль не наткнуўся на паўзгнілую галіну. Падняў яе, не спускаючы вачэй з хмызняка, дзе засеў невядомы яму звер, потым кінуў галіну ў тым кірунку. Зрэнкі на момант патухлі. «Прыжмурыліся», — падумаў Забава. Потым вочы зноў засвяціліся — халодныя, жорсткія, нібы нечага чакалі. «Шкада, што няма ліхтарыка», — падумаў. Вырашыў даследаваць, што гэта за вочы такія? Жадаў стаць твар у твар з невядомасцю, каб увесьчасна не чакаць нападу збоку ці ззаду. Навошта яму гэты клопат? Выняў другі рэвальвер і рушыў наперад, на вочы. Напаўсагнуты, сабраны, гатовы да нападу і абароны, зрабіў больш як дзесяць крокі і... убачыў на нейкім лясным пустазеллі два светлячкі. Ляжалі так, што адлегласць паміж імі раўнялася прыблізна адлегласці паміж вачыма драпежнага звера — рысі або ваўка...

На мяжу Забава прыцягнуўся пасля шматгадзіннага блукання па бездарожжы. Яшчэ раз пераканаўся, як лёгка можна заблудзіцца ў лесе ў пошуках «добрай дарогі». У такіх выпадках лепш за ўсё ісці па компасе, наўпрост, а не шукаць зручнага шляху. Менавіта такім спосабам, увесь час ідучы на захад, Забава выйшаў на мяжу, калі ўжо зусім страціў надзею знайсці гасцінец. Не заўважыў папярэдне адной драбязы: тое, што некалькі гадзін таму палічыў за паляну, праходзячы праз яе на другі бок, і было гасцінцам з утравелымі каляінамі. Таму і стаў круціцца і блукаць, аддаляючыся ад яго ўсё больш і больш.

Мяжу пазнаў па межавых слупах, але быў здзіўлены, убачыўшы перад ёй густую сцяну калючага дроту. Знайшоў паблізу доўгі дрын. Намерваўся, абапіраючыся на яго, бяспечна перайсці на другі бок перашкоды. У нейкі момант

адзін з дратоў вyслізнуў з-пад ступакоў, і Забава ажно па калені праваліўся паміж дратамі, а тулавам перакуліўся назад так, што галавой і рукамі датыкаўся зямлі. Пачаў выкарасквацца з жалезных кіпцюроў, у якія нечакана патрапіў, але заблытваўся яшчэ больш. Зразумеў, што павінен захаваць як найбольшы спакой, калі жадае хутка выбрацца. Выняў рукі з рукавоў і ўжо цела вызвалілася напалову. Пачаў вызваляць ногі, што было вельмі цяжка.

«Добра б я выглядаў, калі б падышлі бальшавікі!» — падумаў. Але ніхто яму не перашкодзіў і ён неўзабаве выбраўся з пасткі, хоць адзежу падраў на шматкі і скрывавіў рукі і ногі. «Нібы сабакі дзёрлі!» — са злосцю сказаў самому сабе.

Неўзабаве перабраўся на другі бок перашкоды. Пайшоў уздоўж мяжы. Дабрыў да межавых слупоў. Спыніўся побач таго, на якім быў змешчаны дзяржаўны герб Польшчы. Пляснуў яго далонню і сказаў: « Здароў!»

* * *

У тую хвіліну, калі Забава на мяжы вісеў галавой уніз на перашкодзе і намагаўся выблытацца з калючага дроту, у падвале ЧК, у Менску, Антон Кралевіч спрабаваў, трымаючыся рукамі за краты, прасунуць ногі. Пралезці наперад галавой не спадзяваўся, бо не меў апоры для ног.

Пасле вялікіх і марных намаганняў пераканаўся, што краты занадта вузкія і саскочыў з акна.

## ДЗЁННІК РАМАНА ЗАБАВЫ

*12 кастрычніка 1922 г.*

*(У цягніку з Маладзечна да Баранавіч)*

Пасля вяртання з-за мяжы я спыніўся ў Ракаве, у Малкі.

Захапляюся ёю! Як гэтая жыдоўка можа апрануць і пракарміць сама сябе і пяцёра дзяцей, маючы гэткую нэндзную карчму, у якой дагэтуль аніякіх гасцей я і не сустрэў? Снуе з пакоя ў пакой, тоўстая, як пярына, говорачы штосьці камічным габрэйскім акцэнтам. Заўсёды вясёлая. Заўсёды дзейсная — нават уначы. Увесь час нешта шые, чысціць, мые, гатуе... Дзетак сваіх заве «дыяментамі». Калі спытаў яе, ці багатая, адказала, паказваючы на дзетак:

— Уй, спадарочку, я багатая! Вельмі багатая! Гэта мае дыяменты!

Заўважыў, што ў габрэйскіх сем'ях дзеці больш паважаюць бацькоў, чым у хрысціянскіх. Рэдка здараецца, каб у сям'і габрэяў дзеці кінулі старых бацькоў, а ў сялян і мяшчан-хрысціян — гэта надараецца. У габрэяў сям'я больш з'яднаная, чым у нас.

Калі днём я пайшоў да камандавання мытнага батальёна па дакументы, прыкмеціў на Букраўцы мужчыну старэйшага веку, які, як разміналіся з ім, уважліва прыглядаўся да мяне. Я не звярнуў на яго вялікай увагі і пайшоў далей. Калі Букраўкай вяртаўся ў горад, убачыў двух паліцыянтаў, што ішлі мне насустрач. Захоўваючы ўсяляк асцярогу, наблізіліся да мяне і запатрабавалі дакументы, былі пільныя, каб замест пасведчання я не выняў з кішэні рэвальвер... Абодва трымалі правыя рукі ў кішэнях, а пальцы пэўна ж на рэвальверных курках. Я падаў ім службовае пасведчанне... Падзякавалі і прабачыліся. Спытаўся ў іх:

— Вас, напэўна, напусціў на мяне шляхцюк, які тут праходзіў паўгадзіны таму?

Пацвердзілі. Я ўспомніў, што гэта быў той самы шляхцюра, на якога нацкаваў мяне ў Воўкаўшчыне Адам Каліноўскі і якога хацеў застрэліць на ягоным падворку.

У Воўкаўшчыне браты Юзаф і Броніслаў Каліноўскія прывіталі мяне на двары, заяўляючы:

— Адам звар'яцеў!.. Што рабіць?..

Пайшоў з імі ў пакой, дзе на ложку ляжаў Адам. Быў апрануты. Ляжаў ніцма і няспынна лупіў кулаком у біла драўлянага ложка... Пазнаў мяне адразу і зрабіў братам знак рукой, каб выйшлі з пакоя. Потым сеў і сказаў умольна:

— Схадзі, пан, да Меляховіча!

— Навошта? — здзівіўся я.

— Каб пагаварыць з Люцыяй.

Пазней ад ягоных братоў даведаўся, што Меляховіч мае трох дачок. У малодшую, Люцыю, Адам закахаўся і хацеў узяць з ёй шлюб перад выездам у Амерыку да сваякоў, якія намерваліся ў хуткім часе даслаць яму «шыфратэлеграму». Бацька Люцыі на шлюб не згаджаўся. Каліноўскія, як я зрабіў выснову, таксама былі супраць. Вось якраз ад усяго гэтага Адам звар'яцеў... Потым я разважаў над тым, як, паддаючыся на ўгаворы вар'ята, ледзь не нарабіў бяды. Праўда, быў я п'яны, але павінен больш крытычна ставіцца да фантастычных аповедаў Адама пра ўбачаных ім у сутарэннях хаты Меляховіча людзей... А можа, я таксама вар'ят, у якога вар'яцтва выяўляецца, калі нап'юся?

Увечары, паводле просьбаў Адама і братоў Каліноўскіх, пайшоў да Меляховіча. Папрасіў у яго прабачэння, растлумачыў усё. Гаварылі пра рознае. Меляховіч выявіўся практычным і прагрэсіўным гаспадаром, хоць меў і абмежаваныя магчымасці. Падпісваўся нават на нейкую газету, што ў беларускай вёсцы рэч незвычайная. Пазнаёміўся і наўмысна зацікавіўся ягонай дачкой Люцыяй. Даволі сімпатычная, але я не мог зразумець, што незвычайнага знайшоў у ёй Адам, які з кахання да яе звар'яцеў.

Меляховіч пастаянна выказваў гасціннасць і ветлівасць. Ставіўся да мяне, як я заўважыў, з асцярогай. Калі я ўсоўваў руку ў кішэнь, позіркам суправаджаў яе.

Да Каліноўскіх я вярнуўся позна і, зрабіўшы справаздачу, павячэраў (зразумела, яечняй) і паехаў на станцыю. Браніслаў, які вёз мяне да Аляхновіч, гамонячы ўсю дарогу, раскрыў сваю мару: працаваць у пякарні.

— Няўжо ты гэтак любіш булкі? — спытаўся яго.

— Я?.. Я, каб быў багаты, заўсёды еў бы булкі!

Трэба прывезці яму наступным разам розных булак. Танней, чым частаваць гарэлкай... Людскія мары розныя, часта смешныя і не для кожнага зразумелыя. Каб мяне хто спытаў, якая мая мара, чаго прагну, не ведаю, што і адказаў бы. Менавіта ў той момант прыйшла мне думка пра Лізку. Успомніў сон... Мабыць, гэта мая мара! Але мне яе трэба заваяваць...

Калі б згадзілася, узяў бы яе з сабой у Польшчу. Але на гэта яшчэ даволі часу. Пакуль што я жыву так, што планы на будучыню мне трэба будаваць ой як абачліва.

Жыву ў цягніках... і тут, і там. Цягнікі, цягнікі, цягнікі... Вагоны, вагоны, вагоны... Тут: горы валізак. Там: горы мяшкоў. Тут у буфеце: абеды, апельсіны, шакалад. Там, у буфеце: фарбаваная содай гарбата, падробленае манпасье, сахарын (у 280 разоў саладзейшы за цукар). Тут: лакіраваныя паркеты, цэнтральнае ацяпленне, струмені святла. Там: запляваная падлога, пакрытая шалупіннем семак, сабачы холад, закурадымленыя лямпы. Тут: парфума, шоўк, панчохі на нагах, пудра на тварах. Там: смурод брудных, залатаных кажухоў, махоркі і дзёгцю, лапці або апоркі на нагах, заміж пудры — блакітнае, шэрае і жоўтае адценне скуры, нібы то пудра голаду на тварах. Тут: вясёлыя вокрыкі

мужчын і жанчын, дзіцячы смех. Там: нахабныя галасы і праклёны салдатні, рык начальства і баязлівыя пагляды пасажыраў. Тут плакаты: *«Сачыце за дзецьмі!», «Не еш нясвежай садавіны!», «Усе на змаганне з сухотамі!».* Там: *«Не пляваць на падлогу!», «Ты дэзерцір!».* Тут мне не трэба мець пастаянна напятыя нервы, не чакаючы штохвіліннага ўдару ззаду... А тамака!..

Я не баюся ў Саветах. Гатовы пры выкрыцці біцца даканца. Літаральна: да апошняга ўздыху, да апошняга патрона... Шыць кулямі, ірваць гранатамі, і, нарэшце, нажом!.. Абы не дацца жыўцом, як найдаражэй прадаць жыццё. Ведаю, што чакае мяне ў *Чрэзвычайцы*! Ведаю добра і ніколі ім не здамся жывым! Во што мяне і мучыць — толькі гэтая бесперапынная гатоўнасць да бітвы, безупынная напруга! Менавіта гэта! Баюся, каб не спазніцца!.. Калі хаджу па штабах, праслізгваю праз вакзалы і праверкі ЧК, крочу вуліцамі, дык у мяне такое ўражанне, быццам нашу на шыі пятлю, якую ў кожную хвіліну могуць зацягнуць, бо другога канца той пятлі не бачу... Трымае яго ў руцэ хтосьці жорсткі, хітры... У руцэ маю нож каб перарэзаць пятлю акурат у той момант, калі пачнуць яе зацягваць. Нельга гэта зрабіць ні заўчасна, ні запозна, толькі ў адной-адзінай секундзе, якую мне нельга прагледзець!

Мяне вымотвае бесперапыннае вынюхванне, прыслухоўванне, чаканне засады. Стамляе безупыннае прапальванне зрокам начнога змроку... Ад гэтага пагляд робіцца блукаючым. Заўважаю ў люстэрку ў сваіх вачах іншы выраз: халодны, вострыі... як у таго злодзея, мае вочкі бегаюць. Бясконца мучыць штохвіліннае назіранне ўсяго навакол, ацэнка кожнай асобы, пагляду, руху, слова! Рукі стамляюцца ад няспыннага сціскання зброі; усё цела — ад пастаяннага надавання ўяўнай упэўненасці ў сабе; твар стомлены ад увесьчаснай маскі; мозг ад безупыннай працы — падліку шанцаў, утрымання ў памяці безлічы падрабязнасцей і дэталей!

Усюды адзін. Быццам д’ябал злосны, быццам д’ябал рашучы, быццам д’ябал ганарысты!.. Толькі ноч мая памагатая! Толькі лес — мой сябра! Уначы, у лесе я магу спаборнічаць з ворагамі зброяй, спрытам, трываласцю... З усімі! Але днём?..

Калі потым апынаюся ў сваім краі, у бяспецы, дык тады ў душы ўтвараецца нейкая пустэча, якую нічым нельга запоўніць. Людзі вакол здаюцца празмерна звычайнымі, усё будзённае не мае вялікага значэння, не мае аніякай каштоўнасці і цаны. На запаўненне той пустэчы застаецца гарэлка і... скандалы, якія я чыню безупынна і за якія атрымліваю суровыя вымовы.

Падаецца мне, што гэтак званая мужнасць — гэта не мужнасць у тым значэнні, у якім яе звычайна разумеюць, але штосьці іншае. Не магу зразумець — што. Але адчуваю памылку ў сваім ладзе жыцця. Магчыма, у будучым здолею гэта выказаць...

Нядаўна адзін афіцэр, які суправаджаў мяне на мяжу, чалавек адзначаны шматлікімі ўзнагародамі за адвагу, сказаў:

— Шкада мне пана, што ідзе туды адзін... уначы... Я — смяльчак, вельмі адважны, але апынуцца ў гэткім становішчы не хацеў бы. Адна справа, калі мы ідзём у атаку, плячо ў плячо, узбуджаныя, загіпнатызаваныя агульным энтузіязмам, агульнай ідэяй... Калі смерць, дык — на полі бою, прылюдна. Калі рана — гонар, нават у ворагаў... Няволя — ганаровая... А тут? — Вайсковец сцепануўся амаль з агідай. — Ці пан напраўду не баіцца?

Я не мог адказаць яму на гэта пытанне, бо знаходзіўся над памежжам і думаў пра штосьці іншае і, апрача таго, не меў часу разважаць. Якія дзіўныя людзі! Задаюць вельмі цяжкія пытанні, цяжар якіх нават немагчыма асэнсаваць, і пытаюць пра гэта як пра: «Каторая гадзіна?» Адказаў яму тады штосьці накшталт:

— Ці баюся?.. Не ведаю... Здаецца, не... Я зараз адчуваю толькі жаданне да палёту наперад, каб не зацягваць чаканне невядомай мне небяспекі... А потым, калі я апынуся «там», дык буду мець сцятыя сківіцы і злосць у душы, што хтосьці можа на мяне паляваць, замінаць мне ў тым палёце... Не баюся анікога на свеце, пакуль трымаю ў руцэ зброю... Я там машына: рашучая і мэтанакіраваная, хоць яна можа вельмі зношвацца з прычыны празмернай, разнастайнай працы цягліц, нерваў, мозгу... напятасці... інтуіцыі... інстынкту... Да таго ж яны самі часта ваююць між сабою. І каб гэтая складаная машына працавала, яе трэба змазваць: нянавісцю або ідэяй...

Я забыўся пра адну рэч, магчыма, галоўную! Тую, якая завецца неабходнасцю. Яна або свая, або чыя-небудзь, або агульная. У сэнсе — некаму ж трэба *туды ісці.*

* * *

*Баранавічы, 16 кастрычніка 1922 г.*

Я сяджу ў Лёлькі ў гатэлі і пішу. Памірыўся з ёй. Згоду нашу прыспешылі і ўмацавалі падарункі. Купіў для яе ў Вільні вожыка. Казалі, што гэта малады самец, але я не ведаю, ці праўда, бо пол я пазнаю па адзежы, а ўзрост па пысе. Гэты ж д'ябал апрануўся ў калючае футра, згарнуўся ў клубок і ні чапай яго! Акрамя вожыка прывёз Лёльцы прыгожы шаль і шмат рознай драбязы. Сядзіць зараз на ложку і смакуе шакаладкі, скоса пазіраючы на мяне. Дзівіцца напэўна, што заманулася мне дурная думка: крамзоліць нешта ў сшытачку ў адзінаццаць уначы.

Калі часам думаю пра Лёльку, дык не ўяўляю яе інакш, як на ложку... негліжэ. Яе працоўны варштат... Нельга пра яе так пісаць, бо гэта вельмі добрая дзяўчына. Не дужа разумная, але гэта не змяншае яе асноўную вартасць. Яна ніколькі не прагная і не саманадзейная. Каханкаў і да мяне мела некалькіх і, здаецца мне, да кожнага прывязвалася шчыра, а паколькі вельмі зграбная паставай (хоць брыдкая з твару), дык калі страціць аднаго, лёгка знаходзіць наступнага.

З Маладзечна я паехаў у Вільню. Там у гатэлі распакаваў мяшок са шкуркамі. Пасартаваў іх. Меў 28 куніц, 15 пачак (па 20 штук) алтайскіх вавёрак і 6 жоўтых лісаў. Прадаў усё. Куніцы па 12 даляраў за штуку, вавёркі па 18 даляраў за пачак, а лісаў — па 4 даляры за шкурку. Прадаў танна, бо вельмі спяшаўся... Усяго выручыў 630 даляраў. Такім чынам значна паправіў фінансы, бо ў мяне ўжо было тугавата з грашыма. Тых, якія атрымліваю на «працу», так мала, што на падарожжа ледзь хапае. Варта падумаць, ці не кінуць гэты занятак, калі зусім мала аплачваецца. Гэта не фільм!.. Адзінае: пачаў асвойвацца з гэтай працай. Здаецца мне, што калі б яе кінуў, дык у маім жыцці ўтварыўся б велізарны прагал, які нічым бы не запоўніў! Пабачым далей…

Зайшоў да Кароля Фарбы і распавёў яму пра захады, якія рабіла ягоная жонка, каб выехаць у Польшчу. Аддаў яму ліст ад жонкі і выказаў сумнеў, што наўрад ці хутка ёй удасца ўладзіць гэтую справу.

Фарба раптам спытаў мяне:

— Ці пан пагодзіцца правесці мяне ў Менск, каб я мог асабіста пагаварыць з жонкай? Хацеў бы заадно наведаць сваякоў і знаёмых у Менску і ўладзіць некалькі спраў.

Мною авалодаў смех, але я сказаў сур'ёзна:

— Чаму не? Можна. Гэта звычайны шпацыр... Можа, занадта доўгі, але вельмі вясёлы.

— Так? Цу-доў-на! Я пра тое даўно думаў.

Паабяцаў узяць яго з сабою ў лістападзе або ў снежні, каб ён мог застацца там даўжэй. Я меў_у тым сваю мэту. Ведаў, што ён скупы, а ідучы туды вымушаны будзе ўзяць з Польшчы падарункі для ўсёй сям'і. Добра было б, каб бальшавікі паганялі нас на мяжы... Не вельмі, каб не ўляцець, але так, каб панюхаў, чым пахне мяжа! «Няхай бы пратрос свой баязлівы азадак!» — падумаў я пры гэтым.

У Баранавічах я адразу паехаў да Уладзіка. Палкоўнік чакаў мяне.

— Адчуваў, што прыедзеш сёння, — прамовіў.

— Спецыяльна і прыйшоў, каб цябе ўбачыць.

— Цудоўна! Вып'ем!...

— А няўжо ж.

— І я не супраць, — дадаў Уладзік.

Але пілі яны стрымана, імкнучыся мяне напаіць. Са здзіўленнем заўважыў, як яны то прапускаюць, то падліваюць мне болей, але нічога не сказаў і праз нейкі час больш прыкідваўся падпітым, чым насамрэч быў такім.

— Ведаеш што, Раманку, пойдзем у адно месца? — спытаў мяне Палкоўнік, які выглядаў зусім цвяроза.

— Гледзячы куды, — адказаў я.

— Да дзяўчат Алеўшчынак.

— Да паненак?.. Паннаў?.. Залежыць, да якіх і праз колькі «а»?

— Сур'ёзна! Гэта вельмі прыстойная сям'я. Ты ўбачыш сам. Я паабяцаў ім абавязкова прывесці цябе...Ты нічым там не будзеш абавязаны. Будзеш з імі... Ну як з прыяцелямі... Натуральна, у пэўных межах...

— Ніякіх межаў не прызнаю -— я ўмею іх пераходзіць, — пажартаваў я, — а паннаў люблю толькі такіх, якія пішуць гэтае слова праз тры «н».

— Казаў табе, што баіцца баб, — сказаў Уладзік.

— Баюся баб?! — усхапіўся я з-за стала. — Гайда туды!

— Каб ён толькі скандалу ў іх не ўчыніў, — папярэдзіў Уладзік.

— Не, ён не дужа п'яны, а зрэшты, калі апынецца ў прыстойным таварыстве, працверазее...

«А як жа,працверазею», — падумаў я.

Неўзабаве мы апынуліся ў кватэры Алеўшчынак, у агромністым цудоўна ўмэбляваным пакоі. Сустрэлі нас сёстры Алеўшчынкі весела і сардэчна. З п'янай галантнасцю і манернай упэўненасцю ў сабе прывітаўся з кожнай, моцна трасучы іх рукі.

— Рудзінскі! — сказаў я да адной. — Карыга! — сказаў да другой. — Селепов-Молоков! — прадставіўся трэцяй.

Заўважыў на іх тварах тактоўныя ўсмешкі. Палкоўнік і Уладзік на мігах паказвалі ім, што я падпіты. Старэйшая сястра Гэля, высокая сухарлявая шатэнка, пачала са мной гутарку. Яе сёстры Зося і Андзя размаўлялі з Палкоўнікам і Уладзікам, назіраючы за мной збоку. Я быў злы, што нібы рэдкі звярок выстаўлены напаказ. Ідучы сюды, я намерваўся ўчыніць авантуру, але цяпер мне стала шкада гэтых сімпатычных паненак…

— А мяжу цяжка перайсці? — спытала мяне Гэля.

— Не, калі чалавек можа рухацца.

— А як тая мяжа выглядае? — спытала Андзя, якая зрабіла на мяне ўражанне, што яна легкадумніца.

— Як тая мяжа выглядае? — паўтарыў яе пытанне. — Сцежка, дагледжаная, жоўтым пясочкам пасыпаная, дрэўцамі абсаджаная. Дождж яе мые, сонца сушыць, вецер падмятае, лес апранае, чырвонаармейцы ботамі націраюць... А дзе яна бяжыць, слупы межавыя навыцяжку стаяць — чэсць аддаюць.

— А камуністычная ідэя хоць часткова прыжылася ці не? — ўпершыню спытала Зося. Я адказаў:

— Ідэі, проша пані, не могуць увайсці ў жыццё, бо тады перастаюць быць ідэямі. Ідэі, мая спадарынька, як кветкі, насоўкі і жанчыны, пасля практычнага ўжывання перастаюць быць ідэямі. У большай нават ступені чым яны больш далікатныя, чым жанчыны, насоўкі і кветкі... Не пачуццёвыя, толькі разумовыя...

Адчуў у кампаніі нейкую скаванасць. Вочы Палкоўніка весела бліснулі.

— Моцна сказана! — прамовіў, — і, падаецца мне, шчыра...

Я прамаўчаў. Раптам перад маімі вачыма паўсталі абліччы расстраляных: Кастуська, Алеся і Часлава. Тады я сказаў:

— Нават самыя лепшыя ідэі ў руках людзей подлых становяцца сродкам да забойства. А такія, для ўмацавання якіх патрэбна чалавечая кроў, хай будуць праклятыя нават тады, калі б той крывёй была кроў найвялікшага нягодніка!

Ніхто мне не адказаў. Запанавала цішыня. Я падняўся.

— Прашу мне прабачыць, але я не жадаю псаваць вам настрой. Я сёння ў благім гуморы... Мне вельмі сумна... Гэта ўсё ўспаміны і боль.

Андзя ўстала:

— Тады навошта пан прыйшоў да нас?.. Самотны? У нас пану будзе лягчэй... — Зачырванелася і змоўкла.

— Хадзем разам, Раманку! — сказаў Палкоўнік.

— Не, я не хачу... Я адзін... Заставайцеся...

Калі развітаўся з імі і выходзіў, пачуў з вітальні, як Палкоўнік казаў:

— Сёння ён не ў духу. Зрэшты, вы ведаеце: такая праца!

На вуліцы было шмат мінакоў. Калі я ішоў задуменны, заўважыў перад сабою п’янага ўзводнага, які крок у крок ступаў за нейкім цывільным і час ад часу пляваў яму ззаду на паліто. Чорнае паліто было ўсё спярэшчана белымі плямамі. Цывільны перайшоў на другі бок вуліцы і зайшоў у аптэку. Узводны пакіраваўся за ім і з п’янай упартасцю шнураваў перад дзвярыма аптэкі, чакаючы, калі той выйдзе.

«Гэтаму занятак ёсць!» — падумаў я і падаўся, каб сапраўды дзесьці напіцца.

Праз гадзіну, наладаваны падарункамі для Лёлькі, уваходзіў да яе. Я выпіў якраз гэтулькі, колькі мне трэба і быў у залатым настроі. Лёльку заспеў дома. Ляжала на ложку ў нейкім стракатым халаціку і разглядала альбом з каўказскімі краявідамі, які я калісьці ёй купіў.

Ад парога я пачаў спяваць:

*Як ката не хоча кошка,*
*Дык не хоча — хоць памры.*
*А паненкі лёгка ножкі*
*Падымаюць дагары.*

Жыву ў Лёлькі другі дзень. Згода паміж намі ўсталявалася. Вуркоча як котка... Цёпла, ціха, але нявесела... Усё мне надакучыла. Нават яна... Пуховая падушка добрая пад галавой, каб выспацца, але ўвесь час насіць яе на галаве — такое надакучыць.

Заўтра трэба выехаць у Ліду, бо тут болей не вытрымаю.

* * *

*Ліда, 18 кастрычніка 1922 г.*

Калі ўдумацца, жыццё чалавечае анічога не вартае, нават самае прадуктыўнае. Хтосьці створыць велізарныя культурныя каштоўнасці. Народ узвысіцца на высокім узроўні цывілізацыі. Чалавецтва створыць калектыўнымі

высілкамі цудоўныя ўмовы існавання. І што ж далей? Як таго нейкага кагосьці, так і народ, і ўсё чалавецтва наперадзе няўхільна чакае пагібель, бо законы прыроды аднолькавыя для ўсіх. Як для маленькіх арганізмаў, так і для вялікіх, як для аднаго чалавека, так і для ўсяго чалавецтва. Нават наша Зямля змушаная будзе састарэць і скончыць натуральнай смерцю, ад «старэчага маразму», калі перад тым не загіне з-за нейкай касмічнай катастрофы. Нават вядомы нам космас будзе змушаны саступіць месца іншаму космасу.

Каштоўнасць існавання адзінкі — для яе самой — залежыць ад сумы тых задавальненняў (як хочаш іх назаві: працай або распустай, малітвай або творчасцю), якія яна зможа ўзяць ад жыцця. Я, напрыклад, учора дакладна атрымаў задавальненне, калі ў адным рэстаране адчабучыў штуку. Пайшоў туды з калегам, таксама выведнікам. Мы былі ўжо п’яныя. Я замовіў гарэлкі і свіную адбіўную.

На зале было даволі шмат гасцей. Паблізу мяне, за іншым сталом, сядзела, спакойна спажываючы харч, вялікае кампанія... Там проста елі, але менавіта спажывалі закускі, адбіўныя і рознае іншае з талерак. Усё адбывалася гэтак павольна, велічна, у такой засяроджанасці, быццам ладзіўся рэлігійны абрад, а не выконвалася звычайная дзея напіхання трыбухоў ежай. Кампанія складалася з трох спадароў, чатырох спадарынь, двух малых дзетак і аднаго хлопчыка гадоў дзесяці, вясёлага і рухомага як ртуць. Ён адзін вылучаўся сваімі «анармальнымі» паводзінамі сярод астатніх людзей, што сядзялі за сталом. Былі яны найверагодней адной сям’ёй. У бок хлопчыка безупынна ляцелі навальнічныя погляды, яму чыталіся маралі і натацыі дарослых:

— *Гэнік*, не круціся на крэсле!

— *Гэнік*, не брыкай нагамі!

— *Гэнік*, не бяры ў рот нажа!

І ўвесь час: *Гэнік*, *Гэнік* і *Гэнік!*

Захацелася ўразіць тую ўзорную сям’ю. Паказаць ім, як насамрэч выглядае благое выхаванне, у параўнанні з якім выхаванне *Гэніка* падалося б узорным, а сам *Гэнік* — увасабленнем анёла.

Тут заўважу, што калісьці ў гэтым рэстаране я ўжо нарабіў вэрхалу і быў тут добра вядомым, таму з-за буфета на мяне неспакойна пазіралі спалоханыя людзі, як бы прадчуваючы блізкую бучу.

Я паклікаў афіцыянта і сказаў:

— Пойдзем на кухню!

Адвёў мяне туды. На кухні я ўбачыў вялікі мясны нож. Узяў яго і вярнуўся ў залу. Погляды ўсіх прысутных скіраваліся на мяне. Афіцыянт і гаспадар рэстарана неспакойна круціліся паблізу.

— Шаноўны пане! Паночку ласкавы!

— Што пан хоча? У чым справа?...

Я пачаў на стале секчы катлету. Натуральна, талерка пырснула на кавалкі, абрус і столік я парэзаў.

— Катлета занадта цвёрдая! — сказаў я гаспадару рэстарана.

— Зараз будзе іншая.

— Я хачу гэтую!.. Я таксама зацяты!

На маё патрабаванне афіцыянт прынёс запаленую свечку, і я дасмажыў над ёй, на відэльцу, кавалкі свіной адбіўной, а потым са смакам яе з’еў, запіваючы гарэлкай.

Госці, што сядзелі за вялікім сталом, похапкам паглыталі сваё і выкаціліся з залы. Ужо ані разу не пачулася: «*Гэнік*!»

Я чытаў дзесьці, што нічога дарэшты не знікае! Нічога! Усё мае пэўныя прычыны і выклікае пэўныя наступствы. Нішто не прамінае бясследна!..

Трэба над тым паразважаць. У гэтым рэальнасць жыцця, явы. Але я не застануся ў дурнях, не паддамся на танны жарт. Гэтак мне падумалася пасля той рэстараннай гісторыі. Якія ж будуць яе наступствы і вынікі?

Учора Янка пазнаёміў мяне з нейкай тэлефаністкай. Пульхненькай, свежанькай і ружовенькай, як свежая булачка. Прасіла мяне аднесці ліст да маці ў Менску. Не хацеў  нават, але яна пачала гэтак лісліва зазіраць мне ў вочы і зрабіла такі сумны тварык, што не мог адмовіць. Сказаў:

— Добра, хай пані падрыхтуе ліст.

— Калі ласка, ужо гатовы! — выняла аркуш з рыдыкюля.

Гэта вельмі непрыемна мяне ўразіла. Выходзіць, нагэтулькі была ўпэўненая, што не здолею адмовіць... Жанчыны часта злоўжываюць сваёй «слабасцю», а з нас такім чынам робяць дурняў. Закрану тут адну праблему, над якой шмат разважаў. Вось мужчыны, напрыклад. Немец не любіць француза, паляка, пагарджае расейцам, варожа ставіцца да англічаніна, італьянца і гэтак далей. У той жа час той самы немчуровец да францужанкі, полькі, рускай, англічанкі, італьянкі заўжды ставіцца ветліва і прыязна,  а тэмпература той прыязнасці і ветлівасці залежыць ад ступені прыгажосці  той асобы «горшай» нацыянальнасці. Мы настолькі нявольнікі сваіх інстынктаў, што не ўмеем нават быць справядлівымі ў адносінах да людзей. Калі мае развагі непамылковыя, тады ўся міжнародная палітыка і шавінізм любога колеру з'яўляюцца спаборніцтвам самцоў, над якім пануюць жанчыны... Жанчыны са сваёй трыбуны, са сваіх п'едэсталаў выбіраюць самцоў-рыцараў, не зважаючы на нацыянальнасць, расу і веравызнанне... Як у жывёл...

Якое складанае жыццё! Галава трашчыць... Хацеў бы пра гэта штонебудзь прачытаць. Але калі і што?.. І навошта мне зараз наогул нешта пазнаваць? Можа, праз тыдзень мяне закапаюць? І што тады мне з набытых ведаў?.. Варта вучыцца і спазнаваць тады, калі потым ёсць час усім гэтым раскашаваць, карыстацца або прынесці карысць іншым. А цяпер? У маім становішчы? Шкада часу!.. Лепш піць!..

## VI. ПА-ЗА СВЯДОМАСЦЮ

*На гармоніку нам Стах*
*Так зайграў, што проста жах!*
*І данізу галавой*
*Мы затаньчылі з табой.*

(З песенькі злодзеяў)

Забава прачнуўся позна. Янкі і Уладзіка ў хаце не было. Устаў і апрануўся. Некалькі разоў прайшоўся па пакоі. Заўважыў пад ложкам бутэльку гарэлкі. Узяў у рукі. Была амаль поўная. Адкінуў галаву і доўга каўтаў. Выпіў амаль палову. «Можа, пайсці да гаспадыні па закуску»? — падумаў.

— Няма чаго, абыдзецца!.. — услых адказаў сабе.

Запаліў цыгарэту і доўга сядзеў задуменны, гледзячы кудысьці ў кут пакоя, пад стол… Жмурыўся. Усміхаўся. Выкурыўшы цыгарэту зноў узяў у рукі бутэльку. Перакуліў дном дагары, зірнуў пад святло, а потым вялікімі глыткамі выпіў рэшту гарэлкі. Зноў запаліў цыгарэту і выйшаў на вуліцу. Крочыў хутка, пераскокваючы праз пасля ўчарашняга ліўня лужыны.

Калі мінуў чыгуначны пераезд, сустрэў калегу, Янку Казлоўскага.

— Куды, пане? Можа, да нас? — здалёк ужо галёкаў Казлоўскі.

— Да Янкі.

— Можа, пан зойдзе ў чыгуначную лазню? Пан увесь час у дарозе, нават вымыцца няма калі… А ў нас лазня: я скажу!

— Не маю бялізны на змену. Трэба ісці ў горад і купіць.

— Гэта факт… Але ведае пан што? Я дам чыстую бялізну. Сваю змяню дома, а вашу вазьму памыць. Згода?

Забава пайшоў з ім мыцца. Выпітая нашча гарэлка падзейнічала там на яго моцна. Калі выйшаў з парылкі, дзе Казлоўскі па-руску вылупцаваў яго бярозавым венікам, быў зусім п’яны.

Праз гадзіну Забава з Казлоўскім апынуліся на чыгуначнай электрастанцыі. Малы столік быў застаўлены living рознымі пляшкамі і халоднымі закускамі. Хтосьці паказаў яму набыты нядаўна браўнінг.

— Зірні, пане, ці добры?

— Трэба выпрабаваць… Запусціце рухавік!

Неўзабаве заведзены рухавік запоўніў шумам велізарную залу, глушачы рэвальверныя стрэлы… Забава, павольна цэлячыся, стрэл за стрэлам дасылаў кулі да замацаванага на тоўстым драўляным аскабалку папяровага аркуша… Стралялі і іншыя…

Змяркалася, калі іхняя купка з пяці чалавек кіравалася на Слабодку.

Апынуліся ў вялікай зале, мэбляванай танна, але з прэтэнзіяй. Было там некалькі вясёлых, коратка апранутых жанчын і некалькі мужчын. У паветры насіліся смех, крыкі і вясёлыя жарты.

Зноў палілася гарэлка: салодкая і горкая, чыстая і разведзеная. Хтосьці п’яны крычаў ахрыплым голасам:

*Першы шынок — там пад дубам —*
*Гуляй, Маня, з залатым зубам…*
*Ножка ўлева! Ножка ўправа!*
*Сёння, сёння, улева!*
*Сёння, сёння, управа!*
*Тара-дзіра-дзіра! Тара-дзіра-дам!*
*Та-тара-дзіра-там-там!..*

Перад вачыма Забавы яркімі плямамі віравалі жаночыя сукенкі, праплывалі вясёлыя твары, узбуджаныя воклічамі, спевамі, музыкай і алкаголем. Было яму весела і вельмі горача; жадалася смяяцца, спяваць, размаўляць, але ён не мог затрымаць у галаве думак, якія хутка, быццам кажаны, мітусіліся ў полі ягонай свядомасці. Стукаў нагамі аб падлогу ў такт песенькі і ківаўся ўправа-ўлева.

*Другі шынок — у Мэера —*
*Гуляй, Маня, як халера:*
*Ножка… ножка… права!*
*Сёння… лева…*

Гукі гусцелі. Усё шпарчэй віравалі ў паветры. Штораз аддаляліся. Постаці людзей у пакоі ўсё больш расставалі ў паветры… Гублялі абрысы…

Хтосьці даў яму ў рукі гітару. Дзейнічаў аўтаматычна — хацеў яе настроіць. Круціў пальцамі калкі грыфа, удараючы адначасова па струнах, але гукі інструмента не даляталі да вушэй, толькі драпалі твар і казыталі ў носе… Здзівіла яго гэта… Засмяяўся і выпусціў з рук гітару, якая з енкам пакацілася па падлозе.

У куце рваў паветра гармонік і даляталі ўрыўкі песні:

*Трэ… ці… нок… Нэймана.*
*Гуля… аню… хана…*

*Ножка...*
*а... а... а...*
*та... та... та...*
*ха-ха-ха-ха-ха...*

Усё патанула ў хаосе гукаў, у віры слоў і крыкаў, заліве смеху… У паветры, як камбалы ў вадзе, плавалі чорна-белыя чалавечыя галовы, дрыжэлі бясформенныя постаці прысутных… Востры водар поту казытаў ноздры… Пакой хадзіў ходырам, падлога трэслася пад нагамі.

Забава ішоў праз пакой, які здаваўся яму бясконцым. Старанна абмінаў перашкоды, якіх ў рэчаіснасці не існавала.

Быў непрытомны… Наблізіўся да дзвярэй… Ззаду жудасна роў п’яны голас:

*Пане участковы: дождж крапае!*
*Тра-та, дзі-та-та!*
*Ідуць дзеўкі з парада!*
*Тара, дзіта-та!*
*Э-е-е-е-эх!*
*Тара-дзіта! Тара-дзіта!*

Гукі чапляліся за вопратку, ападалі на душу, лізалі твар, казыталі шыю, тузалі за валасы, зазіралі ў вочы.

Забава шырокім рухам, рыўком адчыніў дзверы. Стаў твар у твар з ноччу… насустрач цёмнай адхлані… Стаяў… Ківаўся…

Ступіў крок за парог… за парог хаты і... страціў прытомнасць.

* * *

«…Мне трэба… Я павінен ратавацца… вакол яны… чырвоныя… гоняцца… ідуць па следзе… о! о!.. ужо блізка!..»

Дзверы рэстарана «*Вільнянка*» шырока расхінуліся. Усярэдзіну з імпэтам уляцеў з калідора скразняк. На парозе спыніўся высокі, сухарлявы маладзён у чорнай скуранцы. На галаве меў белую папаху, заламаную назад на казацкі манер. У руцэ трымаў наведзеную на залу цьмяную матавую рулю нагана.

— Рукі ўгору! — загучалі па-расейску прамоўленыя словы.

Халодныя, шэрыя вочы ўчэпістым позікам трымалі залу. Голас прагучаў рэзка. Свіснуў у паветры, як шпіцрутэн… Вусны сцяліся ў цвёрдую тонкую лінію. Твар быў быццам вычасаны з каменя.

У зале ўсё замёрла. Камічна выглядалі людзі, седзячы пры століках з паднятымі ўгору рукамі (некаторыя трымалі ў далонях відэльцы і нажы), смешныя тым, бо нідзе мы не бачылі іх у такіх бессэнсоўных позах. Выглядалі так, быццам умольвалі кагосьці ўверсе пра літасць, або жадалі схапіць нешта нябачнае, што вісела ў паветры пад столлю.

Забава хуткім, цвёрдым крокам прамераў залу і накіраваўся за буфет. Убачыў перакошаны ад жаху жаночы твар, расшыраныя, нерухомыя зрэнкі… Узяў яе за руку і пацягнуў за сабой да выхаду. Паслухмяна ішла за ім. Была як загіпнатызаваная. Пагляды прысутных беглі за гэткай гратэскавай парай… Зніклі за дзвярамі.

Госці па-ранейшаму трымалі рукі паднятымі ўгору. Раптам адзін, які сядзяў пры дзвярах у кухню, уцягнуўшы галаву ў плечы, скокнуў у тыя дзверы. У кухні падбег да расчыненага акна… Цішыню восеньскай ночы прарэзалі адчайныя крыкі:

— Бандыты! Бандыты! На дапамогу! Ратуйце!..

Забава вывеў сваю паланянку за парадныя дзверы рэстарана. Наблізіў галаву да яе твару і ціха па-расейску прамовіў:

— Калі ласка, пакажыце мне дарогу на вакзал.

Жанчына здзіўлена глядзела яму ў вочы, потым выцягнула руку ў кірунку вакзала, які знаходзіўся на адлегласці 200—300 крокаў ад іх, і ліхтары якога былі адгэтуль выразна бачны. Забава адпусціў яе руку і пайшоў у паказаным кірунку. Жанчына засталася адна на вуліцы і пазірала яму ўслед.

* * *

Вакол Забавы кружлялі нейкія варожыя цені. Уявілася яму, што яго атачае жалезнае кальцо аблавы, якое ён прагнуў разарваць, з якога абавязкова хацеў выбрацца. «…Там… там вольная дарога … там поле, лес…» Пайшоў управа вузкім завулкам, слаба асветленым вынырнутым з-за хмараў месяцам. Убачыў перад сабою двух узброеных людзей. Цяжка, павольна шлэпалі па балоце насустрач. Рынуўся наперад. Замахаў перад іх вачыма наганам.

— Рукі ўгору!

Загад выканалі неадкладна.

Зайшоў ззаду і, пакінуўшы іх на вуліцы, рушыў далей. Не чулі ягонага адыходу і таму доўга стаялі ўкамянелыя…

«Каб толькі да лесу… толькі да лесу… Каб толькі выйсці з места!»

* * *

Сярэдзінай доўгай вуліцы ішоў чалавек. Гэта быў злёгку падпіты шавец, які вяртаўся аднекуль дадому. Ішоў кульгаючы, бо меў адну нагу кароткую. Быў задуменны.

— Рукі ўгору! — пачулася паблізу.

— Што-о-о?.. — не зразумеў шавец.

Раптам заўважыў перад носам чорную рулю рэвальвера і ледзь не сеў ад страху. Забава ўзяў яго левай рукой пад локаць, а правай прыціснуў да ягонай скроні халодную рулю нагана.

— Вядзі мяне за мяжу!.. І глядзі, бо… башку развалю! — сказаў Забава па-расейску.

«Вар'ят!» — падумаў шавец.

— Добра, добра, пане? — прамовіў, паскараючы хаду і яшчэ мацней кульгаючы.

Паблізу складскіх будынкаў «Жалезабетону» шавец спыніўся.

— Можа, пан дазволіць мне на момант адысці… па сваёй патрэбе?..

Забава кіўнуў яму галавой.

Шавец адчыніў брамку і ўвайшоў на шырокі падворак. Забава застаўся на вуліцы. Шавец нетаропка прачыніў брамку і павольна замкнуў зашчапку, потым пабег да высозных стосаў драўніны і прастакутных цаглін. Як пацук, запоўз у нейкую дзюрку і схаваўся там… Калі Забава пачуў тупат уцекача, скокнуў да брамкі. Але яна была зачыненая. Адбег на сярэдзіну вуліцы і з разгону рынуўся на высокі плот, наверсе якога, на доўгіх тычках, віўся нацягнуты ў некалькі столак калючы дрот. Дзеручы адзежу і калечучы далоні, апынуўся за плотам.

Гнаўся за кімсьці ўпарта, доўга, пераскокваючы платы, прабягаючы агароды, сады, вуліцы і завулкі… Адначасова адчуваў, што яго самога праследуюць, што ён знаходзіцца ўсярэдзіне кальца аблавы, якое няўхільна сцягваецца.

«…Каб толькі выйсці з места… да лесу… за мяжу…»

У хворым мозгу віравалі трывожныя думкі.

* * *

Дзверы кватэры насцеж расчыніліся і ўсярэдзіну ступіў маладзён у чорнай скураной куртцы і белай папасе на галаве.

— Рукі ўгору! — кінуў ад парога.

На канапе, ля сцяны, сядзела маці з двума малымі дзецьмі. У прыхадню пазнала госця, які нядаўна быў у іх на вечарынцы і заляцаўся да яе старэйшай дачкі Стэфкі. Не выканала загаду і засмяялася.

— Але ж з пана жартаўнік!

— Не смейся, — змрочна сказаў Забава, — бо застрэлю!

Раптам страх ахапіў жанчыну, якая, пахопліва падымаючы рукі, прагаварыла плаксіва да дзяцей:

— Дзетанькі, падымайце ручкі ўгору!..

Стэфка была ў суседнім пакоі, у спальні. Нечакана выйшла да іх, несучы ў руках футра.

— Пане, — прамовіла да Забавы, — мы ў хаце зусім не маем грошай. А гэта… маё футра. Найдаражэйшая наша рэч… Вазьмі, пане…

Забава ўзяў адной рукой футра і кінуў яго пад ногі дзяўчыне. Твар меў страшны, запалы, з блукаючым паглядам, звар'яцелыя вочы дзіка блішчэлі.

— Не трэба мне ні золата, ні срэбра! — сказаў з дзіўным, трагічным пафасам. — Прашу толькі паказаць мне дарогу за мяжу… А як не… дык пазабіваю вас і сабе кулю ўсаджу…

Дзяўчына вярнулася ў спальню. Праз нейкі момант ён пачуў адтуль лёгкі шоргат. Звярыным інстынктам выпрацаваным за мільёны гадоў, інстынктам дзікуна, якому мінула тысяча гадоў, адным падсвядомым кідком замглёнай думкі ахапіў сітуацыю і зрабіў дакладную выснову: «Уцякае праз акно». Не кінуўся ў спальню, каб схапіць яе ззаду, але выбег праз дзверы, каб адрэзаць ёй дарогу да ўцёкаў…

У глыбіні саду, паміж дрэвамі белай плямай мігацела блузка Стэфкі… Забава стрэліў у тым кірунку з рэвальвера.

Зноў пайшоў углыб ночы і ўглыб вар'яцтва… Вёў яго замглёны інстынкт, які парваў сувязь з розумам. Ягонымі рухамі і ўчынкамі кіравалі нейкія магутныя сілы, што месціліся ў таямнічай глыбіні ягонага мозгу, у той бяздоннай адхлані, якая знаходзіцца за мяжой свядомасці… Арганізм, атручаны алкаголем, адданы на волю хваравітых мрояў, біўся ў зачараваным коле, як начны матыль б'ецца ў промнях лямпы, утвораных хваравіта напятымі нервамі, якія цемрылі розум.

* * *

У кабінеце камісара паліцыі раздаўся званок.

— Камісар… Хто?.. Дзяжурны сяржант?.. З вакзала… Што? Разбойны напад!.. Скураная куртка… так… Чакаць пры тэлефоне… Зараз жа выдам загад…

* * *

Да павятовай камендатуры паліцыі прыбег афіцыянт з рэстарана «*Вільнянка*». Быў перапалоханы. Увесь час калаціўся. Не мог перавесці духу. Звярнуўся да дзяжурнага сяржанта:

— Пане сяржант!.. Некалькі хвілін таму на наш рэстаран зроблены напад… Нейкі бандыт… Чорная скуранка і белая шапка… Быў усярэдзіне… Іншыя звонку…

* * *

Да следчага аддзялення прычыкільдыкаў шавец… Быў без шапкі; у перапэцканай вопратцы, быццам толькі што выпаўз з балота.

— Што ў пана здарылася? — спытаўся дзяжурны.

— Пане… на мяне напалі… на Палескай вуліцы… нехта ў чорнай скуранцы… хацеў забіць…

* * *

У пастарунак жандармерыі ўляцела кабеціна:

— Паночкі дарагія, ратуйце!.. Бандыты!.. Напалі на кватэру… стралялі… Забралі дачку…

* * *

Наладзілі моцную аблаву, праведзеную сумесна з усімі органамі грамадскай бяспекі. За цэнтральны аб’ект прынялі чыгуначны вакзал. Загадалі, што калі чалавек у чорнай скуранцы і белай, зімовай шапцы па першым загадзе не падыме рукі ўгору — страляць у яго… Сціскаўся ланцуг аблавы, кожны двор, кожны будынак уважліва патруляваўся.

Падзеі сённяшняга вечара ператварыліся ўжо ў легенду… Казалі штосьці пра банду, якая лютуе ў месце. Успаміналася прозвішча Мухі-Міхальскага.

Тым часам Забава хутка крочыў шашой наўзбоч вакзала. Месяц ужо ўзышоў высока. Хмары зніклі з неба і было даволі відна. Хутка рухаючыся наперад, Забава заўважыў сустрэчнага мінака.

— Рукі ўгору! — крыкнуў Забава, наблізіўшыся да яго на адлегласці ў некалькі крокаў.

— Пацалуй сабаку ў пысу! — адказаў сябар Забавы Казлоўскі, які разам з ім піў на электрастанцыі і гуляў на Слабодцы. Загад Забавы прыняў за таварыскі жарт і наблізіўся да яго.

— Чаму не ідзеш спаць, позна ужо? — папытаў Казлоўскі, і ўбачыўшы, што Забава вельмі дрэнна выглядае, узяў яго пад локаць і павёў у кватэру братоў Сноўскіх, якія ў той вечар дома не начавалі.

З цяжкасцю паклаў Забаву на ложак; адабраў рэвальвер і пакінуў яго на стале. Потым пайшоў дадому.

Цяжкі сон перарваў хваравітыя трызненні Забавы. У горадзе ж ланцуг аблавы зацягваўся ўсё шчыльней і шчыльней, пасоўваючыся ў кірунку чыгуначнага вакзала.

* * *

У той час, калі Забава, ахоплены хваравітымі мроямі, блукаў па вуліцах места, дыверсійная банда Аўдзея перайшла польскую мяжу на стаўпецкім адрэзку, кіруючыся на паўночны захад…

Было іх чатырнаццаць. Мелі кароткаствольную і доўгую агнястрэльную зброю, гранаты і адзін кулямёт. Іхнім заданнем было: тэрарызаваць польскую буржуазію на ўсходніх ускраінах Польшчы, рабіць напады на маёнткі, паліцэйскія пасты, цягнікі, вайсковыя аб’екты, а таксама весці акцыі сабатажу. Наогул мэтай была дыскрэдытацыя польскіх улад у вачах простых грамадзян.

А дзявятай увечары яны наблізіліся да хаты малазямельнага селяніна Галёшы. Пастукалі ў акно. Сказалі, што паліцыя. А калі ім адчынілі дзверы, уваліліся ўсярэдзіну як рабаўнікі, крычучы: «Рукі ўгору! Ні з месца! Хто зрушыцца, кулю ў лоб!» Ахопленыя жахам, жыхары хаціны ў беднай саматканай бялізне стаялі пасярэдзіне пакоя і дрыжалі са страху. А «грозныя бандыты» раўлі: «Давай грошы! Дзе ў цябе золата, срэбра, даляры, каштоўнасці?!» Аднак у хаце, дзе часта не хапала бульбы, насуперак старанна праведзенамуператрусу, анічога каштоўнага не знайшлі… Забралі з сабой толькі боты, два старыя кажухі, сувой палатна, некалькі сыроў і боханаў хлеба.

Жонка Галёшы, кабеціна за сорак, стаяла басанож на глінянай падлозе. Рукі ўскінутыя ўгару. Адзін з дыверсантаў падышоў да жанчыны, і абхапіўшы яе, пацягнуў да ложка. Жанчына заплакала:

— Людзі, дайце мне спакой! Я хворая на жаночую хваробу… Два гады з мужам не сплю…

Згвалтавалі яе ўпяцёх, а потым са смехам абпалілі ёй запальніцай валасы.

Заданне выконвалася — «буржуазія» калацілася ад страху!.. Начальнікі ў Менску, а Троцкі ў Крамлі маглі цешыцца.

* * *

Забава абудзіўся позна ўначы. Моцны боль адчуваўся ва ўсім целе. Смажыла. Напачатку не мог зразумець, дзе ён, а калі зарыентаваўся, дык ледзь-ледзь здолеў знайсці дзверы і выйсці ў сенцы, дзе стаяла бочка з вадой. Не было ніякай пасудзіны, якой мог бы набраць вады. Схіліў галаву ўніз і піў, піў, піў…

Вярнуўся ў пакой, кінуўся на ложак і зноўку заснуў мёртвым сном… Наступным разам прачнуўся вельмі позна. Здзіўленымі вачыма глядзеў на дзённае святло і на пакой. Моршчыў лоб. Хацеў нешта прыгадаць і не мог.

«Было нейкае дзівацтва! — прашаптаў. — Але якое?»

Позірк ягоны ўпаў на наган, які ляжаў на стале, і раптам у памяці ўсплыла адна падрабязнасць з учарашняга (астатняе назаўжды патанула ў хвалях забыцця). Падрабязнасцю той быў стрэл. Гук стрэлу і агонь, які працяў начную цемру.

«Можа, я забіў Янака?» — падумаў. Падышоў да стала і ўзяў у рукі рэвальвер. У маленькім барабане было ўчора сем патронаў. Памятаў гэта добра. Цяпер убачыў толькі пустыя гільзы.

Забава хутка апрануўся і пайшоў да чыгуначнай электрастанцыі, дзе працаваў Янка. Калі апранаўся, пачуў за сцяной гутарку гаспадыні з суседкай:

— І там таксама былі бандыты?!

— Усюды, усюды, мая дарагая!

— О Езус! Які страх! Хто ж гэта мог быць?

— Муха… Яго ўсе пазналі!

— Гэта нягоднік!..

— Ну скажыце!..

Забава чуў тую гутарку, але не надаваў ёй ніякага значэння. «Глупства плятуць! — падумаў. — Муха не можа тут дзейнічаць!»

Даволі добра ведаў арганізацыю савецкіх дыверсійных атрадаў. Ведаў, што Муха мае іншы маршрут, што з дапамогай памежнага атрада дзейнічае ў Цімкавічах і праходзіць мяжу пераважна на тым адрэзку. Паколькі гэта было на значнай адлегласці ад мяжы, таму прабрацца сюды з бандай яму было б вельмі цяжка і небяспечна.

У задуменні Забава хутка крочыў вуліцай. Зусім не заўважыў, што за ім ішлі людзі, якія жыва жэстыкулявалі. Да іх неўзабаве далучыліся паліцэй-

скія… Калі падымаўся на прыступкі вакзала, на яго з усіх бакоў скіравалася зброя.

— Рукі ўгору!

— Што здарылася? — спытаў здзіўлены Забава, бачачы пры сабе гэткае шматлікае суправаджэнне.

У яго адабралі рэвальвер і адвялі ў пастарунак. Атачылі моцнай аховай… Паліцыянты вывучалі дакументы, якія знайшлі ў ягоным партаманеце.

— Добрая работа, што, не?

З прызнаннем круцілі галовамі, разглядаючы паперы — польскія і савецкія.

— Грошай таксама мае даволі шмат!

— Даляравая прафесія…

Пасля на пост панайшлі невядомыя Забаву людзі і пачаліся вочныя стаўкі. Адна за адной.

— Гэта той… — казала нейкая жанчына, баязліва гледзячы на Забаву.

— Гэта той, — паўтарылі іншыя: мужчыны, жанчыны, і нават дзеці, прыводзячы пры гэтым разнастайныя падрабязнасці яго ўчынкаў з учарашняга вечара.

«Што я нарабіў?» — думаў здзіўлены Забава, напружваючы памяць, але абсалютна нічога не мог прыгадаць.

На працягу некалькіх дзён слыў (ды і быў) сенсацыяй места. Нават з ваяводства прыехаў нейкі начальнік, высокая шышка, і спытаў яго:

— Га?.. Што за тып? Хто такі?

Забава сказаў. Чыноўнік адышоў здзіўлены і відаць незадаволены, што ўбачыў не «грознага бандыта», а звычайнага чалавека.

Толькі на чацвёрты дзень Забаву вызвалілі з-пад арышту і вярнулі яму зброю і дакументы. Зразумела, з прычыны вышэй пералічаных здарэнняў ён меў шмат непрыемнасцей ад сваіх начальнікаў.

— Нічога, зусім нічога не памятаю, што рабіў, — казаў Забава. — Роўным лікам нічога не памятаю! — паўтараў шматкроць.

Яму не верылі.

***Пераклад з польскай Язэпа Янушкевіча.***

# СТАРОНКІ РУСКАЙ ПАЭЗІІ

## Васіль ЖУКОЎСКІ

### ДОБРАЯ ПАРАДА

***У альбом В. А. Азбукіну***

*Любоў, Надзея і Цярпенне:*
Някепскі на жыццё запас.
Наперад жа — і ў добры час!
У Боскай волі ўсе здзяйсненні.

Шчаслівы, з кім *Любоў* ідзе;
Яна жыццё за ўцеху мае,
Вясёлкаю пяшчоты ззяе
На хмары, што бяда вядзе.

Пакуль усход не запалае,
Бяздушны і нямы Мемнон;
А сонца выгляне, і ён
Дыханнем мармуру зайграе!

Так і *Любві* святло: працяг
Жывых пачуццяў, і натхненне,
І ў справах велічных памкненне!
Няма любві — няма жыцця!

*Надзея* з кубкам асалоды —
Хаўруснік добры, — вер; ды знай,
Што не зямля, а неба — рай;
Будзь добрым без узнагароды!

Калі ж *Надзея* адляціць —
Зірні на ціхае *Цярпенне;*
Яно паможа спакушэнне
Святою сілай замяніць.

Адно — аберагай заўсёды
Скарб неацэнны — *Дабрыню;*
Май годны дух, а вышыню
Давер нябёсам — і свабоду!

***2 кастрычніка 1814***

## Аляксандр ПУШКІН

* * *

Што ў імені табе маім?
Яно памрэ, як пошум хвалі,
Што б'е самотна ў бераг дальні,
Як гук начны ў бары глухім.

Яно пакіне мёртвы цень
На памятнай старонцы белай,
Як моваю незразумелай
Магільны надпіс на пліце.

Што ў ім? Забытае даўно
Ў турботах новых і бунтоўных,
Тваёй душы не дасць яно
Пяшчотных згадак і чароўных.

Ды ў дзень, як смутак ахіне,
Шапні яго — хоць не пачую;
Скажы: ёсць памяць пра мяне
І ў свеце сэрца, дзе жыву я...

***1830***

## Міхаіл ЛЕРМАНТАЎ

### НЕ ВЕР САБЕ...

*Que nous font après tout les vulgaries abois*
*De tous ces charlatans, qui donnent de la voix.*
*Les marchands de pathos et les faiseurs d'emphase*
*Et tous les baladins qui dansent sur la phrase?*

A. Barbier*.

Не вер, не вер сабе, о летуценнік мой,
  Як язвы, бойся юнага натхнення…
Яно — палоннай думкі неспакой
  Ці хворае душы тваёй трызненне.
Нябёс прыкметы ў ім дарэмна не шукай:
  — То кроў кіпіць, то сілы неспакою!
Жыццё сваё ў турботах сунімай —
  Не знай атрутнага напою!

---

*Якая справа нам, у рэшце рэшт, да грубага брэху ўсіх гэтых крыклівых шарлатанаў, гэтых гандляроў пафасам, што ўчыняюць шум, і ўсіх гэтых паяцаў, што таньчаць на фразе. *А. Барб'е (франц.).*

А здарыцца адкрыць у запаветны міг
  Нязнаную, таемную крыніцу
Ў душы, даўно маўклівай, хай твой слых
  Салодкім спевам тым не наталіцца, —
Бязвольна не скарайся чарам тым,
  Накінь на гукі забыцця пакровы:
Халодным вершам, словам ледзяным
  Не выявіш ты сэнс іх адмысловы.

Калі журба затоіцца ў душы,
  Ці жарсць успыхне бурнай навальніцай, —
З сяброўкаю шалёнай не спяшы
  На баль людскі пасмешышчам з'явіцца;
Не прыніжай сябе. Саромся гандляваць
  Ты гневам ці журбой сваёю думнай
І гной душэўных ран пыхліва выстаўляць
  На подзіў чэрні ветранай і тлумнай.

Што нам з таго, пакутнік ты ці не?
  Навошта знаць пра хваляванні тыя,
Пра час, што ў мроях марных адзвінеў,
  Пра шкадаванні і развагі злыя?
Пабач: перад табой натоўп ідзе
  Гулліваю дарогаю і звыклай,
І на святочных тварах ты нідзе
  Не ўгледзіш ні турбот, ні слёз апрыклых.

І ў той жа час між іх хаця б адзін
  Знайшоўся, што пакутай не памяты,
Што праз гады дабраўся да маршчын,
  Не зведаўшы злачынства альбо страты!
Павер: ім смешны плач твой і дакор,
  І твой напеў завучана-натхнёны,
І ты, нібы ў трагедыі актор,
  Наперавес з мячом кардонным.

***1839***

## Апанас ФЕТ

* * *

Паўднёвай ноччу ў стозе сена
Да неба тварам я ляжаў,
І зорны хор, жывы, праменны,
Бязмежна нада мной дрыжаў.

Зямля, як цьмяны сон, нямая,
Прэч ад мяне плыла наўзбоч,

І, як насельнік першы раю,
Адзін — я ў твар убачыў ноч.

Ці я — у зорнае бяздонне,
Ці зорак рой імчаўся ўніз?
Нібыта ў велічнай далоні,
Я над бяздоннем тым павіс...

І з заміраннем і ўзрушэннем
Мой зрок глыбіні вымяраў,
Куды ўжо я не на імгненне,
А беззваротна патанаў.

***<1857>***

## Апалон ГРЫГОР'ЕЎ

### З НІЗКІ «БАРАЦЬБА»

**18**

О, калі праўда, што з душой жаданай, роднай
Дум запаветных не разлучыць далячынь, —
Скажы: мой покліч марны і нязводны
Ці чула ты ў глухой начы?

Скажы: ці знала, як у смутку несупынным
Пакутуе душа разбітая мая,
Ці чула ў сне альбо нядрэмнаю хвілінай,
Як праклінаў і плакаў я?

Ці чула іншы раз дакоры і замовы
Над іменем тваім, анёл далёкі мой?
І між радкоў для ўсіх ты ці чытала словы,
Нябачна поўныя табой?

Ці зразумела ты, што мовы палымянасць,
Памкненне кожнае тых трапяткіх радкоў —
Сустрэчы нашай той наканаванасць
І рэха з далечы гадоў?

Скажы: ці чула ты? Скажы: ці зразумела?
Каб у жыццё душы адолеў я сумнеў, —
Скажы — каб знаў, што свеціш з далечы знямелай
Ты зоркай таямнічай мне!

***<1857>***

## Уладзімір САЛАЎЁЎ

* * *

Прыйшла на свет, паміж сівых туманаў,
Ты ў завірушны край,
І, беднае дзіця, між двух варожых станаў
Прытулку не шукай.

Ды ваяўнічыя цябе не страшаць клікі,
Мячоў і латаў звон,
І думна слухаеш ты запавет вялікі
Даўно мінулых дзён:

Як Бог абранніку яўрэю з яснай сіні
Адкрыцца абяцаў,
І як прарок тады Ўсявышняга ў пустыні
З малітваю чакаў.

І грымнуў грукат пад зямлёй глыбока,
Круг сонечны знямог,
Зямлю трасло, і страх скаваў прарока,
Ды страх — яшчэ не Бог.

Віхор закручвае шалёнае дыханне,
Гучыць вышынь парог,
Агонь вялікі асляпляе ззяннем,
Але агонь — не Бог.

І змоўкла ўсё, і змог прарок здранцвенне:
Не марна ён чакаў,
І ў ціхім подыху, у райскім летуценні
Ён Бога распазнаў.

***1882***

## Дзмітрый МЕРАЖКОЎСКІ

* * *

Што ты можаш? Адчай барацьбы
Не прыносіць жаданай свабоды:
Пакарыся ж, мой дух, без журбы
Тайнам лёсу і сілам прыроды!

І пакоры надзея жыве!
Хай душа аб адным толькі знае:
Ненадоўга пакуты твае,
Ненадоўга і радасць зямная.

Ведай: памяць зямным забыццём
Аб айчыне нябеснай не сцерці,
Вучыць смерць хай і вучыць жыццё —
Ні жыцця не баяцца, ні смерці!

## Валерый БРУСАЎ

* * *

З несупыннымі малітвамі —
У паўтор, за кругам круг, —
Я праходжу паміж бітвамі,
Незачэпны, нібы дух...

Ад сваіх сяброў адлучаны,
Іх трыумф прадбачу я;
І байцоў уздым агучвае
Песня ўзнёслая мая.

Будзе ўдача не зьячэўная.
Толькі знай, сяброў сям'я:
З перамогі той нікчэмнае
Засмяюся першым — я.

***1899***

* * *

Я помню вечар лістападны,
І кветкі змораных вяргінь,
Дзіцячы позірк, што нагадваў
Пагляд егіпецкіх багінь.

Не, штосьці лёс і мне пакінуў:
Натоўпу шум, нябёс пажар, —
І ў снах маіх — твае хвіліны:
Тваіх вачэй мемфіскіх дар.

***22 ліпеня 1896***

## Аляксандр БЛОК

* * *

***Ул. Пясту***

Май акрутны з белымі начамі!
Грукат у вароты: адчыняй!
Мроіва блакіту — за плячамі,
І пагібель — тоіць небакрай!

Смех жанчын з вар’яцкімі вачамі,
З ружай змятай на грудзях... О май,
Прабудзі! — пратні мяне мячамі
І ад жарсці лютай вызваляй!

Добра ў карагодным крузе лугам
З палымянай песняю прайсці,
Піць віно, смяяцца з мілым другам,
У вянках узорыстых цвісці,
Кветкі слаць чужым сяброўкам смуглым,
Сум і шчасце светлае знайсці,
А дастойней — баразной за плугам
Свежым ранкам басанож ісці!

***28 мая 1908***

* * *

Ноч, вуліца, ліхтар, аптэка,
Няўцямна цьмяніцца святло.
Шляхоў няма... І цягам веку
Ўсё будзе так. Як і было.

Памрэш... зноў прыйдзеш — і навалай
Падступіць паўтарэнне ў твар:
Ноч, рабізна таго ж канала,
Аптэка, вуліца, ліхтар.

***1912***

## Мікалай ГУМІЛЁЎ

### СЛОВА

Гэтым днём, калі над светам новым
Нахіляўся Боскі твар, тады
Сонца ў небе супынялі словам,
Словам руйнавалі гарады.

Крыл сваіх арол не раскрыжоўваў,
Зоркі поўняй захіналі страх,
Калі слова полымем ружовым
У вышынях азарала шлях.

А жыццю ніжэйшаму служылі
Лікаў пад’ярэмныя валы,
Бо глыбіням сэнсу не чужыя
Лікі — і вялікі, і малы.

Сівы патрыярх і жрэц навукі
Пакарыў дабро і зло, аднак
Не рашыўся сэнс даверыць гуку —
На пяску накрэсліў лічбы знак.

Ды забылі мы, што палымяна
Свеціць слова між зямных трывог
І ў святым Евангеллі ад Яна
Сказана, што Слова — гэта Бог.

Мы ж яму, нібы зямному целу,
Ставім грань мізэрнасцю асноў,
І як мёд у вулеі спусцелым,
Кепска пахне тло змярцвелых слоў.

## Ганна АХМАТАВА

* * *

Не, не быць табе ў жывых,
Са снягоў не ўстаць.
Дваццаць восем штыкавых,
Агнястрэльных пяць.

Горкую абновіцу
Шыла сябру я.
Любіць, любіць кровіцу
Руская зямля.

***16 жніўня 1921***

### З НІЗКІ «ТАЙНЫ РАМЯСТВА»

**2**

Навошта мне радкоў адычных веча,
Сентыментальнасць элегічных дзей.
У вершы ўсё быць мусіць недарэчы,
Не так, як у людзей.

Калі б вы зналі ўсё: з якога смецця
Верш, сорам страціўшы, расце парой,
Як дзьмухавец ля плота ў пыльным цвеце,
Як лопух з лебядой.

Сярдзіты крык, пах дзёгцю свежы з ботаў,
Загадкавая плесня на сцяне...
І верш ужо гучыць, жывы, пяшчотны,
На радасць вам і мне.

***21 студзеня 1940***

### З НІЗКІ «ТРЫ ВЕРШЫ»

**2**

Пашнарыўшы ў памяці чорнай, куток
Пабачыш: да локця пальчаткі,
І ноч Пецярбурга. І ложаў паўзмрок
З тым пахам, салодкім і чадкім.

І вецер з заліва. А там, між радкоў,
Мінуючы ахі і вохі,
Табе пасміхнецца пагардліва зноў
Блок — тэнар трагічнай эпохі.

***<1960>***

## Барыс ПАСТАРНАК

### ГАМЛЕТ

Гул заціх. Я выйшаў на падмосткі.
Стаўшы ля дзвярнога вушака,
Я лаўлю ў далёкіх адгалосках
Долю, што мой век мне прыгукаў.

Тысяччу бінокляў морак ночы,
На мяне нацэлены, вісіць.
Калі толькі можна, Авва Ойча,
Гэту чашу міма пранясі.

Я тваю задуму паважаю
І ад ролі не збягаю прэч.
Толькі зараз драма ўжо не тая,
І маёй адмове не пярэч.

Ды канец шляхоў — наканаванне,
І разладу ў дзеях не знайсці.
Я адзін — у фарысейскім стане.
Век пражыць — не поле перайсці.

***1946***

## Георгій ІВАНАЎ

* * *

Пустэльная і доўгая дарога,
А неба больш праменнае, чым рай,
І яхантамі на прыполе ў Бога
Праз дым туману ззяе небакрай.

І там, далёка, дзе вястункай ночы
Ўзлятае зорка птушкаю з гнязда,
На шар зямны глядзяць блакітна вочы,
Гайдаецца сівая барада.

Нібы змарыўся Ён ад спраў трывожных:
Спакойны і стары, не чуе Бог,
Як крылы ластавак неасцярожных
Кранаюцца Ягоных цяжкіх ног.

## Сяргей ЯСЕНІН

* * *

Эх вы, сані! А коні, коні!
Пэўна, чорт на зямлю іх прынёс.
І ляціць у буйным разгоне
І рагоча званочак да слёз.

Снегавая пустая дарога,
Толькі рып, толькі снег і палі.
Ах, як неба наткала многа
Міткалю для марознай зямлі!

Стэп ды стэп — ні сабачага брэху,
А ні месяца шлях не сустрэў.
Патрымайся, жыццё: не праехаў
Я ўсяго, не навек пастарэў.

Заспявай жа насуперак ночы,
Добры фурман, а я падпяю
Пра дзявочыя хітрыя вочы,
Пра юнацкую волю маю.

Эх, бывала, збакірыш шапку,
У аглоблі заводзіш каня,
Кінеш сена ў драбіны ахапкам,
Ляжаш, гікнеш — і згадвай імя!..

І адкуль ты, пастава зуха!
Ноч праходзіла — а не да сну.
Над ракою тальянка-спявуха
Угаворвала не адну.

Час мінуў. Парадзеў мой волас.
Конь сканаў, наш двор апусцеў.
І згубіла тальянка голас,
Развучылася весці спеў.

Але ўсё ж душа не астыла.
Мне прыемныя снег і мароз,
Бо над тым, што было, снежыць крылы
І рагоча званочак да слёз.

***19 верасня 1925***

## Булат АКУДЖАВА

### ВЯСНА

Неба сіняе, як на карцінцы.
Ранак. Ціша. Прамень ля шчакі.
Усміхаецца жук на былінцы,
быццам ён імяніннік які.

Свет змарыўся ад завірухі,
кожны ўдосталь расцвелены ёй.
Колькі б слоў пра зіму я ні слухаў —
ды навошта ж быць доўгай такой...

Снег — не ўбачыш, дзе хто ледзянее;
ноч бяздонная, быццам турма;
замяла ўсё жывое завея,
а навошта — не помніць сама.

Хто згубіўся ў тых сініх буранах,
той міжволі сляпы і нямы...
Не ўжо — збаўце ад формул складаных,
ад пракуд і вар'яцтваў зімы.

Дзякуй богу, званочкі ў пупышках
перагукваюцца ўсё званчэй.
Хай вясна легкадумная крышку —
дык затое ж і дыхаць лягчэй!

П'е прырода вясны насалоду,
зорка ў небе і звер у лясах;
і з-пад самага сэрца ў народа
вырываецца доўгае «ах!».

***1974***

***Пераклад з рускай Васіля Зуёнка.***

**Алена КАРП**

# ТЭМА РАДЗІМЫ Ў ПАЭЗІІ В. СТРЫЖАКА І А.СЫСА

Ад часоў Багушэвіча беларускія літаратары мусілі вырашаць: быць грамадзянінам свету ці жыць для Беларусі, пісаць на занядбанай праз вякі мове ці адрачыся яе. Фармулёўка пытання магла мяняцца, але выбар быў абавязковым і лёсавызначальным. Зразумела, здзейсніўшы яго, пісьменнік пачынаў дэклараваць гэта ў сваёй творчасці.

Выбар на карысць беларушчыны патрабаваў самаадданасці і асабістай мужнасці. Рупліўцы на гэтай ніве шчыравалі нястомна і дбайна. «Першы ў сваёй літаратурнай працы выступае з беларускім нацыянальным ідэалам — ужо свядома нацыянальным — Мацей Бурачок (Францішак Багушэвіч)», «...ён першы абвяшчае самацэннасць нацыянальнасці і мовы беларускай» [9, 86, 88]. Пасля лепшымі пісьменнікамі XX стагоддзя адраджалася і ўмацоўвалася традыцыя, здаралася часам паўтарацца, вяртацца да ўжо некалі пройдзенага. Між тым мноства вершаў пра Радзіму было напісана па інерцыі. Такая збаналізаваная, «інерцыйная» паэзія сёння выклікае раздражненне ці іронію. Для прыкладу працытуем верш А. Бахарэвіча:

Я здраджваў Радзіме — таемнаму Дзіму
Здрадзіміў! Здрадзімшчык!
Усе радыя Дзіму
І радыёміця
І радыёколя... [2, 50].

Так, пісаць пра Радзіму няпроста, цяжка быць арыгінальным у гэтай тэме. Аднак яна не страчвае сваёй актуальнасці, бо нельга сапраўднаму творцу адвярнуцца ад праблем часу і адарвацца ад сваіх каранёў. Нацыянальнае перарастае ў агульначалавечае. Абмінуўшы сваё, крэўнае, можна не толькі не выйсці наўпрост да агульначалавечага, але і апынуцца ў беспаветранай прасторы. Гэтая вечная тэма кожны раз патрабуе адкрыцця, глыбокага і непаўторнага мастацкага асэнсавання. Для В. Стрыжака і А. Сыса яна была наканавана часам і абумоўлена ўласным светапоглядам.

А. Сыс пакліканы нацыянальным адраджэннем. Пра яго кнігу «Пан Лес» яшчэ да выхаду гаварылі як пра праграмную для кожнага беларуса. «Паэтам можаш ты не быць, а беларусам абавязаны» [11, 267], — так перафразаваў А. Сыс знакамітыя някрасаўскія радкі. Яго прастора мастакоўскай здзейсненасці атаясамлівалася ні больш ні менш як з полем бою. А. Сыс быў гатовы прыняць смерць дзеля Радзімы. «...Жажда заведомого «обречения» может быть обусловлена только психологической потребностью — никак не обьективными интересами дела», — пісала ў свой час Л. Гінзбург [5, 138]. Справа сапраўды ў характары, але немалую ролю адыграў і рамантызм, уласцівы творчасці новых адраджэнцаў. Гатоўнасць ахвяраваць сабою дэклараваў нават сённяшні прагматык А. Глобус: «Божа, забяры маё жыццё, /Выратуй знямелую Айчыну...» [6, 44]. Радзіма — цэнтр светабудовы для А. Сыса, яго няма без яе і па-за ёю. Сумненні і хістанні могуць быць у асабістым жыцці, але не ў служэнні Радзіме, яна назаўжды застанецца непарушным арыенцірам для А. Сыса:

Ты спявай, ты спявай,
ты свяці, ты свяці,
рассцялі ручнікі, як сцяжыны,
можа, здарыцца так, я заблудну ў жыцці,
тагды выйду па іх да Айчыны [11, 93].

Паэт-трыбун, ён не проста выйшаў да Айчыны, ён гатовы быў весці за сабой. Яго вершы і з'яўляліся як вынік гэтай гатоўнасці.

В. Стрыжак фіксуе непасрэдна і сам шлях да Беларусі, няпросты і пакручасты:

Іду адзін,
Як лішні,
Як нічыйны,
Па самым краі
Восеньскай журбы...
Чаму люблю цябе,
Айчына,
Зусім не так,
Як некалі любіў?

Па тых краях,
Па выраі далёкім.
Рака тугі,
З гадамі не мялей.
Ды край мілейшы,
Дзе палёту
Вучыўся я
І пасталеў.

Бульбоўнік паляць,
Быццам бы кадзілам,
Махае восень
Над маім былым...
Жыццё маё,
Ты дзе хадзіла,
Што стала горкім,
Як палын?

Штодня мяне
Тармосяць успаміны.
І зараз вось
Падобныя на сон,
Каб не прайшоў
Я раптам міма,
Душу трымаюць
За крысо...

Мой дом,
Вось мама дзверы
Мне адчыніць.
І будзе светлай радасцю залець.
А я скажу:
Даруй, Айчына,
Твой сын
Не заблудзіўся ледзь... [10, 71].

Нялішнім будзе ўзгадаць, што А. Сыс і В. Стрыжак былі пастаўлены ў розныя ўмовы. Розніца ў 5 гадоў, паводле выразу С. Дубаўца, «прыпала на розніцу эпох» [8, 37]. А. Сыс хадзіў у школу, дзе навучанне вялося па-беларуску, тады як падчас вучобы В. Стрыжака беларускамоўнасць успрымалася як праява нацыяна-

лізму і магла быць пакарана. «Паэт, выкінуты з лона айчыннай Прыроды чарговай хваляй беларускага Адраджэння», «дзіця нацыянальнай беларускай ідэі», — так называў А. Сыса Л. Галубовіч [3, 22]. А. Сыс трапіў у вір нацыянальнага Адраджэння, у асяроддзе людзей, якія вызнавалі тую самую ідэю беларушчыны, што і ён. «Літаратура — гэта Бацькаўшчына», — абвяшчаў «Маніфест» таварыства «Тутэйшыя» [1, 18]. В. Стрыжаку не пашанцавала: у час уздыму ў сталіцы нацыянальнага руху ён знаходзіўся ў правінцыі.

Сысу проста немагчыма было не дайсці да Радзімы: сам час клікаў. Сямідзесятнікам было складаней, ім надаралася і заблукаць. Таму верш Стрыжака можа гучаць як дакор тым, хто збочыў, здрадзіў беларушчыне і, распачаўшы шлях адначасова з паэтам, не здолеў дайсці да мэты.

Паходні, што асвятлялі шлях Стрыжака, былі тыя самыя, што і ў Сыса: мова, веліч гісторыі, слава паэтаў-папярэднікаў. Абодва звярталіся да знакавых у нашай літаратуры імёнаў, абодва выбіралі сваімі настаўнікамі класікаў (можна згадаць, што і А. Сыс, і В. Стрыжак сябравалі з Р. Барадуліным), абодва не саромеліся, наадварот, усяляк падкрэслівалі сваё вясковае паходжанне. У абодвух паэтаў выразна выяўлена апазіцыя вёска — горад, хоць фармальна і вёска, і горад пияднаны паняццем Радзімы.

Горад успрымаецца Сысам як нешта варожае, ён нібы выкінуты за межы так любімай ім Айчыны, Горад — анты-Радзіма.

Лірычны герой Стрыжака таксама не прымае гарадскога побыту, аддаючы перавагу вёсцы:

Кагосьці слепіць рэчамі
Шматпавярховы быт,
А я хачу
пад Рэчыцу,
Дзе так даўно не быў.
..................................
Здаюцца недарэчнымі
.........................
На вуліцах агні.
Мяне сяла пад Рэчыцай
Прыцягвае магніт [10, 13], —

І куміраў яны сабе абіралі адных і тых жа. Сыс піша артыкулы «Жыццё ў радку і метале», «Радзіма Паўлюка Багрыма ў мінуласці», «Прыгонны паэт», прысвечаныя Паўлюку Багрыму, Стрыжак — радкі:

Узлятаюць гневу доўбні...
І салдатчыны вярста...
На каго ж Багрым падобны?
На Хрыста [10,5], —

якія можна было б зблытаць з Сысавымі, так яны падобныя сваім багомленнем Паэта.

І А. Сыс, і В. Стрыжак балюча ўспрымалі панаванне чужой мовы і прыніжэнне роднай. Адзін з вершаў В. Стрыжака на гэтую тэму носіць выразную назву «Боль». У іншым творы паэт хоча данесці свой клопат да нашчадкаў:

Не аглухні дачасна,
Без віны вінаваты...
Хоць і маеш за шчасце
Мову іншую сватаць.
Не даруе твой продак
Пад плітою магільнай
Долі мовы гаротнай,
Што, як мамант, загіне... [10, 70].

А. Сыс наогул вывеў святое для кожнага беларуса трыадзінства «маці — мова — вечнасць». А «маці» ў кантэксце паэзіі А. Сыса слова полісемічнае, пад якім разумеецца і маці, і зямля, і радзіма. Нацыя моцная сваімі каранямі — такую думку сцвярджае паэт. Сугучныя па сваёй ідэі вершы В. Стрыжака «Даннік» і А. Сыса «Вячэра перад Купаллем». У вершы «Даннік» В. Стрыжак гаворыць пра немагчымасць жыць без гістарычнай памяці. За сцісласцю і адсутнасцю кідкіх тропаў хаваецца багатая інфармацыйнасць. Вобраз гусляра адсылае да Купалы, дзіды і кісцяні — напамін пра слынныя старонкі гісторыі, імя Паўлюка Багрыма — згадка пра лёс нашага прыгожага пісьменства.

У вершы А. Сыса «Вячэра перад Купаллем» паўстаюць, як жывыя, цені Кастуся Каліноўскага і Алаізы Пашкевіч. Лірычнаму герою А. Сыса ўтульней разам з імі, змагарамі, паэтамі і такімі самымі, як і ён, самотнікамі. Асоб, якія сталі нацыянальным гонарам Беларусі, паэт называе проста Пашкевічанка і Кастусь. Гэта не значыць, што паэт недастаткова іх шануе, але ён, відаць, усведамляе, што яго імя будзе ўпісана ў тую ж парадыгму.

Такія ўцёкі ў гісторыю можна патлумачыць тым, што сярод сучаснікаў А. Сыс не бачыў нікога, роўнага сабе па запале пасіянарнасці. Сярод натоўпу паэт заставаўся самотным. «Анатоль Сыс спрабаваў весці за сабой народ, <...> а народ чухаў патыліцу» (М. Скобла) [11, 6]. Таму паэт шукаў больш адэкватнага ўласным запатрабаванням часу.

Натхнёныя гераічнымі постацямі мінулага, паэты прагнуць волі для сваёй Айчыны, волі, як яе разумела Л. Геніюш:

Воля — не тое, што рукі развяжуць,
зменяць на большую клетку малую.
Воля — не тое, што
«вольны ты» — скажуць.
Воля — то воля, якую адчую [4, 61].

У Стрыжаковых радках «Ты распрам, Беларусь, / Ты распрам, / За гады / Прыгарбелыя плечы... / Дай званы / Ты сваім званарам, / І пакліч нас / На веча, на веча, / На веча...» [10, 20] — нагадваюць пра Купалаў Вялікі сход па Бацькаўшчыну.

А. Сыс у сваёй змагарнай лірыцы нешматслоўны, але пераканаўчы:

... І мяне натхняе воля,
быццам птушку вецер з поля,
а без ветру ёй не жыць
і над полем не кружыць.
А цябе натхняе зброя.
«Зброя, — кажаш, — гэта воля!
А без волі нам не жыць
і Радзіме не служыць» [11, 36].

Немудрагелістыя дзеяслоўныя рыфмы, чатырохстопны харэй ствараюць маршавы рытм, а сінтаксічны паралелізм і паўтор ключавога слова «воля» акцэнтуюць думку.

І В. Стрыжак, і А. Сыс не могуць трываць абыякавасці да лёсу Беларусі, занядбання нацыянальнай памяці і традыцыі. Акрамя названых, В. Стрыжака хвалюе таксама праблема Чарнобыля. Прысвечаны гэтай тэме верш «Дзе?» напісаны харэем, які традыцыйна ўспрымаецца як «вясёлы метр». Гумілёў зазначае, што «хорей, поднимающийся, окрылённый, всегда взволнован и то растроган, то счастлив; его область — пение» [7, 72]. Сапраўды, выклічнікі «гэй» у першай страфе, абраны метр ствараюць уражанне прыўзнятасці, песеннай весялосці. Але ўжо ў другой страфе, пачынаючы з радка «пазіраю на крыжы», які не адпа-

вядае агульнаму рытмічнаму малюнку, тэмп запавольваецца. Спрыяюць гэтаму і шматкроп'і: «Плача Ветка без віны / Маткай вінаватай... / А ў маны свае званы: / Мірны атам...» [10, 4] Харэічны метр, што нібы не стасуецца з сур'ёзнай тэмай, выяўляе іронію аўтара, яго раздражненне паводзінамі блазнаў на паханні: легкадумнымі адносінамі да Чарнобыльскай катастрофы, спробамі зрабіць выгляд, нібы нічога страшнага не адбылося. Паэт пісаў пра трагедыю не з чужых слоў. Ён сам жыў і працаваў у Ветцы, горадзе, які таксама пацярпеў ад радыяцыі. Веткаўцам не дапамагалі, не падтрымлівалі, таму В. Стрыжаку давялося стаць удзельнікам і арганізатарам дэлегацый у Мінск з мэтай абараніць правы чарнобыльцаў.

«Паэт не мае права быць паэтам / цнатлівае і чыстае красы, / калі ў Айчыне загніваюць рэкі, / і засыхаюць на вачах лясы» [11, 185]. В. Стрыжак і А. Сыс сваю любоў і боль за Радзіму сцвярджалі не толькі паэзіяй, але і жыццёвай пазіцыяй.

Абодва паэты служэнне Радзіме ўспрымалі як натуральны свой абавязак. У вершы «Пошук» В. Стрыжака радкі «Знайсці Радзімы дзеля, / Знайсці і ёй аддаць» у канчатковым варыянце сталі гучаць: «Знайсці Радзімы дзеля, / Каб зноўку ёй аддаць» [10, 10]. Паэт зняў паўторы «знайсці» і ўвёў сінанімічныя словы «дзеля», «каб», закцэнтаваўшы ўвагу не столькі на дзеянні, колькі на мэце — жыць для Беларусі.

Іх вернасць прызванню і Беларусі давала паэтам права судзіць суайчыннікаў. Жорсткім выракам гучаць словы В. Стрыжака:

Молішся на дробязі.
Ды яшчэ і трус.
Твае рукі дрогкія
Раструсілі друз,
На якім пячаткаю
След твайго пачатку...
Ты — не беларус [10, 14].

А. Сыс быў яшчэ больш катэгарычным і эмацыйным. Ён адчуваў сябе праракам, месіяй, які можа праклінаць адступнікаў:

«Берасцянае неба! Выратуй! Ачышчальным агнём сваім спапялі чалавекавырадкаў, размяці іхны прах і дым» [11, 125]. А. Сыс не мог уявіць свайго жыцця без Радзімы, таму так гіпертрафіравана ўспрымаў яе боль. Яму ўласціва трагічнае светаадчуванне. Усе праблемы Беларусі праз павелічальнае шкло яго паэзіі паўстаюць выпукла і фантасмагарычна жахліва. Ён мог уявіць Апакаліпсіс, які пачынаецца з Беларусі. У сваёй любові да краіны А. Сыс мог быць праўдзівым бязлітасна, настолькі непрыглядна мог бачыць ён сучасную Беларусь і сябе ў ёй:

Я — зямля, на якой не растуць дрэвы.
Я — дрэва, на якое не садзяцца птахі.
Я — птах, якога не сочаць нават паляўнічыя.
Я — паляўнічы, у якога вечна галодныя сабакі.
Я — сабака, якога не баяцца злодзеі.
Я — злодзей, якога не гоняць ад вогнішча.
Я — вогнішча, якое не сцеражэцца леяў.
Я — лея, якой не шкада вандроўнікаў.
Я — вандроўнік, якому ўсё адно, куды вядзе дарога.
Я — дарога, якая не сніць ройсты.
Я — ройста, на якой валацуга бязмысны.
Я — валацуга, які страціў радзіму.
Я — радзіма...
Я — радзіма? Паляўнічы, сабака, бадзяга, злодзей... [11, 99].

Найбольш шакіраваў чытачоў верш А. Сыса «Беларусь мая, мая магіла...» Здавалася, так пра краіну мог казаць толькі А. Сыс. Аднак яшчэ раней быў напісаны верш В. Стрыжака з аналагічным вобразам:

Вось стаю я,
Смуткую, божкаю
Над табою, радзімая,
Як над вечным пабоішчам
І магілай адзінаю... [10, 69].

В. Стрыжак, як і многія яго папярэднікі, выкарыстоўвае метафарычны архетып Радзіма — жанчына, але не блытае пачуццё да Радзімы з пачуццём да каханай. У А. Сыса Радзіма тоесна каханай, больш за тое, вобраз Радзімы перажывае пэўную трансфармацыю: ад абагаўлення (маці Радзіма) і атаясамлення з каханкай («Зачнем, Айчына, сына ў чыстым полі...») да вобразу няверпай жонкі:

А ў мяне ж свая ёсць магіла,
а мяне ж яна палюбіла,
палюбіла сынам і мужам,
як жану я біў яе гужам,
а я біў-пытаўся: ці мала
да мяне з чужынцамі спала?
«Спала з маскалём, спала з ляхам,
ды была пасцеллю мне плаха,
спала з тваім бацькам-ліцвінам,
а цяпер з табой — маім сынам,
паглядзіся ў рэчкі лясныя,
хіба ж маеш вочы Батыя,
хіба ж конскі хвост за плячыма,
паглядзі — з кім спала Айчына... [11, 217].

Аднак жа абодвух аўтараў нельга абвінаваціць у бязвер'і. Яны і паказваюць шляхі выратавання, прапісваюць лекі ад бяспамяцтва: у Стрыжака вершы «Радзімы музыка», «Нашчадку», у Сыса — «Галодны год», «Серабрыстыя збаны».

Вартасць паэзіі вымяраецца праўдзівасцю пачуцця. Беларусь — боль Сыса, а Сыс — боль Беларусі. Такой жа выпакутаванай была тэма радзімы і для В. Стрыжака. Якраз на мяжы любові і болю нараджаюцца вершы па-сапраўднаму арыгінальныя, шчырыя і шчымліва-пранізлівыя.

## Літаратура:

1. Бязлепкіна, А. Разам і паасобку: Таварыства «Тутэйшыя»: Гісторыя, асобы, жанры. — Мінск: «Беларускі кнігазбор», 2003. — 64 с.
2. Васючэнка, П. Адлюстраванні першатвора: Літаратура ў філалагемах і пятрогліфах. — Мінск: І. П. Логвінаў, 2004. — 114 с.
3. Галубовіч, Л. Пан Лёс. // Крыніца. 2001. № 6 (66). С. 22 — 24.
4. Геніюш, Л. Гасціна: Выбранае. — Мінск: Маст. літ., 2000. — 382 с.
5. Гинзбург, Л. О лирике. — Ленинград: «Советский писатель», 1964. —408 с.
6. Глобус, А. Скрыжаванне. — Мінск: БАДППР: Ковчег, 1993. — 48 с.
7. Гумилёв, Н. Письма о русской поэзии. — М.: Современник, 1990.
8. Дубавец, С. Вершы. — Мінск: Медысонт, 2007. — 224 с.

9. Луцкевіч, А. Выбраныя творы: праблемы культуры, літаратуры і мастацтва. — Мінск: Кнігазбор, 2006.
10. Стрыжак, В. Рэха журбы: Вершы. — Мінск: Маст. літ., 1994. — 111 с.
11. Сыс, А. Лён: выбраныя творы. — Мінск: Кнігазбор, 2006. — 436 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 15 лютага 2010 года.

Алена Карп
«Тэма Радзімы ў творчасці В. Стрыжака і А. Сыса»

**Рэзюме**

Артыкул прысвечаны мастацкай інтэрпрэтацыі тэмы Радзімы ў паэзіі В. Стрыжака і А. Сыса. Аўтар паказвае агульнае і адрознае ў творчасці паэтаў розных пакаленняў і сцвярджае значэнне патрыятычнай тэмы для беларускай літаратуры.

Alena Karp
«The saddness on Belarus is my eternal torment»: the theme in poetry of V. Strizhak and A. Sys

**The Summary**

This article is dedicated to an artistic interpretation of the theme of Motherland in the V. Strizhak's and A. Sys's poetry. An author shows the general and definitive features in the works of poets, which  belonging to different generations, and asserts significance of patriotic theme for the Byelorussian literature.

# МІХАСЬ ДРЫНЕЎСКІ: «Несці народу ягоную ж спадчыну»

З Міхасём Паўлавічам Дрынеўскім, мастацкім кіраўніком Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Генадзя Цітовіча, мы знаёмыя даўно, ужо больш як трыццаць гадоў. Знаёмыя блізка, на ты. А вось бачымся рэдка, два-тры разы на год. Ды і то часцей за ўсё на розных афіцыйных мерапрыемствах, канцэртах, паседжаннях журы. Затое сустрэчы гэтыя заўсёды шчырыя, сардэчныя, яркія. Міхась Паўлавіч — чалавек дасціпны, вясёлы, сонечны. За якіх дзесяць—пятнаццаць хвілін паспее і пра тваё жыццё распытацца, і важнымі навінамі падзяліцца, і анекдот смешны расказаць. І доўга яшчэ пасля такой сустрэчы не сыходзіць з тваіх вуснаў усмешка, а душа напоўнена гаючым святлом.

Даў жа Бог чалавеку талент — іскрысты, мудры, шчодры! Яго хапае на ўсё: на творчасць, на грамадскую работу, на сяброў і проста знаёмых людзей, якім трэба нешта падказаць, нечым памагчы. З-за гэтага мы некалькі разоў пераносілі прызначаную сустрэчу, бо Міхасю Паўлавічу даводзілася раптоўна зрывацца і спяшацца на нечаканае, але важнае паседжанне або адгукацца на пільную просьбу і ехаць за сотні кіламетраў. Нават падчас нашых гутарак тэлефонныя званкі не давалі яму спакою. Ён перапрашальна разводзіў рукамі, браў трубку і, цярпліва выслухаўшы чалавека, ківаў галавою:

«Добра, добра… Вы ж разумееце, я не ўсёмагутны, але што па маіх сілах, пастараюся зрабіць».

М. Дрынеўскі — адзін з тых руплівцаў-падзвіжнікаў, хто кожны свой дзень прысвячае святой і высакароднай справе — захаванню, развіццю і ўзбагачэнню беларускай народнай песні. Сваю прафесіянальную місію ён разумее так:

«Песня — не толькі своеасаблівы музычны летапіс эпохі. Яна, і гэта вельмі важна, яшчэ і магутнейшы інструмент фарміравання грамадскай свядомасці, пабудовы сістэмы маральных каштоўнасцей і жыццёвых арыенціраў. Таму няма больш пачэснай справы, як несці народу ягоную ж песенную, музычную і танцавальную спадчыну, радаваць людзей родным беларускім словам, песняй, музыкай».

У нашага выдатнага паэта Янкі Сіпакова ёсць верш, прысвечаны цудоўнаму беларускаму спеваку Міхасю Забэйду-Суміцкаму, але, мне здаецца, яго цалкам можна аднесці і да Міхася Дрынеўскага. Вось гэты верш:

Зямля,
хоць такая вялікая,
А ўсяго пясчынка сусвету;
А ў песні,
самай кароткай,
Змяшчаецца цэлы сусвет;
У сэрцы ж —
маленечкім жаўранку —
Жыве столькі матчыных песень…
О, ты маеш столькі сусветаў —
Які ты багаты чалавек на зямлі!



*Міхась Паўлавіч Дрынеўскі.*

М. Дрынеўскі не толькі багаты, але і шчаслівы чалавек. Яго нястомная, плённая праца дастойна ўганаравана краінай. Ён — народны артыст Рэспублікі Беларусь, заслужаны дзеяч мастацтваў, прафесар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, лаўрэат прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне», кавалер ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга і ордэна Францыска Скарыны, ганаровы акадэмік Міжнароднай кадравай акадэміі. А хор, якім ён кіруе, за час ягонай працы атрымаў найвышэйшыя тытулы: у 1983 годзе — званне акадэмічнага, у 1987 — імя Генадзя Цітовіча, у 2002 — званне нацыянальнага, а ў 2004 годзе пастановаю Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь хор быў названы дзяржаўнай установай культуры, якая мае асаблівае значэнне для захавання, развіцця і распаўсюджання беларускага нацыянальнага музычнага мастацтва.

Пра хор, яго мінулы і сённяшні дзень, яго поспехі і праблемы мы і павялі нашу гаворку.

## Песні як людзі — розныя

***— Міхась Паўлавіч, народнаму хору Беларусі неўзабаве споўніцца 60 гадоў. Раскажы, калі ласка, у двух словах яго гісторыю.***

— Усё пайшло, як ты ведаеш, ад Генадзя Іванавіча Цітовіча. Дзякуючы яго актыўнасці, яго энергіі, яго адданасці беларускаму фальклору. У далёкім 1939 годзе ён сабраў і ўзначаліў самадзейны народны хор у вёсцы Вялікае Падлессе Ляхавіцкага раёна. Хор яшчэ да вайны стаў шырокавядомы ў рэспубліцы. Але сапраўдная слава прыйшла да яго ў пяцідзесятыя гады, калі самадзейны калектыў быў пераўтвораны ў Дзяржаўны народны хор БССР. Г. І. Цітовіч зрабіў яго вядучым мастацкім калектывам, вядомасць якога сягнула далёка за межы Беларусі. Ну а ў 1975 годзе, калі Генадзь Іванавіч пайшоў на пенсію, гонар і вялікая адказнасць узначаліць знакаміты калектыў выпалі мне. Вось і ўся гісторыя, калі ў двух словах.

***— Тады яшчэ адно слова. Да гэтага часу ходзяць чуткі, што Цітовіч не сам пайшоў на пенсію, а яго нібыта выпхнулі розныя «дабрадзеі».***

— Думаю, што так. Памаглі, паскорылі выхад на пенсію дробныя, нікчэмныя чыноўнікі з упраўлення культуры. Туды нібыта прыходзіла шмат ананімак на Цітовіча. Можа, нехта з зайздроснікаў нешта і пісаў, але што шмат — не веру. Генадзь Іванавіч меў у калектыве бясспрэчны аўтарытэт. Канечне, такія непрыемныя, зневажальныя адносіны чыноўнікаў яго глыбока крыўдзілі, але як чалавек вясёлы, маторны, ён гэтага не паказваў.

Ты можаш запытацца, як складваліся адносіны ў Цітовіча са мною, яго пераемнікам? Звычайна, яны бываюць далёка не лепшыя. На шчасце, у нас так не здарылася. Генадзь Іванавіч быў маім сябрам да яго апошніх дзён. Мы з ім вельмі добра ладзілі. Ён часта завітваў у калектыў, слухаў нашы новыя песні, нешта хваліў, нешта падказваў. І мы заўсёды вельмі чуйна прыслухоўваліся да яго слушных парад.

Сёлета, у жніўні, у Г. І. Цітовіча вялікі юбілей — сто гадоў з дня нараджэння. Вядома ж, мы рыхтуемся дастойна адзначыць гэту знамянальную падзею.

***— Мне здаецца, што найлепшым падарункам шаноўнаму маэстра будзе той факт, што выпеставаны ім калектыў знаходзіцца ў надзейных руках, што ягонае любімае дзіця не толькі не зачахла, а прыкметна падрасло, набралася моцы і дастойна, з гонарам нясе імя знакамітага «хроснага бацькі». Хацелася б пачуць, як ты захоўваеш і ўзбагачаеш традыцыі свайго вялікага папярэдніка і настаўніка? Што патрабуецца ад калектыву, які мае высокія званні нацыянальнага, акадэмічнага, народнага, каб адпавядаць патрабаванням часу, быць сучасным?***

— Ого, тут ужо двума словамі не абыдзешся.

***— І не трэба. Гавары ўсё, што на гэты конт думаеш.***

— Ну што ж, паспрабую… Ведаеш, традыцыі, калі яны добрыя, калі яны народныя, нацыянальныя, то яны — вечныя. Гэта як тое жыцейка: якім яно было тысячу гадоў таму, такім яно ёсць і цяпер, такім будзе і яшчэ праз тысячу гадоў. Сутнасць яго не зменіцца.

Я часам бываю ў роспачы, калі раптам чую ад некаторых «спецыялістаў ад музыкі», што, маўляў, няма чаго чапляцца за старое, трэба ствараць, развіваць новае, сучаснае. Але калі ў гэтым сучасным вытраўлена душа, калі ў ім няма паэзіі, няма мелодыі, то якое яно сучаснае? Яно — часовае, як прыйшло так і пойдзе. Шкада толькі, што гэтыя дачаснікі ў параўнанні з сапраўднымі артыстамі, якія нясуць вечнае і чалавечнае, жывуць непараўнальна больш раскошна, далёка не па сваім таленце.

А традыцыі — яны няхітрыя: ашчадна збіраць і клапатліва захоўваць нашу багацейшую спадчыну і як самы каштоўны скарб перадаць яе наступным пакаленням. І я лічу, што гэта — самае галоўнае, што мы павінны рабіць. А па модзе ісці — гэта лёгка. Можна нават і добрыя грошы зарабіць. Адзін з нашых эстрадных спевакоў, калі размова зайшла пра крызіс, здзівіўся: «Які крызіс? Я за мінулы год мільён даляраў накасіў!»

Накасіць, канечне, можна. А дзе ж сумленне? Ды пра гэта цяпер, здаецца, думаюць далёка не ўсе. От я зараз прыйшоў са здачы святочнага канцэрта. Падкрэсліваю: святочнага. І колькі ж у ім слабых, дрэнных нумароў! Нават цудоўную «Белавежскую пушчу» скалечылі так, што немагчыма пазнаць. Калі б Пахмутава пачула, яна схапілася б за сэрца. Такое напрыдумляна нешта ненармальнае, дзікае, знявечана і мелодыя, і рытміка, і ўсё багацце, уся чароўнасць музычнага шэдэўра. Навошта? Дзеля чаго?

Я не вытрымаў, падышоў пасля прагону да рэжысёра, запытаўся: «Як гэта разумець?» Той толькі няўцямна паціснуў плячыма. Дык ці трэба нам такое «асучасванне»?

Таму мы прытрымліваемся залатога правіла: сучаснае павінна гарманічна спалучацца з глыбока народнымі, нацыянальнымі традыцыямі. Што гэта азначае для нас на практыцы? А тое, што ў сваіх творчых пошуках мы ідзём трыма асноўнымі напрамкамі. Першы — выконваем народныя песні ў іх першародным, аўтэнтычным выглядзе, раскрываем сродкамі хору сутнасць іх меласу. Другі напрамак — апрацоўка, аранжыроўка народных песень з тым, каб надаць ім сучаснае гучанне. Пры гэтым стараемся мелодыю максімальна захаваць, расквеціўшы, узбагаціўшы толькі яе сучаснымі харавымі і музычнымі сродкамі. Нехта з музыказнаўцаў такі працэс вобразна назваў пераўтварэннем вуглаватага, неапрацаванага алмаза, здабытага з нетраў народнай памяці, у дарагі, прыгожы, сонечны брыльянт. І, нарэшце, трэці напрамак — выкананне народнага песенна-танцавальнага мастацтва ў сінтэтычным адзінстве спеваў, музыкі і танца. Гэта дае нам магчымасць ствараць яркія жанравыя замалёўкі народных гулянняў, песні-карагоды, разгорнутыя вакальна-харэаграфічныя кампазіцыі.

У сваю чаргу мы не цураемся і таго лепшага, што ёсць у нашых суседзяў-братоў. У рэпертуары хору і рускія песні, і ўкраінскія. Ёсць і прыбалтыйскія. Наогул, калі мы едзем на гастролі ў далёкае альбо блізкае замежжа, мы абавязкова выконваем песню на мове той краіны, дзе выступаем. Гэта як даніна нашай павагі да культуры таго народа, які нас гасцінна прымае.

Мы спяваем і па-кітайску, і па-карэйску, што, павер мне, вельмі няпроста. Тут патрэбна не толькі дасканалае валоданне чужым, непрывычным меласам, але і дакладнае інтанацыйнае пападанне. Здаецца, нам гэта няблага ўдаецца, бо калі мы на міжнародным фестывалі ў Сеуле выканалі некалькі карэйскіх народных песень, зала вітала нас стоячы. Дарэчы, з гэтага фестывалю мы прывезлі ўсе тры галоўныя ўзнагароды.

***— Ты ўзгадаў Кітай. Недзе ў мяне была выразка з адной нашай апазіцыйнай газеты, якая пра выступленне народнага хору імя Цітовіча там даволі з'едліва пісала (цытую): «артысты… пачаставалі мясцовую публіку чыста беларускім рэпертуарам — песняй «Рябинушка», танцам «Метелица» і залатымі нацыянальнымі хітамі — «Катюшей», «Калинкой» ды «Подмосковными вечерами». Як ты расцэньваеш гэтую рэпліку?***

— Мы таксама яе чыталі, і нам было, па праўдзе кажучы, даволі крыўдна. Тут відавочнае неразуменне таго, пра што я толькі што сказаў — пра павагу да гледача. Калі мы першы раз збіраліся ехаць у Кітай ( а мы былі там тры разы), то я цікавіўся ў кітайцаў, якія вучыліся тут, у нас, якія яны любяць слухаць песні, і яны якраз назвалі мне ўсе тыя творы, што ўзгадваюцца ў рэпліцы. Але мы іх не проста выканалі, мы выканалі іх на кітайскай мове! І зала з радасцю, з захапленнем нам падпявала. І якім жа трэба быць нядобразычліўцам, каб гэтага не ўбачыць. Як не ўбачыць і таго, што ўся астатняя праграма канцэрта была беларуская.

Хачу ў гэтай сувязі асабліва падкрэсліць: пры ўсім пры тым, што мы стараемся ўзбагачаць свой рэпертуар лепшымі музычнымі творамі іншых народаў, усё-такі 90 працэнтаў яго складаюць беларускія народныя песні, тыя самыя, што збіраў калісьці Генадзь Цітовіч, іншыя фалькларысты.

***— Гэта песні розных часоў, рознай тэматыкі, розных настрояў?***

— Так, так. Песні як людзі — розныя. Ёсць у нас творы лірычныя, працяжныя, жартоўныя, ёсць вясновыя, карагодныя, вясельныя, салдацкія, баладныя… Калі падлічыць, то ўсяго ў нашым рэпертуары будзе больш за тысячу нумароў песеннай класікі.

***— І што, вы ўсе іх выконваеце?***

— Не, канечне, большая частка нумароў ужо ў архіве. У дзеючым рэпертуары недзе пад сотню, а, можа, і за сотню. Ведаеш, ёсць такія песні, якія жывуць кожны дзень на працягу многіх гадоў. Ёсць песні, якія выконваюцца ад свята да свята. А ёсць — праспявалі раз-другі і адчуваем, не кранае песня гледача, ды і па артыстах бачна, што яны застаюцца абыякавыя, не ўкладваюць душу ў тое, што спяваюць. Творчае жыццё такога нумара кароткае.

І гэта нармальна. Нічога няма вечнага. Нешта адыходзіць, нешта застаецца. Нешта ствараецца новае, тое, што больш адпавядае патрабаванням часу. Я ў гэтым не бачу ніякай трагедыі. Калі нават з дзесяці твораў застаецца адзін — гэта няблага. А потым, калі нумар выпадае з рэпертуару, ён жа бясследна не прападае. Ён ужо назаўсёды застаецца ў залатым фондзе музычнага фальклору.

***— Ты сказаў, што ваш рэпертуар пастаянна абнаўляецца. Як і хто вядзе пошук новага песеннага матэрыялу?***

— Што тычыцца народнай песні, ну дык тут у свой час добра папрацавалі і Мікалай Чуркін, і Рыгор Шырма, і Зінаіда Мухарынская. Вельмі многа ў гэтым напрамку зрабіла і працягвае рабіць Зінаіда Мажэйка, з якой мы шчыра сябруем. Яна многа нам памагае, падказвае. Яна прайшла, праехала ледзь не ўсю Беларусь і мае шмат цікавых запісаў. Калі нам што трэба, мы звяртаемся да яе, і яна заўсёды нас выручае.

Ну і ў рэшце рэшт ёсць неацэнны скарб — анталогія Генадзя Цітовіча, у якой сабрана больш як тры тысячы народных песень. Гэта — сапраўдная энцыклапедыя нацыянальнага песеннага фальклору, невычэрпная крыніца мудрасці і таленту нашага народа.

Але не толькі гатовым — сабраным, апрацаваным, надрукаваным — мы карыстаемся. Бывае, што нехта нам прышле тэкст і ноты новай, незнаёмай песні, нехта прынясе. А недзе я пачую сам, як гэта было, скажам, з песнямі «Ой, ты грушка мая», «Да пшанічанька яра»... Запісаў я іх у сваім родным Тонежы, і нават вялікай апрацоўкі не запатрабавалася, настолькі яны былі чыстыя, дасканалыя.

А от ужо з песняй «Як пайду я дарогаю...» была зусім іншая гісторыя. Першы раз я пачуў яе ад Альберта Кашпура — рэчыцкага хлопца, майго аднакурсніка па Гомельскім музвучылішчы. Песня зачапіла, запала ў душу. Куды ні іду, што ні раблю, а яна не выходзіць з галавы. Усё думаю пра тую бедную сірацiну, пра горкую долю якой апавядаецца. І слоў, як быццам, нямнога, а які прастор для фантазіі, якая глыбіня і сіла пачуццяў. Але нешта мне ў песні муляла, нешта хацелася ўдасканаліць, каб тэма няўдалага чалавечага лёсу загучала на ўсю моц...

Тры гады я думаў, выношваў варыянт апрацоўкі. І так спрабаваў зрабіць, і гэтак, і ўсё адчуваў — не тое. Нарэшце маё жаданне выкрышталізавалася ў тую форму, у якой песня гучыць і сёння. І, можа, гэта самы лепшы варыянт, які можна было зрабіць. Ва ўсякім разе мой педагог па кансерваторыі Ганна Паўлаўна Зелянкова, калі пачула «Як пайду я дарогаю...» на канцэрце, то не стрымалася, заплакала ад шчасця і сказала: «Вось што я ад цябе ўсё жыццё чакала... Такой работы».

І праўда, гэтую песню нельга слухаць без спагады, без хвалявання. Яна даходзіць да сэрца. Мне пашанцавала яшчэ і ў тым, што яе выконвае цудоўная спявачка Валянціна Крыловіч. Я не знаю, ці знойдзецца яшчэ такі голас, такі талент, як у яе. У мяне і цяпер, калі я слухаю, як спявае Валя, хоць слухаю ўжо далёка не першы раз, то ажно мурашкі бегаюць па спіне і праймаюць слёзы...

***— Нешта падобнае я перажыў аднойчы ў вас на канцэрце, калі хор выконваў рускую народную песню «Шумел камыш...» Ды ці толькі я? Уся зала, слухаючы неверагодна драматычнае, бліскучае па майстэрстве выкананне гэтага твора, літаральна затаіла дыханне, а пасля ўзарвалася гарачымі, удзячнымі воплескамі. Кажу ўдзячнымі, таму што вы вярнулі народнаму шэдэўру першароднае хараство і чысціню. А як прыйшла задума ўключыць гэтую песню ў свой рэпертуар? Здагадваюся, тут была немалая рызыка.***

— Была, ды яшчэ й якая. Па праўдзе кажучы, апрацоўку песні я зрабіў даўно, але гадоў дзесяць не выносіў на сцэну. Не асмельваўся. Усё разважаў: а як успрымуць яе, незаслужана прыніжаную, аднесеную ў ранг застольна-п’янаватых, цяперашнія гледачы? Мяне падштурхнулі мае артысты: хопіць сумнявацца, сказалі яны, хопіць шліфаваць. Раз песня падабаецца нам, то яна будзе па душы і гледачам. Гэта ж сапраўдны гімн самаахвярнаму дзявочаму каханню. А які драматызм сітуацыі, якая сіла і глыбіня пачуццяў. І як пра гэта паэтычна, цнатліва, неверагодна моцна сказана!

Першае ж выкананне засведчыла, што мы не памыліліся. Гледачы прынялі песню выдатна. І мяне як мастацкага кіраўніка гэта вельмі цешыць: значыць, мы сваімі харавымі сродкамі змаглі раскрыць, данесці да людскіх сэрцаў усё тое трапяткое, жывое, вечнае, што было заключана ў песні, здолелі даць ёй другое жыццё. І ведаеш, нават калі мы іншы раз «Шумеў камыш...» не ўключаем у праграму канцэрта, то гледачы ўсё роўна просяць яго выканаць.

***— Міхась Паўлавіч, а акрамя народных песень у вашым рэпертуары ёсць іншыя творы?***

— А як жа. Без гэтага нельга. На канцэрт жа прыходзяць людзі розных мастацкіх густаў, і мы павінны гэта ўлічваць. Таму любы наш канцэрт не абы-

ходзіцца без твораў сучасных беларускіх кампазітараў. Канечне, не ўсё нас задавальняе. Хацелася, каб яны пісалі і больш, і лепш, але калі ў песні ёсць нейкае зерне, дык яго можна вырошчваць, расквечваць.

***— Вы неяк адгукаецеся на палітычныя падзеі, на грамадска значныя даты, юбілеі?***

— Наконт палітычных падзей не скажу… У нас трохі іншыя задачы. А вось да вялікіх, значных юбілеяў рыхтуемся. От і цяпер да 65-годдзя Вялікай Перамогі мы зрабілі песенна-танцавальную сюіту пад назваю «Песні беларускіх партызан». Усе творы, якія тут выконваюцца — народныя, мы толькі іх апрацавалі, надалі сучаснае гучанне. Песні ідуць уперамешку з танцавальнымі нумарамі. Атрымалася такая нармальная, цікавая рэч.

А яшчэ мы да гэтага ж юбілею рыхтуем аўтарскую праграму на музыку Канстанціна Малчанава з кінафільма «А зоры тут ціхія». Складваецца прыгожы, арыгінальны нумар хвілін недзе на дваццаць.

***— Што ж, рэпертуар хору сапраўды ўражвае — і сваёй разнастайнасцю, і сваёй маштабнасцю. У гэтай сувязі я хачу нагадаць табе адну цытату. Вось яна: «Як таленавіты музыкант, высокакваліфікаваны харавы дырыжор, Міхась Дрынеўскі прадоўжыў традыцыі Генадзя Цітовіча. Разам з тым, беражліва захоўваючы нацыянальную культурную спадчыну, ён здолеў перабудаваць і ўзбагаціць творчы працэс, пашырыць дыяпазон музычнага матэрыялу». Гэта думка аднаго з нашых музыказнаўцаў. Пра традыцыі мы ўжо гаварылі. Пра рэпертуар таксама. А што значыць на практыцы пашыраць дыяпазон музычнага матэрыялу ў дачыненні да народнага хору?***

— Гэта значыць, што мы не замыкаемся на адным нейкім напрамку. Канечне, магістральным напрамкам для нас з’яўляецца выкананне народных песень. Але і тут, як я ўжо казаў, стараемся разнастаіць свой рэпертуар — спяваем і чыста народныя, аўтэнтычныя песні, і песні, апрацаваныя, падшліфаваныя пад сучасныя патрабаванні, і выконваем сінтэтычныя нумары, дзе народная песня арганічна спалучана з музыкай і танцам.

Гэта па-першае.

А па-другое, у нас многа акапэльных твораў. Гэта — вышэйшы пілатаж выканальніцкага мастацтва. Тут ужо ніякія агрэхі не схаваеш за музыку. Кожны голас відзён, як на далоні. А ў аб’ёмным мужчынска-жаночым шматгалоссі, гарманічна сабраным у адно цэлае, гучыць неверагодны па харастве і чысціні спеў.

Ну і па-трэцяе, мы недзе гадоў дваццаць—дваццаць пяць таму, дабавілі да свайго рэпертуару царкоўнае песнапенне.

***— А што вас падштурхнула да гэтага? Выпрабаваць сябе, надаць хору нейкія новыя якасці?***

— Найперш, напэўна, выйсці на новую якасць. Але была ў мяне і свая, унутраная патрэба. Царкоўнае песнапенне — гэта высокая культура, высокае мастацтва. Не кожны хор з гэтым можа справіцца. А тым больш народны, таму што ў нас зусім іншыя гукавыя фарбы. Калі акадэмічная капэла спявае на актаву вышэй, то ў нас ёсць свае абмежаванні. І сур’ёзную музыку спяваць нам намнога складаней. Асабліва калі размова ідзе пра шмагалоссе, калі ты спяваеш пра Бога, звяртаешся да яго, тут ужо мала добрага голасу, таленту, выканальніцкага майстэрства — патрэбна яшчэ перанастройка ці, як цяпер кажуць, перазагрузка духоўнага свету спевака. Вазьмі, скажам, чалавека, які зайшоў у царкву, ён жа там паводзіць сябе зусім інакш, чым у калгасным клубе. Так і царкоўнае песнапенне, яно адукоўвае, выхоўвае чалавека. А потым тут жа і больш строгія законы гармоніі, нязвыклыя інтанацыі, інакшая гукавая стыхія, дзе не ўсё гладка, дзе церпка, дзе вось так задзірае… Трэба выпрацоўваць слых, трэба многае адчуваць сэрцам, душою… О, усё гэта вельмі няпроста! Але цяпер я магу нават сам сабе сказаць: маладзец, што гэтай справай заняўся.

***— У царкоўных песнапеннях заняты ўвесь хор ці толькі пэўная група?***

— Увесь. Усе вучацца на гэтым. Гэта — вялікая школа высокіх спеваў. Праўда, напачатку такога разумення не было. Многія казалі: гэта — не наша, нам гэта не патрэбна. Навошта?

Я не прымушаў людзей. Падыходзіў вельмі далікатна. Паступова. Расказваў, паказваў, стараўся, каб чалавек прымаў рашэнне самастойна, добраахвотна. Спатрэбіліся гады, каб усе пытанні былі зняты. Цяпер у нас ніякіх праблем няма. Ніхто не скажа, што гэта не нашае. Усе спяваюць з задавальненнем. Царкоўнае песнапенне — гэта як споведзь чалавека, які ў нечым саграшыў і прыйшоў паспавядацца, пакаяцца. Праспяваеш — і як бы ачышчаешся.

***— А як такія спевы ўспрымаюцца публікай?***

— Здорава! Прычым усюды. І ў горадзе, і ў вёсцы. Калі спяваем — за маёю спінаю стаіць незвычайная цішыня. Такая звонкая-звонкая цішыня. Дарэчы, наша выканальніцкае майстэрства высока ацэньваецца не толькі гледачамі, але і прафесіянальнымі спецыялістамі. Удзельнічаючы ў міжнародных фестывалях царкоўнай песні, мы заваявалі тры Гран-пры. І нашы артысты надзвычай гэтым ганарацца. Як найвышэйшай ацэнкай іх працы, іх таленту.

## Працаваць у мастацтве — што па кладцы ісці

***— Артыст хору… Якімі якасцямі ён павінен валодаць?***

— Найперш — добрым голасам. Важны таксама тэмбр. Бывае голас моцны, але занадта рэзкі, непрыемны, ён не зліваецца з іншымі галасамі. Такі для хору, зразумела, не падыходзіць. А яшчэ трэба быць музыкантам, адчуваць інтанацыю слова. Музыкальнасць, эмацыянальнасць — далёка не апошнія рэчы ў нашай справе. А яшчэ неабходна разумець, што ты спяваеш. Разумець сэнс твора. Стварэць вобраз, настрой. У песні кожнае слова мае значэнне. Умець вылучыць галоўнае, зрабіць на гэтым акцэнт. Прычым не абавязкова гучна, можна і шэптам.

Я ў сваёй практыцы пазбягаю адкрытага, так званага плоскага, белага гуку. Я прызнаю тэмбральны хор і не прызнаю спустошанасці, таму што гэта бедныя, мёртвыя спевы. У гучанні хору тэмбры ўсё роўна як светлацені ў жывапісе. Сваім артыстам я часта кажу: «У вашым тэмбры павінна адлюстроўвацца сонца».

***— А чалавечыя, маральна-ідэйныя якасці для харыста важныя?***

— Канечне. Грубы, ганарысты, фанабэрысты чалавек не ўжывецца ў хоры. Ён перашкаджае не толькі мне, а і ўсяму калектыву. З-за гэтага даводзілася з некаторымі расставацца. Нядаўна, напрыклад, нават заслужаную артыстку звольнілі, хаця і голас шыкоўны, і талент несумненны. Але як толькі атрымала званне — пачалі расці рогі: маўляў, адна я каралева, а вы ўсе тут пешкі. Доўга цярпелі, але ўбачылі, што чым далей — тым горш. Давялося развітацца…

Што тычыцца ідэйных якасцей, то нас мала цікавяць палітычныя погляды чалавека і ў якой ён партыі. Галоўнае, каб любіў свой край, свой народ, родную культуру, матчыну мову. Без гэтага таксама сапраўднага артыста не атрымаецца.

***— Якія ж тады патрабаванні да саліста?***

— Усё тыя ж, толькі на адзін-два пункты вышэйшыя. Саліст — гэта артыст вышэйшай катэгорыі. Ён нават мае спецыяльную надбаўку.

***— А ці многа ў вас салістаў?***

— Ну, гэта залежыць ад рэпертуару. Ад голасу, яго сілы, спецыфікі, дыяпазону. Адна салістка гэты твор можа спець выдатна, а другая яго не спяе ніколі. Адна разумее народную песню душою, а другая будзе спяваць нібыта і правільна, па нотах, але душы ў гэтым спяванні не адчуваецца. І да сэрца гледача такая песня не дойдзе.

Я што гэтым хачу сказаць? Што саліст, вобразна кажучы, тавар штучны і даволі рэдкі. Іх многа ніколі не бывае. Дзякаваць богу, у нас ва ўсе часы былі

сапраўдныя зоркі. Ёсць яны, на шчасце, і цяпер. Найперш хачу назваць Валянціну Крыловіч. Наш залаты голас, спявачка ад Бога, заслужаная, а па сутнасці ўжо даўным-даўно народная артыстка. Нядаўна атрымала ордэн Францыска Скарыны. Я вельмі ўдзячны таленавітым спевакам, заслужаным артыстам рэспублікі Васілю Браіму і Уладзіміру Будаю. Усё большую вядомасць і папулярнасць набіраюць нашы салісты, лаўрэаты Рэспубліканскага конкурсу беларускай песні Рэната Мацвеенка, Кацярына Булатоўская, Іван Вярбіла і іншыя.

Я сказаў, што колькасць салістаў залежыць ад рэпертуару. Але і разнастайнасць рэпертуару залежыць ад адпаведных галасоў. Мне, напрыклад, для царкоўных песень не хапае нізкіх басоў. Пакуль што адзін Аляксандр Снітко. Праўда, мае рэдкі голас — контра-бас. Пакрывае ўсе галасы. Пры чым любую ноту бярэ лёгка, без напругі, з запасам. Канечне, хацелася б мець яшчэ пару такіх басоў, ды дзе ж іх знойдзеш…

***— А, дарэчы, як ідзе пошук і падбор харыстаў?***

— Цяпер гэта не такая ўжо і праблема. Асабліва жаночых галасоў. Таму што шмат розных конкурсаў, фестываляў. Дый з музычных вучылішчаў, дзе мяне ўсе знаюць і я іх усіх знаю, часам званяць, прапануюць цікавых выпускнікоў. А ёсць жа яшчэ універсітэт культуры, кафедра харавога дырыжыравання, дзе таксама, пашукаўшы, можна знайсці таленавітых спявачак. Цяжэй з мужчынскімі галасамі.

***— А ў чым прычына? У тым, што ў Беларусі традыцыйна мала добрых спевакоў?***

— Ну і гэта, канечне. Але галоўнае — зарплата. Ну што такое для мужчыны заробак у 500—600 тысяч рублёў? Як на такія грошы пракарміць сям'ю? Таму хлопцы і выбіраюць больш грашовыя спецыяльнасці. Застаюцца ўжо самыя адданыя, самыя бескарыслівыя.

***— Цякучасць кадраў вялікая?***

— Можна сказаць нулявая. У хоры яшчэ працуюць людзі, з якімі я некалі пачынаў. А гэта ўжо амаль чатыры дзесяцігоддзі. Нават калі чалавек выходзіць на пенсію, ён яшчэ застаецца на год-другі ў калектыве. І я да гэтага адношуся з разуменнем.

***— Артысты хору ў асноўным з вёскі?***

— Так, раней былі ў асноўным з вёскі. А цяпер я б не сказаў. Ёсць і асфальтныя, як я часам жартую. Асабліва моладзь. Яна цалкам гарадская. Безумоўна, ім цяжэй пранікаць у сутнасць народнай песні. Але на тое і мастацкі кіраўнік, каб памагаць ім і накіроўваць іх развіццё ў той бок, куды трэба. Каб яны душою спасцігалі ўсё багацце музычнага фальклору і маглі перадаць інтанацыйна, даматургічна так, як я гэтага прашу.

***— Кажуць, што наш народны хор можа спяваць на восем галасоў…***

— Канечне. У хоры чатыры партыі — сапрана, альты, тэнары і басы. Кожная з гэтых партый дзеліцца яшчэ на дзве. А бывае, што сапрана можа дзяліцца нават на тры. Што такое хор? Вось у фартэпіяна мы націскаем клавішу, адну, а гук здабываецца з трох струн. Атрымоўваецца своеасаблівая арганнасць. Тое ж і ў хоры: шматгалоссе надае спевам аб'ёмнасць, глыбіню, незвычайную яркасць і выразнасць. Харавая тканіна — як багатая вышыўка. Канечне, не ў кожным выпадку такое багацце патрабуецца. Ёсць песні, дзе можна абысціся і больш простымі сродкамі. Шматгалоссе ж выкарыстоўваецца галоўным чынам у акапэльных спевах, у царкоўным песнапенні.

***— А цяпер пытанне да цябе як да дырыжора. Што гэта за такая загадкавая, таямнічая прафесія — стаяць да гледачоў спінаю і махаць рукамі?***

— Во, во, брат мой таксама смяецца: ну й работа, кажа, у цябе — галоўнае, каб не заснуць.

***— Гэта, вядома, жарт. А калі сур'ёзна, то скажы, калі ласка, якімі якасцямі павінен валодаць дырыжор?***

— Ну, канечне, перш за ўсё павінен мець добры слых.

***— Абсалютны?***

— Не абавязкова. У мяне, напрыклад, тэмбральны слых, і гэта можа нават важней, чым абсалютны. Далей. Трэба быць педагогам, псіхолагам. А яшчэ — любіць сваіх харыстаў, памагаць ім. Некаму трэба памагчы ўладкаваць дзіця ў садок, некаму — стаць на чаргу ў кааператыў і шмат яшчэ чаго іншага. Я мог бы гэтым і не займацца, але тады ў мяне не было б з калектывам кантакту, даверу, а без гэтага не было б нічога. Складанасць уся ў тым, што нас у кансерваторыі вучаць толькі музыцы. А калі трапляеш у калектыў, то сутыкаешся з мноствам іншых праблем. І вось тут даводзіцца гэтую няпростую навуку — чалавеказнаўства — спасцігаць самастойна.

***— А колькі чалавек у тваім, так сказаць, падпарадкаванні?***

— Больш як сто. А непасрэдна харыстаў — да шасцідзесяці.

***— І што, ты кожнага чуеш, дзе хто схібіў?***

— Чую. А як жа. Для таго і прызначаны рэпетыцыі, каб гэтыя хібы выпраўляць. Я ўсіх бачу і мяне ўсе бачаць. Кожны артыст павінен быць саўдзельнікам гэтага працэсу. Я ж ім задаю імпульс, настрой, дынаміку. Недзе трэба спецыцішэй, недзе грамчэй. Гэта размова рукамі, жэстам, артыкуляцыяй. Твар дырыжора не павінен быць каменным. Эмацыянальнасць, жывая, выразная міміка вельмі важныя.

***— А калі ўжо ўсё адрэпеціравана, даведзена да аўтаматызму, можна абысціся без дырыжора?***

— Пры складаных рэчах — ніколі!

***— Выкананне аднаго і таго ж твора ў розных канцэртах адрозніваецца?***

— Абавязкова. Якасць спеваў залежыць ад многага — і ад настрою харыстаў, і ад таго, як мы апрануты, і ад атмасферы ў канцэртнай зале, і нават ад надвор'я. Марозная, сухая пагода — гэта адно, а слота, сырасць — другое. Усё перадаецца на звязкі. Бывае голас ляціць, звініць, а бывае гучыць глуха, невыразна. І песня ўжо не тая. І гэта таксама трэба разумець. Крыкам тут нічога не даб'ешся.

***— Ты сказаў, што якасць спеваў залежыць нават ад таго, як артысты апрануты. А хто ў вас займаецца распрацоўкай сцэнічных касцюмаў? Дзе вы іх заказваеце? Як часта мяняеце?***

— Гэта праўда, адзенне заўсёды было не апошняй справай. Добры гаспадар меў вопратку і будзённую, і святочную, і велікодную — схадзіць да царквы. Так і калектыў на сцэне таксама павінен быць прыбраны — апрануты прыстойна і па-сучаснаму. Час ідзе, густы мяняюцца, і чыста фальклорнае адзенне на сцэну ўжо не пацягнеш. Андаракі больш прыдатныя для музея. Але там вельмі важна, каб пры гэтай трансфармацыі касцюмы не гублялі нацыянальнай адметнасці, нацыянальнага каларыту.

Хто ўсім гэтым займаецца? Канечне ж, распрацоўку новых касцюмаў мы давяраем спецыялістам, мастакам-дызайнерам. А дзе шыем? Цяпер майстэрань многа — і дзяржаўных, і прыватных. Гэта раней быў толькі камбінат пры оперным тэатры, а цяпер можна выбіраць, дзе зробяць найлепш і найтанней.

Сцэнічнае адзенне мяняем не часта. Гэта залежыць ад сродкаў. Дастаткова сказаць, што адзін касцюм каштуе каля трох мільёнаў. А калі памножыць на сто чалавек, то гэта абыходзіцца нятанна. Але дзякуючы тым, хто нам памагае, мы, як кажуць, і адзеты, і абуты.

У сярэднім сцэнічныя касцюмы, як бы мы іх ні шанавалі, служаць дзесяць—дванаццаць гадоў. Пасля гэтага мы аддаём іх у калектывы мастацкай самадзейнасці. З дазволу Міністэрства культуры — бясплатна.

***— Структура хору захавалася ранейшая, трохзвённая?***

— Так, у адным калектыве цэлых тры калектывы — харавы, танцавальны і аркестравы. І кожны з іх мае свайго кіраўніка. Харам займаюся я, а таксама хормайстар, заслужаны дзеяч мастацтваў Іван Абразевіч. Балетмайстрам доўгі час быў Васіль Варановіч. Цяпер ён ужо на пенсіі, працуе кансультантам, але многія

яго вакальна-харэаграфічныя пастаноўкі засталіся ў нашым залатым фондзе. Эстафету ад яго прыняў наш жа выхаванец, заслужаны артыст рэспублікі Юрый Паўлішын. Ну а аркестрам кіруе вельмі таленавіты музыкант і аранжыроўшчык Пётр Глушчук. Любую мелодыю ён умее аздобіць, расквеціць так, што нельга не захапляцца.

***— Хачу запытацца вось аб чым. Раней, пры савецкай уладзе, народны хор з гастролямі пабываў ледзь не ва ўсіх капіталістычных і сацыялістычных краінах. Пасля, калі пачалася перабудова, калектыў амаль не выязджаў. А якая сітуацыя цяпер, у часы крызісу?***

— Каб сказаць, што дрэнна — не магу, але і сказаць, што нас вельмі і вельмі запрашаюць, таксама не магу. Хаця наша мастацтва людзям вельмі падабаецца. Заўсёды пасля канцэрта гледачы доўга не разыходзяцца, пытаюцца, чаму мы так рэдка прыязджаем. У нас, кажуць, усё больш тыя, што лупяць у барабаны так, што ажно галава баліць, не можна выседзець. Ад вашых жа спеваў на душы лягчэй і святлей робіцца.

Народу гэта патрэбна. І шкада, што такія сустрэчы сапраўды рэдкія. Але гэта ўжо пытанне не да нас. На розную папсу мясцовыя ўлады сродкі ж знаходзяць, а на сапраўднае, народнае мастацтва — не заўсёды. І гэта крыўдна. Але, здаецца, апошнім часам сітуацыя змяняецца да лепшага.

***— У вас ёсць план гастроляў?***

— Абавязкова. У месяц мы павінны даць 6 канцэртаў, за год — 66. Гэта нямнога. У лепшыя часы мы давалі па 170—180 канцэртаў. Але тады не было грашовага плана, а цяпер ён ёсць. Сёлета, напрыклад, нам трэба зарабіць 190 мільёнаў рублёў.

***— Замежныя гастролі бываюць?***

— Як калі. Бывае, што за год ні разу. А бывае і некалькі разоў. Чаму? Гэта звязана з вялікімі расходамі. Нас жа ўсё-такі пад сотню чалавек. А ехаць малым саставам — гэта ўжо не нацыянальны акадэмічны хор. Гэта — прафанацыя. Дзеля капейкі губляць імідж?.. Не, на такое мы ніколі не пойдзем.

***— Вядомых, праслаўленых калектываў на постсавецкай прасторы засталося не так ужо і многа. Хор імя Пятніцкага, Кубанскі народны хор у Расіі ды хор імя Вяроўкі ва Украіне — вось, бадай, і ўсё. На гэтым фоне, як мне здаецца, вельмі дастойна захаваўся, і не толькі захаваўся, а і плённа развіваецца, Нацыянальны акадэмічны народны хор Рэспублікі Беларусь. Ён мае свой выразны твар, сваю яркую адметнасць. Як ты лічыш, у чым гэтая адметнасць заключаецца?***

— Галоўнае, на мой погляд, у змесце народнай беларускай песні, яе меласе. Наш песенны фальклор адрозніваецца і ад рускага, і ад украінскага. Хаця нашы тры народы- суседзі і вельмі блізкія, але ўсё роўна розніца тут ёсць. У нас няма гэткіх разухабістых, разгульных песень. Я думаю, што гэта абумоўлена гістарычна. Хто толькі не таптаўся па нашай зямлі, якіх толькі пакут наш народ не выцерпеў ад розных заваёўнікаў. Вось чаму беларускія песні амаль усе пачынаюцца з «ой» — «Ой, ты, грушка мая», «Ой, павей, вецярок…», «Ой, сівы конь бяжыць…» Нашае «ой» не ўзнёслае, не радаснае, а задуменна-журботнае. Калі для рускіх народных спеваў характэрная зычнасць, для ўкраінскіх — трубнасць, то для нашага хору — мяккасць і сонечнасць. Па сваёй стылістыцы, па багацці і прыгажосці меласу беларуская народная песня ніколькі не ўступае расійскаму ці ўкраінскаму фальклору, а, можа, і пераважае яго.

Што тычыцца адметнасці ў выканальніцкім майстэрстве, то тут мне гаварыць не зусім ёмка. Скажу толькі, што хор імя Пятніцкага перажыў вельмі сур’ёзны крызіс, з якога толькі-толькі пачаў выбірацца. Калектыў з Кубані харошы, але калі гаварыць пра высокае мастацтва,то я, шчыра кажучы, не ў вялікім захапленні. Хаця кубанцы маюць выдатныя ўмовы для творчасці — свой Палац культуры, свая студыя на 700 чалавек і аклады, якія нам і не сніліся.

Не падумай толькі, што я хачу некага прынізіць, а некага ўзвысіць. Барані бог! У кожнага з нас ёсць свае плюсы і свае мінусы. Працаваць у мастацтве — гэта заўсёды ісці па тонкай і гнуткай кладцы.

## Як пайду я дарогаю

***— А цяпер давай пракладзём кладачку з дня сённяшняга ў тваё дзяцінства, на тваю малую радзіму. Раскажы, калі ласка, пра сваіх бацькоў, пра сваю родную вёску.***

— Нарадзіўся я, як ты ведаеш, у вёсцы Тонеж Лельчыцкага, а тады Тураўскага раёна. Гэта самая глыбінка прыпяцкага Палесся. Хараство прыроды — неапісальнае! Нездарма ж паэт-песеннік Адам Русак, пабываўшы ў тутэйшых мясцінах, назваў іх салаўіным берагам. Але ён жа напісаў і такое двухрадкоўе: «Ой, не едзь, мой мілы, ў Тонеж — не заедзеш, а ўтонеш…» Справа ў тым, што ў часы майго маленства ды і юнацтва таксама гэты салаўіны край быў не толькі глыбінным, але і глухім, далёкім ад даброт цывілізацыі. Я рос, не ведаючы ні радыё, ні тэлебачання. А кніжкі даводзілася чытаць часцей за ўсё пры лучыне.

Але пры гэтым была адна вельмі важная перавага: людзі былі не пасіўнымі спажыўцамі культуры, а актыўнымі творцамі. З больш чым пяцісот тонежскіх двароў не было, бадай, ніводнага, дзе б хто-небудзь не ўдзельнічаў у мастацкай самадзейнасці. Не ў тым сэнсе, што чалавек выступаў на сцэне, а ў тым, што ён нешта тварыў — па-майстэрску іграў на гармоніку, віртуозна спраўляўся з бубнам, прыгожа таньчыў, выдатна спяваў. Асабліва ў нас любілі і ўмелі спяваць. Ішлі на працу — спявалі, ішлі з працы — таксама. Пасля вечарам у розных канцах вёскі альбо дзе-небудзь за вёскаю, ля вогнішча, збіраліся гурты хлопцаў і дзяўчат і спявалі да самай раніцы. Цяпер дзіву даешся: як мы маглі, амаль не спаўшы, цэлы дзень затым працаваць. Вось што значыць сапраўднае, жывое, жыццядайнае мастацтва!

***— Спецыялісты кажуць, што Тонеж у гэтым сэнсе — вёска асаблівая. Як ты думаеш, у чым разгадка такой вось незвычайнай песеннасці, музыкальнасці тваіх землякоў?***

— Мне здаецца, найперш гэта ідзе ад традыцыі. У адной вёсцы, скажам, зроду ў род перадаецца ўмельства цяслярыць, бандарыць, у другой — ткаць посцілкі, вышываць, а ў трэцяй — вырошчваць агуркі, кветкі… У нас жа любілі спяваць. У людзях жыло пачуццё добрай зайздрасці да чужога таленту, жаданне пераймаць. Звычайна бацька казаў сваёй дачцэ: «Глядзі вунь у Пятра якая дзеўкаспявуха, а ты сядзіш, маўчыш, як нырэц». І дачка ўжо як магла вучылася спяваць, каб не падвесці, не зганьбіць сям’ю.

А, можа, яшчэ і таму, што наша вёска стаяла на мяжы з Украінай, і мы не толькі ў адно балота хадзілі касіць, але адны і тыя ж спявалі песні. А ўкраінцы, як вядома, народ пявучы. Нешта, відаць, ад іх перадалося і нам.

***— Бацькі твае таксама любілі спяваць?***

— Бацька спяваў добра. Асабліва да жаніцьбы, хлопцам. Сябра яго, Паша Вянгура, падводзіў, а ён басаваў. Пасля ўжо, калі ажаніўся, паявілася сям’я, вельмі любіў наладжваць музычныя вечары. З вайны бацька прывёз губны гармонік, дык вось пад гэты гармонік мы і спявалі, і танцавалі. Лепшаму танцору бацька даваў прэмію — дваццаць капеек, а часам нават і рубель.

***— А хто іграў?***

— Старэйшы брат Дзіма. Бацька давяраў каштоўны інструмент толькі яму, больш нікому не даваў. Пасля ўжо, калі за сталярку прыдбаў невялічкі акардэончык, Дзіма стаў іграць на ім, а мне дастаўся губны гармонік. Праз нейкі час бацька купіў большы акардэон, а меншы перайшоў да мяне. Іграць я вучыўся на слых, без усялякіх нот, самавукам. Затое з надзвычайнаю ахвотай —



*Бацькі М. Дрынеўскага.*

рыпаў кожную вольную хвіліну. Маці іншы раз не вытрымлівала. «Каб табе ў жываце рыпала! — нязлосна сварылася яна і штурхала мяне ў плечы. — Ідзі от за адрыну і там цягай свае мяхі, а то галава ўжо ажно гудзе…»

***— Сям'я ў вас была вялікая?***

— Маці нарадзіла дзевяцярых. Але першыя чацвёра памерлі. Малымі. Ад дыфтэрыі ці, як у нас казалі, разачкі. Пасля паявіліся, адзін за адным, пяцёра хлопцаў. Я нарадзіўся перад самай вайной, у лютым. І амаль яе не помню. Застаўся ў памяці адзін жахлівы эпізод, калі амаль трыста маіх аднавяскоўцаў немцы сагналі ў царкву і жыўцом спалілі. Наша сям'я ўцалела толькі таму, што мы жылі ў зямлянцы на выспе сярод балота. У гэтай зямлянцы мы, чацвёра малалеткаў і маці, і пракачаліся ўсю вайну. Бацька ваяваў на фронце.

Мне ішоў пяты год, калі на вёсцы пачуў, што вайна скончылася. Я прыбег да сваіх і радасна абвясціў: «Мама, не будзем зараз снедаць. Будзем чакаць тату!» Але тата вярнуўся толькі ў лістападзе: дэмабілізацыю затрымалі ў сувязі з японскай вайной.

***— Хто былі твае бацькі, чым займаліся?***

— Звычайныя сялянскія людзі. Не дужа пісьменныя. Маці наогул не чытала і не пісала, праўда, грошы лічыла выдатна. А бацька нейкіх паўкласа адукацыі меў. Затое ў яго былі залатыя рукі. Умеў і бандарыць, і сталярыць. Разбіраўся ў немудрагелістай тэхніцы: мог парамантаваць швейную машынку ці дзе што зварыць. Дарэчы, з фронту ён прывёз не толькі губны гармонік, але і вялікую скрыню (не ведаю нават, як ён яе прывалок) з інструментам — свярдзёлкі розных калібраў, трашчоткі, пласкагубцы… Уся вёска будавалася з дапамогаю гэтых інструментаў: бацька рабіў выдатныя вокны, дзверы. І калгасны транспарт таксама ім абслугоўваўся. Колькі год працаваў на млыне. Даводзіў да ладу паравую машыну, якую аднекуль прыцягнулі на лесапілку. Апошнія гады быў на пасадзе механіка. Шкада, не хапала адукацыі — з яго атрымаўся б харошы інжынер.

***— Раскажы крыху пра сваіх братоў.***

— Старэйшы, Дзіма — урач-рэнтгенолаг. Жыве і працуе ў Калінкавічах. На два гады малодшы за яго Коля. Доктар медыцынскіх навук, прафесар. Доўгі

час быў дырэктарам Навукова-даследчага інстытута курорталогіі, які месціцца ў Еўпаторыі. Цяпер на пенсіі. Трэці брат, Валодзя — таксама доктар медыцынскіх навук, прафесар. Працуе ў Санкт-Пецярбургскім інстытуце грыпу. І самы малодшы з нас — Рыгорка. Але самы галавасты. Скончыў школу з залатым медалём. Атрымаў дыплом з адзнакаю Ленінградскага электратэхнічнага інстытута. Узначальваў лабараторыю, якая працавала на космас. Мне ж выпаў зусім іншы лёс. Як я часам жартую: у бацькі было пяць сыноў — чацвёра разумных, а адзін музыкант.

***— А хто вызначаў твой лёс — сам ці бацькі?***

— Не, бацька не ўхваліў мой прафесійны выбар. Казаў: музыка мне трэба, калі я добра наемся ды вазьму чарку, але гэта не часта бывае. Словам, прафесію музыканта, як і любы вясковы чалавек, ён лічыў несур'ёзнай. Любіў дактароў, таму Дзіма, Мікола і Валодзя і абралі гэтую пуцявіну. І ён іх нават больш паважаў, чым мяне. Паверыў, што і я нешта значу, толькі пасля аднаго выпадку. Мы давалі канцэрт для вайскоўцаў, і вось пасля канцэрта мяне разам з бацькам запрасіў у госці адзін мой добра знаёмы, генерал. А ў бацькі, мусіць, яшчэ з вайны засталася вялікая павага да военачальнікаў. І калі ён пасядзеў побач з генералам ды яшчэ выпіў з ім чарку за харошага сына, нешта ў бацькоўскім сэрцы скранулася. «Аказваецца, — прызнаў ён, — і музыканту можна жыць добра…» А крыху пазней, калі я атрымаў званне прафесара, бацька з непадробным здзіўленнем і шчырай радасцю ўсклікнуў: «А ёлкі-маталкі! І ў вас прафесараў даюць…»

***— Што ж, ёсць чаму здзіўляцца: тры прафесары ў адной сям'і! А ўсім пяцярым сынам даць вышэйшую адукацыю. Я ўяўляю, як бацькі вамі ганарыліся. Думаю, што ў гэтым ёсць і іх немалая заслуга.***

— Якое там немалая — галоўная, вырашальная. Бацька казаў: хлопчыкі, калі хочаце пражыць лягчэй, чым я, дык вучыцеся. І сачыў за гэтым вельмі пільна. Не дай бог, калі настаўніца на каго паскардзіцца — усё, ужо тыдзень не сядзеш на палавінкі. Рамні віселі на сцяне чатырох відаў, кожны ў адпаведнасці з правіннасцю. Праўда, ужываць іх даводзілася вельмі рэдка. Бацькоўскае слова было для нас законам. Ва ўсім.

***— Дык як жа ты пры такой суровай дысцыпліне пайшоў супроць волі бацькі — намерыўся паступаць у музычнае вучылішча?***

— Маёй саюзніцай аказалася маці. Яна ўгаварыла бацьку не перашкаджаць мне выбіраць тое, што я хачу. Таму я хоць і без бацькоўскага благаславення, але і не насуперак яго волі паступіў пасля сямі класаў вучыцца на баяніста. Праўда, паступленне гэтае аказалася марным. Мне не далі месца ў інтэрнаце і я праз два тыдні вярнуўся дадому. Зноў пайшоў у школу. А хадзіць давялося далёка, у суседнюю вёску, за 13 кіламетраў. Скончыўшы дзесяцігодку, я ў другі раз паступіў у Гомельскае музвучылішча. На гэты раз на харавое аддзяленне. Чаму на харавое? А я яшчэ ў школе кіраваў хорам, і нават не адным, а трыма — школьным і двума калгаснымі, з вёскі Тонеж і вёскі Букча, дзе я канчаў дзесяцігодку. І, здаецца, не без поспеху. Хор вёскі Тонеж на занальным аглядзе калектываў мастацкай самадзейнасці заняў першае месца. Мне паабяцалі: паедзеце ў Маскву на Сусветны фестываль моладзі і студэнтаў. Я быў на сёмым небе ад шчасця. Стрыечная сястра дзеля гэтага нават вышыла мне шыкоўную, у нацыянальным стылі сарочку, яна недзе і цяпер захоўваецца ў вясковым музеі. Мы шмат рэпеціравалі. Але паехаў іншы калектыў — знакаміты Тураўскі хор. Крыўдна было, але што зробіш. Затое гэта стала мне добрым урокам на ўсё жыццё: нішто не даецца так проста і лёгка, а пры няўдачы — ні ў якім разе не апускаць рукі.

***— Гэтае правіла дапамагала табе пасля ў вучобе, у працы?***

— Дапамагала. У вучылішчы мяне заўважыла Раіса Цімафееўна Красніцкая, выдатны педагог і цудоўны чалавек. З першага курса яна стала пераконваць, што мне абавязкова трэба рыхтавацца да вучобы ў кансерваторыі, і таму нагружала

мяне дай бог. Часам нават калегі яе папракалі за гэта, але яна заўсёды адказвала: “Хлопец цягне — хай цягне. Хай развівае Боскую іскру».

І як жа я быў пасля ўдзячны ёй за гэтую «нагрузку», калі з лёгкасцю паступіў у кансерваторыю і ўсе гады без асаблівых праблем тут правучыўся. Праўда, не без дапамогі другога выдатнага педагога, дацэнта Ганны Паўлаўны Зелянковай.

А я ж яшчэ не толькі вучыўся, але і працаваў. У мяне практычна не было ніводнага года «чыстай» вучобы. У вучылішчы — кіраваў хорам дрэваапрацоўчага камбіната, народным хорам вёскі Прыбыткі, на трэцім курсе нават даверылі праводзіць заняткі з завочнікамі. У кансерваторыі, першакурснікам, наш вядомы дырыжор-хормайстар Уладзімір Раговіч запрасіў мяне папрацаваць з капэлаю Палаца культуры Мінскага трактарнага завода. Ад такой спакуслівай прапановы адмовіцца было цяжка. Дый капейка якая, па праўдзе кажучы, была не лішняя. Але ж, канечне, не капейка была на першым плане. Праца ў капэле мяне настолькі захапіла, што я аддаў ёй усе пяць гадоў свайго і без таго напружанага кансерваторскага жыцця. І ведаеш, мне і сёння прыемна ўспомніць той шчаслівы час. Успомніць і паганарыцца, бо капэла МТЗ была прызнана лепшай у Савецкім Саюзе!

***— Ведаю, што пасля заканчэння кансерваторыі ты атрымаў накіраванне ў аспірантуру ў Маскву. Чаму не паехаў?***

— О, тут цэлая гісторыя. Праўда, гэта было не адразу пасля кансерваторыі, а крыху пазней. А спачатку я быў накіраваны на працу ў Мінскае музычнае вучылішча. І амаль адначасова атрымаў запрашэнне ад Генадзя Цітовіча ў Дзяржаўны народны хор на пасаду хормайстра (па сумяшчальніцтве, вядома). А яшчэ ж заставалася і капэла. Не ведаю, як я вытрымаў такую нагрузку. Мусіць, дапамагла мне мая вясковая загартоўка і сялянская цярплівасць.

І вось у разгар усіх гэтых клопатаў мне раптам прапаноўваюць ехаць у Маскву ў аспірантуру. Пасля некаторых ваганняў я даў згоду. Але патрэбна была яшчэ згода міністэрства культуры. А там замест аспірантуры нечакана прапаноўваюць пасаду галоўнага хормайстра ў народны хор. А ў мяне ўжо быў і білет на Маскву. І жонка настойвала, каб я ехаў вучыцца. Але міністэрскі чыноўнік аказаўся настойлівы. Ідзі, кажа, падумай. Такія прапановы паступаюць не кожны дзень. Ноч не спаў, думаў. Раніцою прыйшоў і кажу: не. Ідзі яшчэ падумай. На трэці раз я здаўся.

***— Ну, для цябе гэтая работа не была новаю, ты ж ужо не адзін год там працаваў. Хай сабе і па сумяшчальніцтве. Дарэчы, дзе і як вы пазнаёміліся з Цітовічам?***

— У 1968 годзе ў філармоніі быў наш выпускны, справаздачны канцэрт. Я ў якасці дыпломнай работы дырыжыраваў складаным двухорным творам. Гэта калі два хоры спяваюць адзін і той жа твор, але ў кожнага свая партыя. Яны як бы спаборнічаюць між сабой. То адзін наперадзе, то другі, то разам. Для дырыжора гэта вельмі складаная задача — нідзе нічога не ўпусціць, дабіцца цэльнага, гарманічнага гучання. Мне, здаецца, удалося справіцца, бо адразу пасля канцэрта да мяне падышоў Генадзь Іванавіч, павіншаваў і запрасіў у свой хор.

***— Дык ты, выходзіць, у народным хоры ўжо больш за сорак гадоў. Тады як у старажыла я хачу запытацца ў цябе вось аб чым. Некалі Генадзь Цітовіч назваў гомельскае Палессе нечапаным куфрам, скарбонкай беларускай народнай песні. А Рыгор Шырма марыў дажыць да таго часу, калі народная песня, гэтая сялянaчка, вырасце ў вялікасвецкую даму. Як, на твой погляд, ці збываюцца спадзяванні нашых патрыярхаў?***

— Адназначна адказаць складана. У нечым мы сёння пайшлі наперад, а ў нечым — адступілі. Тое, што мы многае з народнага песеннага фальклору паспелі запісаць, апрацаваць — гэта добра. А кепска, што ў вёсках цяпер амаль не спяваюць. Яркія, самабытныя носьбіты старадаўніх песень пайшлі з жыцця, а моладзь, на вялікі жаль, далёка не ўсюды падхапіла ад іх бясцэнную эстафету. На сцэне



*Міхась Паўлавіч разам з жонкай Святланай Васільеўнай.*

і ў жыцці пануе сучасная папса — гэтая зараза, я па-іншаму назваць яе не магу, бо яна глуміцца над усім народным, чыстым, таленавітым.

Я от толькі ўчора быў як старшыня журы на абласным туры рэспубліканскага фестывалю «Зорка ўзышла над Беларуссю». І расстроіўся да немагчымасці. Выконваюць нашу цудоўную «Купалінку». Гэта сапраўды велікасвецкая дама. Якая яна пяшчотная, якая яна шчырая, якая культурная, якая па-свойму багатая! А яны пачынаюць тузаць мелодыю, разрываць рытміку, нявечыць сапраўдны музычны шэдэўр.

Я нічога не маю супраць сучаснай эстрады, калі яна, як кажуць, з чалавечым тварам. Але тое, што мы бачым і чуем са сцэны, у большасці сваёй выклікае агіду. Нездарма ж у народзе гэтых папсавікоў называюць «поющие в трусах». А яшчэ больш трапна адносіны да іх выказаны ў прымаўцы: «голас, як у попе волас — вельмі тонкі і нячысты».

Калі б нашыя сродкі масавай інфармацыі, і ў першую чаргу тэлебачанне, радыё, трошкі павярнуліся да народнай песні, каб яе гучала хаця б два працэнты ў суткі, то было б зусім іншае ўспрыманне. А так самадзейнікі пераймаюць тое, што гучыць з ранку да вечара. У выніку многа загінула выдатных самадзейных калектываў. У свой час толькі ў Мінску было пяць харавых капэл, якія працавалі на ўзроўні прафесіянальных. Цяпер засталася адна — Палаца прафсаюзаў. А колькі народных хораў перастала існаваць!.. Усё гэта адчувальныя, балючыя страты.

Дзякаваць богу, у апошнія гады пачаў адбывацца прыкметны паварот да лепшага. Зноў стала паяўляцца шмат калектываў мастацкай самадзейнасці — цікавых, таленавітых — дарослых і дзіцячых, гарадскіх і вясковых. А колькі прыемных адкрыццяў адбываецца падчас рэспубліканскіх фестываляў і конкурсаў «Зорка ўзышла над Беларуссю», «Маладыя таленты Беларусі» і іншых.

***— А ці дае нам што ў гэтым плане конкурс «Еўрабачання»?***

— Конкурсам тое, што мы бачым, можна назваць вельмі ўмоўна. Гэта хутчэй шоу. Там высокай культуры няма. Невыпадкова, многія сур'ёзныя краіны ўдзел у гэтым шоу не прымаюць.

***— Я з табой тут не зусім згодны. А перамога на конкурсе нашых Ксеніі Сітнік, Алёшы Жыгалковіча хіба не стала зорным часам для Беларусі, хіба не дала штуршок для актыўнага развіцця песеннага мастацтва?***

— Ну, можа нейкае ажыўленне і ўнесла, але хутчэй не ў песенную сферу, а ў сферу бізнеса. Што, дарэчы, і засведчыў наш правал на апошнім конкурсе. Для таго, каб з'явіліся сапраўдныя таленты, такіх вось разавых, імпульсіўных усплёскаў у выглядзе хапатлівай падрыхтоўкі да конкурсу мала. Патрэбна сур'ёзная, прадуманая, рознабаковая праграма пошуку, адбору і выхавання таленавітай моладзі. Як гэта было за савецкім часам.

***— За савецкім часам… Значыць, не ўсё тады было ўжо такім і кепскім, як гэта падаюць цяпер нашы ліберал-дэмакраты. Скажы шчыра, як ты ўспрыняў распад Савецкага Саюза, раптоўны, я б нават сказаў гвалтоўны пераход ад сацыялізму да капіталізму? Што прынцыпова памянялася ў тваім жыцці, у тваім светапоглядзе, у іерархіі маральных каштоўнасцей?***

— Я лічу, што мінулае наша было нармальным. Былі стабільнасць, упэўненасць у заўтрашнім дні. Мы ўсе маглі атрымоўваць бясплатнае медыцынскае абслугоўванне, бясплатную адукацыю. Я не ведаю, ці змаглі б мае бацькі вывучыць сваіх дзяцей платна. На жаль, гэтыя сацыяльныя заваёвы мы не цанілі і не шанавалі. А недахопы… Былі, вядома, і недахопы, але іх можна было папраўляць, не ламаючы падмурку.

***— Чаму ж мы ўсе, як тыя зомбі, кінуліся ламаць, крышыць, крытыкаваць? Хто ці што тут прычынаю?***

— Галоўная прычына ў нашай колішняй партыйнай дысцыпліне. Мы ўсе, унізе, стаялі, узяўшы пад казырок, а наверсе рабілі што хацелі. Таму віна за распад СССР ляжыць на ўсіх нас, але найперш на кіраўніцтве краіны. Нездарма ж Гарбачоў атрымаў Нобелеўскую прэмію — за здраду.

***— Як творчаму чалавеку табе было лягчэй тады ці цяпер?***

— Я не адчуваў ніякага ўціску тады, не адчуваю яго і зараз. Я — чалавек вольны, усё залежыць ад майго сумлення. Мяне не трэба штурхаць у плечы, каб зрабіць нешта новае, цікавае, патрэбнае людзям. І таму ніякіх прынцыповых змен ні ў маім светапоглядзе, ні іерархіі маіх маральных каштоўнасцей не адбылося.

***— Ці можаш ты прыгадаць самую прыемную, самую значную падзею ў тваім жыцці?***

— Прыемнага было шмат. Але, можа, самае памятнае тое, калі я падлеткам на занальным аглядзе мастацкай самадзейнасці заваяваў са сваім хорам першае месца. Мне тады далі 50 рублёў прэміі і я ехаў дадому самым шчаслівым чалавекам на свеце.

***— А непрыемнае здаралася?***

— Канечне. Хто ад гэтага застрахаваны? Ды я стараўся кепскае забываць. Але вось два выпадкі і дагэтуль пякуць маё сэрца.

Першы здарыўся ў вучылішчы. Я ішоў на чырвоны дыплом, а мне раптам па методыцы выкладчык паставіў чацвёрку. Было гэта абсалютна несправядліва, я ведаў гэты прадмет лепш за ўсіх у групе, нават многіх кансультаваў перад экзаменам. А тут — чацвёрка. Я не помню, як зайшоў на вакзал, як сеў у аўтобус, як заехаў дадому… Такі быў стрэс.

А другі раз я перажыў балючую несправядлівасць ужо ў кансерваторыі. Адзін наш вядомы дзеяч культуры (не буду цяпер называць яго прозвішча, Бог яму суддзя) стаў адкрыта завальваць мяне на экзамене. Поўнасцю заваліць не ўдалося, але адзнаку знізіў, мяне на паўгода пазбавілі стыпендыі.

Я ўжо не кажу, колькі дробных непрыемнасцей мне прыйшлося перажыць з-за розных зайздроснікаў. Узяць хоць бы тую ж публікацыю, якую ты прыгадваў.



*Дачка Алёна.*

Прычым робіцца ўсё гэта подленька, з-за вугла, маскіруючы свае чорныя пачуцці ў высокія матэрыі. Ну ды Бог з імі. Я стараюся на гэтыя пакасці не зважаць, а рабіць сваю справу. Рабіць так, як падказвае мне мая творчая інтуіцыя, маё сумленне.

***— Міхась Паўлавіч, калі цябе глыбока не ведаць, знешне ты робіш уражанне чалавека нязменна вясёлага, лёгкага, у нечым, можа, нават легкадумнага. А між тым гэта зусім не так. Лёгкасць, весялосць твайго характару не перашкаджаюць табе быць сур'ёзным, патрабавальным, настойлівым, непахісным у прынцыповых пытаннях…***

— Мяне, напэўна, жыццё зрабіла такім, які я ёсць. Маё дзяцінства было цяжкім, гарапашным. Працавалі — сонца не бачылі. Ад цяжкіх фізічных нагрузак я рукі парасцягваў так, што калі вучыўся, даводзілася іх бінтаваць. А сякеру я і цяпер доўга трымаць не магу. Што зробіш — жыццё было такім. Бацькі мае самі працавалі з рання да змяркання і нас прывучалі. Мы ўсе, і старэйшыя, і маладзейшыя, ужо ў шэсць гадзін раніцы заўсёды былі на нагах. Кожны меў свой занятак, свой клопат. Я, напрыклад, з дзевяці гадоў ужо ўмеў касіць, а крыху пазней — і араць.

Найлепшым прыкладам для мяне быў мой бацька. Гэта ён прывіў мне любоў да парадку, да дысцыпліны. Там, дзе іх няма, не будзе і справы. Я калі прыйшоў сюды, у хор, сутыкнуўся з нязвыклай для мяне вольніцай. Ідзе канцэрт, а той-сёй дазваляе сабе за заднікам куляць чарку. Я строга папярэдзіў, але выпівохі не ўціхамірваліся. Давялося некаторых звольніць. Цяпер у нас такое нават уявіць сабе немагчыма. Ніхто ў нас не спазняецца ні на рэпетыцыю, ні на выезд. Ад'язджаем хвіліна ў хвіліну, як прызначылі.

Скажу чэсна: для мяне работа — куды больш, чым сям'я. Я заняты з ранку да вечара. Акрамя ж музыкі ў калектыве шмат іншых праблем — арганізацыйных, матэрыяльных. Людзі прыходзяць з самымі рознымі просьбамі, трэба ім дапамагаць. Можа гэта прагучыць пафасна, сентыментальна, але я вельмі люблю людзей. Я гатоў за іх змагацца, біцца з кім заўгодна. За сябе я магу і прамаўчаць, але не дай бог, калі нехта зняважыць майго артыста — магу нават даць туды, дзе вельмі баліць. Я людзей паважаю і дапамагаю ім, чым магу. Я шчаслівы, калі мне ўдалося ў нечым памагчы чалавеку, зрабіць яму дабро. Я тады лячу, як на крылах. Але і патрабую. І людзі адчуваюць і разумеюць гэта.

***— Што больш за ўсё цэніш у людзях?***

— Разумнасць. Ну і, канечне, прафесіяналізм. А яшчэ — чалавечнасць, куды я ўключаю і прыстойнасць, і дабрату, і бясхітраснасць. Хітрасць — не дурнота, але часам яна можа абярнуцца подласцю.

***— А чаго ты не можаш чалавеку дараваць?***

— Здрады! Такога чалавека я стараюся не заўважаць, абыходзіць бокам.

***— З чым можаш змірыцца?***

— Я магу змірыцца, калі, скажам, студэнт не дужа пацалаваны Богам, але ён працаўнік. А вось гультайства не дарую. Былі выпадкі, калі з некаторымі студэнтамі нават расставаўся. Тое ж самае з артыстамі. Мы ж робім адну справу: альбо давай рабіць яе разам, альбо ідзі рабі адзін…

***— Як ты лічыш, у наш няпросты, скрушны час яшчэ засталося месца для сяброўства ці ўжо ўсё выціснула карыслівасць і разлік?***

— Не, не ўсім яшчэ завалодаў даляр. Большасць жа людзей не ў гэтай кагорце. Яны як жылі, так і жывуць. А сяброўства, я думаю, — катэгорыя вечная.

***— У цябе ёсць блізкія сябры?***

— Ёсць, ёсць… Найперш гэта Уладзімір Пархоменка — мой цудоўны і верны сябра і надзвычай абавязковы чалавек. Гэта Валерый Аўраменка — дэкан нашай акадэміі музыкі, чалавек, з якім заўсёды можна і пагаварыць, і памаўчаць. Блізкія мне людзі — дэкан завочнага навучання універсітэта культуры і мастацтваў Антон Марэцкі, прафесары гэтай жа навучальнай установы Альбіна Пякуцька і Яўген Рэутовіч…

***— А са сваім знакамітым земляком Іванам Мележам ты быў знаёмы?***

— Толькі візуальна. А вось з Іванам Шамякіным знаёмыя былі добра. І з Максімам Танкам таксама. Вельмі цёплыя, кранальныя адносіны склаліся з Рыгорам Шырмай, які любіў мяне называць сынком. У мяне харошыя сябры ёсць і ў хоры.

***— А гэта не перашкаджае справе?***

— Наадварот. Калі кіраўнік з табой сябруе, то на цябе кладзецца яшчэ большая адказнасць. Мне не падабаецца, калі паміж кіраўніком і падначаленымі ўстанаўліваецца штучная дыстанцыя. Не люблю фанабэрыстасці. Мой прынцып: не людзі для цябе, а ты для людзей. Ты ж не Богам тут пастаўлены, дык будзь чалавекам. На жаль, у нашай прафесіі рэдка бывае, каб быў выдатны музыкант і добры чалавек.

***— Ты па жыцці аптыміст ці песіміст?***

— Безумоўна, аптыміст. Нават калі мне было вельмі пагана, я не распускаў соплі.

***— У прыкметы і забабоны верыш? Скажам, хрысцішся перад выхадам на сцэну альбо пазбягаеш засяляцца ў гасцінічны пакой пад нумарам трынаццаць…***

— Ну, да гэтага справа не даходзіць. Але калі часам перабяжыць дарогу кошка, то міжволі падумаецца: якая халера цябе сюды прынесла. Аднак назад не вяртаюся і праз левае плячо не плюю.

А з другога боку, вось мой бацька прайшоў усю вайну, чатыры гарматныя разлікі памяняў, а ў самога ніводнага ранення. І, можа, таму, казаў ён, што насіў з сабою малітву, якая яго аберагала. Я ў гэта не дужа веру, але, прызнаюся, маленечкую іконку з сабою таксама нашу. Не ведаю, наколькі яна мне дапамагае, але ж і не шкодзіць.

***— Як ты разумееш паняцце Бога, рэлігіі, веры?***

— Я, канечне ж, не думаю, што ёсць нейкая ўсемагутная асоба, якая сядзіць недзе там, у горніх высях, на воблаках,



*Сын Аляксандр.*

і кіруе Сусветам. Але тое, што ўсё на зямлі адбываецца не выпадкова, што ўсё падпарадкоўваецца нейкім загадкавым і вельмі мудрым законам, — бясспрэчна. А як мы гэта назавем — Богам ці Вышэйшым розумам — не так ужо і важна. Галоўнае, каб была вера. Чалавек, які верыць, не зробіць зла, паскудства.

***— Бацькі твае былі глыбока рэлігійныя людзі?***

— Так. І ў царкву хадзілі, і дома кожны дзень маліліся. Але нас не прымушалі маліцца. Мы проста стаялі побач. Ды нешта ўсё-такі ў душы засталося. І тое, што я прыйшоў да царкоўнай музыкі, напэўна, не выпадкова. У гэтым была ўнутраная патрэба. І з гадамі гэтая патрэба становіцца ўсё больш моцнай.

***— Міхась Паўлавіч, у цябе шмат ганаровых званняў і высокіх узнагарод. Што было для цябе самым дарагім, самым хвалюючым?***

— Вось, дальбог, кажу як на духу: я ніколі не працаваў на званне, на ўзнагароду. Працаваў, як мог, працаваў многа, упарта, настойліва, каб быў вынік, каб зрабіць справу. І ніколі не чакаў ніякіх узнагарод, а таму і не надаваў ім вялікага значэння. Адзначылі — добра, дзякуй. Гэта абавязвае мяне працаваць яшчэ лепш. А такой хваробай, як зайздрасць, славалюбства, я не пакутаваў і не пакутую.

***— У наступным годзе ў цябе першы сур'ёзны юбілей — сямідзесяцігоддзе. Ты як-небудзь да яго рыхтуешся? І наогул, як ты адносішся да сваіх юбілеяў?***

— Па-рознаму. Справа ў тым, што я вельмі сябе адчуваю сарамліва і няўтульна ў такія хвіліны. І можа, таму, што ў дзяцінстве мы асаблівай пахвалы ад бацькоў не чулі. Не прынята было. Як не прынята было і адзначаць дні нараджэння.

***— Не за гарамі ў цябе яшчэ адзін важны і значны юбілей — залатое вяселле. Вось ужо амаль паўстагоддзя, як вы са Святланай Васільеўнай поруч, у добрай згодзе і лагодзе ідзяце па жыцці. Сітуацыя, прама скажам, не зусім тыповая для творчага асяроддзя. У чым жа сакрэт вашага сямейнага даўгалецця?***

— Ага, так я табе і раскрыю!.. А калі сур'ёзна, то, на маю думку, у аснове сямейнага саюза павінна быць глыбокае, трывалае пачуццё — каханне, павагі, узаемаразумення. Калі гэтага няма, разлічваць на нешта сур'ёзна наўрад ці можна. Ну і пасля, відаць, у мае гены ўкладзены моцныя народныя, духоўныя традыцыі, пра якія вельмі хораша сказаў Максім Танк: «Бо ў нас так не водзіцца, што сёння распішуцца — заўтра разводзяцца...» Ад гэтага мая павышаная адказнасць за ўсё перад Богам, перад дзецьмі, перад людзьмі.

***— А дзе і як ты пазнаёміўся са Святланаю?***

— Было гэта яшчэ ў музвучылішчы. Аднойчы, на Тройцу, я са сваім сябрам і аднакурснікам Ігарам Бабковым паехаў у госці да яго бацькоў, у вёску Прыбыткі, што пад Гомелем. І вось там, калі мы з Ігарам пайшлі на рэчку, я і ўбачыў Святлану. Яна неяк адразу ўпала мне ў вока, і не таму, што была ў непрывычных тады чырвоных штоніках. Не, сярод астатніх дзяўчатак яна вылучалася не вясковай інтэлігентнасцю, нейкай загадкавасцю. Пазнаёміцца я тады так і не асмеліўся, але ўвесь час чамусьці думаў пра яе.

Лёс звёў нас зусім нечакана. На другім курсе мне даверылі кіраваць Прыбыткаўскім народным хорам. І калі я прыйшоў на першую рэпетыцыю, то з радасцю ўбачыў сярод харыстаў і яе, сваю незнаёмку. Мы пазнаёміліся, сталі бачыцца. Рэпетыцыі звычайна праводзіліся ў нас у пятніцу, а я пачаў заставацца ў свайго сябра і на суботу, і на нядзелю. Так справа дайшла і да вяселля. На трэцім курсе мы пажаніліся. Бацька, праўда, калі я прыехаў прасіць у яго на гэта згоды, незадаволена нахмурыў лоб: «Мішка, дзеўкі яшчэ будуць. Ты паехаў вучыцца, дык вучыся». І мой любімы педагог Раіса Цімафееўна таксама не адабрала такой ранняй жаніцьбы. Але я ўжо не ўяўляў свайго жыцця без Святланы.

Цяжка было напачатку. Жылі на прыватнай кватэры, даводзілася падрабляць. Але свет не без добрых людзей. Калі я працаваў у капэле МТЗ і ў нас са Святланаю была ўжо дачушка, кіраўніцтва трактарнага завода пайшло насустрач

і выдзеліла нам асобны пакой з агульнаю кухняю. Гэта была сапраўдная раскоша — дваццаць два квадратныя метры і сам сабе гаспадар!

***—Хто ў вас галоўны дома?***

— Як адзін мой знаёмы казаў: «Апошняе слова за мной. Слухаюся!» Так недзе і ў мяне. Можа, каб у мяне была іншая прафесія і я кожны дзень быў дома, дык нешта па-другому было б. А так — бясконцыя камандзіроўкі, гастролі. Здаралася, што па два—тры месяцы не бываў дома. А з дзецьмі жонка. І астатні клопат таксама на ёй.

***— А ў цябе якія абавязкі па дому?***

— Прынесці грошы. Жартую, канечне… Я, праўда, не баюся любой работы, але справа да гэтага даходзіць рэдка.

***— Як склаўся лёс тваіх дзяцей?***

— Лена, дачка, як і трое маіх братоў, выбрала медыцыну, скончыла Мінскі медыцынскі інстытут і працуе ўрачом-неўрапатолагам. А Саша пайшоў у музыку. Пасля кансерваторыі працуе салістам оперы. Думкі пра дзяцей грэюць мне душу.

***— Ну тады пагрэй душу і мне, раскажы свежы анекдот.***

— Калі ласка, якраз у тэму. Музыканту, які не ўмеў іграць на сваім інструменце, далі дзве палачкі — барабань. А калі ў яго не атрымалася і гэта, адну палачку забралі, і стаў чалавек дырыжорам.

Мы весела смяёмся і развітваемся. Праз дзесяць хвілін у Міхася Паўлавіча рэпетыцыя. Шлях да зорак ляжыць праз церні штодзённай, напружанай, карпатлівай працы.

***Гутарку вёў Зіновій ПРЫГОДЗІЧ.***

# ГРУНВАЛЬДСКАЯ БІТВА 1410 ГОДА: вынікі і перспектывы даследавання

***7 красавіка 2010 года ў Інстытуце гісторыі НАН Беларусі адбыўся «круглы стол», прысвечаны сучаснаму стану даследавання падзей Грунвальдскай бітвы, 600-годдзе якой мы адзначаем сёлета. Гісторыкі падзяліліся вынікамі сваіх росшукаў па шырокім коле пытанняў ад палітычных працэсаў у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе на пачатку XV стагоддзя да асаблівасцей узбраення і тактыкі нашых ваяроў.***

***У даследаванні Грунвальдскай бітвы да гэтага часу засталося нямала «белых плям». Навукоўцы сёння звяртаюцца да вялікай колькасці крыніц, каб праліць святло на тагачасныя падзеі. Згадкі пра Грунвальд расшукваюцца ў летапісах, хроніках, гербоўніках, кнігах сучасных даследчыкаў, выкарыстоўваюцца беларускія, польскія, рускія і заходнееўрапейскія крыніцы. І ўсё ж у гэтай падзеі, несумненна, адной з самых яркіх, гераічных старонак нашай гісторыі, і па сёння засталося шмат нявысветленага. Мы не ведаем нават дакладнага месцазнаходжання самога поля бітвы...***

***Веліч і таямніца Грунвальда, прыцягальнасць асобы князя Вітаўта сёння натхняюць многіх пісьменнікаў, навукоўцаў, мастакоў, бардаў. Вялікая бітва, як завецца яна ў гістарычных хроніках, захапляе і моладзь, якая аб'ядноўваецца ў гуртках гістарычнай рэканструкцыі.***

***Грунвальдская бітва адносна нядаўна прыцягнула ўвагу шырокай беларускай грамадскасці, аднак у мастацтве, культуры сучаснай Беларусі яна паспела пакінуць значны след. І, зразумела, росшукі ў гэтым кірунку працягваюцца.***

***Часопіс «Полымя» прапануе сваім чытачам некалькі паведамленняў з тых, што прагучалі падчас «круглага стала».***

**ДАНІЛОВІЧ Вячаслаў Віктаравіч, намеснік дырэктара Інстытута гісторыі НАН Беларусі па навуковай рабоце, кандыдат гістарычных навук, дацэнт.**

Наш сённяшні навуковы «круглы стол» прысвечаны абмеркаванню вынікаў і перспектыў даследавання праблематыкі знакамітай Грунвальдскай бітвы 1410 года, 600-годдзе якой мы будзем адзначаць 15 ліпеня сёлета. Дадзены «круглы стол» распачынае цэлую серыю мерапрыемстваў, прысвечаных 600-годдзю Грунвальдскай бітвы, якія арганізаваны Інстытутам гісторыі НАН Беларусі. Так, 26—27 чэрвеня ў Навагрудку пры падтрымцы Навагрудскага раённага выканаўчага камітэта ў рамках цэлага шэрага святочных мерапрыемстваў адбудзецца працяг нашага «круглага стала», на якім вучоныя-гісторыкі разам з краязнаўцамі і настаўнікамі абмяркуюць актуальныя праблемы вывучэння Грунвальдскай бітвы і захавання гістарычнай памяці аб гэтай слаўнай падзеі беларускай гісторыі. 8—9 ліпеня пройдзе арганізаваная намі разам з Гродзенскім дзяржаўным універсітэтам імя Янкі Купалы Міжнародная навуковая канферэнцыя па гісторыі Вялікага княства Літоўскага, зноў жа прысвечаная 600-годдзю Грунвальдскай бітвы.

Грунвальдская бітва — адна з найбуйнейшых бітваў у гісторыі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Сучаснікі называлі яе Вялікай бітвай. Такой яна з'яўляецца і для сучасных гісторыкаў. У Грунвальдскай бітве ўдзельнічалі беларускія харугвы. Прычым нашых харугваў было больш чым літоўскіх. Сёння мы ўпэўнена можам гаварыць, што перамога на Грунвальдскім полі была перамогай і беларускіх войск, што сучасныя беларусы таксама з'яўляюцца нашчадкамі гэтай слаўнай перамогі, здабытай нашымі продкамі.

Грунвальдская бітва параўнальна нядаўна стала прадметам увагі беларускай грамадскасці. Так атрымалася, што першымі гаварыць і пісаць аб ёй сталі публіцысты і пісьменнікі. І толькі пазней да іх далучыліся прафесійныя гісторыкі. Уклад у папулярызацыю бітвы публіцыстаў і пісьменнікаў нельга не даацэньваць. Але толькі намаганні вучоных могуць сфарміраваць пэўную сістэму ведаў гэтай гістарычнай падзеі. На сённяшні дзень профільных беларускіх гісторыкаў гэтай бітвы няшмат і большасць з іх сёння ўдзельнічаюць у нашым «круглым стале».

У адрозненне ад палякаў і літоўцаў у беларусаў яшчэ фарміруецца ўласная традыцыя вывучэння Грунвальдскай бітвы. Ацэнка значэння яе часта даецца ў кантэксце Вялікай вайны, у кантэксце гісторыі Польшчы і Вялікага княства Літоўскага. Аднак сёння нам нельга забываць пра галоўнае. На поле Грунвальдскай бітвы выйшлі нашы суайчыннікі, яны глядзелі смерці ў твар, многія засталіся там назаўсёды. Іх памяць павінна быць ушанавана. І навуковы інтарэс да гэтай бітвы, навуковыя даследаванні, навуковыя сустрэчы, прысвечаныя ёй, з'яўляюцца формамі ўшанавання гэтай памяці.

Навуковыя задачы ставяць шэраг праблем для абмеркавання: значэнне бітвы для Беларусі; колькасць удзельнікаў з кожнага боку; рэгіянальны і сацыяльны склад войска ВКЛ (ці ёсць у вядомых пераліках харугваў войска ВКЛ лакуны, ці, наадварот, факт удзелу тых ці іншых харугваў перабольшаны, хто ўдзельнічаў у бітве: ці толькі баяры, ці, можа, яшчэ мяшчанства і г. д.); персанальны склад военачальнікаў Вітаўта (бо хтосьці з намеснікаў Вітаўта вёў харугвы, камандаваў імі); сімволіка харугваў; у якой меры ўдзел беларускіх харугваў у Грунвальдскай бітве — гэта вынік волі манарха, а ў якой разумення агульных дзяржаўных інтарэсаў. Навукова абгрунтаваныя адказы на гэтыя і іншыя пытанні мы спадзяёмся атрымаць на сённяшнім «круглым стале», які павінен зрабіць свой унёсак у выпрацоўку агульнай ацэнкі значэння Грунвальдскай бітвы з пункта гледжання гісторыі Беларусі.

**КАСЦЮК Міхаіл Паўлавіч, акадэмік НАН Беларусі, галоўны навуковы супрацоўнік аддзела гісторыі беларускай дзяржаўнасці Інстытута гісторыі НАН Беларусі.**

Бітва, якая адбылася 15 ліпеня 1410 года і доўжылася ад апоўдня да 7 гадзін вечара на тэрыторыі паміж Стэмбаркам і Грунвальдам, з'явілася апагеем не толькі Вялікай вайны, але ўсёй актыўнай, амаль 130-гадовай (з невялікімі перапынкамі) агрэсіі Тэўтонскага ордэна на літоўскія і беларускія землі. Гэтая бітва ўвайшла ў гісторыю як адна з найбольш маштабных, грандыёзных і эпахальных падзей Сярэднявечча.

Грунвальдская бітва — заканчэнне і лагічны вынік той пастаяннай агрэсіі, якую вёў Ордэн на ўсходнія ад яго, у тым ліку беларускія, землі. Разбурэнні, пажары, марадзёрства, грабяжы, рабаўніцтва ў час так званых «рэйзаў» сумяшчаліся з захопам і вывадам палонных. На думку некаторых даследчыкаў колькасць палонных, дарослых і дзяцей, якія былі выведзены з тэрыторый Літвы і Беларусі магла дасягаць 200 тысяч чалавек.

Характэрна, што назіралася цесная прапагандысцкая сувязь паміж крыжацкімі паходамі ў Палесціну, а таксама на літоўскія, беларускія і іншыя ўсходнеславянскія землі. І па адным, і па другім напрамках гэта падавалася як барацьба за чысціню хрысціянскай веры ў яе каталіцкім варыянце. На літоўскіх, беларускіх

і іншых суседніх тэрыторыях гэта вылівалася ў барацьбу з паганцамі і схізматыкамі. У канцы XIV — пачатку XV стагоддзя націск ва ўсходнім напрамку актывізаваўся ў сувязі з цяжкім паражэннем крыжакоў ад турак, якое адбылося пад Нікапалісам у 1397 годзе.

Войскі Вялікага княства Літоўскага на крыжацкую агрэсію перыядычна адказвалі сваімі паходамі на Захад. Асабліва актыўна гэта адбывалася ў часы дзейнасці Давыда Гарадзенскага ды некаторых іншых тагачасных военачальнікаў. Праўда, гэтыя паходы былі менш інтэнсіўнымі, яны не мелі пастаяннага характару і праводзіліся пераважна ў адказ на крыжацкія «рэйзы» і зробленыя ў час іх пагромы, грабяжы і марадзёрства.

Аднак варагуючыя бакі згодна з тагачаснымі юрыдычнымі і маральна-этычнымі нормамі даволі строга вытрымлівалі падпісаныя пагадненні. Яны нярэдка ўтрымлівалі норму папярэджваць за некалькі тыдняў ці нават за некалькі месяцаў аб разрыве мірнага дагавору і пачатку ваенных дзеянняў. Гэта датычылася не толькі ўзаемаадносін Тэўтонскага ордэна са сваімі ўсходнімі суседзямі, але і ў больш шырокім кантэксце, ва ўзаемаадносінах непасрэдна паміж імі. У гэтай сувязі вераломны напад праз многія стагоддзі фашысцкай Германіі на СССР, у тым ліку на Беларусь, насуперак заключанаму савецка-германскаму пакту і іншым дагаворам з'явіўся вялікай дэградацыяй міждзяржаўных прававых адносін і міжнароднай практыкі.

Але ў адрозненне ад Вялікай Айчыннай і Другой сусветнай войнаў у часы крыжацкай агрэсіі на Беларусь і яе суседзяў ваенныя напады тады не мелі ў сваёй аснове этнічнага характару. Гэта тлумачыцца як няразвітасцю саміх тагачасных этнасаў, так і іншай прапагандысцкай асновай крыжацкіх паходаў — барацьбой з язычнікамі і адступнікамі, па іх меркаваннях, ад сапраўднай хрысціянскай, гэта значыць, каталіцкай веры.

Нягледзячы на практычна пастаянны і востры характар барацьбы з Тэўтонскім ордэнам, Вялікае княства Літоўскае знаходзіла магчымасці і сілы для паходаў на ўсход. У прыватнасці, вялікі князь Альгерд за кароткі тэрмін зрабіў тры паходы на Маскоўскае княства. Шырока вядома і ўсходняя палітыка Вітаўта, у тым ліку ў канцы XIV — пачатку XV стагоддзяў.

Ад крыжацкіх «рэйзаў» у першую чаргу цярпелі землі цяперашняй Літвы, асабліва Жамойць, жыхары якой перыядычна паўставалі і вялі асабліва актыўную барацьбу з захопнікамі, а таксама беларускія тэрыторыі. Што датычыць непасрэдна польскіх зямель, то згодна з Калішскім мірам, заключаным у 1343 годзе, іх тэрыторыя аказвалася пераважна ў баку ад крыжацкіх паходаў. Але небяспека нападаў захоўвалася пастаянна, хаця польскія рыцары часам выступалі разам з «гасцямі» Тэўтонскага ордэна, што прыбывалі да яго з іншых дзяржаў Еўропы.

У жорсткай барацьбе з крыжацкімі паходамі на Беларусь больш за ўсё цярпела амаль безабаронная сельская мясцовасць, а таксама гарадскія паселішчы, але замкі Гародні, Наваградка, Ліды, іншых беларускіх гарадоў пераважна вытрымлівалі асады і штурмы. Але характар агрэсій і барацьбы з імі быў такім, што ў 1395 годзе, напрыклад, жыхары Наваградка і Ліды самі вымушаныя былі спаліць свае гарады і схавацца ў лясах.

Асабліва была актывізавана захопніцкая дзейнасць Тэўтонскага ордэна ва ўсходнім напрамку пасля 1393 года ў сувязі з тым, што вялікім магістрам стаў Кондрад фон Юнгінген. Ён затым будзе забіты на Грунвальдскім полі, што і сімвалічна, і заканамерна. Хаця яму нельга адмовіць і ў пэўнай асцярожнасці. Так, апошні паход яго рыцараў на Вільню адбыўся ўжо ў 1394 годзе.

Не цураліся вярхоўныя кіраўнікі варагуючых бакоў і асабістых сустрэч. Так, у 1403 годзе на Дубісе Вітаўт і фон Юнгінген правялі перамовы, якія, аднак, аказаліся безвыніковымі. Былі некалькі іншых сустрэч паміж імі, у тым ліку з удзелам польскага караля Ягайлы.

У гэтай сувязі для зыходу будучай Грунвальдскай бітвы асабліва важнае значэнне мелі ўзаемаадносіны і ўзаемадзеянні вярхоўных кіраўнікоў Вялікага

княства Літоўскага і Кароны Польскай, стрыечных братоў — Вітаўта і Ягайлы. Забойства ў 1382 годзе, у часы асабліва вострай барацьбы за ўладу, па загадзе Ягайлы яго роднага дзядзькі і бацькі Вітаўта — Кейстута на многія гады ўскладніла іх адносіны. Але дзяржаўныя справы ўсё ж такі пастунова бралі верх над асабістымі крыўдамі. Важнае значэнне ў гэтым адыгралі падзеі 1392 года, калі Вітаўту ад Ягайлы быў перададзены сакрэтны ліст. У ім утрымлівалася прапанова да прымірэння і выкладаліся яго ўмовы. Вынікам гэтага з'явілася сустрэча каля Вострава, у ваколіцах Ліды. Згодна з падпісаным трактатам, улада ў Вялікім княстве Літоўскім пажыццёва перадавалася Вітаўту. Пры гэтым ён аб'яўляўся намеснікам Ягайлы ў ВКЛ, і яму былі вернуты ўсе яго вотчынныя ўладанні.

Рыхтуючыся да генеральнай бітвы, варагуючыя бакі імкнуліся забяспечыць свае тылы. І гэта ім удалося. Вітаўт падпісаў адпаведныя пагадненні мірнага характару з Псковам, а таксама з Маскоўскім княствам. Быў заключаны мірны трактат і з Вялікім Ноўгарадам. Пры гэтым важна, што адпаведнае пагадненне было падпісана таксама з Інфляндскім ордэнам.

Яшчэ раней забеспячэннем сваіх тылавых пазіцый заняліся кіраўнікі Тэўтонскага ордэна. У першую чаргу гэта была барацьба за важнейшы апорны пункт у Балтыйскім моры — востраў Готланд, які належаў Даніі. Яшчэ ў 1383 годзе туды быў арганізаваны вялікі паход сухапутных і нават марскіх сіл Ордэна. Гэтыя кампаніі былі затым паўтораны ў 1403 і 1404 гадах. Яны ўяўлялі сабою добра спланаваныя і выніковыя акцыі. Спробы супрацьдзейнічаць гэтаму з боку дацкіх улад не мелі поспеху.

Перадгісторыя Грунвальдскай бітвы мае нямала сведчанняў пэўных кампрамісаў паміж варагуючымі бакамі — Вялікім княствам Літоўскім, Каронай Польскай і Тэўтонскім ордэнам. Вядома, што пры правядзенні сваёй усходняй палітыкі (а яна нярэдка набывала актыўны характар) Вітаўт часам выкарыстоўваў фарміраванні тэўтонскіх рыцараў. У прыватнасці, у няўдалай для яго бітве на Ворскле, якая адбылася ў 1399 годзе, удзельнічалі і прадстаўнікі Тэўтонскага ордэна.

Гістарычнымі фактамі яшчэ больш зафіксавана пагадненняў з Ордэнам, якія праследавалі, несумненна, тактычныя мэты. Гэтую ролю выконвалі, у прыватнасці, Віленская унія 1401 года, Рацёнжскі дагавор 1404 года паміж Вялікім княствам Літоўскім, Каронай Польскай і Тэўтонскім ордэнам. На аснове гэтага дагавору ў 1406 і 1408 гадах ордэнскія фарміраванні ў некалькі тысяч рыцараў дапамагалі войскам Вітаўта ў яго барацьбе з Маскоўскім княствам.

Характэрна, што перыядычна, асабліва ў часы абвастрэння адносін і ваенных дзеянняў з Тэўтонскім ордэнам, актывізавалася прапагандысцкая дзейнасць з абодвух варагуючых бакоў. Ордэн праз сваіх пасланнікаў апеляваў да папскага прастола, правіцеляў Свяшчэннай Рымскай імперыі, заходнееўрапейскіх дзяржаў, абвінавачваў язычнікаў і схізматыкаў у непавазе да ісціннага хрысціянства, гэта значыць, да каталіцкай веры. Прадстаўнікі Вялікага княства Літоўскага і Кароны Польскай, у сваю чаргу, імкнуліся даказаць адваротнае. Асабліва гэта ўзмацнілася непасрэдна перад рашаючай бітвай.

Працяглая небяспека з боку Тэўтонскага ордэна аб'ядноўвала яго праціўнікаў. Сярод прыкладна 40 харугваў, якія прывёў на рашучую бітву вялікі князь Вітаўт, аб'ядналіся берасцейская, ваўкавыская, віцебская, гарадзенская, лідская, навагрудская, пінская, полацкая, магчыма, некалькі смаленскіх і іншыя харугвы. У іх было адно імкненне — разграміць рыцараў і спыніць іх спусташальныя паходы на ўсход.

Перамяшчэнні войск абодвух бакоў перад сустрэчай пад Грунвальдам, як і сам ход вырашальнай бітвы, даволі падрабязна, хаця і не адназначна выкладзены ў беларускай гістарычнай літаратуры, як і ў публікацыях даследчыкаў з іншых дзяржаў. Але адна лінія пераважае: войскі Вялікага княства Літоўскага і Кароны Польскай, злучыўшыся 30 чэрвеня 1410 года на Вісле, валодалі наступальнай стратэгіяй і тактыкай, а Ордэн абараняўся. Яго катастрофа на полі, якое аддзяляла Стэмбарк і Грунвальд, была заканамерным вынікам барацьбы супраць тэўтонскай агрэсіі на літоўскія, беларускія і іншыя ўсходнеславянскія землі.

Несумненна, што перамога пад Грунвальдам мела эпахальное значэнне. У гэтых адносінах дастаткова нагадаць, што яна больш чым на паўтысячу гадоў спыніла нямецкую агрэсію на ўсход — аж да пачатку XX стагоддзя, да Першай сусветнай вайны. Гэта — бясспрэчны факт не толькі еўрапейскай, але і сусветнай гісторыі. Так сталася таму, што спробы Тэўтонскага ордэна аднавіць пасля катастрофы пад Грунвальдам сваю былую магутнасць і значэнне так і не былі рэалізаваны.

Таму нельга пагадзіцца з меркаваннем, якое часам выказваецца ў літаратуры, што значэнне Грунвальдскай бітвы звычайна перабольшваецца ці нават гіпербалізуецца. Гэта фактычна зрабіць немагчыма, калі ўлічыць тыя карэнныя геапалітычныя змены, якія адбыліся ў цэнтральнай і ва ўсходняй Еўропе ў выніку гэтай грандыёзнай падзеі. Яе месца і ролю ў гісторыі народаў усходняй і цэнтральнай Еўропы цяжка пераацаніць.

600-гадовы юбілей Грунвальдскай бітвы не можа не скіроўваць на роздум аб гістарычным і нават эпахальным значэнні гэтай неардынарнай па сваіх выніках падзеі з сярэднявечнай гісторыі Беларусі і суседніх з ёю зямель. Унікальная роля гэтай бітвы і далёкасяжныя наступствы не толькі ў спыненні перыядычных, на працягу амаль паўтары сотні гадоў набегаў нямецкіх і іншых рыцараў на літоўскія, беларускія і суседнія з імі тэрыторыі, але і ва ўздыме маральнага духу пераможцаў, усведамленні імі сваёй годнасці і сілы.

Грунвальдская бітва з’явілася цяжкім выпрабаваннем для беларускага і іншых этнасаў у іх самаадданай і шматахвярнай барацьбе з гэтай агрэсіяй. На Грунвальдскім полі тысячы адважных ваяроў з зямель Беларусі склалі свае галовы ў зацятай баталіі, але гэтыя страты былі прынесены ў імя свабоды і незалежнасці роднага краю, дзеля яго жыхароў, каб іх больш не забіралі ў няволю і каб яны маглі спакойна працаваць на роднай зямлі, гадаваць дзяцей, унукаў, праўнукаў, ствараць матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці.

Наступныя этапы ў гісторыі Вялікага княства Літоўскага ў многім былі прадвызначаны гэтай знамянальнай падзеяй. Нягледзячы на складанасці далейшага развіцця, звязаныя з унутранымі і знешнімі фактарамі, ВКЛ паступова і настойліва ўздымалася на новыя прыступкі ў сацыяльна-эканамічным, грамадска-палітычным, культурна-духоўным жыцці. У гэтым руху княства пацвярджала свае вялікія патэнцыйныя магчымасці, дасягаючы ўсё новых вышынь. Важнай перадумовай гэтага была, несумненна, грунвальдская перамога.

Узнікшы як поліэтнічная дзяржава еўрапейскага ўзроўню, Вялікае княства Літоўскае ў выніку пераможнай Грунвальдскай бітвы яшчэ больш умацавала свае пазіцыі на еўрапейскім кантыненце, а ва ўсходняй Еўропе ў гэты час яно яўна дамінавала. Дабратворнае ўздзеянне гэтай перамогі на працягу доўгага часу яшчэ адчувалася ва ўнутранай і знешняй палітыцы беларуска-літоўскай краіны.

Хаця кіраўнікі Тэўтонскага ордэна яшчэ спадзяваліся на рэванш, але дасягнуць гэтага ўжо было немагчыма. І не толькі таму, што ён быў аслаблены ў выніку паразы пад Грунвальдам у ваенных адносінах, а таксама ў эканамічна-гаспадарчым развіцці, але і ў выніку шырокага ўсведамлення пераможцамі сваёй сілы і магчымасцей дабіцца ў рэшце рэшт пералому ў шматгадовай барацьбе з гэтай крыжацкай агрэсіяй.

У далейшым супольная перамога ўсходніх славян пад Грунвальдам паступова адыходзіла ў гісторыю, а на першы план праступалі ўзаемаадносіны, у тым ліку і ваенныя, паміж Вялікім княствам Літоўскім, затым супольнай дзяржавай абодвух народаў — Рэччу Паспалітай і Маскоўскай дзяржавай з удзелам насельнікаў беларускіх і ўкраінскіх зямель. Гэтае супрацьстаянне набывала нярэдка драматычны і нават трагічны характар. Не міналі тэрыторыю Беларусі іншыя нашэсці — шведскае, французскае, а затым, у пачатку XX стагоддзя, нямецка-кайзераўскае. Так што новая шырокамаштабная нямецкая агрэсія на беларускія і іншыя ўсходнееўрапейскія землі адбылася праз больш чым паўтысячу гадоў пасля Грунвальда.

У перыяд Другой сусветнай і Вялікай Айчыннай войнаў, у часы самаадданай барацьбы з нацысцкай Германіяй у абаронцаў роднай зямлі нярэдка паўставаў зборальны, абагульняючы воблік Грунвальда і подзвіг нашых далёкіх прашчураў. Гэта дапамагала ў цяжкой барацьбе, падмацоўвала ўпэўненасць у яе пераможным завяршэнні. Значыць, і ў Сярэднявеччы, і ў больш позні і нават недалёкія ад нас этапы нашай гісторыі перамога пад Грунвальдам адыграла і адыгрывае сваю пазітыўную ролю ў гістарычным працэсе захавання і ўмацавання беларускім і іншымі суседнімі народамі сваіх пазіцый. Пра гэта сведчаць і матэрыялы дадзенага выдання, звязаныя з Наваградчынай — адной з самых адметных мясцін беларускай зямлі.

Важнейшы і найбольш аб’ектыўны суддзя таму, што адбылося, гэта, як вядома, час. Ён засведчыў і працягвае сцвярджаць, што ў нашай гераічнай гісторыі ёсць нямала выдатных старонак. Адна з іх — яскравая грунвальдская перамога. Яна і цяпер у нашай памяці — як сведчанне глыбокіх каранёў беларускай дзяржаўнасці, непакорлівасці і высокай годнасці нашых продкаў.

**БОХАН Юрый Мікалаевіч, доктар гістарычных навук, вядучы навуковы супрацоўнік аддзела гісторыі Беларусі Сярэдніх вякоў і пачатку Новага часу Інстытута гісторыі НАН Беларусі.**

Войскі праціўнікаў, якія сутыкнуліся ў бітве пад Грунвальдам у 1410 годзе, былі, па сведчанні відавочцаў і пазнейшых храністаў, вялікія і магутныя. Аднак скласці дакладнае ўражанне аб іх колькасці надзвычай няпроста. І крыжацкія, і польскія, і беларуска-літоўскія крыніцы, напісаныя пасля бітвы, перабольшвалі сілы праціўнікаў і змяншалі свае. Немцы рабілі гэта, каб знайсці апраўданне свайму паражэнню, палякі і літвіны, — каб прадставіць сваю перамогу ў яшчэ больш слаўным выглядзе. Найбольш вядомая крыніца, у якой апісваюцца падзеі бітвы, — Хроніка Яна Длугаша — адных толькі забітых крыжакоў налічвае 50 тысяч, а палонных 40 тысяч чалавек. Яшчэ больш фантастычныя лічбы можна знайсці ў нямецкіх хроніках, дзе колькасць адных толькі «няверных» — «сарацынаў», турак, персаў і г. д. вылічаецца мільёнамі! Такая колькасць ворагаў, прычым менавіта мусульман, павінна была падкрэсліць не толькі гераізм хрыстовага воінства, але і яго сапраўды хрысціянскі, у духу першых крыжовых паходаў, характар. У той жа час Длугаш ацэньвае прысутнасць татар у войску ВКЛ больш сціпла; ён сцвярджае, што саюзны Вітаўту хан Джалал-ад-Дзін прывёў на Грунвальдскае поле ўсяго 300 чалавек.

Няма адзінства адносна колькасці ўдзельнікаў бітвы і ў ацэнках даследчыкаў. Расійскі дарэвалюцыйны даследчык А. Барбашоў лічыў, што польска-літоўскія войскі налічвалі 100 тысяч чалавек, а крыжацкія — усяго 30 тысяч, прычым рыцараў Ордэна — 700 чалавек. П. Гейсман таксама называў лічбу 100 тысяч у саюзнікаў, але колькасць палякаў і літвінаў ён павялічыў удвая — да 60 тысяч ваяроў. Польскі гісторык С. Кучыньскі, які лічыцца адным з найбольш аўтарытэтных знаўцаў праблемы, выкарыстаў у сваіх падліках ацэнку мабілізацыйных магчымасцей Ордэна. Ён прыйшоў да высновы, што крыжацкаму войску ў 27500 чалавек супрацьстаяла 31500 палякаў і літвінаў.

Зварот да мабілізацыйных магчымасцей варагуючых бакоў пры ацэнцы колькаснага складу войскаў Тэўтонскага ордэна, Польшчы і Вялікага княства Літоўскага стаў на сённяшні дзень звыклай справай. Вядомы польскі спецыяліст па праблеме М. Біскуп лічыць, што насельніцтва Прусіі складала на момант Вялікай вайны каля 500 тысяч чалавек пры тэрыторыі плошчай 58 тысяч км кв. У той жа час мабілізацыйны патэнцыял Польшчы быў значна вышэйшы — 1800 тысяч чалавек, якія пражывалі на тэрыторыі 240 тысяч км кв. Магутным быў патэнцыял і Вялікага княства Літоўскага, тэрыторыя якога складала 1100 тысяч км кв, прычым толькі ў этнаграфічнай Літве пражывала каля 300 тысяч чалавек, не лічачы значна большай па памерах Русі (Беларусі, Украіны і Смаленшчыны).

Разам з тым дэмаграфічная перавага саюзнікаў кампенсавалася, на думку польскага гісторыка, лепшай арганізацыяй і вышэйшым узроўнем урбанізаванасці. Да таго ж Ордэн мог быць падтрыманы рыцарамі германскіх краёў, Лівоніі, Чэхіі і Венгрыі, а таксама, валодаючы значнымі фінансавымі магчымасцямі, правесці вярбоўку наёмнікаў.

Такім чынам, М. Біскуп ацэньвае польскае войска прыблізна ў 18 тысяч шляхецкай конніцы, якая складала асноўную ваенную сілу і дапаўнялася невялікай колькасцю наёмнікаў, і каля 12 тысяч абознай прыслугі, рамеснікаў і іншых дапаможных службаў. Агульная лічба польскага войска мусіла даходзіць да 30 тысяч чалавек. Што тычыцца арміі Вітаўта, то яна магла налічваць да 11 тысяч кавалерыстаў, прадстаўленых літоўскімі, жамойцкімі і рускімі (беларускімі і ўкраінскімі) баярамі з невялікім дадаткам сялян. Польскі гісторык схілаецца да таго, што на 2/3 войска Вітаўта складалася з русінаў і на 1/3 — з балтаў. Акрамя таго, услед за некаторымі іншымі польскімі гісторыкамі ён лічыць, што ў бітве маглі прымаць удзел каля адной тысячы татараў саюзнага Вітаўту хана Джалал-ад-Дзіна. Усё саюзнае войска М. Біскуп налічвае ў 41 тысячу чалавек, прычым на долю Польшчы прыходзілася 2/3, а на долю ВКЛ — 1/3 конніцы.

Больш асцярожна падыходзіў да колькаснага складу варагуючых бакоў яшчэ адзін класік польскай гістарычнай навукі — А. Надольскі. Ён лічыў, што Вялікае княства выставіла ў 1410 годзе каля 10 тысяч ваяроў, тады як Польскае Каралеўства — у два разы больш — каля 20 тысяч. Такім чынам агульная колькасць саюзнага войска магла скласці каля 30 тысяч збройных.

Яшчэ меншую лічбу ўдзельнікаў бітвы прапануе беларускі даследчык Р. Гагуа. Ён лічыць, што калі працэнт шляхты ў той час складаў каля 8 працэнтаў, то для Прусіі з насельніцтвам у 500 тысяч чалавек колькасць прадстаўнікоў гэтага саслоўя магла раўняцца 40 тысячам. Мужчынская ж яго частка разам з дзецьмі, старымі і нямоглымі не магла перавышаць 20 тысяч. Такім чынам, Р. Гагуа ў цэлым салідарызуецца з Ф. Бенінгховенам, які лічыў, што ваеннаабавязанымі ў Прусіі маглі быць 12961 чалавек, у тым ліку здатных выходзіць у поле — 9735. Праўда, пры гэтым ён не ўлічвае, што наўрад ці ўсё мужчынскае насельніцтва, прыдатнае да зброі, удзельнічала ў вайне. Калі б гэта было так, то ў Ордэна папросту не засталося б рэсурсаў на фінальную фазу вайны. Акрамя таго, варта ўлічваць «гасцей» і наёмнікаў, якія маглі складаць не менш як трэць усяго крыжацкага войска. Длугаш піша, што ўвесь крыжацкі рэзерв, альбо адна з трох ліній, складаўся выключна з такіх рыцараў. Атрымаць уражанне пра маштабы праведзенай крыжакамі вярбоўкі дазваляе адна з кніг рахункаў Ордэна, дзе зафіксаваны выплаты для 5750 чалавек. Акрамя таго, для ўдзелу ў вайне з «нявернымі» прыбылі за свой кошт рыцары з розных краёў Еўропы.

Што тычыцца польскага боку, то Р. Гагуа згаджаецца з польскім гісторыкам Г. Лаўмяньскім, што войска Ягайлы не перавышала 12 тысяч чалавек. У такую ж самую лічбу ён ацэньвае і літвінскае войска. Што да татараў, то Р. Гагуа у адрозненне ад большасці іншых даследчыкаў прымае прыведзеную Длугашам колькасць у 300 вершнікаў.

Адзінае, што не выклікае сур'ёзных рознагалоссяў у навукоўцаў, дык гэта колькасць баявых падраздзяленняў — харугваў. Кожнае такое падраздзяленне мела свой сцяг (харугву), адсюль, уласна кажучы, і паходзіць іх назва. Калі верыць Длугашу, такіх падраздзяленняў у крыжакоў налічвалася 50 (яшчэ адну, пад камандаваннем Генрыха фон Плаўэна, магістр пакінуў для абароны межаў дзяржавы), у палякаў — 51 і ў літвінаў — 40. Падчас бою харугвы шыхтаваліся звужанымі наперадзе калонамі — клінамі. Па баках і асабліва спераду кожнага кліна размяшчаліся найбольш вопытныя і баяздольныя рыцары, найлепш узброеныя і на мацнейшых конях. У польскім войску Длугаш называе рыцараў пярэдніх ліній пайменна. Іх задача — пралом непрыяцельскага строю і змяшанне яго баявых парадкаў. Усярэдзіне звычайна месціліся конныя стральцы, якія стралялі паверх галоў пярэдніх ліній.

У польскім войску храніст узгадвае наступныя харугвы: Кракаўская, так званая «Гоньчая», Надворная (мела сцяг з гербам «Пагоня»), Святога Юрыя («належалі да той харугвы ўсе наёмныя чэшскія і мараўскія рыцары»), Познаньская, Сандомірская, Калішская, Серадская, Люблінская, Ленчыцкая, Куяўская, Львоўская, Велюнская, да якой, па прычыне яе малалікасці, былі далучаны сілезскія наёмнікі, Пшэмышльская, Добжыньская, Хелмская, тры харугвы Падольскай зямлі, Галіцкая, тры Мазавецкія харугвы (дзве князя Земавіта і яшчэ адна — Януша), арцыбіскупа Гнезенскага, біскупа Познаньскага, кашталяна Кракаўскага, ваяводы Кракаўскага, ваяводы Познаньскага, ваяводы Сандомірскага, ваяводы Серадскага, кашталяна Шрэмскага, ваяводы Ленчыцкага, маршалка Каралеўства Польскага, Кракаўскага падкаморыя, кашталяна Вісліцкага, старосты Велькапольскага, Дабяслава Алясніцкага, Спытка Яраслаўскага, Марціна Славіскага, Дабрагоста Шаматулскага, Крыстына з Казяглуў, Яна Менжыка з Дамбровы, Мікалая, падканцлера Каралеўства Польскага, Мікалая Кміта з Вісьніча, братоў і рыцараў Грыфаў, Заклікі Кажаквіцкага, братоў і рыцараў Казлерогі, Яна Енчыковіца, падстолія Кракаўскага Гневаша (у яе ўваходзілі не толькі палякі, але таксама чэхі, маравы і сілезцы) і, нарэшце, харугва князя літоўскага Жыгімонта Карыбута, якая таксама змагалася пад сцягам з «Пагоняй».

Што да войска Вялікага княства Літоўскага, то яго Длугаш апісвае не так падрабязна: «Было, апроч таго, у войску літоўскім Аляксандра Вітаўта сорак харугваў, куды ўваходзілі рыцары літоўскія, рускія, жамойцкія і татары. Менш шматлікія, аднак былі іх шэрагі і не так добра ўзброеныя; коні літоўскія таксама не маглі параўнацца з польскімі. Знакі на тых харугвах былі амаль што ўсе аднолькавыя; на кожным быў змешчаны муж збройны на кані белым, часам чорным, альбо мяшанай масці, з мячом у паднятай руцэ, у чырвоным полі. Дзесяць толькі харугваў было адметнымі і адрознівалася ад іншых трыццаці знакамі, якімі Вітаўт, асабліва багаты коньмі, прывык свае табуны кляйміць. Тыя знакі немагчыма апісаць словамі, а выглядалі яны так: ⌊П⌋. Некаторыя з тых харугваў называліся па імёнах зямель літоўскіх: Троцкая, Віленская, Гродзенская, Ковенская, Лідская, Медніцкая, Смаленская, Полацкая, Віцебская, Кіеўская, Пінская, Навагрудская, Брэсцкая, Ваўкавыская, Драгічынская, Мельніцкая, Крамянецкая, Старадубская і да т. п. Некаторыя ж называліся імёнамі князёў літоўскіх, якім князь Вітаўт даручыў імі кіраваць, напрыклад: Жыгімонта Карыбута, Лангвінавіча Сымона, Юрыя і да т. п.».

Няпоўная інфармацыя Длугаша пра войска Вітаўта ставіць перад даследчыкамі шэраг пытанняў. Па-першае, храніст пералічвае толькі 21 харугву; каму належалі астатнія, застаецца незразумелым. Гэта спараджае дыскусіі наконт суадносін у этнічным складзе войска. А. Барбашоў лічыў, што балцкімі (літоўскімі і жамойцкімі) было толькі 4 харугвы Вітаўта, тады як астатнія належалі «русінам» (беларусам і ўкраінцам). Сюды ж ён дадаваў 7 харугваў з заходнеўкраінскіх зямель, пералічаных Длугашам у польскім войску (Львоўская, Хелмская, тры харугвы Падольскай зямлі, Галіцкая, Пшэмышльская), і, такім чынам, «русінскіх» харугваў у яго атрымоўвалася практычна столькі ж, колькі польскіх.

Асобныя беларускія гісторыкі таксама схіляюцца да падобных суадносін балтаў і славян у войску ВКЛ, аднак у большасці даследчыкаў яны не знайшлі падтрымкі. Некаторыя аўтары выказвалі дыяметральна супрацьлеглыя меркаванні і схіляліся да колькаснай перавагі балтаў. Польскі даследчык Т. Васілеўскі нават лічыў, што 2/3 войска Вітаўта складалі балты, а 1/3 — славяне. Большасць жа сучасных гісторыкаў лічылі, што 2/3 войска былі якраз «русінскімі» і толькі 1/3 — літоўскімі і Жамойцкімі.

Пытанне выклікае і пералічэнне Длугашам сярод польскіх харугваў харугвы літоўскага князя Жыгімонта Карыбута, якая мела на сцягу герб ВКЛ. А. Надольскі меркаваў, што гэта магло быць звязана з камплектаваннем харугвы за кошт польскіх наёмнікаў. Г. Сагановічу гэта тлумачэнне падаецца непераканаўчым і ён лічыць, што залічэнне харугвы Жыгімонта да польскіх магло быць звязана з тым, што

сюды ўваходзілі рыцары валынскіх зямель, спрэчных паміж Літвой і Польшчай. Гэта тлумачэнне падаецца больш верагодным, аднак хацелася б таксама звярнуць увагу на тое, што харугва Жыгімонта Карыбута фігуруе і сярод літоўскіх аддзелаў, а менавіта тых, пра якія Длугаш піша, што Вітаўт даручыў кіраваць імі сваім князям. Такім чынам са слоў храніста дакладна вынікае, што згаданая харугва падпарадкоўвалася вялікаму князю літоўскаму. У сувязі з гэтым войска Ягайлы павінна было складацца не з 51, а з 50 харугваў, а харугва Жыгімонта Карыбута магла быць яму толькі часова перададзена для вырашэння нейкіх тактычных задач.

Аб колькасным складзе харугваў таксама няма адзінага меркавання. С. Кучыньскі прапанаваў выкладкі па колькасным складзе жамойцкіх харугваў, з якіх вынікае, што яны маглі налічваць не менш чым па 1-2 тысячы чалавек. Аднак, у такім разе, як слушна адзначае Г. Сагановіч, войска Вітаўта мусіла дасягаць неверагодных памераў. Больш прымальным падаецца лічба прыблізна ў 300 ваяроў. Пра гэта сведчыць данясенне комтура Рагнеты комтуру Брандэнбурга і маршалку Ордэна напярэдадні грунвальдскай выправы (14 чэрвеня 1410 года), у якім сцвярджаецца, што Вітаўт змабілізаваў на 5 тыдняў у Жамойці з кожнага краю па 300 чалавек, якія ўжо рушылі ў паход. Не выключана, што падобная колькасць ваяроў з'яўлялася для харугваў літвінскага войска нормай. Нагадаем, што тэрытарыяльны (з кожнага краю) прынцып быў у ВКЛ адным з асноўных пры фарміраванні харугваў.

Ускосна сведчыць пра 300 чалавек як пра норму ў колькасным складзе харугваў ВКЛ адлюстраваны ў Пскоўскім першым летапісе эпізод, праўда, позні, датаваны 1460 годам. У ім апісваецца ад'езд з Пскова літоўскага князя Аляксандра Чартарыйскага і «двора его кованой рати боевых людей 300 человек, оприч кошевых».

Маецца яшчэ адно ўскоснае сведчанне падобнага складу харугваў, якое тычыцца непасрэдна Грундвальдскай бітвы. Па словах Длугаша, напярэдадні бітвы 300 чэшскіх наёмнікаў зрабілі спробу пакінуць лагер Ягайлы, але, прысаромленыя падканцлерам польскага караля, вярнуліся назад. Трохі пазней, пры апісанні самой бітвы, храніст паведамляе пра яшчэ адну спробу чэхаў сысці з поля бітвы, прычым гэта была харугва Святога Юрыя. Зноў, як і напярэдадні, чэшскіх рыцараў прымусіў вярнуцца назад той жа падканцлер Мікалай Тромба. Хутчэй за ўсё гаворка ідзе пра адзін і той жа атрад, надта падобнымі падаюцца яго «пацыфістычныя» памкненні як напярэдадні бітвы, так і ў яе ходзе. Такім чынам, 300 чалавек падаюцца найбольш верагоднымі пры ацэнцы колькасці камбатантаў у харугвах на грунвальдскім полі, тым больш што пры памнажэнні яе на колькасць харугваў, якія прымалі ўдзел у бітве, мы атрымоўваем лічбу ваяроў у войску ВКЛ, прынятую большасцю даследчыкаў.

Кожная харугва падчас бітвы шыхтавалася клінам — звужанай наперадзе калонай. Існуе меркаванне, што кліны фарміраваліся адвольна і часам у іх маглі аб'ядноўвацца ажно некалькі харугваў. Гэта супярэчыць як падрабязнаму апісанню бітвы Длугашам, так і некаторым тэарэтычным распрацоўкам XV стагоддзя. Нямецкая інструкцыя 1477 года апісвала пабудову харугвы так: у першым шэрагу мусіла стаць 3 рыцары, у другім — 5, у трэцім — 7, у чацвёртым — 9, у пятым — 11, а далей ішла глыбокая калона з аднолькавых шэрагаў па 11 вершнікаў у кожным. На тое, што пад Грунвальдам Ягайла імкнуўся да стандартызацыі кліноў, сведчыць той факт, што асобныя землі, прадстаўленыя дастатковай колькасцю рыцараў, выставілі ажно некалькі харугваў, а некаторыя, у якіх не хапала людзей да фарміравання паўнавартаснага «стандартнага» кліна, дапаўняліся наёмнікамі. Праўда, у важнейшых польскіх харугвах колькасць рыцараў першай лініі была большай, аднак гэта было звязана хутчэй за ўсё з надзвычайным, «агульнадзяржаўным» статусам гэтых аддзелаў. Так у «вялікай Кракаўскай харугве» налічвалася ажно 9 рыцараў першай лініі, аднак Длугаш спецыяльна падкрэсліў, што «гэтая харугва пераважала ўсе астатнія сілай і колькасцю».

Такім чынам, варагуючыя войскі валодалі на грунвальдскім полі супастаўным ваенным патэнцыялам, што, у прынцыпе, адзначалі і крыніцы. Калі крыжацкая і польская арміі былі прыблізна аднолькавыя па велічыні і якасці ўзбраення,

то войска Вялікага княства Літоўскага, схіліўшы шалі колькаснай перавагі на бок саюзнікаў, у пэўнай ступені саступала свайму праціўніку ў галіне ўзбраення, прычым гэта тычылася не якасці, а хутчэй колькасці зброі.

**ГАЛЕНЧАНКА Георгій Якаўлевіч, доктар гістарычных навук, галоўны навуковы супрацоўнік сектара крыніцазнаўства і археаграфіі Інстытута гісторыі НАН Беларусі**

*Грунвальд, Таненберг, Даброўна, Жальгірыс?* Некаторыя заўвагі post factum.

У сучасных навуковых даследаваннях пад уплывам польскай хронікі другой паловы XVI ст. Яна Длугаша замацаваліся пераважна дзве назвы знакамітай бітвы: Грунвальдская або Таненбергская (апошняя пераважна ў заходніх даследаваннях)… У хроніцы Длугаша зазначана: бітва адбылася «на палях вёсак Таненберг і Грунвальд» (Stębark i Grunfelde). Ананімны аўтар іншай асноўнай гістарычнай крыніцы «Хронікі канфлікту Уладзіслава караля Польшчы з крыжакамі ў год ад Раства Хрыстова 1410» згадвае толькі захоплены раней польскім і літвінскім войскам тэўтонскі замак Даброўну (Гільгебург), ад якога саюзнікі паспелі нямнога аддаліцца. Жальгірыс (хваёвы бор) — сучасная літоўская назва Грунвальда. Найбольш карэктна, на наш погляд, называць яе бітвай каля Грунвальда або Таненберга.

Асноўныя падзеі бітвы шматкроць, хоць і па-рознаму, апісаны ў навуковай і асабліва шматлікай папулярнай літаратуры. Па-рознаму ацэньваюцца таксама вынікі і наступствы Вялікай вайны 1409—10 гг. Некаторым аспектам апошняй тэмы прысвечаны некалькі нашых заўваг, меркаванняў і сцверджанняў. Здаецца, што гэта небескарысна для далейшых даследаванняў і дыскурсаў.

Грунвальдская бітва займае асаблівае месца ў гісторыі Цэнтральна-Усходняй Еўропы, Польшчы і ВКЛ па шэрагу вызначальных прыкмет і сведчанняў.

У польскай, расійскай і беларускай гістарыяграфіі маштабныя ваенна-палітычныя акцыі Тэўтонскага ордэна ў Прыбалтыцы, Літве, Беларусі XIV—XV стст. нярэдка называюцца крыжовымі паходамі. У сучаснай, пераважна заходняй гістарыяграфіі, яны вызначаюцца больш мякка і больш стэрыльна: тэрытарыяльнае пашырэнне. Сапраўды, згаданыя акцыі Тэўтонскага ордэна не адпавядаюць класічным канонам крыжовых паходаў XI—XIII стст., якія арганізоўваліся папствам, цэсарствам Св. Рымскай імперыі германскай нацыі, радзей іншымі дастаткова буйнымі дзяржавамі лацінскай Еўропы. Яны абапіраліся на ўскосную ці прамую падтрымку значнай супольнасці розных каталіцкіх краін і геаграфічна былі арыентаваны на Блізкі Усход (Святую зямлю). Перанос рыцарскага місіянерскага ордэна «шпіталя прасвятой дзевы Марыі ва Ерусаліме» (які атрымаў пазней ходкую назву Тэўтонскага ордэна) у Еўропу XIII ст. засведчыў завяршальную фазу традыцыйных крыжовых паходаў і пераход да адносна абмежаванай і больш прагматычнай формы дзяржаўна-палітычнай і каланізацыйнай дзейнасці і экспансіі галоўным чынам у рэгіёнах паўночнай і ўсходняй Прыбалтыкі, пазней на прыгранiччы з паўночна-заходнімі землямі ВКЛ: язычніцкай Літвы і «схізматычнай» (праваслаўнай) Русі. Паступовае пераўтварэнне каталіцкага ордэна ў спецыфічную дзяржаўна-духоўную арганізацыю пры сталым і непасрэдным пратэктараце цэсарства, большасці заходніх дзяржаў, рымскіх панціфікаў і ўласнай арганізацыйнай і іншай дзейнасці забяспечылі ёй у XIV ст. значнае тэрытарыяльнае пашырэнне, рост гаспадарчых, фінансавых, ваенных і палітычных магчымасцей. Ордэн шырока гандляваў з Ганзай і іншымі дасягальнымі краінамі і ў пэўнай ступені кампенсаваў недахоп уласна нямецкага і заходнееўрапейскага рыцарства, мяшчан і рамеснікаў асіміляцыяй або непасрэднай залежнасцю мясцовага насельніцтва і жорсткай іерархічнай структурай усіх сацыяльных станаў і ўлады. Гэтая сухапутная дзяржава не мела свайго флоту, але валодала адным з найлепшых у тагачаснай Еўропе ўзброеным войскам, пабудавала мноства добра ўмацаваных каменных замкаў, шырока выкарыстоўвала наёмніцтва і добраахвотны ўдзел заходнееўра-

пейскіх «гасцей»-рыцараў у ваенных імпрэзах (наездах, «рэйзах» і войнах). У XIV ст. Тэўтонскі ордэн разам з Інфляндскім адгалінаваннем дасягнуў піка ў сваёй тэрытарыяльнай і гаспадарчай эвалюцыі і тэарэтычна меў далёкую перспектыву інтэгравацца з княствамі Св. Рымскай імперыі і нават пераўтварыцца ў тыповую заходнееўрапейскую дзяржаву (нагадаем, што прускія землі польскай Кароны і Інфляндыі ў XVI ст. актыўна бралі ўдзел у саслоўна-прадстаўнічай дзейнасці і па ўмовах Люблінскай уніі захавалі асобны статус). Апошнім тэрытарыяльным набыткам Ордэна ў канцы XIV — пачатку XV ст. на землях этнічнай Літвы стала ваеннае падначаленне Жамойціі, замацаванае некалькімі дагаворнымі актамі, што забяспечвала Усходняй Прусіі прамую сувязь з Заходняй і ўтварэнне цэласнай адносна буйнай дзяржавы са значнай патэнцыяй далейшага пашырэння. Выявілася, што ВКЛ і Польскае Каралеўства маюць іншыя планы і разлікі.

Крэўска-ваўкавыскае пагадненне 1385—1386 гг.. віленска-радамская унія 1400—1401 гг., паўстанні ў Жамойціі, ваеннае і палітычнае супрацьдзеянне ВКЛ узмоцненаму тэўтонскаму націску, няўдачы ў мілітарных адносінах «крыжакоў» з княствамі Паўночна-Заходняй Русі, дзяржавамі Кальмарскай уніі, і іншыя палітычныя фактары сведчылі аб нарастанні ўнутраных і знешнепалітычных ускладненняў у становішчы Тэўтонскага ордэна ў канцы XV — пачатку XV ст. Істотную ролю ў гэтым працэсе адыгрывалі дынастычныя і палітычныя супярэчнасці паміж краінамі Цэнтральнай Еўропы (нямецкія княствы, Чэхія, Венгрыя, Польшча), крызіс каталіцкай царквы (саборныя і гусіцкія рухі), паступовая змена сацыяльна-эканамічнай і палітычнай сітуацыі, што адкрывала перад прадпрымальніцкімі пластамі заходнееўрапейскага мяшчанства, дробнага і сярэдняга дваранства, бяззямельнага рыцарства больш прыбытковыя і надзейныя сферы дзейнасці.

Вялікая вайна 1409—1410 гг. і наступныя канфрантацыі з Мальбаркам да заключэння Мельніцкага дагавора 1422 г., які прызнаў права ВКЛ на Жамойцію, пачалі першую фазу крызісу самога Тэўтонскага ордэна. Перабольшаным, на наш погляд, з’яўляецца распаўсюджаны пункт гледжання, быццам Грунвальдская бітва адначасна зламала хрыбет Ордэну. Патрэбны былі яшчэ значныя высілкі, войны і сутыкненні, доўгая дыпламатычная барацьба на міжнароднай арэне, новыя дынастычныя камбінацыі, пакуль не былі дасягнуты асноўныя палітычныя мэты Польшчы і ВКЛ у адносінах з Заходняй і Усходняй Прусіяй. Па таруньскім пакаёвым трактаце 1466 г. Польшча канчаткова вярнула сабе землі Заходняй Прусіі (паморскае, мальбарскае, хелмскае ваяводствы, вармінскае біскупскае княства). Усходняя Прусія, секулярызаваная ў 1525 г., прызнала сваю ленную залежнасць ад польскага караля і вялікага князя літоўскага Жыгімонта Старога і атрымала назву Прускага герцагства. У 1530 г. сталіцу люаранскай дзяржавы Кёнігсберг і двор вялікага герцага Альбрэхта Гагенцоллерна наведаў Францыск Скарына, верагодна з медычнымі мэтамі. З сярэдзіны XVI ст. Герцагства і ВКЛ звязвалі параўнальна роўныя, а часам і прыязныя адносіны. Многія беларускія і літоўскія схаляры вучыліся развіваць гандлёвыя сувязі з Рыгай і іншымі інфляндскімі біскупствамі. Вяльможная знаць з роду Хадкевічаў абменьвалася прэзентамі з вялікім герцагам («літоўскія» коні ў замен за рыцарскія даспехі для двух сыноў і прыгодныя для шыкоўных турніраў). Зразумела, што ў палітычных і іншых сувязях Герцагства і ВКЛ, як і ў адносінах Польшчы і ВКЛ, і ў XVI ст. заставалася шмат рознага і зменлівага.

Пры ўсіх гэтых удакладненнях, звязаных з працяглай гісторыяй Ордэна і яго контрагентаў, Грунвальдская бітва 1410 г. сапраўды адыграла выдатную вырашальную ролю ў падрыве яго тагачасных ваенна-палітычных магчымасцей, міжнароднага прэстыжу, дыскрэдытацыі місіянерскай дзейнасці. У адказ на абвінавачанні ордэнскіх дыпламатаў і палітыкаў у занядбанні Польшчай і ВКЛ сапраўднай хрысціянскай місіі Ягайла і Вітаўт прадставілі ўсяленскаму каталіцкаму сабору ў Канстанцы дэлегацыю ахрышчаных жамайцян, а з боку «схізматычнай» Русі — пышнае пасольства новага кіеўскага мітрапаліта Грыгорыя Цамблака, выдатнага царкоўнага дзеяча, асветніка, прапаведніка, абранага на Праваслаўным саборы ў Навагрудку ў 1415 г. На Канстанцкім саборы з абгрунтаваннем права хрысціянскіх

дзяржаў карыстацца ваеннай падтрымкай «схізматыкаў» і язычнікаў у барацьбе з ворагамі сапраўднай веры выступілі прафесары Кракаўскай акадэміі.

Ідэалагічная палеміка і дыпламатыя не развязалі ўсіх вузлоў супрацьстаяння з Тэўтонскім ордэнам, за якім стаялі важкія палітычныя інтарэсы розных каталіцкіх краін і дынастый, але яны ў пэўнай меры садзейнічалі росту міжнароднага аўтарытэту Польшчы і ВКЛ, а таксама больш эластычнай і ўзважанай палітыцы апостальскага прастола, саборных каталіцкіх рухаў у дачыненнях з Польшчай і ВКЛ. Прамым сведчаннем росту міжнароднага аўтарытэту згаданых дзяржаў і манархаў варта прызнаць, напрыклад, рэальныя прапановы чэшскай кароны Ягайлу ці Вітаўту ў 20—30-я гады XV ст. з боку гусітаў ці новыя няўдалыя спробы арганізацыі царкоўнай уніі з праваслаўнай Руссю па ініцыятывах рымскіх пантыфікаў і каталіцкіх сабораў.

Вялікая вайна і Грунвальдская бітва былі выдатнымі падзеямі таксама па іх арганізацыйным, стратэгічным і тактычным узроўні, па ступені ўзаемадзеяння саюзнікаў у выпрацоўцы плана кампаніі, наступных ваенных дзеяннях (нягледзячы на значныя палітычныя супярэчнасці з часоў Крэўскай уніі), па аснашчэнні і баявых якасцях войскаў, іх мужнасці і патрыятычнай свядомасці.

План Вялікай вайны з Ордэнам быў тайна распрацаваны Ягайлам і Вітаўтам яшчэ ў Брэсце-Літоўскім. Выдатным поспехам прэлімінарнай дыпламатыі Вітаўта быў перамірны дагавор з Інфляндскім ордэнам, дзякуючы якому мясцовае рыцарства не ўдзельнічала ў Грунвальдскай бітве. Тытул польскага караля і вярхоўнага літоўскага князя забяспечваў Ягайлу вышэйшы статус у агульных справах усёй кааліцыяй, але роля Вітаўта, які непасрэдна кіраваў войскам ВКЛ у самой Грунвальдскай бітве, была не менш значнай і першараднай і шмат у чым вызначыла яе вынікі. Менавіта харугвы ВКЛ, пераважна прадстаўленыя рыцарствам з літоўскіх і так званых рускіх зямель ВКЛ, першыя пачалі бітву і на працягу цэлай гадзіны на роўных змагаліся з выбаровымі гуфамі цяжкай крыжацкай конніцы, узначаленай маршалкам Ордэна Фрыдрыхам Валенродам. Дзве асноўныя гістарычныя крыніцы — «Хроніка канфлікту…» і «Хроніка Длугаша», сведчаць пра ўцёкі літвінаў, што, магчыма, тлумачыцца патрыятычным імкненнем польскіх аўтараў. Ёсць яшчэ адна новая гістарыяграфічная версія, згодна з якой харугвы ВКЛ ажыццявілі падманны манеўр з імітацыяй адступлення, што забяспечыла лепшыя тактычныя ўмовы для разгортвання ўсёй польска-літвінска-рускай арміі і канчатковую перамогу над Ордэнам. Версія гэтай гіпотэзы нямецкага гісторыка Зкдаля здаецца нам нерэальнай не столькі па прычынах крыніцазнаўчага характару (згаданы ім ліст невядомай асобы да магістра Ордэна з папярэджаннем аб падобных манеўрах быў напісаны значна пазней Грунвальдскай бітвы, што робіць яго рэкамендацыі недарэчнымі) колькі па іншых відавочных прычынах. Па-першае, ці варта было цэлую гадзіну змагацца з выбаровымі гуфамі крыжацкага войска, каб завяршыць далей згаданы падманны манеўр. Па-другое, падобныя манеўры былі характэрныя для малых конных атрадаў, што дазваляла аператыўна кіраваць імі і наўрад ці было прыгодным для вялікага войска. Самае галоўнае ў тым, што харугвы ВКЛ у гэтым адступленні захавалі сваю структуру і баяздольнасць. Раскалоўшы крыжацкі фронт, яны забяспечылі выдатныя тактычныя ўмовы для наступлення польскага рыцарства і прынялі актыўны ўдзел ва ўсіх наступных фазах Грунвальдскай бітвы. Не выпадкова, па прызнанні Длугаша і захаванай перапісцы Ягайлы, баявыя страты войска ВКЛ шматкроць пераўзыходзілі страты іх саюзнікаў.

Грунвальдская бітва 1410 года ўпершыню ў гісторыі тагачаснай Еўропы выразна засведчыла геапалітычныя, гаспадарчыя, духоўныя, арганізацыйныя і ваенна-мілітарныя магчымасці і рэсурсы ўсёй аб’яднанай кааліцыі. У сваім ваенным майстэрстве, дзяржаўным патрыятызме, ахвярнасці і ўзнёсласці ўсе ўдзельнікі бітвы (беларусы, літоўцы, палякі і прадстаўнікі іншых этнічных груп і народаў, у тым ліку татары) забяспечылі выдатную перамогу, памяць аб якой захоўваецца шэсць стагоддзяў.

**Казімір КАМЕЙША**

# ДУША ПРАСІЛАСЯ Ў МІКОЛЬЦЫ

Я доўга ўглядаюся ў блакітна-жоўтую далечыню Нарачы, намагаючыся выхапіць позіркам абрыс супрацьлеглага берага, але ён там неяк незаўважна зліваецца з небам, толькі хіба нагадвае пра сябе высокімі ўзмахамі ветракоў, узведзеных тут зусім нядаўна нейкай замежнай фірмай, якія зараз па волі ветру круцяцца і даюць берагу электрасвятло. У смузе яны здаюцца намаляванымі, нават цацачнымі. А ўжо да гэтага дадаецца і знаёмства са слоўнага пейзажу Адольфа Варановіча: «Чырвонае сонца вісела над ціхім возерам, над сіняй палоскай далёкага бору. Падружоўленыя аблокі адбіваліся ў возеры, і каб не блакітная рыска гарызонту, то не зразумець бы было, дзе неба, а дзе вада».

Яго Мікольцы сустрэлі мяне без яго самога. Быў другі дзень ліпеня 2006 года. Сонечны, але не надта гарачы. Мой сябра мясцовы паэт Мікола Маскевіч запрасіў нас з жонкай пагасцяваць у яго хаце ў Мікольцах. Ягонае дварышча падступілася да самага берага Нарачы. Бераг за плотам разразае шумлівая гэтым летнім часам шаша. Калі б не яна, у цёплую і празрыстую ваду можна было б нырцаваць проста з акна, ці дзвярэй. Праўда, вада пры самым беразе мелкаватая — вераб'ю па калена. А шаша бяжыць і сама сабой любуецца ў велізарным люстэрку возера.

Мала хто сядзіць у хаце такой летняй часінай. Не для гэтага ехалі і мы сюды. Але ўсё, што тычыцца адпачынку і купання, адклалі на пазнейшы час, а самі накіраваліся на могілкі, каб пакланіцца яму, Адольфу Усцінавічу Варановічу, сыну гэтай зямлі, пісьменніку і мастаку. Прыкладна такой жа часінай наведваліся сюды мы, яго сябры, год назад. У нашым гурце былі Мікола Мятліцкі, Уладзімір Саламаха ды Уладзімір Марук. Мы заехалі ў Мікольцы, вяртаючыся з радзімы Максіма Танка.

Сёння, як і тады, схіляюся ў паклоне над помнікам на магіле сябра пад бярозамі, якія ледзьве варушаць сваім рэдкаватым лісцем і амаль зусім не даюць ценю. На могілках дрэвы растуць зусім інакш, чым у лесе. У іх галінах больш пакручастасці і заломаў, а ствалы прыгнутыя, пахілыя, і часта раздвоеныя. Мне здаецца, што карэнні іх там, у зямлі, пачуваюць сябе нязвыкла і нязручна, можа, ім нават балюча. Але туды не зазірнеш. Карэнні — спрадвечная таямніца дрэва.

На могілках за адну толькі хвіліну можна шмат перадумаць, шмат чаго прыгадаць. Ды і памінаючы саміх нябожчыкаў чаркаю, размаўляеш з імі як з жывымі. А з жывым пісьменнікам Адольфам Варановічам можна сустрэцца і ў ягоных творах, бо многіх сваіх герояў ён «спісваў» менавіта з сябе. Гэта адчуваеш не толькі ў іх паводзінах, але і ў рысах характару, разважаннях. Сама інтанацыя тэксту часта адпавядае манеры аўтарскай гаворкі. У тым жа апавяданні «Вокны на паўночны бок» пісьменнік аддае герою твора і месца сваёй былой працы, і пасаду мастака-афарміцеля на ёй. Хутчэй за ўсё не пра свайго героя Івана Карпіцкага, а пра сябе распавядае нам аўтар вось у гэтым урыўку: «Іван Карпіцкі апошнія гады не чакаў вясны, не хваляваўся летам, не тужыў увосень, не баяўся зімы. Яны прыходзілі і адыходзілі, а яго нічога не ўзрушвала. На работу, з работы. Атрымлівалася так, што жыў ён толькі сённяшнім днём. На рабоце заядала цякучка: колькі ні рабі, а яе ўсё не меншае. І кожны дзень адно і тое ж: аб'явы, віншаванні, афармленне цэха. Ідуць і ідуць людзі, і ўсім трэба тэрмінова. А зарплата не павялічваецца,

а павышэння ніякага не чакаецца: як быў мастаком-афарміцелем, так і застанешся ім да скону дзён. Як кажуць: зіма, лета, зіма, лета — і ўсё жыццё. Паспявай лічы толькі. Паступова ён рабіўся раўнадушным да ўсяго, перастаў здзіўляцца. Мала што бывае ў жыцці. А для мастака гэта страшна, бо ён заўсёды павінен хвалявацца, востра ўспрымаць і перажываць убачанае». Што тут дадаць? Нібы споведзь з біяграфічнымі падрабязнасцямі чытаецца.

На гэты раз у Мікольцы я прыехаў не на адзін дзень, а таму хацелася больш уважліва прыгледзецца да тутэйшай прыроды, пра непаўторнасць якой ведаюць не толькі беларусы. Было заўсёды прыемна чытаць і смакаваць малюнкі нарачанскай прыгажосці, намаляваныя А. Варановічам. Параўноўваў і перачытанае, і пабачанае. Каго ж у тых малюнках больш — мастака, празаіка, паэта? Сама прырода змусіла некалі нераўнадушнага юнака ўзяцца за алоўкі, а потым — пэндзаль. Возера, а яшчэ тое, што дзівосна ды непаўторна, фарбамі, гукамі і ўсім тым, што тоіць у сабе хараство, казачным вяночкам ахінае яго, нібы прасіла: «Ну, намалюй ты нас!..» Паспрабаваў намаляваць. І простае захапленне неўзабаве вырасла ў патрэбу душы, а пасля заканчэння Мядзельскай сярэдняй школы ён паступае ў Мінскае мастацкае вучылішча.

Бог надзяліў нарачанскага хлопца самымі рознымі задаткамі. Для яго не толькі пэндзаль, але і паэтычнае слова было не чужым. Захапіўся вершамі, меў іх ужо не адзін сшытак. У тыя гады сапраўднай літаратурнай школай для маладых талентаў лічылася літаб'яднанне пры газеце «Чырвоная змена», якім кіраваў Іван Калеснік. Шмат хто з сённяя вядомых творцаў атрымаў пуцёўку ў вялікую літаратуру менавіта адсюль, з «Чырвонкі». Пачаў наведвацца на паседжанні аб'яднання і малады А. Варановіч. А ў 1957 годзе газета надрукавала яго верш «Два дубы». Гэта надало ахвоты і добрага спадзеву маладому нарачанцу. Але маладым заўсёды хочацца абняць неабдымнае. Зямляк Адольфа мастак Васіль Шаранговіч, з якім яны разам займаліся ў вучылішчы, у сваіх успамінах згадвае земляка і аднакурсніка і як гарэзнага музыку. Гармонік у яго руках вытвараў неверагоднае. Беднавата жылося ў тыя гады студэнту, але весяліцца вясковыя хлопцы ўмелі. Тут заўсёды прыходзіў на дапамогу вясёлы Адольфаў гармонік. Будзем лічыць, што гэта было толькі захапленне, а вось праца мастака сталася часткай яго жыцця. Ён — заядлы пейзажыст, а вось партрэты не ўдаюцца. Да іх ён амаль не звяртаецца. Хоць дзесьці, ці ні ў кватэры гарадской цешчы, здаецца, штосьці партрэтнае мне патрапілася.

Вершы неяк самі па сабе адышлі, і тут у сэрца пастукалася «суровая» проза. Вершы, вядома, будуць яшчэ з'яўляцца, але толькі між іншым, «для сябе», а проза раптам запатрабавала зусім сур'ёзных адносін. Душы захацелася нейкага мужнага самаспавядання. І сам аўтар, а потым і чытачы, заўважылі, што празаічная споведзь — зусім невыпадковасць. Гэта тое, да чаго падвяло яго само жыццё. Не разгубіўся, але забалансаваў тады А. Варановіч паміж двума творчымі варштатамі: і тое не дае спакою, і гэтага ўжо не пакінеш. А як вядома, усялякае раздваенне не заўсёды спрыяе творчасці. Чалавеку, на жаль, даецца толькі адно жыццё, і тое не доўгае. А тут даводзіцца высільвацца нібыта за двух. Ды і чаму аддаць больш увагі? Пытанні хутчэй для таго, перад кім яны ўзнікаюць.

Яго акварэлі ды і карціны, напісаныя алеем, шырока разбрыліся па Беларусі. Відаць, трапілі і за мяжу. Дзе я іх толькі не сустракаў! Знойдзеш іх і шмат у каго з літаратурных калег. Імі ўпрыгожвалі не толькі кватэры, а нават і дачы. Дзіўна, але многія з дружбакоў нават не чыталі яго прозы. На гэта мне неаднойчы скардзіўся сам аўтар: «Яны паважаюць мяне за мае карцінкі». Ад кагосьці аднойчы я чуў і такое: «Ат, гэты Адольф… Ён падарыў мне карціну, а потым я тое ж бачыў у Н. і ў М. таксама. Як пад кальку ўсёадно робіць…» «А што ж ты хацеў? — запярэчыў я яму. — Каб чалавек сядзеў і аддаваў увесь свой час на тое, што ўлагодзіць цябе аднаго? Твор гэты хоць і не свежы, але малюючы кожны раз новую копію яго, мастак як правіла, дадае і штосьці новае да раней створанага».

Так, ён хацеў дагадзіць усім. Здаралася, нават дарыў карціны з яшчэ неабсохлай фарбай. Саромеўся браць за гэта грошы, а мы саромеліся яму плаціць. А мастаку ж патрэбны былі і фарбы, і пэндзлі, і палатно, і папера, і багет. Ці цікавіўся хто з нас, адкуль ён гэта ўсё браў?

Шмат хто, збіраючыся павіншаваць свайго сябра ці блізкага, бег адразу да яго: «Адольф, выручай, намалюй пейзажык. Іду ў госці — трэба нешта падарыць». Угаворваць доўга не даводзілася. Адольф паслухае, намалюе, выручыць.

Мастака В争ановіча добра ведалі жанчыны ў бліжэйшых ад плошчы Перамогі кіёсках «Саюздруку». Яны часта набывалі ў яго карціны за зусім мізэрныя грошы, але затое маглі выручыць аўтара, калі таму патрабавалася тэрмінова нейкая капейчына.

Большасць пейзажаў ягоных мне добра знаёмая. Часцей за ўсё маляваліся тыя ж бярозы ды роднае возера Нарач, якое ў яго кожны раз рознае. Толькі ён, мастак, ды яшчэ ўраджэнец Нарачанскага краю, ведаў, што возера рэдка бывае ў адным, застылым стане. Характар у яго мяняецца ў залежнасці ад таго, як свеціць сонца, вее вецер, як паводзяць сябе прыбярэжныя дрэвы. І калі ты здольны прачытаць смутак на твары вады, ты лёгка прачытаеш радасць на твары чалавека. Здаўна вядома, што ў прыродзе вельмі шмат узаемазвязанага і ўзаемазалежнага. Пра гэта ведаюць ці здагадваюцца вельмі многія. Прырода неахвотна, але часам дзеліцца сваімі сакрэтамі і таямніцамі. Але гэта бывае тады, калі яна бачыць перад сабой чуйную і таленавітую асобу. А натура А. Вараноўіча была якраз адчынена для спасціжэння таямніц.

І ўсё ж, як мне здаецца, празаік у ім пераважае над мастаком. Проза Адольфа Вараноўіча цесна знітавана з яго біяграфіяй, як мы гэта ўжо адзначалі вышэй. А калі быць больш дакладным, дык яна цесна пераплецена з яго лёсам. Калі б толькі з біяграфіяй, дык у ёй павінны прысутнічаць і моманты з творчымі шуканнямі, незадаволенасцю і радасцю самога творцы, — мастака або пісьменніка. А тут толькі жыццё звычайнага і простага чалавека з яго зацятымі пошукамі праўды, з непрыманнем зла, несправядлівасці, чалавечай подласці, але, урэшце, згодай з усім тым, «што дзень наступны нам рыхтуе». Цёмныя і светлыя старонкі ў ягоным жыцці мільгацяць так імкліва, што засяродзіцца на чым-небудзь адным, даволі цяжка.

Глыбокі роздум над пражытым, над самымі рознымі праявамі жыцця і часу, як правіла, у чалавека ўзнікае ў хвіліны адчаю ці падчас нейкіх цяжкіх выпрабаванняў. Тады вуснамі герояў прамаўляецца не толькі набалелае, але і закранаюцца прычыны гэтага болю, і аўтарскія разважанні перарастаюць у цэлыя высновы, нават абагульненні. Гэтак у апавяданні «Дзве жанчыны» гаворка пераходзіць на лёс цэлага пакалення, на час, дзе нейкімі штрыхамі табе адкрываецца даўно знаёмае, але так і не заўважанае табой: «А колькі іх, гэтых спагадлівых, чулых, разумных дзяўчат і хлопцаў, аказаліся непатрэбнымі нашаму нялёгкаму часу. Колькі талентаў загублена, перакрэслена, не запатрабавана нашай рэчаіснасцю. І колькі двурушнай свалаты без мовы, без гісторыі, без праўды ў душы ўсплыло на грэбені агульнага падману і зладзейства. І трасуць, трасуць лозунгамі да гэтага часу, лозунгамі, у якія ніколі не верылі самі. А мы, мы ўсё разумелі і разумеем, мы многае маглі і можам, але на ўсё махнулі рукой і пусцілі на самацёк. Змірыліся. Мы ціхія сабатажнікі. Усе мы, хоць і не рабілі благаты, саўдзельнікі ўчыненага».

Гэтак разважаючы пра лёс сваёй гераіні, аўтар згадвае адразу і сваё пражытае.

Самая прыкметная старонка ў яго біяграфіі, ды напэўна, і ў лёсе — гэта Орша, дзе прайшлі, магчыма, лепшыя, маладыя гады жыцця. Вядома, не параўнаеш яе з вялізным і тлумным Мінскам, але ўсё ж немалы горад са сваёй памяццю, гісторыяй, гістарычнай ракой, прамысловасцю, гэта, урэшце, вялікі чыгуначны вузел. Вось і звязаў ён свой лёс тым вузлом, але як потым зразумеў, звязаў не надта моцна.

Аршанскі льнокамбінат, куды яго накіравалі па размеркаванні пасля заканчэння вучылішча, — не самае затэхнакрачанае прадпрыемства. Тут і да самой паэзіі не так далёка. Тым жа ільняным «вузлом» прывязаны ён да сялянскага поля.

Сам лён — гэта і ёсць паэзія. А калі ты мастак ды маеш яшчэ справы з узорамі льняных тканін, якім трэба даць мастацкае ўвасабленне, дык тут і наогул прастора для творчасці. Гэтак, магчыма, і думалася напачатку маладому выпускніку мастацкага вучылішча. Так яно і бывае заўсёды на самым пачатку. А пазней, калі ўсё ўзвычаілася, абудзённілася, дзякуючы звыклай рабочай атмасферы, і паэзія нібыта сама па сабе знікла. Пачалася тая самая «цякучка», звычайная будзённая проза заводскага жыцця. Потым, ужо ў Мінску, натыкаючыся нечакана ў крамах на тыя самыя ўзоры, распрацаваныя менавіта ім, ён чамусьці раўнадушна казаў: «Ды гэта ж маё». Неяк пачуўшы такое, я нават здзівіўся: зусім ніякага гонару ў вачах сябра не заіскрылася. Усё ўжо для яго было будзённай звычайшчынай.

Гаворачы пра творчасць мастака, мы часта несправядліва абыходзім яго асабістае жыццё: тыя самыя сямейныя ўзаемаадносіны, судачыненні з рознымі людзьмі. Ад іх часам і залежыць творчы лёс чалавека.

Сямейнае жыццё Адольфа Варановіча, яшчэ добра не склаўшыся, пачало рушыцца. Падрасталі ўжо дзеці — дачка і сын. Неўзабаве сына прызавуць у армію. Ён будзе служыць у Мінску, і бацька будзе ўсё часцей наязджаць сюды, каб пабачыць яго. Адольф Варановіч і наогул адчуў аднойчы, што яго ўсё больш і больш цягне ў сталіцу, у самы цэнтр літаратурнага жыцця. Спыняўся заўсёды на кватэры Генрыха Далідовіча, з якім пасябравалі падчас Рэспубліканскай нарады маладых пісьменнікаў. З сябрам часам дзяліўся і сваімі сямейнымі сакрэтамі. З гэтых размоў вынікала, што сямейная «лодка» сябра пачала ўсё часцей і часцей натыкацца на рыфы непаразуменняў і нязгод і што ёй пагражае крушэнне. Сяброва парада ў такіх выпадках — не выратавальны круг.

Урэшце пісьменнік пакінуў Оршу і перабраўся ў Мінск. Цяжка сказаць, ці гэта было выйсцем. Але творча А. Варановіч неяк узбадзёрыўся. У друку ўсё часцей і часцей пачалі з'яўляцца новыя апавяданні, нават аповесці. Неўзабаве пачаў працаваць у аддзеле прозы старэйшага літаратурнага часопіса «Полымя». З ім пачалі лічыцца, а да яго заўваг прыслухоўвацца нават масцітыя празаікі. А ўнутраная незадаволенасць усё мацней сціскала сваёй нябачнай рукой, даймалі сумненні, няўпэўненасць у дні заўтрашнім.

Многія часам казалі пра яго няпросты, нават «узрыўны» характар. Аднойчы адзін мой зямляк скардзіўся мне, абураючыся. Ехаў ён вечаровым аўтобусам разам з Адольфам, а той быццам быў п'яны і ні з таго, ні з сяго проста да яго «прычапіўся» і нават абразіў. Я папрасіў прабачэння за сябра, распавёўшы яму пра дабрэйшую, «жывую» душу Адольфа. Магчыма, у яго быў нейкі ўнутраны зрыў, нейкі выпадак выбіў з нармальнага стану. Урэшце, часта паводзіны чалавека вынікаюць з яго асабістай жыццёвай неўладкаванасці. Але ўсё гэта ніяк не звязана з «няпростым» характарам. Здараліся, вядома, хвіліны, калі ён не мог стрымаць сябе. Многія гэта разумелі і даравалі яму. Ды і «выхадкі» тыя былі мізерам у параўнанні з тым, што вытваралі на вачах некаторыя яго малодшыя калегі. Таму, магчыма, спрыяў і сам сумбурна-ўзбунтаваны час, калі незваротна рушылася тое, што так цяжка і, здавалася, надзейна ўсталёўвалася дзесяцігоддзямі. Каб больш яскрава зразумець душу пісьменніка А. Варановіча, варта ўважліва прачытаць яго апавяданне «Жывая душа». Тое, пра што разважае герой А. Варановіча, думаецца, хвалявала і хвалюе не толькі самога пісьменніка. Гэта споведзь вясковага чалавека, які прыжыўся ў горадзе, але так і не прыняў яго жорсткіх нормаў, якому карціць ужо вярнуцца назад, да сваіх каранёў, што ён і спрабуе зрабіць, аднак урэшце пераконваецца ў марнасці такога рашэння. Выйсця тут ужо не будзе. Вось тады ён і звяртаецца да сваёй душы: «— Як мы баімся гэтага слова — душа. І даўно баімся. Усё больш пра матэрыю, пра цела, пра матэрыяльныя здабыткі. А душа — што пра яе гаварыць? Яе ж няма. А калі так, то многа ў каго яе і сапраўды не стала. Ты, Эдзік, можа, нават і пасмейваешся з мяне сам-насам: маўляў, такія перамены вакол, а дарослы чалавек пра нейкага там сабаку трызніць. Калі так, то не смейся. Ну, па-першае, такіх бачных знешніх перамен яшчэ вельмі

мала. Перамены выспяваюць у душах людзей. Але людзі баяцца зноў памыліцца. Не пра сабаку я трызню — сябе хачу спазнаць, у сваёй душы разабрацца. Пра дзяцей сваіх думаю, пра жыццё. Ты ведаеш, я чалавек вясковы, хаця ў горадзе жыву больш, чым пражыў у вёсцы. Па натуры я вясковы. А ў вяскоўцаў заўсёды пераважалі крытычныя адносіны да жыцця. Яны ніколі не спяшаліся пляскаць у ладкі. Ты гавары, а мы паслухаем і падумаем. Прыйдзе восень, добры ўраджай будзе — скажам: правільна пасеялі. І ў час, і на тым месцы, дзе трэба. І вот, бывала, з'ездзіш у вёску, пагаворыш з людзьмі, і штосьці раптам выясніцца, аб'ёмней, відавочней стане. А цяпер — не. Вёска не тая. Нават старыя сталі нейкія не такія. Не цягне мяне цяпер туды. Адбалела. Блытаніна пачалася незразумелая». Свая логіка ў разважаннях былога вяскоўца, вядома ж, ёсць. Менавіта чужое і бездухоўнае трывожыць увесь час пісьменніка.

З пазіцыі душы можна разважаць і пра паводзіны аўтаслесара Леаніда з аповесці «Бомж». Аўтар як быццам не асуджае свайго героя і тое асяроддзе, у якое ён трапіў па волі лёсу, ведаючы, што чытач будзе згодны з адзіным вывадам: толькі моцны чалавек можа супрацьстаяць нахлыну самых розных абставін, непаразуменняў ды элементарнай нечалавечнасці. З гэтым трэба згаджацца: бура ломіць і вырывае з карэннем толькі слабейшыя дрэвы, якія ледзь трымаюцца за зямлю. Мацнейшыя здольныя супрацьстаяць буры. Але ўсё ж недзе ў падтэксце аўтар нагадвае нам і пра яе, душу. Каб не забывалі, што яна сама — і пакутніца, і выратоўніца.

Душа, як вядома, — паняцце ўяўнае. Часам да разумення яе прысутнасці ў чалавеку сам чалавек прыходзіць шляхам пакут, страт і ахвяр. Чалавек часта і пакутуе ад таго, што тыя, каму ён робіць дабро, яго не разумеюць, а то і не хочуць разумець. Пакутуючы, ён і шукае гэтага разумення. І часта траціць на гэта ўсё сваё жыццё. Нейкая аналогія напрошваецца тут і ў дачыненні да самога А. Варановіча. Пісьменнік, securely рознабакова даравіты ад прыроды, ён пакутліва шукаў шляхі да чалавечага ўзаемапаразумення, часта не знаходзячы іх. «Жывая душа» таіла ў сабе шмат балючага і непераадольна сумнага, а хтосьці шукаў і патрабаваў ад яе толькі бадзёрага, а то і бесклапотнага. Душа пісьменніка шукала і само жывое слова, каб выказаць усё тое, што яе турбавала. Мова А. Варановіча мае свае адметнасці, сваю гукавую цеплыню. Мой слых цешаць і яго «вецер-верхавік», і «наўколенцы» (гэта калі нехта прысядае), і яго «падымленае падмялле».

Душа ўсё часцей і часцей прасілася ў Мікольцы. «Вось пайду на пенсію, — казаў ён, — і адразу з'еду ў вёску. Даканаў мяне гэты горад. Хата ў мяне там ёсць. Палавіна, праўда, хаты». (У другой жыў дваюрадны брат, з якім часта канфліктавалі. — **К. К.**)

Нарэшце, прыйшоў час той самай пенсіі. І ён адправіўся ў родныя мясціны. На развітанне яму я нават кінуў радкі:

Душа скакала, як у польцы,
Душа прасілася ў Мікольцы.

За радкі не пакрыўдзіўся. Але пабыў у вёсцы нядоўга. Яго новая жонка не захацела мяняць Мінск на правінцыю, хай сабе і са славутым возерам. Засумаваў на адзіноце. Вёска хоць і свая, але як сам сказаў нядаўна, ужо «не тая». Памаркоціўся ды зноў падаўся ў горад. А ў жыцці наогул пачалася незразумелая паласа «ўцёкаў» ды «вяртанняў»…

Сёння я напружваю памяць і ўсё не магу прыгадаць, дзе гэта і як мы з ім пазнаёміліся. Хутчэй за ўсё гэта адбылося ў Саюзе пісьменнікаў на нейкай вечарыне, дзе ўзяўшы чарку, разгаварыліся, і я, вядома ж, не мог не прыгадаць словы Анатоля Вялюгіна, якія ён паўтараў амаль на кожнай «лятучцы» ў «Полымі», калі гаворка заходзіла пра новую прозу: «Падабаецца мне, як працуе маладая аршанская тройца: Калодзежны, Воранаў і Варановіч». Адольфу гэта спадабалася. Потым ужо даведаўся, што з Л. Калодзежным яны разам працавалі на льнокамбі-

наце мастакамі-афарміцелямі. А М. Воранаў шчыраваў там жа ў шматтыражцы. Ну, чым ні аддзяленне Саюза пісьменнікаў, падумалася тады. З А. Вялюгіным мне так і не выпала яго пазнаёміць, як не пашанцавала і з’ездзіць разам у Мікольцы. А колькі разоў збіраліся, ды ў апошні момант нешта перашкадажала.

Часам раніцой ён тэлефанаваў мне дадому. І я ўжо ведаў наперад, што скажа:

— Слухай, браце. Я зараз накіроўваюся да цешчы, дык праз дзесяць хвілін выходзь. Ёсць размова…

Цешча ягоная жыла праз дом ад мяне на праспекце Машэрава, а сустракаліся мы заўсёды ля універсама «Заслаўе» (і адна, і другая назвы ўжо былыя. — **К. К.**).

Працоўны дзень і ў маёй «Маладосці», і ў ягоным «Полымі» пачынаўся не з самай раніцы, і мы мелі час для нейкай яшчэ прагулянкі і размовы.

Трэба было, вядома ж, штосьці ўзяць і пад сакаўны нарачанскі яблык, што ляжаў у яго бывалым дыпламаце побач з рукапісамі, пэндзлем, а то малатком і пласкагубцамі. Важкаватым быў дыпламат. У яго палымянскім пакоі, за крайнім сталом злева (там сёння месціцца бухгалтэрыя РВУ «Літаратура і Мастацтва») высыхалі яшчэ ўчора намаляваныя карціны, побач з аўтаручкай ляжаў нейкі нож, якім і дзялілі той сакаўны яблык. Пакой замяняў Адольфу майстэрню. Яе ў яго проста не было. Дома, у жончынай аднапакаёўцы таксама не разгонішся. Пісьменніцкае начальства абяцала яму кватэру, але ўсё далей абяцання так і не пайшло.

Доўга затрымлівацца ля стала сябра не выпадала: у рэдакцыях, як і ўсюды, не любяць «няпрошаных гасцей». Перакінуўся словам — і даволі. Але проста так Адольф адпускаў рэдка. На дарогу скруціць у трубку ватманскі лісток са свежай акварэлькай — гэта яго падарунак. Больш працяглымі былі сустрэчы, калі збіраліся ў Саюзе пісьменнікаў, у заўсёды разнасцежаным сакратарскім кабінеце Уладзіміра Паўлава. Там ужо ставала і гоману, і спрэчак, і таўкатні. У памяці гэта ўсё злілося ў адзін шумлівы і неакрэслена гаманкі вечар, які для адных мог закончыцца нават пад раніцу. Дамоў часта вярталіся разам. Як сёння бачу: крочыць ён побач са мной у сваім шэрым палітончыку, працяжна адмахваючы чорным цяжкаватым дыпламатам. А сама паходка лёгкая і маладая.

Ён любіў цытаваць паэтаў, памяць меў добрую. Свае радкі згадваў, праўда, рэдка, напэўна, саромеўся, хоць прызнаваўся што вершы пісаць працягвае. Аднойчы папрасіў: «Ты не будзеш супраць, калі я вазьму для апавядання тваіх некалькі радкоў».

— Ну, хто ж будзе супраць, калі цябе цытуюць? — рассмяяўся я.

Для свайго героя ён упадабаў гэтыя мае радкі:

Перажытага вершыцца стог
З маладога і даўняга ўкосу.
І калоціцца сэрца лісток
На адчайнай галінцы лёсу.

Некалькі разоў яго вершы цытаваў мне Андрэй Федарэнка. Радкі іх здаваліся занадта сумнымі, у іх быў нейкі намёк на безвыходнасць. А ў «ЛіМе» раптам з’явіўся і зусім трагічны верш:

Сябрам

Няўмольна набліжаецца хвіліна,
Якую аніяк не аддалю,
Калі я гэты белы свет пакіну
І назаўсёды лягу у зямлю.

І без мяне праходзіць будуць вёсны,
Бруіцца рэкі, і шумець лясы,
І восень ткаць узорыстыя кросны
Самотнай і задумлівай красы.

А для мяне нічога ўжо не будзе:
Ні росных траў, ні цёплага дажджу…
Таму цяпер я вельмі ўдзячны людзям,
З якімі разам па зямлі хаджу,

Якіх прыветна кожны дзень вітаю,
З якімі радасць і бяду дзялю,
Якіх, як і мяне, не пакідае
Трывога за бацькоўскую зямлю.

А калі ўсё ж апошні час настане,
Я выдыхну нямоглымі грудзьмі,
Каб прашаптаць усім на развітанне:
— Заўсёды заставайцеся людзьмі.

Пад вершам стаіць дата: май 2001. Адразу зрабілася жахліва, калі прачытаў гэтыя радкі. Што ў іх — прадчуванне смерці і яе чаканне. Колькі прыкладаў ведаем, калі такія вось прароцтвы спраўджваліся. Спраўдзіліся і тут. А наказ які! «Заўсёды заставайцеся людзьмі!»

Вось тут ён увесь, Адольф, — чалавекалюб, праўдалюб і чалавеказаступца.

У Мікольцах яго называлі — Адоля! Як хораша: разам з павагай гучала яшчэ і — «доля».

Перад самай смерцю ён зноў паехаў у вёску. І паездку тую многія будуць згадваць як загадкава-фатальную. Увесь дзень працаваў, дапамагаў суседу цягаць нейкія бярвенні. Ён заўсёды прыходзіў на дапамогу сваім землякам. Адразу ж згадаўся герой яго апавядання «Сутонне асенняга дня», які прыязджае з горада, каб накасіць сена на карову, якую ўсё яшчэ трымае старэнькая маці. Напрацаваўся да знямогі на сваёй дзялянцы, але не адмовіў і суседу. Вечарам, стомлены, пайшоў яму дапамагчы разгружаць машыну з сенам. Гэта зноў жа ці ні з сябе самога спісана?

Перад самым ад’ездам з вёскі хадзіў на могілкі, доўга тупаў каля магіл бацькоў, прыглядаўся да бяроз, пад якімі стаялі помнікі. Бярозы былі яго любімымі дрэвамі. Яны ў Мікольцах растуць, як вербы, плачна і галініста, звісаючы да самай зямлі. Гэта ж, напэўна, пра сябе сказана ў апавяданні «Вальс «Бярозка»: «А з дрэў больш за ўсё любіў бярозкі. Нават пад акном пасадзіў. Адразу пасля вайны. Здавалася б — што з яе карысці. Толькі на дровы. Але душа прагла прыгажосці, і прыгажосць гэта чамусьці злілася ў яго ўяўленні з танклявымі і белымі бярозкамі. І калі бачыў іх, сэрца напаўнялася ціхай хвалюючай радасцю».

Тым жа вечарам яго пацягнула ў клуб, дзе весялілася моладзь. А там, згадваюць вяскоўцы, што толькі не вырабляў: і вершы чытаў, і спяваў, і танцаваў. І ніхто яму не перашкаджаў, усе слухалі ды дзівіліся. Нават маладыя расступіліся. Ён нібыта сапраўды развітваўся з жыццём. А назаўтра вярнуўся ў Мінск. Позна лёг спаць і — не прачнуўся. І тады зноў згадаўся верш, што некалькі месяцаў назад з’явіўся ў «ЛіМе». Нібы сапраўды напрарочыў…

На яго карціне, калісьці падараванай мне, пакручастая дарога бяжыць вакол адзінокага стажка сена і дзвюх стройных бяроз, а потым упіраецца ў заценены дрэвамі хутарок. А над усім гэтым — блакітнае неба і белыя купчастыя аблокі. Усё недзе блізка і разам з тым далёка. Чаму я так пільна ўглядаюся ў абрысы таго хутарка? Чамусьці здаецца, што вось зараз там выразна разгледжу і абрысы сябравага твару, а нізкія аблокі пакажуць і абрысы яго «жывой душы». Недапісанае, недасказанае, недамаляванае бачыцца там, у далечыні. А таму больш выразным і вартым здаецца ўсё здзейсненае.

Вера ЗАРЭЦКАЯ

# ТРОХПЕРСЦЕ, КАБ БЫЛІ ЛЮДЗЬМІ І НАРОДАМ...

**«Трохперсце».** *Міхась Рудкоўскі, Мікола Пракаповіч, Алесь Каско.* Мінск, «Літаратура і Мастацтва». 2008.

«Не хлебам адзіным жыве чалавек». Людзі заўсёды мелі і маюць патрэбу ў духоўнай ежы. Спрадвеку сюды ўваходзіла і мастацкае слова. Дынаміка сучаснага жыцця, тэлевізар, Інтэрнет не спрыяюць таму, што наш сучаснік будзе асвойваць шматтомныя і надзвычай вялікія па аб'ёме выданні самых таленавітых паэтаў. Выдавецтва «Літаратура і Мастацтва» знайшло ўдалае выйсце: яно пачало публікаваць хораша аформленыя зборнікі выдатных беларускіх творцаў, сабраўшы пад адной вокладкай некалькі паэтаў.

Год таму выйшаў зборнік «Трохперсце», які склалі вершы трох таленавітых мастакоў слова з Берасцейшчыны — Міхася Рудкоўскага, Міколы Пракаповіча і Алеся Каско. Гэтыя паэты ахопліваюць значны перыяд у развіцці літаратуры краю і ў той самы час натуральна і годна ўпісваюцца ў гісторыю беларускага прыгожага пісьменства. Міхась Рудкоўскі заявіў пра сябе як паэт у 1959 годзе. Пачатак літаратурнай дзейнасці Міколы Пракаповіча прыпадае на 1966 год, Алесь Каско прыйшоў у мастацкае слова трыма гадамі пазней. Яны з'яўляюцца своеасаблівымі вехамі вяршынных дасягненняў мужчынскай літаратуры Берасцейшчыны з ліку тых, хто стала жыў і жыве ў гэтым рэгіёне.

Зборнік «Трохперсце» не абышла ўвагай крытыка. Ён быў адзначаны абласной прэміяй імя Уладзіміра Калесніка, які лічыцца хросным бацькам у літаратуры трох названых паэтаў. Тэрмін, які прайшоў з часу выхаду кнігі, дае мажлівасць больш спакойна і ўважліва перачытаць яе. Улічым, што Міхась Рудкоўскі, Мікола Пракаповіч, Алесь Каско — аўтары не адной паэтычнай кнігі, а першы меў яшчэ і выбранае.

Уклаў зборнік «Трохперсце» Леанід Галубовіч. Ён і вызначыў будову выдання. Яно адкрываецца невялікім артыкулам Генадзя Праневіча «Вартавыя краю», пафас якога мне бачыцца ў сцвярджэнні: «Кожны паасобку і ўсе разам яны стварылі сапраўдны культ радзімы, адкрыўшы чытачам магутны патэнцыял патрыятычнага пачуцця, якое акрыляе душу кожнага». Гэтая думка крытыка здымае абмежаванасць паэзіі трох паэтаў з Берасцейшчыны рэгіянальнымі межамі, акрэсленымі ў назве артыкула, і заключае агульначалавечы пафас іх творчасці.

Зборнік «Трохперсце» складаецца з трох частак. Кожная пачынаецца ўступным артыкулам, у якім аўтар раскрывае свой погляд на творчасць паэта. Чытач зможа пазнаёміцца з думкамі Уладзіміра Калесніка пра вершы Міхася Рудкоўскага. Сваю ацэнку творчасці Міколы Пракаповіча дае Генадзь Праневіч, а Алеся Каско — Леанід Галубовіч. Раздзел, прысвечаны Міхасю Рудкоўскаму, завяршаецца ўспамінамі яго сястры Ірыны пра брата і іх сям'ю «І памяць, і радасць, і боль». Гэта зусім апраўдана, бо паэт рана закончыў сваё зямное жыццё.

«Трохперсце» — так названы зборнік. І не толькі таму, што ў яго ўвайшлі вершы трох аўтараў. Праваслаўныя новага абраду трохперсцем асяняюць сябе, пачынаючы і заканчваючы малітву. Жагнаюцца самі, трохперсцем суправаджаюць родных, блізкіх, дарагіх, каб ахавацца і ахаваць іх ад злога, цёмнага, каб годна выйсці з жыццёвых выпрабаванняў, каб застацца чалавекам і асобай, каб пажадаць дабра, шчасця, удачы, здзяйсненняў намераў.

Выдаючы ў наш час паэтычную кнігу выбранага, важна, з аднаго боку,

уключыць у яе паказальнае, індывідуальна-аўтарскае, а з другога — задаволіць патрэбы патэнцыяльнага чытача. Ім могуць быць людзі розных узростаў, сацыяльных станаў, прафесій, юнакі і падлеткі, мужчыны і жанчыны. Важна, каб укладальнік думаў, якія вершы з творчасці паэта могуць прывабіць тую ці іншую катэгорыю чытачоў. Задача нялёгкая. Калі пры ўкладанні раздзела, прысвечанага Міхасю Рудкоўскаму, прыярытэт, думаецца, быў за ўкладальнікам, то Мікола Пракаповіч і Алесь Каско ўносілі свае карэктывы ў адбор твораў для выдання. У якой меры яны справіліся з праблемай, меркаваць чытачу. Сваю пазіцыю я выкажу ніжэй.

Міхась Рудкоўскі... Укладальнік раздзела «Востраў Айчыны» паказаў паэта як творцу рамантычнага стылю, чые вершы пазбаўлены публіцыстычнасці, адкрытай дэкларатыўнасці. Творчае крэда Міхася Рудкоўскага выражана радкамі:

Я не любіў і не люблю фанфар.
Мне вельмі даспадобы голас флейты,
Яе крануты светлым смуткам твар
І ціхія, як у жалейкі, вейкі.

Верш, адкуль працытаваны гэты ўрывак, змешчаны ў зборніку. У яго трапілі творы з апошніх кніг паэта. Гэта паўплывала на асобу лірычнага героя падборкі «Востраў Айчыны». Ім з'яўляецца сталы чалавек, які мае жыццёвы вопыт, страціў наіўнасць маладосці, у нейкай меры перагледзеў ранейшыя каштоўнасныя прыярытэты.

Лірычнае «я» паэта адназначна праводзіць мяжу паміж такімі вызначальнымі паняццямі, як «жыць» і «існаваць». У першае яно ўкладвае некалькі паняццяў, звязаных з сям'ёй, родам, народам, з беражлівымі адносінамі да таго асяроддзя, у якім жыве чалавек, з шанаваннем маральных набыткаў, выпрацаваных людской супольнасцю за гады свайго існавання. Лірычнага героя Міхася Рудкоўскага прываблівають тыя, хто здольны супрацьстаяць нягодам, не пасуе перад цяжкасцямі. Таму для многіх вершаў раздзела «Востраў Айчыны» характэрны матыў пераадолення песімізму. Герою паэта важна застацца самім сабою, не паддацца думкам і настроям натоўпу, быць самакрытычным, добрым і міласэрным, умець дараваць і духоўна ачышчацца, пазбягаць застыласці, нерухомасці, бо яны раўназначныя смерці.

Лірычны герой Міхася Рудкоўскага шануе духоўныя набыткі, якія склаліся ў яго сям'і. Ён заклапочаны, каб іх не страцілі яго дзеці. У вершы «Лугі, палітыя дажджом...» паэт імкнецца перадаць сыну любоў да роднага краю як стрыжнявую рысу роду:

Глядзі, сынок,
глядзі, Алесь:
Перад табою — родны краю.

Каб так яго ты палюбіў,
Як прадзед, дзед яго любілі,
Я за цябе б спакойны быў
Нат і ў магіле.

Думка пра вернасць каштоўнасным прыярытэтам свайго роду з'яўляецца вызначальнай у вершы «Мой дзед быў сельскім кавалём...».

Працавітасць, шырыня душы, тонкасць і далікатнасць, прафесійнае майстэрства, таленавітасць — тое, што было характэрна дзеду лірычнага героя. Продак як бы перадаў гэта ў спадчыну сваім наступнікам праз мянушку, якая стала родавай, — Кавалёвы, і наклала на іх пэўныя абавязкі.

Паэту важна, каб кожны разумеў сваё месца і свае абавязкі ў родавым ланцугу, каб адчуваў сваю адказнасць не толькі перад тымі, каму даў жыццё, але і перад продкамі:

Кім ты б ні стаў —
Адной рукой гайдай калыску сына,
Другой — магілу дзедаву папраў.

Таму лірычны герой Міхася Рудкоўскага верыць, што не памрэ, калі перастане існаваць фізічна, бо тое сутнаснае, што было ў ім, выявіцца ў наступніках. Яго справы прадоўжаць «сын, унук, унукаў сын» («Не ўсё канчаецца са смерцю»).

У вершах Міхася Рудкоўскага, змешчаных у «Трохперсці», відавочным у жыцці лірычнага героя з'яўляецца ланцуг, кольцы якога звязаны, спалучаны паміж сабою, — сям'я, род, родны кут, радзіма, прырода. Родны кут як тое месца, адкуль не толькі пачалося

жыццё лірычнага героя, але якое фарміравала яго ідэалы, уяўленне пра дабро і зло, прыгожае і брыдкае, ганебнае і ўзвышанае. Варта ў гэтым плане спаслацца на хрэстаматыйны верш «Сінія Брады». Міхась Рудкоўскі паэтызуе сваю «малую радзіму», яе прыроду, даўнюю і новую гісторыю, духоўныя набыткі землякоў:

Там вецер гайдае аблокі-арэлі,
І кружаць буслы,
залацяцца фарэлі, —
Плывуць, як жар-птушкі, над пушчай
заранкі,
І цені бягуць ад агнёў партызанскіх, —
І глуха, глыбінна
ўздыхаюць курганы,
І коні былінна
храпуць у тумане.

«Мой бераг»

Лірычны герой шкадуе, што пражытых гадоў яму было мала, каб спазнаць свой край і народ, багацце і прыгажосць яго душы, роднага слова. Народ, які валодае такім багаццем, не можа сам сябе забыць, кануць у небыццё. Тым не менш душа лірычнага героя баліць, што беларусы ператвараюцца «ў счужэлы народ».

Да прыроды ў паэта не проста сяброўскія, а братэрскія пачуцці. Яна жывая, адухоўленая. Родныя краявіды для лірычнага героя — дарагая частка радзімы, якая жывіць яго патрыятычнае пачуццё, выклікае насалоду, спараджае спакой, адчуванне паўнаты жыцця, веры ў дабро і справядлівасць. Прырода дабратворна ўплывае на духоўны свет героя, схіляе да роздуму... Аўтар выказвае клопат адносна стану навакольнага асяроддзя («Пакуль што жывы ён, дзяцінства лес...»):

Калі ў вочы мне глядзяць
Калека-лес,
Рака-калека, —
Мне вочы хочацца схаваць
Ад сораму,
Што чалавек я.

Вялікае месца ў выбраным «Востраў Айчыны» належыць лірыцы кахання. Той факт, што сюды ўвайшлі вершы паэта пераважна сталага перыяду яго творчасці, наклаў свой адбітак на іх тэматыку і форму твораў. Пераважная інтанацыя гэтых твораў — сум па страчаным, імкненне вярнуць былое пачуццё, страх згубіць каханне. Лірычны герой у інтымных вершах — чалавек бездапаможны, слабы, духоўна спустошаны, бязвольны. Вярнуць яго да паўнавартаснага жыцця можа толькі Яна, жанчына, з якой расстаўся: «Далёкая, прашу — дапамажы!», «Харошая, малю — падай руку!» («Самотны санет»). Лірычнае «я» творцы асуджае сябе, што не цаніў кахання, не ўсведамляў, што «кахаць — забыць сябе самога», а гэта прывяло да непапраўных страт. Для вершаў паэта характэрны матыў пакаяння за адчужанасць ад каханай, за разрыў з ёю, імкненне вярнуць страчанае, спадзяванне, што былое пачуццё здольна адрадзіць чалавека, вярнуць веру ў дабро, справядлівасць, людскасць. Лірычны герой наіўна верыць, што каханне можна ўтрымаць просьбамі, маленнем. («Карай мяне за грэх любы…»)

Як бачым, асоба лірычнага героя Міхася Рудкоўскага ў падборцы вершаў «Востраў Айчыны» шчырая, адкрытая, самакрытычная. Яна ў канфлікце не толькі з грамадскім светаўладкаваннем, але і з самім сабою. Ідэалы лірычнага «я» паэта — складнік нацыянальных і агульначалавечых набыткаў.

Мікола Пракаповіч... Перачытваючы яго вершы, сабраныя ў раздзеле «Літары на літоўцы», міжвольна напрошваецца паралель з Максімам Багдановічам. Апошні вяртаў беларусам іх гісторыю, выдатныя культурныя набыткі, якія сведчаць пра слаўнае мінулае народа, здольнасць бараніць сябе ад чужынцаў. Мікола Пракаповіч вяртае сваім чытачам выдатныя вехі гісторыі Берасцейшчыны, духоўныя набыткі краю, узгадвае постаці сваіх землякоў.

Асобныя вершы прысвечаны Афанасію Філіповічу, Васілю Цяпінскаму, Усеваладу Ігнатоўскаму, а з нашых сучаснікаў — Яўгеніі Янішчыц. Ідэалы гэтых творцаў, патрыётаў радзімы блізкія лірычнаму «я» паэта. Афанасій Філіповіч як бы дасылае ліст з XVII ст. у наш час.

Пафас верша «Ліст з XVII стагоддзя» развіваецца ў «Запавеце Васіля Цяпінскага». «Я пра Айчыну буду гаварыць!», — урачыста прамаўляе асветнік і кнігавыдавец. Як блізка, роднасна гэта Міколу Пракаповічу, бо ў падбор-

цы «Літары на літоўцы» ён і гаворыць пераважна пра радзіму. Боль Васіля Цяпінскага звязаны з высясненнем з дзяржаўнага і культурнага жыцця беларускай мовы ў сувязі з паланізацыяй Вялікага княства Літоўскага. Мікола Пракаповіч у вусны выдаўца Евангелля па-беларуску ўклаў параўнанне «ўчора» — «сёння». У быццi народа ўчора было слаўным, ліцвіны шанаваліся светам, умелі і маглі змагацца за сваю вольнасць. Сёння — жахлівае: мы «без племені і роду жабракі». Каб вярнуць былую славу, трэба з павагай паставіцца да роднай мовы:

Жывы народ, пакуль жывое Слова.
Крыніцаю з-пад глею і жарствы
Адродзіцца праз ваш ратунак мова, —
Адродзіцеся з роднай мовай вы.

Паэт выхоплівае з айчыннай гісторыі постаці тых, хто спрыяў станаўленню нацыянальнай самасвядомасці народа, хто адраджаў і дамагаўся дзяржаўнасці беларускай мовы. Да іх ліку належыць слаўны сын Берасцейшчыны Усевалад Ігнатоўскі, які меў падпольную мянушку Воўк. На жаль, зазначае творца, і сёння не рэалізаваліся ідэі, за якія аддаў жыццё выдатны сын краю.

Лірычны герой успрымае жыццёвы подзвіг, трагедыю выдатных сыноў Бацькаўшчыны не толькі як падмогу сучаснікам у актывізацыі патрыятызму, стваральнай дзейнасці на карысць Беларусі. Паказальным у гэтым плане з'яўляецца верш «Белая вежа», у якім аўтар гаворыць не ад «я», а ад «мы», ад множнасці.

Лірычны суб'ект вершаў Міколы Пракаповіча, змешчаных у «Трохперсці», у свой час належаў да кагорты маладых рамантыкаў, творцаў, якія праглі служыць Айчыне, яе вяртанню да паўнавартаснага дзяржаўнага жыцця. Іх намеры не здзейсніліся напоўніцу. Духоўны ўзлёт змяніўся «нямой тугою ў вачах». Найбольш балючым для лірычнага героя з'яўляецца праблема роднай мовы. Яна яшчэ «жыве ў хатах», ды толькі пакуль да бацькоў з гарадоў і мястэчак з'язджаюцца дзеці па вясковыя прысмакі, якія называюцца па-беларуску, ці ў шматлікіх надпісах на агароджах і будынках, дзе прызнанне ў каханні гучыць на роднай мове.

Боль лірычнага героя ўзмацняецца і ад таго, што беларусаў духоўна абіраюць народы-суседзі. Вядома прызнанне Тадэвуша Касцюшкі: «Я нарадзіўся ліцвінам», — аднак «душа ў старадаўнім касцёле па-польску ахрышчана з воляй», а «на месцы хаты Касцюшкаў — закутая ў ланцугі пустка і шыльда — на чыста рускай». У сітуацыі, якая склалася на Бацькаўшчыне, герой абвінавачвае і саміх беларусаў, якія сябе паводзяць так, нібы ўсім на свеце нешта вінныя — «на сваёй радзіме байструю, жабрую за межамі айчыннымі». Для лірычнага героя надзвычай важнай з'яўляецца праблема нацыянальнай самаідэнтыфікацыі. На пытанне дзеда-суседа: «Ты чый?» — ён лёгка адказаў, пералічыўшы сваю радню, пачынаючы ад дзеда Гальяша. Цяжка адказаць самому сабе на пытанне : «Ты хто?» Даводзіцца з доляй сумніву прызнацца: «Хіба тутэйшы...» Смутак паэта мацнее, бо яго вёска стала ўжо вуліцай імя Суворава, разбураецца хата, дзе прайшло дзяцінства і юнацтва, адыходзяць у іншы свет самыя блізкія.

Тым не менш лірычны герой верыць, што «вырастуць з крыжа крылы», што шлях, абраны некалі маладымі рамантыкамі, падхопяць іншыя, можа, не адно пакаленне «высокіх жыццяў». Пакуль што «далёка да зорак. Цішыня на Літве. Адвячорак». Заўважым, не ноч, нават не вечар, а адвячорак. Нешта ўсё ж з юначых памкненняў героя рэалізавалася ў жыцці. Спадарыня Вікторыя ў аднайменным вершы ў прамерзлым касцёле спявае «Магутны Божа» за Беларусь і беларусаў. Лірычнае «я» паэта жыве ў міжчассі, калі важна не трапіць пад уплыў тых, хто мае ўладу, а застацца самім сабою. Герою гэта ўдалося. Ён канчаткова спаліў масты да тых, каму усё роўна нацыянальнае быццё народа. Гэта было «горкім вяртаннем дадому».

У духоўным свеце лірычнага героя вершаў Міколы Пракаповіча з падборкі «Літары на літоўцы» значнае месца належыць каханню. Паэт паказаў розныя інтымныя ўзаемаадносіны паміж Ім і Ёю: палкае пачуццё, яго згасанне і ажыўленне, адчужанасць і разрыў, сітуацыю, калі двое жывуць пад адной страхой, спяць у адной пасцелі, але яны даўно ўжо чужыя;

выпадковую сустрэчу з той, якая карысліва адмовілася і ад кахання, і ад былых ідэалаў. У розных інтымных сітуацыях, у тым ліку ў эратычных, паказаны чалавек, здольны на моцнае пачуццё, тонкі і далікатны, шчыры і высакародны. Герой глыбока пакутуе пры расстанні з каханай. Якая бура пачуцця кіпіць у вершы «Я губляю цябе, губляю...»! Адчай, шкадаванне, кволая надзея, што яшчэ не канец, радасны ўспамін пра былое, горкае ўсведамленне, што каханне нельга ўтрымаць ні просьбамі, ні мальбой, калі яно згасла. Тое, як герой перажывае расстанне, сведчыць пра сілу яго пачуцця. Яго маналог вызначаецца павышанай экспрэсіўнасцю, якая дасягаецца паўторамі, воклічамі, недамоўленасцю, яркай метафарычнасцю. Па-іншаму раскрывацца Ён у вершы «Грамніцы, спадарыня, — то не вясна...». Сустрэўшы былую каханую з новым абраннікам, трымаецца стрымана-годна і самапаважліва: прайшоў не азірнуўшыся, звярнуўся строга афіцыйна на «Вы» і «спадарыня». Кампазіцыйна верш пабудаваны на супрацьпастаўленні, якое падпарадкавана паказу двух перыядаў у жыцці Яе і Яго: часу, калі «весняе сонца пад снегам цвіло», і часу, калі сустрэў «самоту пад руку з каханнем».

Як бачым, лірычны герой Міколы Пракаповіча з падборкі «Літары на літоўцы» — найперш грамадзянін і патрыёт сваёй Айчыны, знаўца гісторыі роднага краю. Вершы вызначаюцца публіцыстычнай завостранасцю, у сваёй большасці экспрэсіўнасцю лірычнага маналога.

Алесь Каско... У многіх вершах падборкі «Свой камень» лірычны герой як бы стаміўся жыць. Яго апаноўвае адзінота, сум, безнадзейнасць. У лірычнага суб'екта гаснуць жаданні: цяпер яго не хвалюе ні творчасць, ні каханне. У загалоўным вершы, якім адкрываецца падборка, ёсць запэўненне, што ў яго «адно ёсць права — жыць, тварыць», ёсць і здольнасць асудзіць сябе за хвіліны адчаю і гневу. Гэта, аднак, не мяняе агульнага настрою і светаадчування лірычнага героя. Найбольш скандэнсавана пачуццё адзіноты раскрыта ў вершы «Самота — на вяршыні дзён самота...»:

Адно, што ёсць, — атвор
у безнадзейнасць,
у глыбіню сябе, да той мяжы,
калі адчай у найвышэйшай дзеі:
жахацца скону — і не прагнуць жыць.

Лірычны герой падборкі, змешчанай у «Трохперсці», — мастак слова. У творчасці ён шукае і часам знаходзіць паратунак ад безнадзейнасці:

Сябе суцешыць: і таго,
што ёсць, для долі дастаткова.
Вярнуцца, запаліць агонь,
схіліцца над самотным словам.

Над словам, што было спярша,
што надало сэнс гукам, знакам.
Што ўтойвае, чаму душа
шчаслівая над ім заплакаць.

Праграмным вершам Алеся Каско з ліку тых, што змешчаны ў «Трохперсці», з'яўляецца «Свой камень». Невыпадкова ім названы раздзел, прысвечаны паэту. У гэтым творы раскрываюцца эстэтычныя погляды аўтара. Ён выбраў цяжкі шлях, які абміналі іншыя. Яны імкнуліся ісці пратаптанай дарогай. У гэтым выбары выяўляецца сутнасць яго як творцы. Правам выбару, на думку паэта, у свой час пакарыстаўся Янка Купала, калі перад ім паўстала дылема: або мёртвыя песні, песні-велічанні, хваласпеў, або смерць. Класік нацыянальнай літаратуры выбраў апошняе. Ён зрабіў дзве спробы развітацца з жыццём. Першая была няўдалай. У другі раз у маскоўскім гатэлі Янка Купала рэалізаваў свой намер.

Герой Алеся Каско перакананы, што для сучаснага мастака на яго радзіме няма творчай нівы. Справа ў тым, што яму трэба думаць, «як песню выменяць на хлеб і як не даць загінуць слову». Тым не менш у лірычнага героя ёсць спадзеў на рунь, на новае пакаленне творцаў і на свой мастацкі патэнцыял. Надзвычай балючай для мастака слова з'яўляецца праблема роднай мовы.

Алесь Каско вельмі заклапочаны лёсам народа і яго дзяржаўным быццём. Следам за Янкам Купалам паэт называе Беларусь забраным краем. Лірычны герой перакананы, што цяпер «годных кормчых так мала», і ён не ўпэўнены, што сучасны Адысей здольны абараніць свой дом («Чытаю «Ады-

сею»). Мастака слова хвалюе праблема знікнення беларусаў як самастойнага этнасу. Гэта выклікае пратэст, як і тое, што беларусы, на яго думку, абыякавыя да свайго быцця.

У вершах, змешчаных у «Трохперсці», няма прамога адказу, чаму так здараецца. У нейкай меры тлумачэннем можа быць верш «Без адказу», прысвечаны ахвярам рэпрэсій. Лірычны герой помніць свой дзіцячы страх, калі за іх хатай віжавалі тыя, хто арыштаваў бацьку. На шчасце, «бацька вярнуўся, а тысячы — не». І цяпер помніцца той час, калі «па чалавеку знікае народ». Лірычнае «я» творцы шукае адказ на хвалюючае пытанне: «А ці зракліся ж пакоры яны, страху і ганьбы — знікаць без віны?..» Як сведчыць назва верша, пытанне для лірычнага героя засталося адкрытым. Становішча не зменіцца, — лічыць герой, — да той пары, пакуль не будзе разбураны мур, пабудаваны «паводле выдумак чужых». Беларусам трэба пачаць узводзіць свой дом.

Духоўны дыскамфорт героя звязаны таксама і з тым, што ў асяроддзі творцаў няма адзінства, адсунічае павага да набыткаў папярэднікаў, нецярпімасць да індывідуальнага самавыяўлення кожнага. («Старое грае сам стары...»).

Героя не пакідае думка пра свой скон, пра развітанне з гэтым светам. Ён хвалюецца, што яго жыццё можа нечакана абарвацца, і ён не паспее здзейсніць задуманае, рэалізаваць сваю жыццёвую мэту.

У падборцы вершаў Алеся Каско «Свой камень» шырока выкарыстаны архетыпы «ноч»-«дзень». Яны выступаюць як традыцыйныя сімвалы і маюць шырокае абагульняльнае значэнне, уключаючы ацэнку духоўнага стану грамадства і лірычнага «я» паэта. Гэтыя архетыпы характэрны для большасці вершаў Алеся Каско («Бяссонне», «Было ўжо... Месяц без прытулку...», «Піліпаўская ноч» і інш.).

Лірычны герой хоць і адчувае сябе адзінокім, аднак не знаходзіцца ў ізаляцыі ад людзей, яго заўсёды чакаюць «маці і сябры». Але і дома, побач з мамай, ён не адчувае палёгкі. Калі ж блізкіх не стала, родны кут, клопаты на бацькоўскім селішчы зусім перасталі лячыць ад самоты. Наадварот, тут яна толькі ўзмацняецца («Зноў я дома, дома, дома...», «Скончыш рупіцца, на ганку сядзеш...»).

Лірычны герой вершаў Алеся Каско, змешчаных у «Трохперсці», належыць да натур, якія адчуваюць на сабе дабратворны ўплыў прыроды, цесную паяднанасць з ёю. Ён пратэстуе супраць жорсткасці ў адносінах да ўсяго жывога на зямлі, нагадвае пра ўрокі, якія прырода можа даць кожнаму («Я вымыўся сёння ў настоеных росах...», «З усяночнае», «Вока» і інш.). Герой асуджае сябе, што з гадамі і сам ачарсцвеў, ігнаруе дарагое з дзяцінства, што «роўныя з намі — трава, і мятлушка, і дрэва, і птах» («Зялёны конік маленства»). Карэктны і самакрытычны герой паэта ў стасунках з жанчынамі. У сітуацыі, калі іх дарогі разышліся, удзячны за тое, што Яна падаравала яму шчасце кахаць і быць каханым. Лірычны герой Алеся Каско з падборкі «Свой камень» здольны прызнаць сваю віну за тыя непаразуменні, якія былі паміж ім і каханай, і ўсё пачаць спачатку. Ён вельмі шкадуе, што побач з ім няма любімай, і гэта паглыбляе яго самоту і адзіноту («Балада граху», «Чорным хлебам варону кармлю...», «Я хутка пайду...» і іншыя.

Зборнік «Трохперсце» — адзін з этапаў творчасці (пераважна вершы апошніх дзесяцігоддзяў) Міхася Рудкоўскага, Міколы Пракаповіча і Алеся Каско. Гэта і мастацкі зрэз думак, настрояў, памкненняў той часткі беларускага грамадства, якая асабліва востра занепакоена нацыянальным быццём і маральным здароўем народа, гэта і агульначалавечыя ідэалы, данесеныя да чытача паэтычнымі сродкамі. Любы творца, ды і выдавец, зацікаўлены ў чытачу-суразмоўцу, ім трэба выразна ўсведамляць адрасата сваёй творчасці і свайго выдання. У рэаліях сучаснага жыцця кола чытачоў павінна быць асабліва шырокім. У той самы час, на маю думку, патэнцыяльным чытачом «Трохперсця» будзе найхутчэй чалавек сталага веку. Мне здаецца, што ў адборы твораў у выданне амаль што праігнараваны чытач-падлетак і юнак з іх адметнымі каштоўнаснымі прыярытэтамі.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ

# ...АД ЗЯМЛІ, ЯКАЯ НАРАДЗІЛА ЦІ НАТХНЯЛА:

## літаратурныя Пухавічы і блізкія ваколіцы

Збіраючы матэрыялы па літаратурным краязнаўстве Міншчыны, уважлівы свой погляд адрасую Пухавіччыне і найперш вёсцы Пухавічы... Яна так ці іначай звязана з лёсамі многіх пісьменнікаў, журналістаў. У старажытную вёску Пухавічы можна патрапіць з розных бакоў. Калі з маёй роднай Зацітавай Слабады ці з Раўчака, то шлях зусім блізкі... Прайшоўшы праз ускраіну Зацітавай Слабады, дарогай паўз Бойню (так называецца лясны масіў), мастом праз Цітаўку, пакінуўшы з правага боку раку Свіслач, мы і патрапім у мястэчка Пухавічы, якое багата на літаратурна-мастацкія помнікі. Можна і па дарозе з Мінска на Гомель збочыць з трасы і завітаць у паселішча, праз якое некалі праходзіла шаша. І ўсе пісьменнікі, хто на аўтобусе ці машыне ехалі ў Бабруйск, Мазыр, Калінкавічы, Гомель, канечне ж, трымаюць у памяці пухавіцкую аўтастанцыю....

Але давайце ўсё ж павандруем пакуль што па ваколіцах... Спынім хаду і ўважліва ўгледзімся ў Свіслач. Рака мае таксама літаратурны характар. Часта да яе апісання звяртаўся Якуб Колас.

А Свіслач жыве, бяжыць неўгамонна,
Разлёгшыся ў травах, у выспах пясчаных.
А колер — то цёмны, то светла-румяны —
Ад яснага неба, ад чыстай паляны,
Ад дрэў ці кустоў, ад ценяў бяздонных, —

такое трапяткое сведчанне пра Свіслач пакінуў нашчадкам народны пясняр Беларусі.

Сталым вандроўнікам па Свіслачы — і па пухавіцкіх яе вёрстах — быў вядомы літаратар Кастусь Кірэенка (1918 — 1988). І сваім падарожжам з рукзаком і вудаю, са спінінгам паэт і празаік прысвяціў рыбацкую паэму «Вандроўнае шчасце». Многія старонкі — пра Свіслач пухавіцкую. Некаторыя з іх нельга чытаць без болю і трывогі. Як, напрыклад, вось гэтыя развагі Кастуся Кірэенкі: «Страшныя малюнкі назіраюць часта вясною жыхары надсвіслацкіх вёсак ад Мінска і да Пухавіч і нават яшчэ ніжэй. Калі ўзломіцца лёд і схлыне першая паводка, па берагах Свіслачы нельга, бывае, прайсці — так яны ўсеяны самай рознай загубленай рыбай. Гэта ў зімовыя дні, калі рыбе пад тоўшчай ледзянога панцыра і так цяжка бывае без прытоку свежага паветра, нехта з мінскіх магільшчыкаў прыроды па-зладзейску спусціў у Свіслач атруту з якой-небудзь фабрыкі ці завода... І вось паводка выкрывае вынікі гэтага злачынства... Плывуць на ільдзінах, ляжаць прыбітыя да берагоў ляшчы і плоткі, язі і галаўні, шчупакі і акуні... На адлегласці больш, можа, чым сто кіламетраў на рацэ знішчана ўсё жывое... А вінаватых няма... Нейкі злодзей, які зрабіў такую чорную справу, не толькі застаецца не пакараным, а нават, магчыма, атрымаў яшчэ «прагрэсіўку» за так званае «перавыкананне» плана...

Раней (не так ужо і даўно і не гэтак і нядаўна, а прыблізна — пятнаццаць—семнаццаць гадоў таму назад), зачуўшы для сябе што-небудзь нядобрае, свіслацкая рыба знаходзіла выратаванне ў прытоках Свіслачы. У раёне Пухавіч, вышэй і ніжэй па цячэнні, такія яе прытокі — Волма, Цітаўка, Балачанка, Талька,

спакойна плыніліся іх чыстыя воды: то высяцца над імі ў бестрывожнай задуме векавыя дубровы, то цягнуцца шырокія, з лугамі і пашамі поймы, а то палі каласамі шэпчуцца над самай вадою. Хто пабываў на гэтых рэках у часы, калі іх хараство, прывабнасць нікім яшчэ не былі згвалчаны, той згодзіцца са мною, што меў сапраўднае шчасце — і душою зліцца з лернай непаўторнасцю чароўных з'яў прыроды, і — задаволіць няўтольную рыбацкую прагу да ўсё новых адкрыццяў і прыгод».

Так, старажытнае мястэчка Пухавічы… Старыя мясцовыя жыхары часта гавораць Пуховічы… Але па-сучаснаму гэта ўжо вёска. Вялікая вёска, з якой у 1924 годзе пачалася гісторыя Пухавіцкага раёна. Нядоўга мястэчка было мясцовай сталіцай. Магутны пажар таго ж 1924 года прымусіў мясцовыя ўлады пераехаць у Мар'іну Горку. А ў мястэчку па-ранейшаму засталіся царква, беларуская і яўрэйская школы, кірмаш, мноства маленькіх крамак… Прыкметы нацыянальнага жыцця тут вызначалі ў большасці сваёй жыхары яўрэйскай нацыянальнасці. Нездарма ж, праязджаючы праз Пухавічы ў сярэдзіне 1930-х, вядомыя расійскія пісьменнікі, аўтары «Залатога цяляці», «Дванаццаці крэслаў» Ілья Ільф і Яўгеній Пятроў заўважылі (а пасля і занатавалі гэта ў сваіх дарожных нататках), што патрапілі ў «другую Адэсу».

Якія ж літаратары звязаны з Пухавічамі?

Неяк зусім выпала з кантэксту гісторыі Пухавіччыны імя Льва Стронгіна. А між тым асоба цікавая, лёс яго да канца не вывучаны. У судакрананні з гэтай забытай постаццю можна было б узнавіць многія фрагменты гісторыі беларускай літаратуры, яўрэйскай літаратуры ў Беларусі і ўвогуле ў Савецкім Саюзе. Дазволю болей падрабязна спыніцца на разглядзе гэтай цікавай асобы ці, дакладней, хаця б звярну ўвагу на тыя факты, што ўдалося сабраць у дачыненні да Льва Стронгіна…

Менавіта ён з'яўляецца адным з першых арганізатараў выдавецкай, паліграфічнай справы ў Савецкай Беларусі. Нарадзіўся Леў Стронгін у мястэчку Пухавічы. У 1929—1933 гадах займаў пасаду дырэктара Белдзяржвыдавецтва. Да яго кіраўніком галоўнай па тым часе вытворчай кніжнай установы працаваў знакаміты Зміцер Жылуновіч, як пісьменнік вядомы пад псеўданімам Цішка Гартны.

Захаваліся ўспаміны нашага земляка пра Мінск і ваколіцы губернскага горада ў 1918 годзе — з часоў акупацыі Беларусі нямецкімі кайзераўскімі войскамі. «Год 1918-ы… Усяго 100 дзён давялося працоўным Мінска карыстацца здабыткамі Вялікага Кастрычніка. Зрыў брэсцкіх перамоў даў магчымасць кайзераўскім генералам абвясціць стан перамір'я з Расіяй завершаным, і 18 лютага яны ўзнавілі ваенныя дзеянні. 21 лютага 1918 года германскія войскі занялі Мінск», — так пачынае Л. Стронгін успаміны «У падполлі», надрукаваныя ў калектыўным зборніку «Праўда стагоддзя» (Мінск, 1970 г.).

З першых дзён акупацыі кайзераўцы пачалі праводзіць палітыку прыгнёту і тэрору. У Мінску з часу Першай сусветнай вайны знаходзіліся многія склады тылавых устаноў заходняга фронту. Працавала і прамысловасць. Зладжанасцю вызначалася і сістэма прыватнага гандлю. Кайзераўцы распачалі мэтанакіраваны грабёж. З навакольных вёсак звозілі хлеб, сала, прыганялі коней, скаціну. Наладжвалі аблавы, лавілі людзей на вуліцах, трымалі іх за калючым дротам пад адкрытым небам. Затым адпраўлялі ў Германію на прымусовыя работы. У свае маёнткі вярталіся гаспадары. Па іх даносах кайзераўскія салдаты расстрэльвалі ўсіх, у кім падазравалі бальшавікоў ці тых, хто ім спачуваў.

На пачатку сакавіка на мінскую кватэру да Стронгіна завітаў Іван Чакалінскі. Ён паведаміў, што ў горадзе створаны падпольны камітэт партыі. Даў адрас. На другі дзень Леў Ізраілевіч сустрэўся з падпольшчыкамі — Б. Вайцэсам, Ш. Ходашам і А. Крыніцкім (Бампі). Пазней у склад камітэта ўвойдуць А. Славінскі (так, гэта ў яго гонар названа адна з мінскіх вуліц), Э. Русецкі і Л. Стронгін. Нашаму земляку даручылі выпуск лістовак, адозваў. У распараджэнні камітэта меўся

шапіраграф, які належаў Г. Мусіну. У гадавіну звяржэння царызму была выдадзена першая лістоўка мінскіх падпольшчыкаў.

З успамінаў Л. Стронгіна: «Але ці многа можна надрукаваць на шапіраграфе? Таму камітэт даручыў мне наступную лістоўку выдаць друкарскім спосабам. Усе друкарні Мінска я ведаў наперaлік, і мне не цяжка было знайсці, дзе аддрукаваць лістоўкі. Я прыйшоў у адну з іх, гаспадара якой я ведаў. Ён быў хворы — ляжаў, разбіты паралічам, сям'я жыла ў бядоце. Павітаўшыся з жонкай, сказаў, што мне патрэбна набраць і аддрукаваць праграмкі для кінатэатра «Гігант», за адпаведную, зразумела, плату. Яна пагадзілася. Друкарня знаходзілася ў кватэры гаспадара, якая складалася з двух пакояў з падвалам. Плоская друкарская машына і нажная «амерыканка» стаялі ў падвале, касы былі наверсе, у адным з пакояў. Я хутка набраў тэкст, выправіў карэктуру і, спусціўшыся ўніз, пачаў друкаваць.

Пасля таго, як тры тысячы экземпляраў адозвы былі гатовыя, я рассыпаў набор, праверыў, каб нідзе не засталося адбіткаў тэксту, паклаў лістоўкі ў загадзя падрыхтаваную карзіну з гароднінай і выйшаў на вуліцу. Ужо сцямнела. Ва ўмоўленым месцы мяне чакаў А. Крыніцкі, з ім была дзяўчына, член партыі, Сасновіч. Перадаў ім карзіну, пасля таго, пажадаўшы адзін аднаму ўдачы, мы разышліся…»

З'яўленне лістовак выклікала перапалох. Стронгін на некаторы час ад'язджае ў Шацк. Там сустракаецца з сябрамі, разам з якімі ўдзельнічаў у лютаўскіх падзеях 1917 года ў Шацку: Слівінскім, Шацілоўскім (малодшым), Вайнманам, Кантаровічам і іншымі. Большасць з іх — дэмабілізаваныя салдаты Першай сусветнай… Леў Стронгін выкладае перад сябрамі і паплечнікамі па рэвалюцыйных пераўтварэннях заданне Мінскага падпольнага камітэта — разгортваць партызанскі рух супраць кайзераўцаў у навакольных вёсках.

У другой палове красавіка 1918 года падпольны камітэт прымае рашэнне стварыць нелегальную друкарню. Выкананне даручэння ўскладваецца на Льва Стронгіна. Месцам для друкарні выбіраецца ў Мінску дом з сядзібай Чэкалінскага — па вуліцы Даўгабродская, якая ў той час была ўскраінай горада. Дом знаходзіўся ў садзе, побач — агарод, у двары — розныя гаспадарчыя прыбудовы, склеп. Словам, месца, якое спрыяла канспірацыі. Засталося знайсці абсталяванне. Падпольшчыкі набываюць невялікую друкарскую машынку — так званую «бастонку». Яе выкарыстоўвалі для друку візітных картак, аптэчных сігнатурак, меню і іншых дробных друкаваных вырабаў. Лістоўкі атрымліваліся маленькія, на палову стандартнага аркуша. Але і гэта задавальняла падпольшчыкаў. Заставаўся яшчэ адзін клопат — раздабыць шрыфт. Вырашылі, што трэба выпраўляцца ў Савецкую Расію. Перайшоўшы пад выглядам рабочага друкарні, якая эвакуіравалася ў Расію, дэмаркацыйную лінію на станцыі Орша-таварная, Стронгін выязджае ў Смаленск. Там сустракаецца з былым галоўнакамандуючым Заходнім фронтам, старшынёю Паўночна-Заходняга абласнога камітэта партыі, адным з арганізатараў Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Мінску А. Мяснiковым. Расказаў Леў Стронгін і пра работу падпольнага камітэта, і пра складанасці з друкарняй. А. Мяснікоў піша ліст у рэдакцыю «Правды» і камандзіруе Стронгіна ў Маскву. «На аснове гэтага ліста, — успамінае наш зямляк, — камісар друкарні газеты «Правда» Фрэйман выдаў мне вярстаткі, гранкі, невялікую колькасць фарбы. Акрамя таго, ён узброіў мяне некаторай агітацыйнай літаратурай. Вярнуўся ў Смаленск. Пры садзейнічанні Мяснікова атрымаў у мясцовай друкарні болей як дзве пачкі новенькага тэкставага шрыфта. Мяснікоў уручыў мне шыфраваныя дырэктывы для Мінскага камітэта, і я скіраваў у зваротны шлях…»

Назад, у Мінск, падпольшчык вяртаўся нелегальна, пераходзіў мяжу як звычайны кантрабандыст.

Сур'ёзнае ўладкаванне друкарні дапамагло вырашыць многія задачы. Своечасовае выданне лістовак спрыяла рэвалюцыйнай рабоце ў горадзе і навакольных паселішчах. З друкарні лістоўкі і адозвы пераносіліся ў канспіратыўныя разда-

тачныя пункты. Яны знаходзіліся ў фатаграфічнай майстэрні Мішкіна ў Сярпухаўскім завулку, у кааператыве «Рабочы будаўнік» на Школьнай вуліцы і ў іншых месцах. Тамсама раздаваліся і газеты, і літаратура, якія паступалі з Масквы і Смаленска. Былі арганізаваны ланцужкі, па якіх «прадукцыя» друкарні, агітацыйныя матэрыялы траплялі ў самыя аддаленыя куточкі Мінскай губерні.

Задумалі падпольшчыкі і выданне сваёй газеты. Яшчэ ў ліпені 1918 года першая падпольная канферэнцыя бальшавікоў Мінскага раёна запісала ў сваім рашэнні: «Канферэнцыя ўхваляе мяркуемае Мінскім камітэтам выданне друкаванага органа, які лічыць адным з самых дзейсных агітацыйных і арганізацыйных сродкаў партыі». Але ж друкарская машынка «бастонка» была параўнальна малога памеру. Яе габарытаў хапала для друку толькі лістовак. Давялося прыладжваць газету да магчымага фармату «бастонкі». Тыраж вызначылі ў 5 тысяч экземпляраў. Значыць, улічваючы фармат лістоўкі, патрэбна было надрукаваць 30 тысяч адбіткаў. Загаловачны, досыць буйны шрыфт Леў Стронгін выкраў у друкарні Форынай. «Подпольная правда» (пабачыў свет толькі адзін нумар) пазначана 12 кастрычніка, хаця і надрукавана была крыху раней.

Выпусцілі мінскія падпольшчыкі ў сваёй друкарні і некалькі адозваў да нямецкіх салдат. У гэтай працы бальшавікам дапамагалі нямецкія салдаты Ракаў і Мевіус, якіх з Масквы накіраваў Якаў Свярдлоў. Яны ў час Першай сусветнай патрапілі ў палон і актыўна працавалі ў створаным па ініцыятыве Я. Свярдлова Рэвалюцыйным савеце германскіх войск Усходняга фронту. Яны разгарнулі досыць вялікую работу сярод кайзераўскіх войск у Мінску ў апошні перыяд акупацыі.

Рэвалюцыя, якая адбылася ў Германіі, істотна аслабіла акупацыйны рэжым. Падпольшчыкі сталі раздаваць лістоўкі проста на вуліцах. У канцы лістапада яны пачынаюць працаваць адкрыта, не зважаючы на канспірацыю. З навакольных вёсак у Мінск былі сцягнуты партызанскія атрады, каб сфарміраваць баявую дружыну дзеля аховы горада. Была надрукавана пад кіраўніцтвам нашага земляка і першая Савецкая Канстытуцыя, якую прынялі ў ліпені 1918 года на V Усерасійскім з’ездзе Саветаў.

10 снежня 1918 года Чырвоная Армія цалкам вызваліла Мінск ад нямецкіх акупантаў. Таварышы Льва Стронгіна былі прызначаны на адказныя пасады. Славінскі ўзначаліў наркамат унутраных спраў. Ходаша выбралі старшынёй Цэнтральнага бюро прафсаюзаў. Крыніцкі стаў наркамам працы. 15 снежня 1918 года Льва Стронгіна прызначаюць камісарам усіх друкарняў Мінска і губерні (фактычна — міністр друку!). А 22 снежня наш зямляк узначальвае спецыяльна створаны Камітэт па друку, займаецца нацыяналізацыяй усіх прыватных друкарняў горада. На іх аснове была створана паліграфічная база Савецкай Беларусі.

Як жа склаўся далейшы лёс Льва Ізраілевіча Стронгіна? У 1930-я гады ўраджэнец мястэчка Пухавічы пераязджае ў Маскву. Працуе ў выдавецтве, якое займаецца выпускам яўрэйскай літаратуры. 30 сакавіка 1948 года яго, старога бальшавіка, дырэктара выдавецтва «Дэр эмес», члена прэзідыума Яўрэйскага антыфашысцкага камітэта арыштоўваюць. Ва ўспамінах аднаго з яўрэйскіх паэтаў захавалася наступная згадка: «…У гэтага маўклівага «прасталюдзіна», былога яўрэйскага наборшчыка, было вялікае сэрца, напоўненае любоўю да яўрэйскага слова і яўрэйскіх пісьменнікаў. Расказваюць, што калі яго катавалі на Лубянцы, следчы, стоячы над ім, збітым на горкі яблык, пахваліўся:

— Ваш «паэт» Леў Квітко боты мне аблізваў!..

Стронгін павольна, са стогнам, падняўся і выплюнуўшы разам з крывёю выбітыя зубы, прамовіў:

— Чым хвалішся, г..! Квітко быў, ёсць і назаўсёды застанецца вялікім паэтам. А цябе, нікчэмнасць, ніводзін сабака не ўспомніць…»

Яго білі да смерці, але не дабілі — толькі лёгкія адбілі. З лагера яго акціравалі як інваліда, і ён памёр года праз паўтара пасля «вызвалення».

…У Маскве і зараз жыве і працуе сын выдаўца, пухавіччаніна — Варлен Львовіч Стронгін (нарадзіўся 16 снежня 1932 года). Ён з’яўляецца аўтарам многіх кніг: «Сталін і ясназоркі Месінг», «Праўда пра Керанскага», «Тайны жаночых дасье», «Каханне Міхаіла Булгакава», «Астрог і воля Лідзіі Русланавай», «Валерый Абадзінскі: адлучэнне ад песні», «Савелій Крамараў»… Ці ведае што ён з пухавіцкай біяграфіі бацькі, ці ведае што з гісторыі пухавіцкіх Стронгіных?..

У гісторыі беларускай дзіцячай літаратуры надоўга застанецца імя празаіка Алеся Пальчэўскага (1905—1979). Нарадзіўся Алесь Восіпавіч непадлёку ад Пухавіч — у вёсцы Прусінава Уздзенскага раёна. Першая кніжка — п’еса «З чырвоным сцягам» — пабачыла свет у 1932 годзе. Пра тыя часы ўспамінае пісьменнік Павел Пруднікаў: «Яго першая кніга называлася «З чырвоным сцягам». Захавалася ў мяне і другая яго кніжка — «Зламаная іголка». Абедзве гэтыя кніжкі — п’есы, напісаныя для дзяцей школьнага ўзросту.

Пасля заканчэння універсітэта Алесь Пальчэўскі доўгі час працаваў у рэспубліканскіх перыядычных выданнях, у тым ліку і ў дзіцячым часопісе «Іскры Ільіча», куды яго як дзіцячага пісьменніка запрасілі на пасаду сакратара рэдакцыі. Рэдактарам гэтага часопіса з’яўляўся таксама дзіцячы пісьменнік Алесь Якімовіч. Як і яго зямляк Якімовіч, Алесь Пальчэўскі карыстаўся вялікім аўтарытэтам і павагай сярод чытачоў і сяброў па пяру. Ён быў патрабавальным і добразычлівым рэдактарам. А ўсе рукапісы, якія паступалі ў рэдакцыю часопіса, у першую чаргу праходзілі праз яго рукі. Так тады і гаварылі, калі паміж пісьменнікамі ўзнікалі якія-небудзь спрэчкі:

«Пойдзем да Пальчэўскага, ён нас рассудзіць…» ( Пруднікаў П. Далёкае, але не забытае. Мн., 1988. — с. 125).

І ўсё ж не паспеў на ўсю моц разгарнуцца пісьменніцкі талент маладога чалавека, як Алесь Пальчэўскі быў рэпрэсіраваны. І толькі ў 1946 годзе вярнуўся, ужо сталага веку чалавекам, з лагера. У сваёй аўтабіяграфіі пісьменнік пасля напіша: «Тысячы кубаметраў напілаваных дроў-шваркоў, руднічнай стойкі, чыгуначных шпал, бярвенняў на будоўлю — вось накладная майго багажу, з якім я вяртаўся 4 жніўня сорак шостага года ў Мінск. За плячыма яшчэ адна спецыяльнасць — пілапраў-інструментальшчык».

Прыехаўшы на Беларусь, пачаў выкладаць родную мову і літаратуру ў Пухавіцкай сярэдняй школе, стварыў драматычны гурток, уцягнуў у мастацкую самадзейнасць настаўніцкую і вучнёўскую моладзь. Сам на сцэне не выступаў, але займаўся рэжысурай, гавораць, што нават спецыяльна пісаў п’есы. І, канечне ж, актыўна вяртаўся да літаратурнай творчасці. Пазней творы, напісаныя ў мястэчку, увойдуць у кнігі Алеся Пальчэўскага «Бераржанкі» (1958) і «Родныя берагі» (1958).

У кнізе «Родныя берагі» пазначана, дзе і калі напісаны творы. Апавяданне «Вожык» — «ст. Пухавічы, 1947». «Збітыя рогі» — «ст. Пухавічы — Мінск, 1946 — 1955». «Лілея» — «ст. Пухавічы, 1947». Хутчэй за ўсё з пазнакай «ст. Пухавічы» выйшла выдавецкая абмылка. Апавяданні пісаліся, зразумела, у вёсцы (сяле, як пазначана ў выпадку з «Лілеяй») Пухавічы. Асабліва шчымлівым падаецца апавяданне «Лілея» — пра лёс беларусаў-нявольнікаў у палоне. «У чужы край, далёка ад роднай Сіняўкі, іх чатырох закінула лютая вайна… Было так: халоднай зімой мужчын выклікалі ў воласць і назад у Сіняўку не пусцілі. Праз другія дзверы валаснога будынка іх выпусцілі на агароджаны шчыкетамі двор і адтуль, як з пасткі, адправілі пад канвоем на станцыю. Ніхто не спытаў у іх, ці яны здаровыя, ці накормлены, ці хочуць ехаць у чужую старану на заработкі.

На станцыі сіняўцаў разам з другімі нявольнікамі пасадзілі ў вагон з кратамі і, як вялікіх злачынцаў, павезлі на захад. Дома позна чакалі іх на вячэру, назаўтра снедаць, а мужчын усё не было. Толькі пад вечар, на другі дзень

стала вядома ў Сіняўцы, што здарылася з вяскоўцамі. Загаласілі, залямантавалі родныя…»

(Пальчэўскі А. Родныя берагі. Мн., 1958. — с. 159).

У апавяданні, сюжэт якога пісьменніку, відавочна, падказалі ў Пухавічах, расказваецца пра галодныя пакуты рабоў-нявольнікаў. І аднойчы як царскую ласку прынялі яны з рук наглядчыка корань лілеі. Здзіўленыя, што жорсткі наглядчык вырашыў падкарміць, мужчыны ачысцілі корань і па кавалачку пачалі яго есці… « — А як рассмакуешся, дык не такі ён і горкі, толькі прытарны трохі. Жэневу частку, можа, з вас каторы перадасць. Вы бліжэй да яго, — працягнуў руку Анісім. — Няхай у вас будзе, вазьміце яго ў кішэню, да канца работы ўсё роўна не адыдзешся.

Не прайшло і паўгадзіны, як трое сіняўцаў курчыліся ўжо ў страшэнных пакутах. Яны то поўзалі па пілавінні жыватамі, то кідаліся на левы ці правы бок, падцягвалі калені аж да самай барады. У час прыступу болю вочы іх рабіліся па яблыку і, здавалася, вось-вось павылазяць зусім. Мужчыны стагналі, енчылі, кусалі да крыві свае губы, рукі, а кульгавы, здаволены сваімі практыкаваннямі, стаяў і глядзеў з лёгкай усмешкай на іхнія пакуты.

Праз гадзіну Анісім і Мікалай сканалі з перакошанымі ад пакут тварамі. А Ціхон дацягнуў да вечара і змог яшчэ расказаць пра ўсё Жэню. Той нават не ведаў аб здарэнні. Бо праца на пілараме не спынялася ні на хвіліну, і бусака выпусціць з рук нельга.

Хто мог падумаць з сіняўцаў, што на чужой старане нават карэнні прыгожых кветак лілей атручваюць жыццё чалавеку?

А назаўтра Жэня яшчэ з адным такім жа нявольнікам уцяклі адтуль. Доўга дабіраліся яны ў Беларусь да партызанскага атрада. Затое помсцілі потым за ўсё акупантам». (Тамсама, с. 164—165).

Канечне ж, прысутнічае тут і вымысел ці домысел. Але і па апавяданні «Лілея» становіцца зразумелым, з якой ахвотай, якім жаданнем спасцігнуць тое жыццё, пра якое ён толькі мог здагадвацца ў лагеры, у высылцы, працаваў Алесь Восіпавіч у Пухавічах. Шмат хто з маіх знаёмых хадзіў у тыя 1940-я ў Пухавіцкую школу. І Арнольд Фёдаравіч Смеяновіч, і Аляксандр Аляксандравіч Матоха, і Анатоль Фёдаравіч Паскробка… Ды яны — з маладзейшага пакалення, тады, у 1946 — 1947 гадах, ім было па восем-дзесяць гадоў. Настаўніка беларускай мовы і літаратуры Алеся Восіпавіча Пальчэўскага памятаюць досыць расплыўчата. Было ў Пухавічах ва ўчарашняга вязня і каханне — да маладой сімпатычнай настаўніцы. Ды нешта не зладзілася. Яно і зразумела: узрост, няпростая біяграфія… Магчыма, былі і іншыя прычыны, зараз цяжка зазірнуць у той далёкі час з поўнай аб'ектыўнасцю… Але ж вернемся да «Лілеі». Вось як закончыў апавяданне Алесь Восіпавіч: «Як самы звычайны факт расказаў усё гэта, з узгавору, Яўген Цімашук, цяперашні старшыня калгаса «Воля». Убачыўшы абурэнне на нашых тварах, ён уздыхнуў, пакруціў галавою і з нейкім асаблівым пачуццём вымавіў:

— Ці гэта яшчэ было! — Потым хвілінку памаўчаў і дадаў: — Толькі і пра такія факты забывацца нельга». (Тамсама. С. 165).

Але не доўга давялося працаваць Алесю Восіпавічу ў Пухавічах. Новы данос. Гавораць, што аўтарам яго быў тагачасны калега па педагагічнай ніве, маёр-франтавік… Пасадзіць адразу не пасадзілі. Далі шанц яшчэ папрацаваць у Рудзенску. А ў 1949-м Алеся Восіпавіча ізноў незаконна асудзілі, выслалі ў Краснаярскі край. І толькі ў 1954 годзе А. Пальчэўскага рэабілітавалі. Другое вяртанне на Беларусь пісьменнік таксама пазначыў у аўтабіяграфіі: «Авалодаў яшчэ адной прафесіяй: навучыўся ставіць дамы не толькі ў просты вугал, але і ў «замок». Два магазіны, лазня, некалькі жылых дамоў у раённым цэнтры, сіласныя вежы, канюшні ў калгасах — вось будынкі, дзе ёсць частка і маёй працы».

Пасля ўжо лагерных пакут Алесь Пальчэўскі прыязджаў у Пухавічы на сустрэчу з настаўнікамі і вучнямі. Памятаю (сам вучыўся ў Пухавіцкай дзесяцігодцы), што яшчэ ў 1970-я, напрыканцы іх, у школьнай бібліятэцы захоўвалася кніга Алеся Пальчэўскага «Родныя берагі» з цёплым аўтографам пісьменніка.

У 1925 годзе нарадзіўся ў мястэчку Пухавічы Іван Падбярэжскі. Удзельнік Айчыннай вайны. Узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны II ступені, дзесяццю медалямі. Пасля вайны скончыў Гродзенскае музычнае педагагічнае вучылішча. Працаваў настаўнікам спеваў у Пухавіцкай сярэдняй школе. Затым — лабарантам у кабінеце фізікі. Перад пенсіяй — рабочым Пухавіцкай ПМК-70 меліярацыі. Усё жыццё Іван Падбярэжскі займаўся літаратурай. Друкаваўся ў часопісах «Вожык», «Маладосць», «Беларусь», у газетах «Мінская праўда», «Літаратура і мастацтва», «Рудзенская праўда», «Пухавіцкія навіны», «К себе с любовью». Напісаў цэлы шэраг апавяданняў, гумарэсак, мноства вершаваных твораў.

У 1963 годзе ў «Бібліятэцы «Вожыка» пабачыла свет кніга гумарыстычных апавяданняў Юрыя Лялікава і Івана Падбярэжскага «Звычайны дзед». Назву зборніку дало аднайменнае апавяданне Івана Падбярэжскага. А ўсяго творчасць нашага земляка прадстаўлена ў кнізе чатырма невялікімі гумарыстычнымі апавяданнямі: акрамя ўжо згаданага, у кнігу ўвайшлі «Нячыстая сіла», «Кнігі, жонка і я» і «Выйгрыш». Наклад зборніка — 21 020 асобнікаў. Як па сённяшнім часе, дык суперпрыстойны тыраж. Рэдагаваў тады часопіс і адпаведна «Бібліятэку «Вожыка» Павел Кавалёў. А мастак кнігі — А. Волкаў. Змешчаны і шарж, які належыць пяру вядомага карыкатурыста. Раздзелу, які прадстаўляе апавяданні Івана Іванавіча Падбярэжскага, папярэднічае кароткае ўступнае слова пра літаратара. Прозвішчы, імёны герояў сатырычных апавяданняў І. Падбярэжскага сведчаць, што сюжэты літаратар чэрпаў з пухавіцкага жыцця: Віцік, Антоля, Міхась Баешка, Ігнат Рылік… Шкада, што кніга апавяданняў «Звычайны дзед» так і засталася адзінай кнігай Івана Падбярэжскага. А пасля таго, 1963, года, ён яшчэ болей як трыццаць гадоў працаваў на літаратурнай ніве.

Перакладаў пухавіцкі настаўнік з нямецкай мовы, якую добра ведаў яшчэ са школьных гадоў. У 1970-я на старонках тагачаснага «Сцяга працы» былі змешчаны сатырычныя мініяцюры І. Падбярэжскага, а таксама падборка народных жартаў «З народнага куфра» ў апрацоўцы пухавіцкага літаратара.

Іван Падбярэжскі быў ці не самым актыўным, нягледзячы на свой сталы ўзрост і стан здароўя, аўтарам літаратурнай старонкі, што і цяпер выходзіць штомесяц у раённай газеце «Пухавіцкія навіны». Варта дадаць, што ён, здаецца, яшчэ зусім нядаўна быў выдатным арганізатарам мастацкай самадзейнасці. Напісаў шэраг песень, стварыўшы і словы, і музыку.

Многія творы Івана Падбярэжскага засталіся ў рукапісах. А ў 1996 годзе пухавіцкая «раёнка» надрукавала верш «Пухавічы»:

Не схаваеш знакаў перажытага,
Што пайшло са шчасцем, ці з бядой.
Пухавічы — вёска старажытная,
Застаецца вечна маладой.

Абрастае гожымі і дзіўнымі
Новымі будоўлямі штогод,
Пухавічы — вёска перспектыўная,
Бо расце на захад і на ўсход.

У часы бязрадасныя здольная
Не пазбавіць веры і надзей.
Пухавічы — вёска хлебасольная,
Колькіх прытуліла ты людзей.

Выпраўляеш маці даравітаю
Кожны год у шлях жыццёвы зноў,
Пухавічы — вёска працавітая
Сваіх здольных дочак і сыноў.

Свеціцца ракі палоска вузкая,
Водар ніў даносіцца здаля…
Пухавічы — вёска беларуская,
Мой радзімы край, мая зямля.

***(«Пухавіцкія навіны», 1996, 21 лютага)***

З размоў з некаторымі пухавіччанамі вядома, што Іванам Іванавічам Падбярэжскім была створана паэма, прысвечаная мястэчку. І хутчэй за ўсё дадзеная публікацыя — урывак з яе. Тым болей, што і кампазіцыйна верш нагадвае незавершаны твор. Былі ў «раёнцы» і яшчэ паэтычныя публікацыі І. Падбярэжскага пра асобныя падзеі з жыцця Пухавіч.

Заўсёды поруч з Іванам Падбярэжскім былі яго сябры-настаўнікі — Васіль Маркавіч Лапко і Леў Іванавіч Пілатовіч, самі, між іншым, людзі ўважлівыя і чуйныя да мастацкага слова.

У лістападаўскім нумары часопіса «Маладосць» за 1999 год апублікаваны ўрывак з рамана Івана Падбярэжскага «Закляты астраў». Піша празаік пра лёс свайго роднага мястэчка ў чэрвені—ліпені 1941 года, пра ўспрыманне вайны вачыма падлеткаў. Праўда, Пухавічы называюцца ў рамане Пясковічамі. Пазнаюцца родныя аўтару і пухавіччанам рэкі: «Хлопцы спусціліся па схіле дарогі да невялікага мосціка. Пад ім працякала буркатлівая рэчка Танька. Яна таксама віхляла паўз узвышша, толькі з другога боку, і ўпадала ў разліў Лочы». Лоча, відавочна, — Свіслач, Танька — Цітаўка. Будзем спадзявацца, што з часам раман выйдзе асобным выданнем. Шкада, што гэтай падзеі ўжо не дачакаецца аўтар.

Так, не цураліся літаратурнай працы і згаданыя колішнія настаўнікі Пухавіцкай сярэдняй школы Васіль Маркавіч Лапко і Леў Іванавіч Пілатовіч. Яны — аўтары допісаў у мясцовым друку, у рэспубліканскіх газетах і часопісах.

Дарэчы, дачка Васіля Маркавіча — Ала Васільеўна Ралькевіч — дырэктар Мар'інагорскай гімназіі. Нарадзілася ў Пухавіцкім раёне. Па адукацыі — педагог. Працавала настаўніцай англійскай мовы, дырэктарам Пухавіцкай СШ. З 2002 года ў Мар'інагорскай гімназіі. У 2000—2008 гадах — член Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь 2-га і 3-га скліканняў. З'яўлялася намеснікам старшыні Камісіі па дэмаграфічнай бяспецы і сацыяльным развіцці, дэпутатам Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі. Піша вершы. Друкавалася ў газеце «Пухавіцкія навіны», часопісе «Маладосць». Адна з вершаваных падборак Алы Ралькевіч — «Ды толькі песня не знікае…» — надрукавана ў часопісе «Маладосць». Уваходзіць у яе і верш «Зямля маіх бацькоў…»:

Зямля маіх бацькоў,
Табе я прысягаю,
Тут кожны каласок
З любоўю абдымаю.

Мне родныя мясціны
У снах прыходзяць светлых,
Раскошныя яліны,
Рамонкі ў фарбах летніх.

Грыбных мясцін не злічыш:
На кожнага хапае.
Дабра каму пазычыш,
То тое ж атрымаеш…

***(«Маладосць», 2007, № 1)***

У мястэчку Пухавічы 15 ліпеня 1937 года нарадзіўся публіцыст, нарысіст, кінасцэнарыст Аляксандр Шабалін. Скончыў сярэднюю школу ў горадзе Маладзечна (1956). Пасля — факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта (1969). Працаваў у абласных газетах «Чырвоны сцяг» (Маладзечна), «Гродненская правда», у рэспубліканскай «Сельской газете». Доўгі час, пачынаючы з 1978 года, ён працаваў галоўным рэдактарам часопіса «Беларусь». Узнагароджаны знакам «Выдатнік друку Беларусі». Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь (2000). Аўтар кніг «Мы живем в деревне» (1968), «Дыялогі аб маралі» (1986). Аўтар сцэнарыяў дакументальных і мастацкага фільмаў.

Нарадзілася ў Пухавічах і паэтка, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Вольга Савасцюк (10 ліпеня 1963 года), аўтар калектыўнага вершаванага зборніка «Самавар у лесе». Закончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. А ў 1992 годзе — факультэт журналістыкі БДУ (завочна). Вольга Савасцюк і зараз жыве на Пухавіччыне, у Мар'інай Горцы, працуе рэдактарам аддзела пісьмаў раённай газеты «Пухавіцкія навіны». З вершамі і апавяданнямі выступае ў раённым і рэспубліканскім друку. Пісаць пачала яшчэ ў школьныя гады. Друкавалася на старонках часопіса «Бярозка», газет «Піянер Беларусі», «Мінская праўда», «Літаратура і мастацтва». Першыя яе крокі ў паэзіі падтрымалі Мікола Чарняўскі, Алесь Емяльянаў, Міхась Зарэмба, Уладзімір Юрэвіч, Пімен Панчанка. Вершы Вольгі Савасцюк змешчаны ў калектыўных зборніках «Вусны», «Самавар у лесе». Выдала кніжачку дзіцячых вершаў «Арэлі на вясёлцы». У серыі «Паэты Пухаўшчыны» пабачыў свет зборнік вершаў «Сустрэча». У 2009 годзе ў РВУ «Літаратура і Мастацтва» выйшла ў свет яшчэ адна кніга вершаў і апавяданняў Вольгі Савасцюк — «Палахлівы матылёк», якая мела шырокі чытацкі розгалас. Рэцэнзіі на зборнік з'явіліся ў самых розных перыядычных выданнях, у тым ліку, і ў часопісе «Маладосць». Вось што пісала адна з рэцэнзентаў кнігі — Дар'я Шоцік у газеце «Пухавіцкія навіны»: «Калі мне патрапіла ў рукі новая кніга, выдадзеная РВУ «Літаратура і Мастацтва», — «Палахлівы матылёк» Вольгі Савасцюк, то я была проста ўражана і шмат аб чым пашкадавала. Па-першае, аб тым, што раней не была знаёмая з творчасцю гэтай паэтэсы і пісьменніцы. Вобразы, падзеі, сюжэты, з якіх складзены вершы, казкі, апавяданні, сабраныя пад адной вокладкай, дастаткова простыя і зразумелыя. Чытала старонка за старонкай творы з «Палахлівага матылька» і ўзгадвала тую яснасць і даходлівасць, з якой адкрывала герояў з кніг Васіля Віткі, Івана Муравейкі, Уладзіміра Мацвеенкі, Міколы Чарняўскага… Па-другое, я пашкадавала, што даўно выйшла з малодшага школьнага ўзросту. А «Палахлівы матылёк» якраз і адрасаваны дзецям, якія яшчэ толькі робяць першыя адкрыцці ў знаёмстве з літаратурай. Было б інačай, я абавязкова паклала б кнігу Вольгі Савасцюк у партфель і аднесла ў школу. Нешта прачытала б нават на ўроку роднай мовы. А нешта з цікавых твораў пакінула б для школьнага ранішніка…»

…Напрыканцы XIX стагоддзя ў мястэчку Пухавічы жыла руская паэтэса Любоў Белкіна (праўда, пад іншым прозвішчам). Спярша звернемся ўвогуле да біяграфіі і творчасці пісьменніцы. Нарадзілася Любоў Міхайлаўна (дзявочае прозвішча Радзівонава, па першаму мужу — Клячко) 4(16) кастрычніка (ці 30.10 (11.11) 1875 года ў горадзе Нясвіжы Мінскай губерні ў сям'і прыстава. У 1889—1893 гадах вучылася ў Мінскай гімназіі. Відавочна, у дзяржаўнай жаночай гімназіі. Бо Марыінская жаночая гімназія была адчынена толькі ў 1899 годзе. Курс яе не закончыла «па сямейных абставінах». З 16 гадоў зарабляла ўрокамі, зблізілася з рэвалюцыйнай моладдзю Мінска. Удзельнічала ў фарміраванні шэрага гурткоў, якія агулам заснавалі мясцовую арганізацыю — «Рабочую партыю палітычнага вызвалення Расіі». Прыняла на сябе кіруючую ролю. Наладзіла сувязі з рэвалюцыйнымі гурткамі Масквы, Кіева, Адэсы і іншых гарадоў Расійскай імперыі.

У 1900 годзе праграма «рабочай партыі» была выкладзена Белкінай (і адрэдагавана Г. А. Гершуні) у брашуры «Свабода». Тады ж пераехала ў Пецярбург, была арыштавана і выслана ў Херсонскую губерню. Але ж якая сувязь яе з Пухавічамі?.. У пухавіцкім раённым краязнаўчым музеі ў вёсцы Блонь захоўваюцца ў машынапісе ўспаміны Анатоля Восіпавіча Бонч-Асмалоўскага, рэвалюцыянера і гаспадара маёнтка ў Блоні ў перадрэвалюцыйныя дзесяцігоддзі. Бонч-Асмалоўскі расказвае пра мужа і жонку Клячко, якія, відаць, пераехалі ў Пухавічы ў 1893 годзе. Сямёна Клячко прызначылі ў мястэчка загадчыкам аптэкі. Бонч-Асмалоўскія пазнаёмілі сям’ю Клячко з наведвальнікамі Блоні — С. Кавалікам, К. Брэшка-Брэшкоўскай, Г. Гершуні. Не выключана, што ўсе гэтыя людзі бывалі ў мястэчку. Блізкая дарога, заняткі з яўрэйскай моладдзю Любові Міхайлаўны — усё гэта не магло не прывесці ў Пухавічы і Каваліка, і «бабулю расійскай рэвалюцыі» Брэшка-Брэшкоўскую (дарэчы, літаратара, публіцыста). Сямён Клячко прыняў удзел і ў дастаўцы нелегальнай літаратуры з-за мяжы.

Дружба сям’і Клячко з Гершуні спярша магла быць абумоўлена і тым, што Грыгорый Андрэевіч быў фармацэўтам, меў у Мінску свой бактэрыялагічны кабінет. Знаёмства Гершуні з блоньскай кампаніяй істотна паўплывала на радыкалізацыю яго поглядаў. І хутчэй за ўсё згаданая брашура «Свабода» пісалася Л. Клячко ў Пухавічах. Магчыма, тут, у мястэчку, яе і рэдагаваў Гершуні.

З успамінаў А. Бонч-Асмалоўскага: «Увесну 1901 года пасля ўважлівага вобыску ў сябе ў маёнтку, быў адпраўлены ў суправаджэнні жандармаў проста ў Пецярбург у дом папярэдняга зняволення, дзе я і праседзеў роўна год. Дапытвалі мяне больш за ўсё аб рэвалюцыйнай прапагандзе сярод блоньскіх сялян. Наколькі гэта магчыма было — я адмаўляў. Доказаў было мала, і на працягу першага перыяду дазнанне прыходзіла да параўнальна добрага завяршэння. Настолькі, што нават жандарскі палкоўнік Мілер, які дапытваў мяне, абнадзеіў невялікім пакараннем. Але раптам восенню 1901 года гэты ж самы палкоўнік выклікаў мяне на допыт на Цвярскую вуліцу і, пратрымаўшы гадзін шэсць без яды ў чаканні допыту, абвясціў аб узнікненні новай вельмі сур’ёзнай справы. Пачынаецца допыт аб прапагандзе сярод яўрэйскіх рабочых мястэчка Пухавічы. На працягу гэтага допыту я чую гучную спрэчку ў суседнім пакоі паміж другім жандарскім афіцэрам і Любоўю Міхайлаўнай Клячко-Радзівонавай, менавіта яна такой прапагандай і займалася. Яна была арыштавана яшчэ раней за мяне разам з маладым селянінам з вёскі Блонь Максімам Лукашыкам па справе першай друкарні сацыялістаў-рэвалюцыянераў у Пецярбургу, распачатай і хутка праваленай. Што ж датычыцца прапаганды сярод пухавіцкіх рабочых, то Л. М. Клячко аднойчы сапраўды ўгаварыла мяне пайсці да іх на сход, які праходзіў у бліжэйшым ад майго саду ляску. Гэта было супраць маіх правілаў, бо я пазбягаў размаўляць, раздаваць нелегальныя брашуры тым рабочым і сялянам, якія ведалі мяне ў твар і па прозвішчы.

Любоў Міхайлаўна не мела цвёрдага характару. Будучы арыштаванай, яна паддалася ўплыву жандараў і нагаварыла ім шмат лішняга. Яе паказанні былі галоўнай прычынай гэтай справы і наступнай маёй высылкі. У канцы расследавання мне прызначылі адміністрацыйную высылку спярша на сем, а пасля на пяць гадоў ва Усходнюю Сібір. Па гэтай справе быў арыштаваны мой старэйшы сын Іван Анатольевіч і таксама па абвінавачванні ў прапагандзе сярод навакольных сялян, яму прызначылі чатыры гады высылкі. Арыштаваны былі таксама ў Блоні сяляне Мікалай Лявонавіч Цэхановіч (прызначана чатыры гады высылкі ў Архангельскую губерню), Навум Мігуцкі і Віктар Максімавіч Каток (высланы за межы Мінскай губерні на два гады)».

Больш ва ўспамінах А. Бонч-Асмалоўскага пра Любоў Міхайлаўну ні слова.

Вядома, што ў 1901—1905 гадах рэвалюцыянерка жыла ў Адэсе. У 1906 годзе выходзяць з друку зборнікі вершаў «Песни революции» (Кіеў) і «На распутьи» (Масква).

У другім зборніку надрукавана яе сатырычная «Быліна пра Ілью Мурамца і Салаўя-разбойніка». Было і асобнае выданне гэтага твора — таксама ў 1906 годзе, у Маскве. У «Быліне…» у алегарычнай форме адлюстравана перамога над чыноўнікамі і панамі.

Нелегальна выйшлі вершаваны зборнік «Декабрьские дни» і паэма «Лейтенант Шмидт» (Казань, 1907). У зборніку «Лесная лилия» (Масква, 1910) суседнічалі інтымная лірыка і вершы на грамадскую, антырэлігійную тэмы, а таксама пераклады вершаў польскай паэткі М. Канапніцкай. Творы свае Любоў Белкіна (вядомая ў гісторыі беларускага рэвалюцыйнага руху як Клячко-Радзівонава) друкавала ў «Образовании», «Современном мире», «Русском богатстве». У 1912 годзе працавала ў палтаўскім дабрачынным выдавецтве «Колос ржи». У 1913 годзе адрэдагавала некалькі нумароў палтаўскага часопіса «Труженик». Пасля 1917 года жыла ў Туле, супрацоўнічала з перыядычнымі выданнямі. У Туле ў 1925 годзе пабачылі свет яе раман «Рольф Май» і паэма «Буревестник Дуарнена».

Памерла Любоў Міхайлаўна ў 1944 годзе ў Маскве. Успамінаў аб сваёй рэвалюцыйнай барацьбе, на жаль, не пакінула. І вельмі шкада. Тое, што ўдалося паведаміць пра Любоў Міхайлаўну — усяго палова праўды. Не выклікае ніякіх сумненняў, што Анатоль Восіпавіч Бонч-Асмалоўскі расказаў усю праўду. Але ж і ён не дапусціў ніякіх выказванняў на мяжы з абвінавачваннямі. Відаць, і сам разумеў, што патрэбны дакладныя сведчанні і дакументы… Да ўсяго астатняга, сапраўды, жандарскія следчыя маглі б выцягнуць патрэбныя ім паказанні падманным шляхам. Але зараз я хацеў бы паразважаць крышачку пра іншае. У цянётах забыцця Любоў Белкіна выявілася як таленавіты літаратар. Сучасніку, нават вельмі ўважліваму да мастацкай літаратуры пачатку XX стагоддзя, вядомыя адзінкавыя творы колішняй жыхаркі Пухавіч. А між тым Любоў Белкіна — выключна таленавітая асоба. Вось і сведчанне — фрагмент з паэмы, які і прапануем увазе чытача:

Каждый дом был тюрьмой в эту пору,
Крепостями — громады домов,
Город спрятался в темную нору
И ворота замкнул на засов.
..............................................
Мы постигли все ужасы ада,
Всю трагедию доли своей,
Десять дней и ночей канонада,
Кровь и смерть десять дней и ночей!
Обезумев, внимал обыватель
Перестрелке, тревожившей ночь,
И дрожал, и молчал, как предатель,
И не смел, не хотел им помочь.
Им, которые там одиноко
Вдоль угрюмых, как ночь, баррикад
Стяг борьбы водружают высоко
И под знаменем строятся в ряд,
Им, чье сердце, за всех негодуя,
Жаждет мстить за невинную кровь,
Им, которые жизнь молодую
Отдают для спасенья рабов.
..............................................
В налетающем вихре бессилья,
В трудный час приближенья конца
Поддержите орлиные крылья,
Утомленные крылья борца!

Белоснежные, чистые, дивные,
Эти крылья уперлись в зенит...
Братья! Слышите вопли призывные?

Зов борцов, замирая, звенит.
Бой разлился реками огнистыми,
Враг готов их в крови потушить!
О, не дайте ж руками нечистыми
Нерасцветшие жизни душить!
Черный дым, как зловещее знамя,
Достигал огневых облаков...
Разъяренное хищное пламя
Пожирало добро бедняков.
Разрушались пылавшие зданья...
Нестерпимые ужасы дня,
Нестерпимые вопли страданья
Погребались в пучине огня.
Воцарясь на руинах предместий,
Торжествуя на трупах людей,
Дело черное злобы и мести
Довершал победитель-злодей.
Страшен суд перед правдой народною,
Суд во тьме над свободой вершат.
Горе тем, кто с душою свободною
Очутился во власти солдат.
Ни проклятьем, ни злобными взглядами
Не заставить краснеть палачей...
Разрушая предместья снарядами,
Не щадили ни жен, ни детей.
Не щадили святынь белокаменных,
Ни церквей, ни дворцов старины,
Пощадить ли им юношей пламенных —
Всю надежду и силу страны?!
..................................................
Лихорадочно отблески красные
Пробегают по лицам солдат,
Полушепотом оклики властные
В переулке безлюдном звучат...
Ни души по дороге не встретится,
Все покроет угрюмая тьма,
За широкою площадью светится
Тусклым светом окошек тюрьма.
Отворяйте ворота тюремные!
Расступись, утомленный конвой!
Выходите, виденья подземные!
Выходите на суд роковой!
............................................
Не глядите, поручик, с тревогою,
За углом вас дружинник не ждет,
Осужденных не вырвут дорогою,
На защиту никто не придет!
Успокойтесь, поручик сиятельный!
Совесть — вздор, предрассудок, фантом…
Довершите ваш подвиг блистательный,
Расскажите невесте потом.
Расскажите, что собственной шпагою
Вы из рук у них выбили флаг,
И за горло их взяли с отвагою,
И бесстрашно связали впотьмах.
Расскажите, как взяли в предместье
Десять тысяч дружины за час,
Как вы всех расстреляли на месте...
Обо всем расскажите невесте,
Чтоб назвали героями вас!

(Русская революционная поэзия. 1895 — 1917 / Сост., подг. текста и примеч. И. С. Эвентова. Л., Сов. Писатель, 1957).

Напісаны гэтыя радкі па гарачых слядах — у снежні 1905 — на пачатку 1906 года — і прысвечаны падзеям Першай рускай рэвалюцыі, Снежаньскаму паўстанню 1905 года ў Маскве. Узгадайце, хто яшчэ менавіта **так** апісаў Першую рускую рэвалюцыю. Таму, відаць, і забыццё было ў гады Савецкай улады, бо мастацкія вобразы і сімвалы Любові Белкінай не ўпісваліся ў існуючыя ідэалагічныя схемы. А пралетарскія паэты на фоне такой шчырасці, адкрытасці выглядалі не лепшым чынам.

…У даваенныя гады ў Пухавіцкай (тады, відаць, яшчэ — сямігодцы) вучыўся будучы пісьменнік і перакладчык Уладзімір Ляўданскі. Пра гэта ён раскажа праз шмат гадоў пасля сваёй вучобы ў аўтабіяграфіі: «Другімі настаўнікамі і дарадчыкамі ў жыцці былі педагогі пухавіцкай сямігодкі. На жаль, я ўжо не памятаю іх імёнаў, але выразна бачу кожнага перад сабою і чую іх парады — такія пераканаўчыя, мудрыя. Настаўнікі ў нашай сямігодцы былі не маладыя, з багатым жыццёвым вопытам і добрым веданнем прадметаў. Прагнасць жа ў нас — вучняў — да ведаў была тады неймаверная. І мы бралі ў сваіх настаўнікаў усё, а яны нам усё аддавалі. І за гэта ім шчырае дзякуй! Гэта яны заклалі ў нас тую аснову, той падмурак, на якім сфарміраваліся пасля асоба, характар кожнага. Помняцца сходы і вячоркі, на якіх выступалі нашы настаўнікі і старэйшыя вучні перад насельніцтвам з простымі, але такімі палымянымі і пераканаўчымі прамовамі. Помняцца і спектаклі, якія мы разам з настаўнікамі ставілі і на якія столькі прыходзіла людзей, што пажарнае дэпо (гэта было самае большае памяшканне ва ўсім мястэчку) не магло ўсіх прыняць, а ў самой «зале» проста дыхаць не было чым. Ставілі мы «Пінскую шляхту» і «Збянтэжанага Саўку», асабліва шмат ставілі п’ес Галубка. Я ўдзельнічаў у многіх спектаклях. Любіў я ролі драматычныя і нават трагедыйнага плана. Беднага студэнта ў п’есе Галубка «Ганка» я сыграў так, што не толькі мае сябры-равеснікі, а нават многія настаўнікі прарочылі мне ў будучым лёс «вялікага» артыста. Аднак, як пасля высветлілася, ніякіх асаблівых артыстычных здольнасцей у мяне не было, а сыграў я шчыра толькі таму, што ролю Ганкі выконвала здольная, прыгожая, з блакітнымі, як неба, вачамі дзяўчына, якая мне вельмі падабалася і якую я і цяпер часта ўспамінаю…» (Ляўданскі У. Сёе-тое з біяграфіі/ Вытокі песні. Мн., 1973. — с. 167 — 168).

Пухавічы тэатральныя — сапраўды, тэма, якая яшчэ запатрабуе свайго даследчыка. І размова тут не толькі, пэўна, пойдзе пра Васіля Савіча Гарбацэвіча, «Чырвоныя кветкі Беларусі» якога, не выключана, паказваліся самадзейнымі артыстамі з Мар’інай Горкі ў мястэчку Пухавічы. І не толькі пра Аляксандра Лабуша, артыста-купалаўца, які нарадзіўся ў Пухавічах у 1957 годзе, артыста, які здымаўся ў многіх кінафільмах. А мо яшчэ і пра Галубка, яго вандроўны тэатр? Выступаў жа ён са сваімі артыстамі ў Мар’інагорскім сельскагаспадарчым тэхнікуме, ездзіў па іншых вёсках Пухавіччыны, Чэрвеньшчыны…І, канечне ж, пра драматычны гурток, створаны ў школе Алесем Пальчэўскім, пра што мы ўжо і згадвалі…

Калі ж, у якія гады вучыўся ў Пухавічах дзіцячы пісьменнік, перакладчык Уладзімір Ляўданскі?.. Гартаем далей старонкі яго ўспамінаў:

«…У канцы 1929 года я прыехаў у Мінск і спыніўся ў цёткі. Хацеў паступіць куды-небудзь вучыцца далей. Але, па-першае, было ўжо позна, а па-другое, матэрыяльна для гэтага я быў яшчэ не падрыхтаваны. Таму, пахадзіўшы з тыдзень па горадзе, я застаўся працаваць грузчыкам на таварнай станцыі. Праўда, папрацаваў я там нядоўга — некалькі месяцаў. Пасля сустрэчы з Антонам Туміловічам, аднавяскоўцам і аднагодкам, мой далейшы лёс вырашыўся назаўсёды…» (Ляўданскі У. Сёе-тое з біяграфіі/ Вытокі песні. Мн., 1973. — с. 167—168).

Уладзімір Ляўданскі, відавочна, вучыўся ў Пухавічах да 1929 года. Згадваецца імя яшчэ аднаго земляка — Антона Туміловіча. Туміловічы — прозвішча пухавіцкае, з Падкосся, Хідры. І ў пасляваенныя гады ў Пухавічах вучыліся Туміловічы…Антон Туміловіч уладкоўвае Уладзіміра Ляўданскага ў Беларускае дзяржаўнае выдавецтва. Значыць, мае нейкія адносіны да выдавецкай справы? І, відавочна, у той жа час там працуе пухавіччанін Леў Стронгін… Прастора для далейшага краязнаўчага пошуку, пагадзіцеся, дастаткова шырокая.

Збоку ад Пухавіч, справа, бліжэй да глыбокіх, месцамі яшчэ не пашкоджаных лясных масіваў, ёсць невялікая вёсачка Глушка. Якраз у ёй у перадваенныя гады адпачываў разам з сям'ёю Пятрусь Броўка. Магчыма, сюды, да Броўкі, завітваў і Якуб Колас. Магчыма, знаёмства вялікага паэта з пухавіцкай зямлёй праз Броўку і адбылося.

Ад Глушкі — нядоўгі шлях і да вёскі Светлы Бор.

Гісторыка-дакументальная хроніка «Памяць. Пухавіцкі раён» дазваляе нам удакладніць: «Светлы Бор, пасёлак у Турынскім сельсавеце, каля р. Свіслач, у месцы ўпадзення ў яе р. Волма, за 14 км на паўночны ўсход ад раённага цэнтра… Пасяленне ўзнікла ў сувязі з заснаваннем у 1898 г. кардоннай фабрыкі і было вядома раней як кардонная фабрыка. Назва Светлы Бор дадзена ад мясцовасці, наймення ляснога ўрочышча. У 1940 г. было 38 двароў, 162 жыхары…»

З развіццём фабрыкі развіваўся і пасёлак. У 2002 годзе ў Светлым Бары пражывала 730 жыхароў.

Доўгі час у 1990-я гады дырэктарам Светлаборскай СШ працаваў дзіцячы пісьменнік, літаратурны крытык Браніслаў Зубкоўскі. Менавіта з яго ініцыятывы ў школе ў розныя гады гасцявалі, выступалі перад вучнямі пісьменнікі Уладзімір Глушакоў, Анатоль Ярохін, Ганад Чарказян, Мікола Макарцоў, Людміла Рублеўская, Віктар Жыбуль.

**ЧЭРВЕНЬ**

**3**

95 гадоў з дня нараджэння Гугеля Адольфа Самойлавіча (1915—1999), беларускага мастака, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь.

75 гадоў з дня нараджэння (1935) Зуёнка Васіля Васільевіча, беларускага паэта, перакладчыка, літаратуразнаўца, крытыка.

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Каляды Андрэя Андрэевіча, беларускага літаратуразнаўца, тэатразнаўца, педагога, заснавальніка і кіраўніка Мінскага народнага літаратурнага тэатра «Жывое слова».

**4**

105 гадоў з дня нараджэння Гурскага Мікалая Іванавіча (1905—1972), беларускага мовазнаўца.

80 гадоў з дня нараджэння (1930) Сакалоўскага Уладзіміра Лявонцьевіча, беларускага літаратуразнаўца.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Сенькіна Міхаіла Уладзіміравіча, беларускага графіка.

**5**

100 гадоў з дня нараджэння Піваварава Зямы Раманавіча (1910—1937), беларускага паэта, перакладчыка.

100 гадоў з дня нараджэння Тараса Яфіма Мікалаевіча (1910—1981), беларускага графіка, плакатыста.

85 гадоў з дня нараджэння (1925) Герасімовіч Эльвіры Пятроўны, беларускага дзеяча тэатральнага мастацтва, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь.

85 гадоў з дня нараджэння Рыбалкінай Маі Фёдараўны (1925—1985), беларускага мастака дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**6**

100 гадоў з дня нараджэння Антановіча Антона Канстанцінавіча (1910—1980), беларускага мовазнаўца.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Дударава Аляксея Ануфрыевіча, беларускага драматурга, празаіка, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь.

**8**

115 гадоў з дня нараджэння Дварчаніна Ігната Сымонавіча (1895—1937), беларускага літаратуразнаўца, паэта, публіцыста, грамадскага дзеяча.

**9**

75 гадоў з дня нараджэння Кузняцова Уладзіміра Леанідавіча (1935—1994), беларускага мастака дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**10**

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Вальнова Уладзіміра Мікалаевіча, беларускага жывапісца і графіка.

70 гадоў з дня нараджэння Хадановіча Ігара Піліпавіча (1940—1966), беларускага празаіка, паэта.

**13**

105 гадоў з дня нараджэння Шапіры Лазара Львовіча (1905—1991), беларускага празаіка.

**14**

110 гадоў з дня нараджэння Забэйды-Суміцкага Міхаіла Іванавіча (1900—1981), беларускага спевака. З 1940 г. жыў у Празе.

75 гадоў з дня нараджэння Леткі Івана Антонавіча (1935—1999), беларускага паэта.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Басава Мацвея Ізраілевіча, беларускага жывапісца і графіка.

**15**

90 гадоў з дня нараджэння (1920) Аляксеевай Таццяны Міхайлаўны, беларускай актрысы, рэжысёра радыё, заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь.

70 гадоў з дня нараджэння Варановіча Адольфа Усцінавіча (1940—2001), беларускага празаіка.

**16**

90 гадоў з дня нараджэння (1920) Ражкова Яўгена Назаравіча, беларускага жывапісца.

**17**

95 гадоў з дня нараджэння Кавалёва Дзмітрыя Міхайлавіча (1915—1977), беларускага і рускага паэта і перакладчыка.

**20**

100 гадоў з дня нараджэння Сімяонава Канстанціна Арсенавіча (1910—1987), беларускага, украінскага, расійскага дырыжора, народнага артыста СССР.

85 гадоў з дня нараджэння Піно (сапр. Шнейдэрман) Эдмунда Фіняэсавіча (1925—1999), беларускага артыста балета.

**21**

190 гадоў з дня нараджэння Залескага Браніслава Францавіча (1820—1880), беларускага і польскага мастака, пісьменніка.

75 гадоў з дня нараджэння (1935) Багуслаўскай Нінэль Захараўны, беларускай эстраднай спявачкі, заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь.

**22**

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Цярэнцьевай Святланы Валянцінаўны, мастака дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**23**

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Шастакова Аляксандра Цімафеевіча, беларускага жывапісца.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Арцёмавай Таццяны Андрэеўны, беларускага мастака ў галіне шкла.

**24**

110 гадоў з дня нараджэння Чорнага Кузьмы (сапр. Раманоўскі Мікалай Карлавіч; 1900—1944), беларускага празаіка, драматурга, публіцыста.

**25**

105 гадоў з дня нараджэння Броўкі Петруся (Пятра Усцінавіча; 1905—1980), беларускага паэта, празаіка, перакладчыка, грамадскага дзеяча, народнага паэта БССР, заслужанага дзеяча навукі БССР.

95 гадоў з дня нараджэння Глазава Уладзіміра Міхайлавіча (1915—1980), беларускага і рускага спевака, заслужанага артыста БССР.

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Стральчэні Віктара Аляксандравіча, беларускага спевака, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь.

**26**

75 гадоў з дня нараджэння (1935) Маленчанкі Рымы Фёдараўны, беларускай актрысы, педагога, заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Лук’яненкі Пятра Дзмітрыевіча, беларускага жывапісца.

**27**

100 гадоў з дня нараджэння Кучара Алеся (Айзіка Евелевіча; 1910—1996), беларускага крытыка і драматурга.

85 гадоў з дня нараджэння (1925) Арабей Лідзіі Львоўны, беларускага празаіка, літаратуразнаўца.

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Казакова Юрыя Іванавіча, беларускага мастака ў галіне мемарыяльнай архітэктуры.

**28**

105 гадоў з дня нараджэння Галаўчынера Віктара Якаўлевіча (1905—1961), беларускага драматурга, рэжысёра, народнага артыста БССР, народнага артыста Літвы.

**29**

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Купрыяненкі Васіля Аляксеевіча, беларускага музыканта, кампазітара, збіральніка і выканаўцы беларускага музычнага фальклору, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь.

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ І ПАДПІСЧЫКІ «ПОЛЫМЯ»!

**Ідзе падпіска
на ІІ паўгоддзе 2010 года:**

*індывідуальная льготная
для настаўнікаў (індэкс — 00471)*

на 1 месяц — 6100 руб.
на 3 месяцы — 18 300 руб.

*індывідуальная (індэкс — 74985)*

на 1 месяц — 9400 руб.
на 3 месяцы — 28 200 руб.

*ведамасная (індэкс — 749852)*

на 1 месяц — 12 900 руб.
на 3 месяцы — 38 700 руб.

*ведамасная льготная
для ўстаноў Міністэрства культуры
і Міністэрства адукацыі
Рэспублікі Беларусь (індэкс — 00727)*

на 1 месяц — 10 500 руб.
на 3 месяцы — 31 500 руб.

***e-mail: polymya@bk.ru***

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220034, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, паэзіі, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 288-22-37.

Стыльрэдактар *М. М. Гілевіч*
Камп'ютэрная вёрстка *С. І. Таргонскай*

Падпісана ў друк 9.06.10 г. Фармат 70×108 $^1/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80. Ул.-выд. арк. 15,54. Тыраж 3087 экз. Заказ 1364.
Рэгістрацыйны № 9 ад 22.07.09 г.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79. ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.